# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(705) ЖНІВЕНЬ, 2012**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**

**8**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва»**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:

*Людміла ГУЙДА*

# КАНТРАСТ КАХАННЯ

**МІЖ НАМІ…**

Між намі адлегласцяў доўгія вёрсты,
Сустрэч і расстанняў, якіх не забыць.
Жаданых усмешак, маўклівых прызнанняў,
Шматкроп'яў у поглядах не злічыць.
Між намі пачуццяў віры і залевы,
Ціхмяная радасць у мілых вачах,
Туга і надзея, пяшчота і рэўнасць
Заўсёды між намі і ў мроях, і ў снах.
Між намі кахання вясноўвага ранні,
Удачы, няўдачы твае і мае,
Між намі імгненні, сакрэты, спатканні,
Якіх для душы не заўсёды стае.

**БЕРАЖЫ**

Беражы мяне для душы.
Беражы.
Беражы ад пустога таннага тлуму.
Сцеражы мяне ад бяды.
Сцеражы.
Сцеражы ад хлусні і зайздроснага люду.
Беражы мяне, як сябе.
Беражы.
Беражы ад крыўдлівага нізкага слова.
Сцеражы мяне ад пакут.
Сцеражы…

Беражы, калі верыш нашай любові.

**КАНТРАСТ КАХАННЯ**

Так цяжка, любы мой, так лёгка
З табою быць і паасобку.
Так цяжка, любы мой, так лёгка



***Людміла Гуйда (Шырынава) нарадзілася 22 студзеня 1981 года ў вёсцы Абруб Беразвецкі Глыбоцкага раёна. Працуе ў Азярэцкай сярэдняй школе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, а таксама дыктарам на раённым радыё. Друкавалася ў «Настаўніцкай газеце». Шчырая прыхільніца і пастаянная чытачка нашага часопіса.***

Згараць і нараджацца зноў.
Ў тваіх абдымках сагравацца
Пасля разлук, як вечнасць, доўгіх…
Так цяжка, любы мой, так лёгка
Тваёю быць і не тваёй.

**ВОСЕНЬСКІ СУМ**

Гайдае ветрык-летуценнік
Лістоты першы ліст апалы.
Здаецца, восені пачатак
Занадта ранні, нечаканы.
Свае б яшчэ пацешыць думкі
Аб леце, сонечным, духмяным,
І па расе прабегчы ранкам,
Які ў празрыстасць закаханы.
Ды толькі восень надыходзіць
Няспешнай, цвёрдаю хадою,
Сум на душу маю наводзіць,
І не вярнуць ужо настрою.

**ВЯСНОВАЕ**

Вясна нясе на крылах маладосць,
Спатоліўшы снягі і завіруху,
Яна нясе ў прыроду прыгажосць,
Прагнаўшы без пары зіму і скруху.
Зямлю празрысты небакрай кране,
Шуміць прыветна першая лістота.
І ветрык злёгку твар казыча мне
Пяшчотнай і прыемнай прахалодай.
Звініць вясна, і час гукаць вясну,
Убраную, расквечаную ў промні,
І нам з табою, любы, не да сну,
Бо кожны міг душа імкнецца помніць.

**ЗАБЛУКАЛІ**

Ў часе мы заблукалі з табою, напэўна,
Дзе вясна раскашуе сярод халадоў,
Дзе ад шчырае песні хвалююцца сэрцы,
Ад усмешкі тваёй, ад пяшчоты маёй.
Ўсё нязменна, і вечна сцяжынка віецца,
І не трэба ўжо нам недаказаных слоў…
Ў часе мы заблукалі з табою, напэўна,
Дзе ад веку ўладарыць святая любоў.

* * *

Я ў лёсу ласкі папрашу,
Каб не згубіць цябе, не страціць.
Завея замяце душу,
Слядоў расстання нам не бачыць.
Я стану знічкай для цябе,
Заранкай светлаю тваёю,
Што будзе ў шчасці і ў жальбе
З табою, любы мой, да скону.
Я ў ветру моцы папрашу,
Каб моцнай стаць ды не зламацца,
Калі аднойчы без цябе
Наканавана мне застацца.



Андрэй ДЗІЧЭНКА

# ПРЫВІТАЙЦЕ ЯГО, ПРЫВІТАЙЦЕ

***Апавяданне***



***Андрэй Дзічэнка нарадзіўся 17 лістапада 1988 года ў Калінінградзе. Скончыў гістарычны факультэт БДПУ імя М. Танка. Аўтар кіберпанкаўскай кнігі «Мінскае неба». Таленавіты хлопец і актыўны чытач «Маладосці». Эксперыментуе ў імпрэсіях.***

Сцёпа сноўдаўся па начным мікрараёне і трывожна аглядаўся па баках, быццам нябачныя чалавечаму воку здані цікавалі за ім. Хлопец быў невысокага росту, налыса пастрыжаны, і з гэтай прычыны цяжка было зразумець, колькі ж гадоў маладзёну, які выглядаў страчаным сярод бясконцых шматпавярховікаў беларускай сталіцы.

Кожную ноч ён хадзіў паміж гмахаў, вокны ў якіх месцамі былі яшчэ напоўнены святлом электрычных лямпачак. Сцёпа не заўважаў гэтага святла, яму былі патрэбны твары людзей, рысы якіх хаваліся пад покрывам ночы. З-за гэтага ўсе лініі і формы выглядалі больш плаўнымі і без хібаў.

На яго шляху, у дворыку, на дзіцячай пляцоўцы якога прыпаркавалася некалькі дарагіх іншамарак, сядзела маладая пара.

Сцёпа непрыметна падкраўся да іх з-за спіны і вычакаў момант, калі хлопец сваімі губамі крануўся вуснаў дзяўчыны, якая заплюшчыла вочы, каб атрымаць найбольшае задавальненне ад гэтага просценькага, але значнага жэсту ў выбудове чалавечых адносін.

— Маладыя людзі! Маладыя людзі! — крыкнуў Сцёпа. Ад яго пранізліва-рэзкага крыку дзяўчына здрыганулася і, верагодна, спалохалася ды выпадкова прыкусіла язык хлопца. Той незадаволена павярнуўся да Сцёпы, які стаяў і глядзеў на закаханую парачку, сціскаючы ў правай руцэ поліэтыленавы пакет з рэкламным малюначкам з абодвух бакоў. Выцершы правым рукавом сліну і кроў з губ, хлопец злосліва прамовіў:

— Табе чаго трэба?

Дзяўчына ж, відавочна апантаная інтуіцыяй, адчувала, што будзе нешта нядобрае. Яна моцна сціснула рукаў курткі свайго бойфрэнда, але сказаць нічога не змагла.

— Мне б цыгарэтку, паважаны, вельмі падыміць хочацца. А горад вось пусты зусім. Людзі-здані ў ім губляюцца… — калі Сцёпа прамаўляў словы, то вочы яго неяк дзіўна закочваліся, агаляючы бялкі колеру зацяганай прасціны. Пад покрывам ночы нават здавалася, што зрэнкі яго бліскаюць д’ябальскімі іскаркамі.

Хлопец, сціснуўшы зубы і задушыўшы ў сабе вострае жаданне разбіць нос незнаёмаму начному вандроўцу, палез у кішэню курткі ды дастаў адтуль пачак імпартных цыгарэт. Выцягнуў адну, працягнуў яе Сцёпу. Той падбег, узяў яе і тут жа паклаў у рот. Жуючы, ён разборліва прамовіў:

— Яны забіваюць вас, лепш не ўдыхайце вытворнае ад д'ябальскіх палачак, грамадзяне! — не чакаючы адказу ён пабег у глыбіню раёна шукаць новых людзей, якія не жадалі яго прымаць.

— Дурань нейкі, — прамовіў зласліва хлопец і паглядзеў на дзяўчыну. — Як справы, Каця?

Тая ў адказ выціснула з сябе вінаватую ўсмешку і прамовіла:

— Я спалохалася… — і, глыбока ўдыхнуўшы, дадала. — Давай пакурым і пойдзем адсюль…

*Кацярына Фёдараўна Кавалеўская. Памерла ва ўзросце 21 года ад рака. Асаблівыя прыкметы: радзімка на правай шчацэ. Вельмі любіла цукеркі.*

Сцёпа крочыў па адной са шматлікіх вуліц, што віліся ад цэнтра горада. Ізноў ноччу. У адрозненне ад правінцыйных гарадоў, вуліцы Мінска шчодра абтыканы ліхтарамі, большая частка якіх спраўна свяціла з надыходам цемры. Штучнае святло не бянтэжыла Сцёпу. І вось яму зноў пашанцавала: за сто метраў ад яго знаходзілася тэлефонная будка, а ў ёй вымалёўваліся абрысы чалавечай постаці. Хлопец, радасны, падышоў да тэлефоннай будкі, шкло ў якой на здзіўленне не было пабітым. Там стаяў мужчына ў паліто і капелюшы. Усім сваім знешнім выглядам дзядзька нагадваў сапраўднага джэнтльмена з англійскіх кінастужак пяцідзясятых гадоў.

«Нуар!» — прашаптаў Сцяпан і тут жа вырашыў як мага хутчэй уплішчыцца да аб'екта, які яго цікавіў.

Сцёпа прыціснуўся носам да тэлефоннай будкі і прыняўся пакетам, у якім ляжала штосьці квадратнае, біць па шкле. Удары былі слабымі, таму на шкле не засталося ані драпіны, але мужчыну, які размаўляў у такі позні час, гэта трохі раззлавала.

Ён выйшаў з будкі і гнеўна паглядзеў на Сцёпу. Праз некалькі секунд мужчына нізкім голасам прамовіў:

— Што вам трэба, юнача? Чаму вандруеце ў такі позні час? — не чакаючы адказу Сцёпы, ён задаў яшчэ адно рытарычнае пытанне. — Хіба вы не бачыце, што я размаўляю.

Сцёпу за язык цягнуць не трэба. Ён імгненна выдаў цэлую тыраду:

— Разумееце, дзядзечка, справа вельмі тэрміновая. Мне трэба неадкладна патэлефанаваць. А я вось не ўмею, кніжкі чытаў, але ў школах гэтых вашых зусім не вучыўся, дзядзечка. Вы дапаможыце мне, калі ласка, будзьце ласкавыя. Будзьце, дзядзечка… — як гэта звычайна здаралася са Сцёпам, вочы яго закочваліся. У мужчыны склалася ўражанне, што малады чалавек трохі не ў сабе.

— Што там у цябе, кажы ўжо… — стомлена прамовіў мужчына. Сцёпа моўчкі ўсміхнуўся і дастаў з пакета адзіны прадмет, які там знаходзіўся. Гэта аказалася кніга ў чорнай вокладцы.

— Што гэта такое? — спытаў мужчына, узяўшы кнігу ў рукі.

— Тэлефонны даведнік горада Рыма, — ганарліва прамовіў Сцяпан. — Выданне 1907-га года.

Мужчына збянтэжана прабубнеў:

— Табе ў Рым патэлефанаваць трэба? — ён паспрабаваў зазірнуць у вочы Сцяпана, але ягоны позірк натыкнуўся на іх метафізічную адсутнасць.

— Не зусім, дзядзечка. Мне трэба ў Ватыкан патэлефанаваць. Там цяпер знаходзіцца мой гаспадар. І мне, дзядзечка, вестку даць пра сябе трэба, інакш аблаюць як нядайдзіцу-гарэзу.

Адчуўшы страх у глыбінях свайго ўнутранага «я», мужчына тут жа кінуў кніжку на мокры асфальт і хуткім крокам пашыбаваў прэч, пакінуўшы віхляцца ў паветры трубку тэлефоннага апарата. Трубка гойдалася на провадзе з боку ў бок, у такт кароткім гудкам, краем вуха якія чуў Сцяпан.

— Ну і добра! — крыўдліва прамовіў Сцёпа і падняў кнігу, якая, на радасць, не запэцкалася.

*Аркадзь Валер’евіч Валяр’янаў. Патрапіў у ДТЗ са смяротным зыходам уначы на скрыжаванні. Асаблівыя прыкметы: не мае ўказальнага пальца на правай руцэ. Разыгрываў людзей па тэлефоне.*

Жанчына гадоў сарака выйшла на гаўбец-балкончык паглядзець, што робіцца ўначы ў двары дома. Тут яна правяла ўсё сваё юнацтва. Двор быў абсалютна пустым. Не чулася нават рэдкіх моладзевых кампаній, якія прызвычаіліся пад покрывам ночы распіць пару пляшак піўка. Але, усё ж, калі прыгледзелася, то жанчына заўважыла маладога чалавека з пакетам. Ён хадзіў вакол пясочніцы. Калі ён зрабіў чарговы круг вакол дзіцячай забаўкі, жанчына гукнула маладога чалавека.

Сцёпа павярнуўся і крыкнуў у адказ гучна ды адрывіста: «А-А-А». Пасля гэтага жанчыне зрабілася дрэнна.

*Тамара Паўлаўна Абрамчык. Здзейсніла самагубства. Падпаліла сябе, седзячы на лавачцы каля пад’езда. Асаблівыя прыметы: мела захворванне скуры. Была разведзена з мужам.*

Сцёпа сядзеў адзін на парапеце на ўскраіне горада. Побач з ім размяшчаўся парк з крывымі дрэвамі. Ноччу гэта лесапасадка нагадвала балота, бракавала ёй затхлага смуроду і жабінага квакання. Сцёпа плакаў. Ён раптам адчуў сябе абсалютна адзінокім і нікому не патрэбным. Нікому!.. Неўзабаве да яго падышлі два міліцыянты і пацікавіліся, што ён тут робіць і што захоўваецца ў ягоным пакеце.

— Я проста сяджу і чакаю, калі здарыцца цуд! Вы таксама гэтага хочаце? — спытаў Сцёпа і ўсміхнуўся. Гэта быў першы выпадак, калі людзі самі да яго прыйшлі.

Але ў адказ ён толькі ўбачыў непаразуменне ў вачах мужчын у форме. Суровыя людзі настойліва папрасілі паказаць, што ў Сцёпы ў пакеце. Але ў гэта самае імгненне Сцёпа знік, і больш яго ніхто не бачыў. Хлопца быццам ніколі і не існавала.

— Слухай, ну і справы! — азіраўся заклапочана адзін з міліцыянтаў. — Так не бывае!

— Бывае. Яшчэ як бывае, — задуменна адказаў яму другі.



Настасся НАРЭЙКА

# ЗВОНКУ І ЎНУТРЫ



***Настасся Нарэйка нарадзілася 28 кастрычніка1986 года ў Маладзечне. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Працуе ў рэдакцыі раённай газеты «Навіны Камянеччыны». Друкавалася ў часопісе «Полымя», газеце «Літаратура і мастацтва» і іншых выданнях. Спрабуе сябе і ў паэзіі, і ў прозе. У брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі на яе вялікія спадзяванні.***

* * *

Па зледзянелых сходах — да ўзнясення.
Па лесвіцы забытай, вінтавой
Іду наверх, і жорсткае сумленне
Звівае ўсе грахі ў адзін сувой.

На самую вяршыню гонкай вежы,
Туды, дзе час ператварыўся ў вецер,
Туды, дзе чалавек сабе належыць,
Сабе і анікому больш на свеце.

Іду. І адзінотаю спрадвечнай
Мне пахнуць камяні, метал і дрэва.
Глухой сцяны, хваробы невылечнай
Цягну ярмо. І кроў, і боль, і Крэва.

Мой Крэўскі замак! Унія і сэрца.
Я — мёртвая, як спаленая кніга.
Хай кнігі не гараць! Не азавецца
Душа мая. Я болей не Ядвіга.

Я — не Ядвіга! Вецер — я! І толькі.
Ты ахвяруй гісторыі другую.
Ідзі. Цябе не клікала. Ніколькі.
Я не люблю цябе. Я варагую.

Я — вораг твой! Я болей не Ядвіга.
Я не баюся смерці анізвання.
Я — ерась, забароненая кніга.
Не заключыць, як унію, каханне.

На вежы, між зубцоў, на самым краі
Вазьму ЯГО руку замест тваёй.
Мой Бог чужы, цябе я выбіраю.
А унія? І што? Ды д’ябал з ёй!

* * *

Ісці па галіне, якая спружыніць і гнецца
Пад нагамі. А неба усюды: звонку, ўнутры.
Ісці, і баяцца, і ведаць, што сэрца сарвецца,
Як яблык з галіны, і стукнецца вобзем: памры!

Ісці па галіне. Нячутна у цемры гайдацца.
Зоры хаваць на грудзях, каб апёкі навек.
У гэтай вадзе, што ідзе, без канца люстравацца.
І ведаць, што свет ірэальны прыгожы, як здзек.

Ісці па галіне. Цемрай у коле святла.
Потым сарвацца і плыць, і уліцца ў траву.
І чуць, і не верыць, і ведаць: ізноўку знайшла.
«Божа, як рана вам гэта прыйшло ў галаву…»

Галіна звініць, бы струна. Аддаецца ў вушах.
Ноч адклікае назад свае чорныя войскі.
Знічкай сарвецца надзея. І сцішыцца жах.
Ляжаць, і маўчаць, і глядзець у сябе, як Загорскі.

Галіна кранецца гарачага злітка сонца.
Будзе рака свае воды у неба нясці.
Устану. Пайду. Шчаслівая страшна, бясконца.
І будзе з душы маёй новае дрэва расці.

## ВОСЕНЬ ВЯРНУЛАСЯ

**1**

Кліча мяне Тураў халоднай ноччу,
Клічуць Гальшаны, Мір і Гародня, Нясвіж,
Кліча Наваградак, Полацак кліча — я крочу,
Пакуль не застыне душа там, дзе сцежкі, як крыж.

Клічуць мяне галасы — прачынаюся ў жаху.
І збавення няма, і няможна збавення займець.
Далоньку кладзе за мяне на бяссонніцы плаху
Маленькі кляновы лісточак далонькі, чырвоны, як медзь.

**2**

Восень вярнулася. Восенню мне не спіцца,
Восенню трэба ісці па кладах і слядах,
Восенню трэба на сцены і кнігі маліцца,
Восенню трэба блукаць па старых гарадах.

Восенню сны і пыллё атрасае гісторыя,
Восенню бітва вякоў паўтараецца зноў,
Восенню да слепаты узіраюся ў зоры я,
Восенню стогне у жылах мінулага кроў.

Пэўна таму, клічуць яны толькі восенню,
Восенню, пэўна таму, адкрываюцца раны.
Кляновы лісточак ляжыць не мядзяны, а з просінню.
Літасці не існуе. І не трэба, Гальшаны.

*Вячаслаў БУРДЫКА*

# ПАХОД У ТРАЦЦЯКОЎКУ

***Апавяданне***



***Вячаслаў Бурдыка нарадзіўся 19 лістапада 1955 года ў вёсцы Сваткі Мядзельскага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Працаваў у раённых газетах Мінскай і Брэсцкай абласцей. Цяпер — адказны сакратар брэсцкай абласной газеты «Народная трыбуна». Член Беларускага саюза журналістаў і Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар некалькіх дэтэктыўных раманаў.***

Пабываць у Траццякоўскай галерэі брэсцкі мастак Міхал Касец марыў з маленства. І мог гаварыць пра яе доўга і шмат, бо ведаў гісторыю яе стварэння і развіцця. Сябры мастака ў размове з Касцом старанна абыходзілі тэму Траццякоўкі, таму што на ўласнай скуры — і не аднойчы! — паспелі пераканацца: Мішка ўчэпіцца ў суразмоўцу як клешч і не выпусціць, пакуль не вываліць на галаву таго ўсю наяўную інфармацыю пра самую вядомую, так ён лічыў, мастацкую галерэю свету. Прычым учапіцца стараўся не ў пераносным, а ў самым прамым значэнні слова — у гузік на пінжаку. І круціў гэты гузік, і цягнуў на сябе, быццам правяраў на трываласць.

Мікалай Мошчык, маскоўскі прадпрымальнік, гаспадар буйной будаўнічай фірмы, ведаў пра гэтую слабасць вядомага майстра мальберта і пэндзля: ён вырас з Касцом у адным двары. Сустракаліся цяпер не часта — адзін-два разы на год, калі Мошчыку ўдавалася выбрацца ў Брэст. У родным горадзе ён адразу ішоў у майстэрню сябра на набярэжнай Мухаўца. Узнімалі за сустрэчу чарку. А потым — размовы, размовы, размовы... У іх Мікалай Фадзеевіч знаходзіў «момант ісціны», прызнаваўся, што і прыязджаў дзеля гэтых душэўных размоў — «адцягнуцца на поўную катушку».

— Ты ведаеш, Мішка, у Маскве зусім іншы рытм жыцця, — пачынаў споведзь Мікалай звычайна пасля другой чаркі. — Падумаць няма калі, спыніцца, азірнуцца, асэнсаваць зробленае... Вар'яцкі дом, а не горад! Грошы — аб'екты — грошы... Кожны дзень — як віхура, як навальніца. Максімум паўгода вытрымліваю... А потым, адчуваю, трэба дадому, у Брэст. Аддыхацца, з табой гарэлкі папіць. І — назад... Слухай! А што гэта ўсё я ды я да цябе прыязджаю? Давай калі-небудзь і ты да мяне... У Траццякоўку тваю сходзім, ты ж з дзяцінства марыш... Давай, Мішка, памрэш хутка, так і не ўбачыўшы калекцыю братоў Траццяковых...

— З табой сходзіш, бадай што, толькі ў кабак ці ў казіно, — уздыхнуў Касец. — Ведаю я цябе, мільёншчыка!

— Клянуся! Ніякіх рэстаранаў і казіно, — грукнуў сябе кулаком у грудзі Мошчык. — Толькі ў Траццякоўку... Я, дарэчы, быў там аднойчы. Нічога цікавага... Але дзеля

сябра зноў пайду. Давай, Міша, я цябе прашу! А грошы на білет — дам. І туды, і назад. Яшчэ і сутачныя выплачу...

— Здзекуешся, так? Сорамна мне ў цябе грошы браць!

— Дурань, знайшоў чаго саромецца?! — Мікалай грукнуў кулаком па стале. — Заўсёды рускіх мастакоў мецэнаты падтрымлівалі. Тыя ж браты Траццяковы хоць бы... Вось і я ў цябе буду кшталту фундатара... Галерэю сваю адкрыць — машна не дазваляе пакуль. А на паездку ў Маскву грошы дам. Трымай аванс!

Мошчык дастаў з кішэні партманет, выцягнуў адтуль некалькі паперак з адлюстраваннем чужога прэзідэнта і паклаў на стол:

— Зваротны білет у Маскве вазьму. Калі Траццякоўка надакучыць...

— Траццяковы!.. Што вы, «новыя рускія», пра іх ведаеце?! — пасля трох чарак «Московской» Мішка «паплыў». Яго па звычцы пацягнула на любімую тэму. А тут яшчэ Мошчык сам яе закрануў. — Ты хоць ведаеш, чаму Павел Міхайлавіч Траццякоў сваю мастацкую галерэю вырашыў стварыць? Яму толькі-толькі споўнілася 28 гадоў, калі набыў першыя некалькі карцін рускіх мастакоў на распродажы, які арганізаваў адзін з маскоўскіх мецэнатаў таго часу Кокараў. Гэта былі «Сутычка з фінляндскімі кантрабандыстамі» Худзякова і «Спакуса» Шыльдэра. Чаму менавіта гэтыя творы? Таму што яны адпавядалі яго разуменню «праўды жыцця». Павел Міхайлавіч цаніў у выяўленчым мастацтве перш за ўсё мастацкую праўду і шчырасць. Дарэчы, такая вось цікавая дэталь... Адмаўляючы ў набыцці заказанага моднаму маскоўскаму мастаку Гараўскаму яшчэ ў 1856 годзе пейзажа, Траццякоў так растлумачыў прычыну свайго рашэння: «Мне не патрэбна ні багатая прырода, ні выдатная кампазіцыя, ні эфектнае асвятленне, ніякія дзівосы... дайце мне хоць брудную лужыну, але каб у ёй праўда была, паэзія, а паэзія ва ўсім можа быць, гэта справа мастака»...

— Ціха-ціха! — Мошчык, пратэстуючы, выцягнуў перад сабой абедзве далоні. — Я ж сказаў, што нічога ў гэтым мастацтве не разумею. Падабаецца табе Худзякоў — глядзі на Худзякова. Не падабаецца Пікасо — не глядзі на Пікасо... Мне асабіста па барабане. Лепш адкажы, прыедзеш да мяне ў госці ці не?

— Не! — Касец шырока ўзмахнуў рукой — парожнія чаркі і талеркі з закускай пасыпаліся са стала на падлогу. — Таму што ты — варвар!.. Не гавары пра тое, пра што разумення не маеш... Худзякоў, Пікасо... Траццякоў збіраў толькі карціны рускіх мастакоў, прыхільнікаў рэалістычнага і крытычнага кірункаў у мастацтве. Ніякіх іншаземцаў, ніякіх імпрэсіяністаў-мадэрністаў! Сорак гадоў бесперапыннага падзвіжніцтва... Сорак гадоў высакароднай працы дзеля рускай творчасці... Ён аддаў на пакупку карцін і ўтрыманне галерэі больш як паўтара мільёна рублёў! Ты ўяўляеш, колькі гэта грошай?! Важкіх царскіх рублёў! А потым перадаў галерэю Маскве. Бясплатна. Знойдзецца сёння мецэнат такой велічыні ў Расіі? Вы ўсе толькі сабе... Замкі пад Парыжам... Залатыя сарціры ў Маскве... Футбольныя клубы ў Лондане... Здзіўляюся, як не падавіцеся.

— Ты чаго гэта, Мішка? — Мікалай аслупянеў ад такога націску. — Я тут з якога боку? У мяне няма залатога сарціра. І клуба футбольнага таксама не маю. Ні ў Лондане, ні ў якім іншым горадзе свету. Не кіпяціся! Будуць яшчэ мецэнаты. І новыя Траццяковы будуць, і новыя Марозавы таксама.

І вось Касец прадаў сваю «Брэсцкую мадонну». Прадаў зусім выпадкова нейкаму іншаземцу — ці то італьянцу, ці то мексіканцу. «Брэсцкая мадонна» падабалася і яму самому. У прынцыпе, ён не збіраўся яе прадаваць таму, што лічыў незавершанай, трымаў у майстэрні, нават без рамкі, усё хацеў вярнуцца, нешта дарабіць, нейкай апошняй дэталі не хапала, завяршаючага мазка пэндзлем... А тут іншаземец, прынесла яго нялёгкая... Быў Міхаіл напярэдадні на адкрыцці выстаўкі Даніка, выпілі пасля ўрачы-

стай часткі, там і пазнаёміўся з замежным аматарам выяўленчага мастацтва... Здаецца, Джаані?.. Ці Мучача? Якая розніца... Пасля таго, як усё выпілі ў Даніка, пасунуліся яшчэ некуды, зноў пілі, потым сярод ночы апынуліся ў майстэрні на Набярэжнай... І гэты Джаані-Мучача чамусьці паплёўся за ім... У майстэрні ўбачыў «Брэсцкую мадонну» і прыліп бы ліст бярозавы ў лазні: прадай ды прадай. Раніцай пахмяліўся і за трыста долараў прадаў. Касец даўно ўжо не трымаў у руках такіх грошай і ніяк не мог вырашыць, на што іх патраціць. І за майстэрню трэба заплаціць, і сыну ўжо год абяцае дапамагчы машыну адрамантаваць, і жонка просіць новыя чаравікі... Трохсот долараў не хапала на ўсё гэта. Касец плюнуў і на гарвыканкам, і на саюз мастакоў, і на блізкіх родзічаў. «А паеду я ў Маскву, у Траццякоўку! — мільганула шалёная думка. — Тым больш, што абяцаў Кольку, ды і аванс ён даў, які я паспеў праесці...»

Пакуль не перадумаў, тут жа падскочыў на вакзал і купіў білет на бліжэйшы цягнік, нічога не сказаўшы ні жонцы, ні сыну. «Потым патэлефаную, а то не пусцяць». Ужо седзячы ў вагоне, успомніў: у яго ж няма мабільнага тэлефона! «А-а! Няхай панервуюцца — ім карысна», — але тут Міхаіл уявіў пастарэлы твар жонкі, яе лаянку з-за недахопу грошай і на імгненне пашкадаваў. Якая, да д'ябла, Траццякоўка, калі дома есці няма чаго! Аднак цягнік ужо крануўся, за акном паціху паплыў перон, і Касец змірыўся з лёсам. Што-небудзь прыдумаецца... А патэлефанаваць жонцы можна і ад Мошчыка з Масквы. «Але Колька нават не ведае пра мой прыезд! А калі ён у камандзіроўцы?..» Ад такой перспектывы ў Касца ў роце перасохла: «Ідыёт бязмозглы! І што я ў гэтай Маскве рабіць буду? Ні знаёмых, ні родзічаў, ні грошай...»

— Вачам сваім не веру! — пахмурны «пасля ўчарашняга» твар Мікалая імгненна прасвятлеў. — Вельмі дарэчы — разумееш, я ўчора аб'ект «закрываў» з заказчыкам, давялося злоўжываць... Толькі думаў палячыцца, а тут ты. Ну-с, што там у мяне ў халадзільніку завалялася?

— А як жа галерэя? — убачыўшы тое, што «завалялася» ў халадзільніку, слаба паспрабаваў супраціўляцца Мішка.

— Паспееш! — адрэзаў Мошчык. — Куды яна дзенецца ад Масквы-ракі? Як стаяла ў Лаўрушынскім завулку, так і будзе стаяць. Малайчына, Павел Міхайлавіч Траццякоў, добрае месца для галерэі выбраў.

Ад здзіўлення Мошчык аж гарэлкай папярхнуўся — ніколі раней яго сябра такімі ведамі па гісторыі мастацтва не валодаў.

— Чаго твар скрывіў? — пахрумстваючы салёным агуркам, засмяяўся Мікалай. — Я ж табе, Мішка, год таму ў Брэсце казаў, што да твайго прыезду рыхтаваўся і наведаў Траццякоўку. Для агульнага, так бы мовіць, развіцця. З таго часу адрас у памяці і захаваўся. Я нават запомніў, што заснавана галерэя ў 1856 годзе, а перададзена гораду ў 1892-м. А вось фасад яе, між іншым, пабудаваны значна пазней — у 1902 годзе па праекце знакамітага рускага мастака Васняцова... Ладна, давай па другой, Мішка, сёння ўсё роўна ў Траццякоўку не пойдзем, я не ў тым стане, каб да мастацтва далучацца. Ды і ты з дарогі прытаміўся. Адпачнём пакуль, а заўтра раніцай паедзем культурныя каштоўнасці спажываць.

...Міхал паціху апрытомнеў. За акном толькі-толькі пачынала світаць. Галава — быццам пад прас трапіла. Успаміналіся кавалкі нейкіх няясных карцінак: то мастаку здавалася, што Іван Грозны не сына свайго Івана дапытвае, а яго, Касца, то бачыў сябе вярхом на чырвоным кані ў карціне Пятрова-Водкіна. «Што за навала такая?! Во, дапіліся мы з Колькам, — напалохаўся Касец. — Так недалёка і да белых конікаў... А дзе ж сам Колька?»

На стале стаяла недапітая бутэлька «Смірноўскай», а пад сталом валяліся — «раз... два... пяць...» — парожніх бутэлек з-пад «Маскоўскай».

— Нічога сабе! — усхапіўся Мішка. — Няўжо гэта мы ўдвох з Колькам? А ў Траццякоўку я так і не трапіў!

— Як гэта не трапіў?! — абурыўся недзе побач Мошчык. — Учора наведалі! Ты яшчэ лекцыю чытаў пра ролю асобы Паўла Міхайлавіча Траццякова ў развіцці рускага выяўленчага мастацтва.

— Брэшаш! — ахнуў Касец. — Быць такога не можа, каб я не помніў наведвання Траццякоўкі...

Мошчык са школьных гадоў славіўся як аматар розыгрышаў, і каму як не Мішку пра гэта ведаць.

— А ты не помніш? — здзіўленне сябра было шчырым. — Мы ж раніцай учора пахмяліліся і адразу ў Траццякоўку паехалі. Я казаў, не трэба па п'янцы... А ты: у самы раз, маўляў, пад лёгкім кайфам дойдзе лепш... Няўжо нічога не помніш?

— Пайшоў ты, Колька, ведаеш куды? — пакрыўдзіўся Касец. — Зноў ты са сваімі розыгрышамі! Нікуды мы не ездзілі... Скажы, што жартуеш!

— Дзівак-чалавек... Навошта мне жартаваць? — Мошчык працягваў недаверліва глядзець на сябра. — А, можа, гэта мне прыснілася? Можа, мы і сапраўды нікуды не ездзілі? Праседзелі тут, за гэтым сталом, два дні... Але чаму ж я так выразна памятаю, як ішлі ў галерэю, як аддавалі курткі ў гардэроб, як ты расказваў супрацоўніцы гісторыю Траццякоўкі, спрачаўся з ёй з нагоды карціны Пятрова-Водкіна «Купанне чырвонага каня»...

Адчуўшы няўпэўненасць у голасе Мошчыка, Касец пачаў пакрыху супакойвацца. Вядома ж, гэта Колька ўсё пераблытаў, ні ў якой галерэі яны не былі, а прагулялі двое сутак у кватэры... Такое з імі і раней здаралася, Мошчык так «адрываўся» ў Брэсце ад сваіх бізнесклопатаў.

— А гэта што?! — бадзёры голас Колькі вывеў Касца з задумлівасці.

— Што?

— Вось! На табе, — Мошчык падсунуў пад нос Мішку два серабрыстыя металічныя кругляшы, на якіх чорнай фарбай былі напісаны лічбы 13 і 14. — Жэтоны з гардэроба. Мы курткі свае ў Траццякоўцы пакінулі!

— Нічога сабе...

Касец раптоўна змоўк, нахохліўся, думкі сіганулі некуды далёка, недасягальна. Паехалі ў Траццякоўку. Сапраўднасць пераўзышла ўсе чаканні. Гардэробшчык распавёў, як учора яны ў скульптурнай зале пілі на брудэршафт з бронзавым Пятром Першым, як патрабавалі, каб прынеслі чаркі выпіць «у грэчаскай зале»... Ахоўнік хацеў выклікаць міліцыю, але дзяжурны адміністратар Ганна Іванаўна спыніла, таму што беларускі мастак здзівіў яе глыбокім веданнем гісторыі Траццякоўкі, называючы такія падрабязнасці, якіх нават яна не помніла.

— Ганна Іванаўна прасіла вас зайсці сёння, — сказаў гардэробшчык. — Як толькі, маўляў, прыйдзеце — адразу каб да яе.

Але Касец ужо выбег на вуліцу. Мошчык забраў у гардэробшчыка паліто і дагнаў сябра за два кварталы ад Траццякоўкі. Той быў не ў сабе, аглядваўся па баках, не пазнаваў Мошчыка, мармытаў пад нос нейкія незразумелыя словы і настойліва ішоў да Беларускага вакзала. Перад самым адпраўленнем цягніка ён, нарэшце, зірнуў Мікалаю ў вочы і прамовіў:

— Усё, Коля, больш ні-ні!

Мастак сваё слова стрымаў. Да апошняга дня ён больш ні разу не дакрануўся да гарэлкі — такое моцнае ўражанне зрабіў на яго візіт у Траццякоўскую галерэю...

*Васіль ДЭБІШ*

# ДАСПЕЛЫМ ЯБЛЫКАМ



***Васіль Дэбіш нарадзіўся 22 ліпеня 1962 года ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёна. Скончыў Мінскі інстытут культуры. Жыве і працуе ў Брэсце. Друкаваўся ў розных літаратурных часопісах і калектыўных зборніках «Дзень паэзіі», «Дзядзінец», «Берасцейскія карані», тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», іншых выданнях. Аўтар зборнікаў вершаў «Белыя птахі» (1993) і «Лісты да Марыі» (1996).***

* * *

Цёмны вечар. Шэрыя гадзіны.
Месячыкам светлым на мяне
Ты глядзіш, каханая жанчына.
Дарагая, гэтак сумна мне!..

Бо ўжо хутка развітацца трэба.
Чуеш, голас ветру за сцяной.
З раніцы захмарылася неба…
Я цябе кахаю так даўно.

Да грудзей маіх пяшчотна туліш,
Мілая, змакрэлы тварык свой.
Баслаўляю дні, што прамінулі.
Ночы тыя, што правёў з табой.

Баслаўлю і тыя, што надыдуць…
Хай гудзе вятрыска, рве масты…
У імглісты вечар з дому выйду
З верай светлай, што кахаеш ты.

### ПАВУЧЫХА

Вунь павучыха. Я не зводжу воч
З яе і не гашу святло ў пакоі.
Яна ў куце, чарнюткая, як ноч,
І павуцінне тчэ над галавою.
Сіло зладуе, покуль стане днець…
Ах, мілая! Здаецца, гэта ціха,
Старанна тчэш ты путы для мяне,
Як гэтая начная павучыха.

### ЯШЧЭ…

Даспелым яблыкам лаўлю
Тваё пяшчотнае: «Кахаю!»
І, нібы мёд, яго я п’ю.
А твой пагляд здаецца раем.

Яшчэ халоднай пустаты
Не разглядзеў пад пазалотай.
Яшчэ не ведаю, што ты
Атрутным плодам станеш потым.

## ЯБЛЫНЕВЫ САД

Паспелі яблыкі, салодкія, як мёд.
Ноч. Цішыня. І зоркі ясна ззяюць.
Шалёны восень водзіць карагод.
За рукі ўзяўшыся, з табой гуляем
Па яблыневым садзе. Шчасцем твар
Твой свеціцца. Бы ружа маладая,
Ты ўспыхнула. Гарачых вуснаў жар…
Звон яблыкаў… А зоркі ападаюць.

## АДНА

Не заўважыў, як ноч наступіла, —
Пра цябе цэлы вечар я марыў.
Шапаціць вецярок легкакрылы,
Гнецца голлейка дрэў пад цяжарам

Спелых яблык і груш. А на небе
Усяго адна зорачка ззяе…
Для мяне… А мне болей не трэба.
Я адну цябе толькі кахаю.

* * *

Прыехала на дзень, і сэрца мне
Напоўніла каханнем да краёў,
Нібы віном, што асвятляе келіх,
З якога ты прыгубіла, і толькі.
Цяпер віно зусім не пунсавее
І не іскрыцца. Спакваля яно
Губляе слодыч, пах п'янкі і кісне …
Цябе няма. І ў келіху, і ў сэрцы
На дне асадак толькі.

## МАТЫЛЁК

Мы выйшлі на прастор. Ах, цішыня якая!
У цемрадзі лёт журавоў я чую.
Сеў матылёк на кветку палявую.
Б'е крыльцамі. І раптам замаўкае.

Між хмарак месяц малады вяслуе.
Мы ў хвалях кветак, ціхіх траў знікаем.
Праменьчыкі вачэй тваіх цалую…
Ты матыльком на кветцы заціхаеш.

* * *

Гразлівы спрэчкі гром. Маланкі слоў
Успыхнулі агнём не дыяментным.
Так сівер разбівае вокнаў шкло —
Разбілася каханне. Шкельцаў гэтых

Не склеіць, не сабраць. І не вярнуць
Вясновых дзён шчаслівыя імгненні…
Над намі хмары чорныя плывуць,
І ў вокны б'е нудотны дождж асенні.

* * *

Вы — мая радасць, шчасце, адкрыццё.
Я не змагу пакрыўдзіць Вас ніколі.
Я моцна Вас кахаю. Як жыццё.
Я Вас люблю мацней за прагу волі.

Глухая ноч. Тры крокі да бяды.
Халодная, бязмоўная, сляпая.
Такая недаступная заўжды.
Вы — як палын…
                    Так горка я кахаю.

І нават маладзік на небе згас.
І зараніца хутка закрывавіць…
Сціскае сэрца. Я кахаю Вас
Балюча так… А Вы не зналі нават.



*Мікола БУСЬКО*

# ШЭПТ СТОМЛЕНАЙ ЗАТОКІ

***Апавяданне***



***Мікола Бусько нарадзіўся 27 верасня 1940 года ў вёсцы Пагарэлка Карэліцкага раёна. Пачуццё прыгажосці, любоў да мастацтва прывялі на выяўленчы факультэт Маскоўскага завочнага народнага ўніверсітэта мастацтваў. Друкаваўся ў раённым і рэспубліканскім друку. Аўтар зборніка паэзіі «У Нёмна на плячах» і кнігі для дзяцей «Ад галінкі да сучка тэлефон у павучка». Жыве ў Баранавічах.***

Змітрука непрыкметна агарнулі ўспаміны, ён усхвалявана тупаў сюды-туды, перайшоў у пакой, яму хацелася ўпарадкаваць думкі, пазбавіцца ад разладдзя ў душы. Ён спыніўся перад карцінай, пастаяў каля акна, перавёў позірк на квадратныя месячныя дыванчыкі, што клаліся на падлогу з начнога акна сінімі ўзорамі. У яго свядомасці нечакана ўзнікла канчатковае рашэнне:

— Усё, з'язджаю з гэтай гарадской мітульгі на ўсё лета, да першых прымаразкаў. Бо жыццё ў горадзе заўсёды спешнае — плойма пешаходаў кудысьці бяжыць, а дамы быццам крычаць: «Ціха бяжыце! Хутчэй!» А ў начныя гадзіны — паміж трыма і чатырма досвітку — калі гукі яшчэ глухія, а жахі ночы нарэшце растварающца ў зябкім паветры надыходзячай раніцы, мяне цягне да ракі, да сонца, якое не бачна яшчэ за вершалінамі лесу. Хочацца спрычыніцца душой да прыроды, адчуць замілаванасць хараством, прабыць цэлы дзень у слодычным назіранні за ціхім люстэркам вады, у якім люструецца празрысты купал, вытканы з энергіі светлай рэчаіснасці, зведаць тое, што схавана ад вока гараджаніна. І ў гэтых прыемных дзівосах, у мяккіх пераходах ад светла-жоўтых да аранжава-чырвоных тонаў узыходзячага сонца, здаецца, мастак аддаў бы частку жыцця, каб толькі змог перанесці яго на палатно.

Ляцець цераз выган за вёску, дзе зноўку прачышчаюць горла трэцція пеўні, шыбаваць па лугавіне да ракі. Паглядзець, як там пачуваюцца мае сябрукі — шчупакі ды барсукі? Заўтра ж дзянёк такі светлы, празрысты будзе.

Наведаць мясціны маленства, пагаманіць з лесам, зірнуць на раку, бо кожная сустрэча з ёю заўсёды незабыўная.

Паспяшацца ў выхадны, пасля працоўнага тыдня. Зноў пабачу свой рыбацкі рай, які застаўся мне на схіле сталага веку. На чым іншым буду эканоміць, а для сваіх мясцін, для самага светлага, што ў жыцці засталося, не пашкадую анічога…

Мужчына апусціўся на канапу, ашчаперыў рукамі твар, і ўбачылася рэчка маленства, родная вёска, у якой

так хутка згасла маладосць. Прыгадаліся бацькі, хатка над рэчкай, зычны клёкат бусла, могілкі над Крутымі Берагамі, помнікі ды крыжы, што патрабуюць ціхай малітвы.

Яшчэ з малалецця душа Змітрука ўпадабала свае мясціны, імкнулася да спазнання іх непаўторнай прыгажосці. І ўжо беззваротна пакідаючы чужую зямлю, былы спецназавец, калі прыехаў дамоў, то ўладкаваўся на агрэгатны завод. Стоячы за такарным станком, адчуваў ён пошум дрэў і шэпт рачулкі. Звычайна, у апошні рабочы дзень пасля начной змены, кінуўшы развітальны позірк на прахадную, бегма імчаўся Змітрук дахаты.

— Калі прыедзеш?

Пытанне завісла над ложкам.

Паходны заплечнік напаўняўся рыбацкімі прычындаламі. Бразнула спражка афіцэрскага рэменя. Ён выраўняў фалды на камуфляжнай куртцы. Паляўнічыя запалкі схаваліся ў кішэні. Змітрук нагнуўся, каб зашнураваць цяжкія высокія буцы, і паправіў нож, што вісеў пад курткай. Так, цяпер, мусіць, усё.

— Не затрымлівайся. Ні пуха табе, ні пяра!

— Ыгы!

Ён выпрастаўся, і ў знак згоды матлянуў галавою. Жонка сядзела на раскіданым ложку і раз-пораз кідала на яго дапытлівыя позіркі, быццам чакаючы адабрэння, а зблытаныя цёмныя валасы затулялі яшчэ сонны ейны тварык. Мужчына на нейкі момант застыў нерухома.

— Пастараюся хутчэй, — буркнуў ён і выйшаў.

Змітрук спехам закінуў заплечнік, ускочыў на ровар і пашыбаваў удалячынь. Ён любаваўся ляском, старанна аб'язджаў дрэвы, каб не турбаваць іх сінія цені. Ружовы пэндзлік промня наносіў першыя мазкі акварэлі, якія расцякаліся цёплай гамай па белым ватмане раніцы.

— Вось гэта карціна — шэдэўр!

Змітрук не пераставаў здзіўляцца хараству наваколля, пад’язджаючы да Ушы. Сцежкі паміж дрэў засталіся, відаць, ад часоў ліхалецця — пракладзеныя кірзавымі ботамі ды прыціснутыя коламі. Перад ім праплывалі далёкія макаўкі лесу, а бліжнія травы ды кусты каціліся насустрач зялёнымі хвалямі. У лагчыне пад шатамі альхоўніку, нібы ў казцы, струменіць гаманкая рачулка.

Веласіпедыст мацней націскаў на педалі і не заўважыў, як над зялёным покрывам прыбярэжнага лесу, нібыта вітаючы яго, падымалася памаладзелае за ноч сонца. Вось яна, жаданая сустрэча з роднымі сэрцу мясцінамі ды з гаючымі вірамі рачулкі.

— Прывітанне, мая Уша! — на ўсю моц грудзей выгукнуў Змітрук і, саскочыўшы з веласіпеда, падкасаў калашыны нагавіц, зайшоў у ваду. Няспешна набраў поўныя прыгаршчы, пырснуў на твар.

— Ты нейкая горкая! Чаму так?..

Змітрук збянтэжана кідаў задумлівыя позіркі на ссечаныя бярозкі, спілаваныя высока хваінкі, глядзеў на лясок з жалем, са спачуваннем. «Так, я даўно падазраваў браканьераў у бяздушнасці. З чаго ж трэба пачаць, каб іх прыпыніць? Чаго дабіваюся? Не, трэба зрабіць так, каб яны зразумелі, дзеля чаго і дзеля каго існуюць законы прыроды». Разважанні Змітрука не маглі спыніцца на нечым адным: не ўзнікала жаданне адпомсціць крыўдзіцелям, а болей хацелася пераканацца ў тым, што падзейнічае яго досвед і ён дасягне жаданага.

Тым часам ціхія ласкавыя сполахі ветрыку, што чуліся ў кустах, гучалі быццам дакорам. Вады ў рэчцы зусім мала, толькі плюхаецца пад ботамі. Ад той ранейшай раскошы, што цешыла сэрца, амаль нічога не засталося. Адно прыцягвалі погляд прыбярэжныя клёны.

Паўнаводная калісьці, гуллівая рачулка памірала: панура стаяла іржавай лужынай паміж высокіх грывастых купін, сплеценых з хмызнякоў.

— Ты ратавала жыцці звяроў, раслін, — з горыччу вымавіў Змітрук, — а ён, чалавек, табе чым аддзячыў? Дзе б я ні быў, але ніколі не адчуваў такой прыгажосці, якая тут калісь раскашавала. А цяпер засталіся толькі слабыя водбліскі былога хараства, апаганенага чалавекам.

У гэты момант цішыню раніцы перарвала траскучым гулам матацыкла, які неўзабаве паказаўся на паваротцы сцежкі.

— Напэўна, «мінскі»?.. — Змітрук подбежкам кінуўся ў ельнік. — Паглядзім, што за пташка.

За рулём сядзеў каржакаваты мужычок сталага веку. Упоперак грудзіны вісела, як аўтамат, двухстволка. Чалавек заглушыў матор, саскочыў з сядзення, пабег да берага, пачаў спехам адкопваць яму. Затым нешта цяжкае панёс, паклаў на дзяружку, абцягнуў вяроўкай і хуценька прывязаў да багажніка. Нарэшце агледзеўся навокал.

— Ну і ўсё…

У знешнасці чалавека было нешта асаблівае: зашмальцаваная ватоўка, пацёртыя порткі. Устрывожаныя, глыбока ўціснутыя ў твар вочы. На скуластых упадзінах шчок вытыркалася шчэцце. Крывы, як сук, сін响ваты нос, што тырчэў над агрэсіўна сціснутымі, быццам абцугі, губамі, завяршаў каларытны партрэт каржакаватага мужычка.

Сумненняў не ўзнікала: браканьер. Змітрук выйшаў на сцежку і патрабавальна вымавіў:

— Стой!

Чалавек здрыгануўся, але матор ужо лапацеў, ён абвёў сустрэчнага ўстрывожаным позіркам і, пераканаўшыся, што Змітрук не ўзброены, злосна выдыхнуў:

— Што, заблудзіўся, мусіць?

— Спачатку трэба вітацца пры сустрэчы, — нагадаў мужычку Змітрук і далікатна папрасіў:

— Пакажыце паляўнічы білецік, калі ласка.

— А ты хто такі? Білецік яму!.. — браканьер злосна скрывіў вусны.

Узбуджаны твар мужычка выглядаў агрэсіўным. Здавалася, вось-вось злоба вырвецца вонкі.

— Не варта хваляваца, — прамовіў парушальніку Змітрук.

— Эх! — цяжка ўздыхнуў мужычок і ўскочыў на матацыкл, націснуў на старцер ды газануў.

— Нешта ёсць, калі змыўся хутка.

Змітрук прысеў на пянёк, пагледзеў наўздагон злодзею і задумаўся.

— Якая прыгажосць! — Змітрук разглядаў кветачку, — кожны пялёстачак — асобная кветачка. Гэта ж трэба так дакладна капіраваць форму насякомага. А навошта? Каб прывабіць іх. А вясною ў гэтых мясцінах пашчасціць угледзець у хмызняках табунок дзікоў з паласатымі парасяткамі, ласёў, пудкіх аленяў ды грацыёзных казуль. Тут, куды ні зірні, паўсюль узгоркі ды нізіны. Суцэльныя ягаднікі і грыбныя мясціны. Нездарма ж гэтае ўрочышча людзі называюць цэнтрам браканьерскай дзяржавы.

Даўкі клубок крыўды падкаціўся да горла Змітрука, пранізлівы адчай перанарадзіўся ў нянавісць, калі ён убачыў на ўскраіне лесу змрочную палянку, дзе ляжалі вывернутыя з карэннем учарнелыя пні, нібыта быкі з перарэзанымі гарлякамі. Ён паглядзеў на вогнішча паляўнічых, якое яшчэ крыху дымілася з блізкай ямы. Бензапілы, сякеры ды пажары імкнуцца абрынуць гэтае ўрочышча ў апраметную. Такое Змітрук бачыў толькі на фронце. Але хіба толькі гэтую мясціну напаткаў такі гаротны лёс?

Вызірнула сонца, наляцеў вецярок, адганяючы непрыемныя думкі. Неба нечакана зрабілася насупленым, сталі зацягваць яго цёмна-шэрыя аблачыны. Збіралася на дождж, які падсілкуе раку.

— Пайду ніжэй, бо там, за прыгоркам, глыбей, — выказаўся рыбак. — У мяне на юшку шанцаў болей, чым у хлопцаў на мяса.

Шмат прахадзіў Змітрук, пятляючы, праверыў некалькі віроў, і ўсё безвынікова. «Не пашчасціла сёння. Так бывае. Але надзея ёсць, а без яе не варта на раку выбірацца», — разважаў рыбак. Бо заўсёды карціць пабыць там, дзе аднойчы наведала ўдача.

— Яшчэ разок паспрабую, — сагнаў Змітрук з твару маркоту.

Ён пайшоў берагам пакручастай рачулкі, што шылася ў лагчыну, дзе ад застаялай вады патыхала балотнай задухай.

* * *

Пачаўся паляўнічы сезон, доўгачаканая пара, свята аматараў стрэльбы, якія спяшаліся ўцікаваць птушку і дзічыну.

— У цябе, Андрэй, стрэльба добрая, а ў мяне хоць і старая, але яшчэ спраўна служыць. Ад бацькі засталася. А ў цябе, Стась?

— Даўнейшая, браце…

Ціха крочыла троіца па лесе з неадʼемным жаданнем штосьці ўпаляваць.

«Бах-бах!» — раптам здрыганула цішыню. Толькі адгалоскі разнесліся паўсюдна.

Недзе ўверсе цецярук пашчоўкаў і прыціх. Андрэй заўважыў, як птах разварочваецца, паходжвае па сасновым суку. Мякка ступаючы, паляўнічы наблізіўся, ускінуў ружжо.

«Бах-бабах». Справу вырашыў адзіны стрэл.

— Табе пашэнціла, Андруха.

Паляўнічы адчуў прыліў задавальнення, якое ахапіла яго поўнасцю.

Пералятаючы з дрэва на дрэва, чародкі птушак зніклі ў глыбіні лесу.

Мужчыны пайшлі да рачулкі. На беразе, сярод зрыжэлай травы, разваліўся ружовы ад заходзячых промняў валун.

— Давай тут перакусім і будзем чакаць Змітрука, — дастаючы падхарчунак, прапанаваў Стась. — Нахадзіліся ўсё ж…

Мужчыны стомлена расцягнуліся на траве. Нейкі час гаварылі пра паляўнічыя справы, а пасля дзед балабоніў пра незвычайныя здарэнні з дзікамі.

— Бывае ўпалюеш дзіка, ён ляжыць і не дыхае, ты адразу не падыходзь. Нават з прабітым сэрцам кінецца. Шчацінне яго, як браня. Але чалавек заўсёды мацнейшы за звера, калі ён практычна і псіхалагічна падрыхтаваны да сустрэчы з ім. А ваўкі — гэта ўвогуле ўніверсалы. Нораў іхні, як надворʼе восенню. Звычкі ваўкоў я ведаю лепей за характар сваёй жонкі.

І надвор’е было тады зусім іншае. Пойдзеш, бывае, раніцай у лясок, розныя песні пачуеш. Мелодыя салаўя спачатку цягуча-мядовая, як сарамлівы позірк вясковай прыгажуні, іншы раз перарывіста-мінорная, як вецер у коміне, а напрыканцы прыцягальна-ўзбуджаная, як аргенцінскае танга. Усё гэта пераносіць цябе ў свет любові, свет гарманічны, як прыродзе, так і чалавечай душы.

— І цяпер, дзядуля, там, за Нёманам, у пушчы, — зазначыў хлопец, — лясы напоўнены птушыным і звярыным жыццём, дзікоў процьма развялося, а ваўкоў…

Недзе ў далечыні бахнуў стрэл.

Блізка пачуліся цяжкія крокі, што ўзбіраліся на ўзгорак.

— Ты нешта доўга, Змітрук?

— Сустрэў браканьера…

— А рыбка дзе? — вуды боўталіся ў яго руках без справы.

Сарвалася адна і знікла. На маіх вачах птушка каменьчыкам нырнула з кусціка ў раку і нават не раскрываючы крылы выскачыла з рыбкай.

Мужчыны пагаманілі, падымілі цыгарэтамі, дахрумкалі агурочкі і падняліся. Сям-там на паніклай траве — срабрыстыя ўзоры павуціння. Ціхім сумам поўніліся ўзлескі, рачулка, узбалоцце і непрыветнае неба. Непадалёк прарыпеў драч, нагадаўшы, што ноч ужо ціха ступае па шапаткой лістоце. У вершалінах дрэў затаіўся маладзік і раўнадушна пазіраў на наваколле мутным паўсонным вокам. Прыцемак змусіў паляўнічых звярнуць да сцежкі. Трыснягі нібыта праводзілі іх, махаючы раскідзістымі мяцёлкамі.

Нечакана да слыху Андрэя данесліся ўздыхі. У прасвеце між дрэў ён прыкмеціў нейкую постаць. Да цікаўнасці дадалася ўстрывожанасць. Няўзнакі, бязмоўным ценем дабраўся да разлапістай яліны. Нейкі момант знаходзіўся ў здранцвенні.

Заўважыўшы паляўнічага, жывёла варухнулася ў адзін-другі бок, стараючыся змяніць свой лёс. Крыху паднялася, зыркнула, і павольна апусцілася, выдыхаючы працяглы стогн. Казуля ляжала на акрываўленым баку, падцiснуўшы пад сябе ногі.

— Э-эй! Эй! — пракрычаў хлопец.

Здзіўленыя ўбачаным, застылі мужчыны. Смерць маладой жывёлы засмуціла іх.

— Хто яе?...

— Напэўна, Шнурок?

— А як дакажаш, што ён?

— Што будзем рабіць? — Змітрук завагаўся, яму зрабілася ніякавата.

Мужчыны кіраваліся дамоў. Пацяжэлыя заплечнікі ўсё нахабней адцягвалі плечы.

Безліч выпрабаванняў выпала за жыццё на долю Змітрука, але ён не здаўся, выстаяў, бо лічыў сябе дужым і мужным. Усяго давялося паспрабаваць яму, а вось зірнуць у вочы паміраючай жывёлы ён не адважваецца і па сёння.

# НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ СІНЯЙ ВЫШЫНІ

## ТВОРЫ ПАЭТАЎ БЕРАСЦЕЙШЧЫНЫ

***Берасцейшчына, зрэшты, як і ўся астатняя Беларусь, надзвычай багатая на таленты, асабліва паэтычныя. Невыпадкова штогод «Маладосць» прысвячае творцам з гэтага рэгіёна тэматычны нумар. Сёлета на маладосцеўскіх старонках — вершы аўтараў, якіх многія чытачы запомнілі, ацанілі і палюбілі за час нашага плённага супрацоўніцтва. Знаёмыя імёны прыемна здзіўляюць свежасцю рыфмаваных знаходак. Ад класічнай жаночай паэзіі — да пейзажыстыкі і глыбокай філасофіі. Берасцейцы пішуць вершы на любы, нават самы патрабавальны чытацкі густ, і гэта радуе.***

**Вікторыя ЛЯЙКОЎСКАЯ**

### Святлана ЛОКТЫШ

* * *

*Я. Янішчыц*

А лепшыя з найлепшых часта гінулі,
Не ўсё наканаванае пражыўшы.
І Вы зарана гэты свет пакінулі,
З Палесся летуценніца Янішчыц.

Так, прыручалі, толькі непрыручаным
Гучыць з радкоў паэта шчыры голас.
Вы з памяццю народнаю заручаны,
Зямліцы роднай выспелены колас.

Не пажадалі лжывай славы звону —
Пяклі Радзімы любае балячкі.
І Ясельда нясе на хвалях гонар
За талент, годнасць, чысціню зямлячкі.

### Марыя КОБЕЦ

* * *

Што вам да кволае душы,
Душы паэткі?!
Ты хоць пішы, хоць не пішы —
Ваш погляд гэткі.
І да маіх нязбыўных сноў —
Свае развагі.
Ад вас спагады б, цёплых слоў,
Крыху б увагі!
Што вам да кволае душы,
Душы паэткі…
…Хай вяне сціпла ля шашы
Сарванай кветкай!

### Анатоль ГАЛУШКА

**ЗЯМЛЯ ПАД СОНЦАМ**

Чароўны мой край,
        зямля пад крыламі белымі,
Асвечана сонцам
        і крыжам святой Еўфрасінні.
Ты ў сэрца глядзіш
        вачыма бяздонна-сінімі,
Бярэш у палон
        лясоў старадаўнімі спевамі.

**СІНЯЯ ПЛЫНЬ**

Восень
Паклікала птушак да раю.
Просінь
Змяняе халодная сінь.
Лета
Ў лістах пераспелых згарае.
Ветрам
Халодзіць сцямнелую плынь.

## Мікола АНТАНОЎСКІ

* * *

За лесам палавее жыта,
За жытам — зноў шумяць лясы.
Бяды нямала пераэжыта,
Не раз гарэлі каласы.

Але мы ўпарта жыта сеем
І садзім хвойкі і дубкі.
На лёс свой скардзіцца не ўмеем,
Надзея — на цяпло рукі.

І як бы нас ні церла доля,
Каб адракліся ад высноў, —
Змахнеш слязу на родным полі
Ды і ў жыццё паверыш зноў.

* * *

Знікаюць, быццам Атлантыды, вёскі...
На родных котлішчах — палын-трава,
І цэркаўка — самотная ўдава —
Адплакалася назаўсёды воскам.

Зрашэцілі сатлелы купал кроплі,
Даўно ў ім гаспадараць кажаны.
На лёсах пакаленняў без віны
Несправядлівы час паставіў кропкі.

На гонях утравелых ходзіць вецер
Ці прывіды аратых па вясне?
І не адзін з іх роспачна ўздыхне:
Такі бедлам на гэтым светлым свеце.

А нам, наіўным і жывым, здаецца:
Ідуць усе Туды, ніхто — Адтуль...
А раптам уваскрэснуць давядзецца —
Дзе знойдуць душы нашыя прытул?

* * *

Над высокім жытам — жаваронак,
А ў высокім жыце — васілёк,
І сузор’ем гаркаватых гронак
Арабіны свецяцца здалёк.

Капялюш зрывае пругкі вецер:
Выкінь, братка, гарадскі убор.
Тут цябе па-простаму прывецяць
Жаваронак, колас, светлы бор.

Капялюш здаўна тут не ў пашане,
Паважае поле картузы,
Бо чынілі полю пакаранні
Капялюш ды зрэдку маразы...

Патаемны зноў праб’ецца голас,
Славячы душэўную красу,
І — грашней знячэўку спляжыць колас,
І радней па ім журлівы сум.

Капялюш без жалю, без праклёнаў
Паляціць у жыта незнарок...
Над высокім жытам — жаваронак,
А ў высокім жыце — васілёк.

## Галіна БАБАРЫКА

### МРОЯ

Ты прыходзіш у сны
Кожны раз нечакана,
Подых даўняй вясны
Ты нясеш, закаханы.

Салаўіных рулад
Гукі сэрца ўстрывожаць,
А вакол — зарапад
Нашы мары ўсё множыць.

Золак зноў рубяжы
Паміж нас пракладае...
І ты зноў мне чужы,
І табе я чужая.

### У ПАЛОНЕ ВОСЕНІ

Бабіна лета
Шчодрай рукою
Лье на палетак
Сонца ракою.
Неба блакітам
Свеціцца ў кроне.
Восень адкрыта

Душы палоніць:
Ніткай бялюткай
Позіркі вяжа,
Яркія хутка
Творыць пейзажы.
Цёплыя фарбы
Дрэвам-букетам
Дорыць, як скарбы,
Бабіна лета…
Кідае жораў
Сумную ноту
Родным азёрам,
Рэкам, балотам.

## Любоў ДЗІКАВІЦКАЯ

* * *

Ноч абернецца
Дзікім селезнем
І ў світальным тумане
Кане.
На далоні мне
Ціха саслізне
Белакрылая зорка
Пёркам.
Сум рассеецца
Па аселіцы,
Заблішчаць на пракосах росы.
Беларусь мая,
Светла-русая,
П'ю да дна
Тваё ранне прагна.

* * *

Бацька косіць траву,
Нібы лічыць гады,
А над пожняю — ліпень.
Такі малады
І так роўна-раўнютка
Вядзецца пракос.
Колькі ж тут табой ходжана
Напрамкі і наўскос!
Склалі крылы два ворлікі —
гэта радасць і жаль.
Бачу, як часцяком ты
Ўглядаешся ўдаль.
Мабыць на небасхіле
Бачыш — белай ладдзёй
Праплываючы прывід маладосці сваёй.

* * *

Куды дзяюцца тыя словы
Што так ірваліся з душы?
На нейкі міг
Зраклася мовы.
І хоць крычы,
Хоць не крычы.
Праз голле
Цэдзіцца сутонне
На смоль
Расплеценай касы.
І мама
Цёплаю далонню
Пяшчотна гладзіць валасы.

* * *

Раскладае верасень кастры,
Як не першы раз
І не апошні.
Лета пераспелае
Гарыць,
Вараннё збіраецца
На пожні.
Не збылося.
Ціхі плач надзей.
Верасень звініць
Сарванай нотай.
І шчыміць,
Не зразумею, дзе, —
У грудзях ці ў небе, —
Адзінота.

* * *

Мне шкада,
Што птушкі адлятаюць.
І шкада,
Што вернуцца не ўсе.
Толькі зоркі
Так прывабна ззяюць
Дзесьці там,

На млечнай паласе.
Не спазнаць
Таемнасці Сусвету.
Незваротнай птушкай
Нашы дні
Нас нясуць
Праз зіму і праз лета
Ў непазбежнасць
Сіняй вышыні.

* * *

Павісла зорка
Ў настылым голлі
Чыйго расстання?
Чыёй любові?
А можа, гэта
Мігціцца зданню
Маё загаданае
Жаданне?
Дастаць — няблізка.
Мне шкодзіць вецце.
Ды з ног збівае
Калючы вецер.

## Валерый КУХАРЧУК

* * *

Напрасткі
праз Вербную нядзелю
я дайду
да ўваскрашэння сноў
пра святую веру і надзею,
пра любоў.

І Хрыста
няскораныя лікі
з абразоў
паўстануць уначы.
І малітва
за народ вялікі
прагучыць.

Наўздагон
апошняе надзеі,
на спачын
знявечанай душы
воску аблачынка палымнее.
Памаўчым...

* * *

Пасвячу чужому ліхтаром
на яго зацененае сэрца.
Хай убачыць, як яму няймецца,
як глытае дабрыню нагбом.

І тады прачнецца чалавек
і з душой асветленай наросхрыст
ахінецца ў жнівеньскія росы,
каб адмыцца ад грахоў навек.

І пасля запаліць прамяні
ля сардэц, што ў цемры застаюцца.
Бо яны ж усе пяшчотна б'юцца
і нязменна прагнуць дабрыні.

### ВЯСЁЛКА Ў ТУМАНЕ

Прымроілася.
Не. Пабачылася.
Туманы ўстаюць над Палессем.
Я пяшкую з Альгомля ў Таўмачава,
на памежжы губерняў Гомеля
ды Бярэсця.
Змежавалася ў тысячы кроках
чарада таўсматых тапаляў.
Іх няйнакш стогадовыя кроны
спалавініла над каранямі
тлустым дыхам зямлі.
Важка і неахвотна
ён адпускае цела,
якое яго спарадзіла,
і адплывае ў бяздонныя высі,
у самотную вечнасць.
Палакаецца чэрвеньскі ранак.
Ад чацвёртай мо з паўгадзіны.
Першы промень прабіўся з нізіны.
І, о дзіва! Вясёлка зайграла ў дыме
на выразных сем колераў, сем нот
радасці-смутку.

*Зінаіда ДУДЗЮК*

**На конкурс**
**да 130-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа**

# НАРАДЗІЎСЯ Я ЛІЦВІНАМ

*П’еса ў адну дзею*

**ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:**

**Касцюшка.**
**Людвіка.**
**Панятоўскі.**
**Доктар.**
**Слуга.**
**Сасноўскі.**
**Любамірскі.**
**Павел — імператар Расіі.**
**Афіцыйныя асобы і слугі.**



*Зінаіда Дудзюк нарадзілася ў вёсцы Слабодка на Браслаўшчыне. Скончыла Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут. Жыве і працуе ў Брэсце. Аўтар зборнікаў паэзіі «Праводзіны птушак», «Абрысы лета», п’ес, празаічных твораў.*

**Карціна першая**

Прыгожы пецярбургскі сад, агароджаны высокай узорыстай каванай агароджай. Шчабечуць птушкі, свеціць сонца, цвітуць кветкі. Слуга вывозіць на сцэну ў інваліднай калясцы Тадэвуша Касцюшку, які з-за цяжкага ранення страціў магчымасць хадзіць. Галава яго туга перавязана чорнаю павязкаю.

**Слуга.** Цудоўнае надвор’е, пан генерал! Думаю, ваша самаадчуванне палепшыцца. Доктар самой матухны-імператрыцы меўся сёння зноў вас наведаць. О, ён знакаміты лекар!..

**Касцюшка** *(сам сабе)*. Дарэмная спроба — лячыць мерцвяка.

**Слуга.** Навошта вы нагаворваеце на сябе. Рана на галаве амаль зажыла, рану на назе вам вылечаць.

**Касцюшка.** Толькі душу вылечыць немагчыма.

**Слуга.** Графа Снядэцкага разбіў паралюш, дык, уявіце сабе, доктар Роджэрсан яго на ногі паставіў. Цяпер граф штодня гойсае па горадзе на тройцы коней...

**Касцюшка.** Сёння сапраўды цёпла. Няма таго марознага ветру, які пранізвае цела навылёт... Пакінь мяне аднаго, калі ласка. *(І сам сабе.)* Ніяк не магу сабрацца з думкамі. Страшэнна баліць галава… Гэты боль даводзіць мяне да вар’яцтва. Ці каюся, ці шукаю апраўдання сваім учынкам... Айчына, я бясконца вінаваты перад табою. Усё перамолваю ў галаве падзеі паўстання. І не разумею, як магло стацца, што мы не здолелі цябе абараніць.

Аказаліся слабыя духам! Пачалі спаборнічаць паміж сабою за славу, якую яшчэ не здабылі. Вялікі грэх узвышацца над іншымі, бо ўсе людзі роўныя перад Богам. За гэта нам кара! Каб жа яшчэ не здраднікі, які чапляліся за стары лад... Апошні наш вялікі князь Літвы і кароль Польшчы Панятоўскі гатовы быў прадаць свой люд, абы толькі ўтрымацца на троне! А ў выніку сам адрокся ад кароны. А цяпер дажывае недзе тут апошнія дні ў такой жа залатой царскай клетцы, як і я...

Узнікае цень Станіслава Аўгуста Панятоўскага, апошняга караля Рэчы Паспалітай.

**Панятоўскі.** Навошта ты, Тадэвуш, турбуеш маю душу, бунтуеш заспакоены мой дух? Я стары і нямоглы чалавек. Колькі меў сілы, я служыў свайму народу.

**Касцюшка.** Сумны вынік тае службы. А што ўжо датычыцца мяне...

**Панятоўскі** *(перабівае)*. Табе грэх крыўдзіцца на мяне, Тадэвуш. Табе я не толькі заўсёды жадаў дабра, але яшчэ і рабіў яго.

**Касцюшка.** Адной рукой даваў, другою — забіраў.

**Панятоўскі.** Дзякуючы мне, ты атрымаў выдатную адукацыю, вучыўся ў Варшаве і Парыжы, мог развіваць свае таленты! Ты мог стаць вядомым архітэктарам, знакамітым мастаком ці нават кампазітарам. А ты стаў паўстанцам! Падняў руку на ўладу! Ты злачынец, Тадэвуш!

**Касцюшка.** На маю думку, злачынец той, хто прадае сваю краіну, каб утрымацца на троне! Гэта здрада свайму народу!

**Панятоўскі.** Шляхта пайшла супраць мяне! Я вымушаны быў шукаць падтрымку ў замежных заступнікаў.

**Касцюшка.** Бо ты, твая вялікасць, быў не каралём, а блазнам. Валасы пагубляў на чужых падушках. Твае заступнікі разарвалі нашу краіну, падзялілі, як пірог, паміж сабою.

**Панятоўскі.** Ты помсціш мне, бо сам не зведаў шчасця ўзаемнага кахання.

**Касцюшка.** Быў я шчаслівы з Людвікаю, але ты паклапаціўся, каб яна не стала маёю жонкаю.

**Панятоўскі.** Ах, Тадэвуш, ты сталы чалавек, а ўсё застаешся такім жа безразважлівым летуценнікам. Я выратаваў цябе ад ганьбы, ад турмы. Калі б ты здолеў выкрасці нявесту, яе бацька, пан Сасноўскі, чалавек гарачы, мог бы цябе нават забіць! А так ты паехаў у Амерыку, здабыў там нечуваную славу, стаў нацыянальным героем!..

**Касцюшка.** Героем Амерыкі, але не Літвы, не Рэчы Паспалітай! У гэтай краіне, дзе так любяць пляскаць языкамі пра шляхецкую вольнасць, мне месца няма! Я тут лішні! Але лішнім аказаўся і ты, твая вялікасць! Нават прах твой наўрад ці вернецца калі-небудзь у сямейны склеп. З кім ты, кароль? З Польшчай, Літвой ці Расіяй?

**Панятоўскі.** Мы пражылі сваё, адкрасавалі, цяпер у нас адна радзіма — сырая зямля і вечнае неба. Дык ці не ўсё роўна...

**Касцюшка.** Жыццё кароткае, а Радзіма вечная. Яна пракляне цябе, твая вялікасць кароль Панятоўскі.

**Панятоўскі.** За што? Я быў, можа, не лепшы, але і не горшы за іншых вялікіх князёў літоўскіх і каралёў польскіх. Зрэшты, найперш я — чалавек са сваімі добрымі ці заганнымі якасцямі...

**Касцюшка.** Кароль больш чым чалавек, ён адказны не толькі за сябе, але і за кожнага падданага, за кожны лапічак роднай зямлі. Згадай гайдамакаў! Колькі іх было пакарана смерцю? Якой колькасці маладых і здаровых мужчын паадсяка-

лі рукі, ногі! А як пасля дзялілі Рэч Паспалітую! Рэзалі яе па жывому на кавалкі Прусія, Расія, Аўстрыя! Польшчу — родную тваю маці чвартавалі! А ты? Што ты рабіў? Цешыў грэшнае цела з царыцай Кацярынай!

**Панятоўскі.** А чаго дасягнуў ты сваім паўстаннем? Тысячы людзей загінулі! Што ж, мёртвым не баліць. Але дванаццаць тысяч трапілі ў палон! Ты жывеш у палацы Арлова. Табе Слуга падносіць каву і возіць у калясцы па садзе, а дванаццаць тысяч тваіх былых жаўнераў і паплечнікаў мерзнуць, хварэюць і паміраюць у Сібіры.

**Касцюшка.** Так, я вінаваты! Хоць да канца яшчэ не зразумеў — у чым? Не было еднасці... Сепаратызм Ясінскага... Але нельга было трываць далей зняволенасць Радзімы! Я пракладаў шлях да волі! Упэўнены, у мяне будуць паслядоўнікі! Аднойчы мая Айчына стане вольнаю і незалежнаю!

**Панятоўскі.** Ты выдатны генерал, Тадэвуш, але табе не дадзена Богам стаць каралём. Такі лёс. Ты верыш у лёс?

**Касцюшка.** Не трэба звальваць на лёс свае слабасці і зло, якое сыходзіць на нас ад іншых людзей.

**Панятоўскі.** Злоснымі звычайна бываюць слабыя людзі, якія не здолелі абараніць сваё шчасце.

**Касцюшка.** Калі б меней было на свеце зласліўцаў, болей было б шчаслівых.

**Панятоўскі.** Ты зноў ківаеш у мой бок? Але ж ажаніцца з Тэкляю Жыроўскаю я табе не замінаў, пан генерал. *(Панятоўскі здзекліва пасміхнуўся.)*

**Касцюшка.** Але з тваёй ласкі на мне ўжо ляжала кляймо выкрадальніка нявест! Бацька Таклюсі казаў слова ў слова тое ж самае, што і бацька Людвікі!

**Панятоўскі.** Не шкадуй, Тадэвуш, што блізка не зведаў каханых жанчын. Гэтак нават лепш — не паспеў расчаравацца і зняверыцца. Усе жанчыны здрадлівыя. Царыца Кацярына некалі вельмі кахала мяне, а калі сустрэліся мы з ёю праз дваццаць гадоў, я заўважыў, што яна заглядваецца на майго маладога пляменніка Юзафа. Адно мяне суцяшала, што пляменнік знешне вельмі падобны да мяне, маладога.

**Касцюшка.** Кацярына — палітык! І цябе, твая вялікасць, яна проста выкарыстала, каб драпежна адарваць і далучыць да сваёй дзяржавы нашу Радзіму — Вялікае Княства Літоўскае.

**Панятоўскі.** Не, не, не! Яна кахала мяне палка! Гатовая была аддаць мне паўцарства!

**Касцюшка** *(з'едліва).* У запале любошчаў? Ці мо проста п'яная была?.. На справе ўсё атрымалася наадварот...

**Панятоўскі.** Не блазнуй. Каб захаваць Рэч Паспалітую ад драпежнікаў, трэба было кінуць ім у пашчы нейкую ахвяру. Гэта я і зрабіў. Усё мінае, Тадэвуш: і добрае і дрэннае, не варта табе так браць да сэрца тое, што здарылася ў час паўстання.

**Касцюшка.** Ты, пан кароль, увесь час стараўся збудаваць шчасце свайго народа чужымі рукамі. Я будую — уласнымі.

**Панятоўскі.** А ты ведаеш, што ходзяць чуткі, быццам ты сімулянт і толькі прыкідваешся нямоглым, каб выклікаць шкадобу ў Кацярыны?..

**Касцюшка.** Мне ўсё роўна, што пра мяне пляткараць!

**Панятоўскі.** Ты — герой! Генерал, за якім пайшлі тысячы людзей! Але чаму ж ты цяпер такі няшчасны, самотны, пакалечаны? Няма табе адхлання ні ў чым!

**Касцюшка.** З-за такіх здраднікаў, пан кароль, як ты, мы страцілі Радзіму! Мы страцілі ўсё!

**Панятоўскі.** Радзіма цябе забудзе, Касцюшка! Яна паставіць помнікі твайму заклятаму ворагу Сувораву! Будзе славіць яго! Твой народ будзе гаварыць на мове Суворава! Чужыя гісторыкі напішуць фальшывую гісторыю нашай Радзімы, зусім не такую, якую мы вяршылі. Народу не патрэбны нашы ахвяры, нашы пакутныя думкі, нашы раны і слава! Яму ўсё роўна каму падпарадкавацца. Вось што балюча...

**Касцюшка.** Не веру! Такога не можа быць! Гэта будзе ўжо не наш народ! Знікні! Ты толькі прывід! Д'ябал!

**Панятоўскі.** Ты і сам амаль прывід! Мярцвяк! Ад цябе патыхае магілаю. Думаеш, я не ведаю, што ты трэці дзень нічога не ясі? Вырашыў схавацца на той свет ад страшнай праўды? Вырашыў забіць сябе? *(Смяецца.)* Смерць — гэта ўзнагарода, якую трэба ўмець заслужыць! *(Зноў смяецца дзіка, па-вар'яцку.)*

**Касцюшка.** Ненавіджу! Ненавіджу!..

Касцюшка парываецца ўстаць на ногі і падае з каляскі, губляе прытомнасць. Прывід знікае. Да Касцюшкі падбягаюць Слуга і Доктар, падымаюць, садзяць у каляску.

**Доктар** *(лягонька пляскаючы Касцюшку па шчацэ).* Ачніцеся, пан генерал.

**Слуга.** Мо памёр? Тры дні нічога не еў.

**Доктар.** Знясілеў зусім і духам аслаб.

Касцюшка расплюшчвае вочы. Узіраецца ў твары прысутных.

**Доктар.** Матухна-імператрыца Кацярына вельмі занепакоена тым, што вы марудна ачуньваеце.

**Касцюшка.** Для чаго я ёй? Яшчэ раз згуляць на мяне ў карты з Прусіяй і Аўстрыяй? Роля шасцёркі мяне не задавальняе.

**Доктар.** Забудзьце вы пра палітыку! Яна нікога яшчэ не зрабіла шчаслівым. Вам трэба спачатку стаць на ногі, а пасля можаце займацца чым заўгодна.

**Касцюшка.** Прабачце, пан доктар, маю няўдзячнасць. Але я не хачу жыць...

**Доктар.** Сёння вы згубілі сэнс жыцця. А калі раптам заўтра ён знойдзецца? А сілы для таго, каб жыць далей, не застанецца. Што будзеце рабіць тады? Вы ж хрысціянін. Забіваць сябе — грэх. Хто ведае, для якой справы даў вам Бог жыццё! Вы ж маглі і не нарадзіцца, пан Касцюшка! Уявіце сабе гэта на імгненне.

**Касцюшка.** Дзякую, пан доктар. Вы лічыце, што ў мяне яшчэ ёсць магчымасць выправіць памылкі?

**Доктар** *(усміхнуўся).* Або выправіць, або нарабіць новых... Мы, людзі, упарта наступаем на адны і тыя ж граблі... Але трэба паспрабаваць жыць, пан Тадэвуш! Вас любяць не толькі на радзіме, вас любяць тут, у Расіі! І яшчэ шмат дзе! Вы належыце не толькі Літве і Польшчы, вы належыце ўсяму свету! Вы незвычайны чалавек! Я гатовы служыць вам, як Слуга, толькі б вярнуць вас чалавецтву!

**Касцюшка.** Вы перабольшваеце, пан доктар.

**Доктар.** Вам трэба заняцца нейкай справай. Маляваць, пісаць вершы. Вы павінны выкласці на паперы і свой боль, і сваю надзею, і свае новыя планы...

**Касцюшка.** Я падумаю...

**Доктар.** А цяпер пойдзем у памяшканне. Трэба агледзець вашы раны, пан генерал.

## Карціна другая

Той жа сад, акружаны высокай каванай узорыстай агароджаю. Яркі сонечны дзень. Касцюшка ў інваліднай калясцы з вялікім лістом кардона, нешта малюе. Слуга назірае, стоячы ў яго за спінай. Узнікае мелодыя песні Людвікі, быццам яна сама недзе тут, побач. Тадэвуш чуе яе голас:

Я ніколі цябе не страчу,
Дзе б дарогі мяне не вадзілі,
Адпяюць нас гады ці аплачуць,
Я заўсёды з табой, адзіны.
Не разлучаць нас развітанні,
І адлегласць не астудзіла.
Я чаканнем жыву і вяртаннем
У наступнае наша, адзіны.

**Слуга** *(здзіўлена).* У пана генерала сёння лірычны настрой. Ён малюе прыгожую альтанку...

**Касцюшка.** Такую альтанку ў антычным стылі пабудавалі ў маёнтку пана Сасноўскага па маім праекце. Гэта было даўно. Парк, пасаджаны па маім праекце, таксама ўжо вырас. Я толькі спрабую ўявіць, як ён цяпер выглядае.

**Слуга.** А гэтая паненка... Хто яна?

**Касцюшка.** Дачка пана Сасноўскага — Людвіка. Слаўная была паненка. Я вучыў яе маляванню, матэматыцы, астраноміі. Ёй вельмі падабалася глядзець на зоркі... А яшчэ яна дзівосна спявала.

**Слуга.** І дзе цяпер гэтая вучаніца?

**Касцюшка.** Яна стала жонкаю пана Любамірскага, мае чацвёра дзяцей, цудоўная жонка і маці. Я ганаруся сваёй вучаніцаю... Прабач, Іван, ты адрываеш мяне ад справы...

**Слуга.** Прабачце, пан генерал, вінаваты. Я прыстаўлены прыслужваць вам. І акрамя, як з вамі, мне няма з кім пагутарыць. А вы такі добры, пан генерал. Каб мая воля... Ды што й казаць...

**Касцюшка.** Абодва мы з табой вязні, Іван. Я даю табе волю на гадзінку. Адпачні, а я тут трохі памалюю...

**Слуга** Слухаю, пан генерал. (*Выходзіць.)*

Касцюшка застаецца адзін, малюе. Зноў гучыць мелодыя песні Людвікі. Ён раптам уздымае галаву і бачыць жаночую постаць каля агароджы, імгненне ўзіраецца ў яе.

**Касцюшка** *(ускрыквае).* Людвіка! Людвіся! Ты тут! Са мною! Ідзі ж да мяне, дзяўчынка мая! Іван, Іван! Хучэй сюды! Там Людвіка!

**Слуга** *(прыбягае на покліч*). Што здарылася, пан генерал?

**Касцюшка.** Падвязі мяне да агароджы! Хутчэй! Бачыш? Там жанчына!

**Слуга.** Вам забаронена, пан генерал, размаўляць з іншымі людзьмі. Прашу вас, не трэба...

**Касцюшка.** Я загадваю табе! Выконвай! Ну!..

**Слуга** *(спалохана адступае да агароджы).* Не трэба злавацца, пан генерал. Малю вас, не трэба! Я спытаю, што пані хоча...

**Касцюшка.** Людвіся! Людвіся!

**Слуга** *(спалохана шэпча, звяртаючыся да жанчыны).* Пані, тут нельга спыняцца! Малю вас, праходзьце міма! *(Становіцца на калені.)* Праходзьце, пані, Хрыстом-богам вас малю! Прыбяжыць варта — вас арыштуюць!

Жаночая постаць павольна праходзіць за агароджай. Слуга ўдзячна праводзіць яе позіркам.

**Касцюшка.** Пайшла... Спалохалася вартавых... сабак... Дзякую, мая маленькая Людвіся, за тваё шчодрае сэрца, за адданасць, за памяць...

**Слуга.** Гэта проста нейкая цікаўная жанчына. Вы ж самі бачылі, яна пайшла міма... Даруйце, пан генерал... Я дзеля вас на ўсё гатовы... Даруйце, Хрыстом-богам прашу...

**Касцюшка.** Бог даруе, ідзі, Іван, ты зрабіў сваю справу. Я разумею, ты выконваеш загад сваіх гаспадароў...

**Слуга.** Сабачая служба, пан генерал... Але так ужо Богу заўгодна...

**Касцюшка.** Ідзі, Іван, не дадавай жалю маёй душы...

Слуга кланяецца і пакорна выходзіць. Касцюшка схіляецца над малюнкам. Наплывае песня Людвікі.

**Касцюшка.** Ах, Людвіка, Людвіка! Ты назаўсёды пасялілася ў маёй душы. І мне не трэба вялікіх высілкаў, каб выклікаць твой вобраз...

На сцэне гасне святло. Наплывае мелодыя Людвікі.

Я ніколі цябе не страчу,
Дзе б дарогі мяне не вадзілі,
Адпяюць нас гады ці аплачуць,
Я заўсёды з табой, адзіны.

Яна, юная, светлая, спяваючы ўваходзіць у альтанку, але голас яе сумны. Яна трапляе ў абдымкі маладога Тадэвуша.

Не разлучаць нас развітанні,
І адлегласць не астудзіла.
Я чаканнем жыву і вяртаннем
У наступнае наша, адзіны.

**Касцюшка.** Сёння такая зорная ноч! І ўсе зоркі нашы.

**Людвіка.** Я хачу бачыць толькі цябе, Тадзік! Ты адзін мне — сонца, месяц, зоркі і ўвесь сусвет! Гэта проста неверагодна! Мы шмат гадоў знаёмыя. Здаецца, я ведаю кожную рысачку твайго твару, але не перастаю захапляцца табою, тваёю душою, розумам!

**Касцюшка.** Дзяўчынка мая, сонца, бясконцая радасць! Ты адна прыйшла сюды?

**Людвіка.** З Каралінкаю. Яна павартуе нас ад чужых вачэй.

**Касцюшка.** Нішто не страшыць мяне на гэтым свеце, аднаго баюся: страціць цябе па чужой волі.

**Людвіка.** Я такая няшчасная, Тадзік!

**Касцюшка.** Што здарылася?

**Людвіка.** Ты ж ведаеш, бацька вярнуўся з Варшавы ў добрым настроі, атрымаў гетманства... Пайшла да яго, упала на калені, прасіла дазволу на шлюб...

**Касцюшка.** І што...

**Людвіка.** Ён і слухаць не хоча... *(Прыпала да грудзей Тадэвуша, плача.)*

**Касцюшка.** Годзе, годзе плакаць, мы што-небудзь прыдумаем. *(Суцяшае, цалуючы, паненку.)* Я сам пайду да пана Сасноўскага і папрашу тваёй рукі.

**Людвіка.** Цяпер не варта... Да яго прыехаў пан Любамірскі...

**Касцюшка.** Добра, я знайду зручны момант.

**Людвіка.** А калі ён адмовіць?
**Касцюшка.** Я выкраду цябе! Ты згодна?
**Людвіка.** Згодна на ўсё, што б ні выпала нам у жыцці. Я заўсёды буду кахаць толькі цябе!..

Маладыя заміраюць у пацалунку. Наплывае мелодыя песні Людвікі «...Я ніколі цябе не страчу». Гасне святло. Пражэктар высвечвае Тадэвуша — зноў у інваліднай калясцы.

**Касцюшка.** Ах, Людвіка, яны перамаглі, яны разлучылі нас, твой бацька, пан Сасноўскі з панам Любамірскім. Ды і кароль Панятоўскі сваю руку прыклаў. А я давяраў яму, як бацьку, як старэйшаму брату, наіўна спадзяваўся на ягоную дапамогу і падтрымку. Ды ніхто не здатны вырваць цябе з майго сэрца. *(Прыціскае малюнак да грудзей. Зноў узнікае мелодыя песні Людвікі.)*

### Карціна трэцяя

Пан Сасноўскі і пан Любамірскі сядзяць за сталом, на якім стаіць цёмная пляшка віна, келіхі. Яны гуляюць у карты.

**Любамірскі** *(пераможна)*. Я выйграў, пан Сасноўскі, тваю вёсачку! Колькі там душ?
**Сасноўскі.** Не веру! Пакажы карты, пан Любамірскі!
**Любамірскі** *(паказвае карты)*. Гульня чыстая!
**Сасноўскі** *(у роспачы)*. О Матка Боска! Гэтыя землі — пасаг маёй Людвікі. Мяне жонка загрызе, што я прагуляў дзіцячыя ўладанні!
**Любамірскі.** Не бядуй, у цябе — дочкі, у мяне — сыны. Мо па-чалавечы і дамовімся? Аддасі землі, якія прагуляў мне ў карты, у якасці пасагу Людвікі. Думаю, з паненкі атрымаецца добрая жонка майму Юзафу...
**Сасноўскі.** Паслухай, выдатнае вырашэнне праблемы! Праўда, мая Людвіка пераборлівая. Але ж твой Юзаф такі прыгожы хлопец. Давай руку! Я прымаю тваю прапанову.

Сасноўскі і Любамірскі паціскаюць адзін аднаму рукі. Гаспадар налівае ў келіхі віна. Яны выпіваюць за ўдалае здзяйсненне задумы.

**Сасноўскі.** Вып'ем за тое, каб нам хутчэй займець добрых унукаў ад Людвікі і Юзафа.
**Любамірскі.** І паболей! Будзь здаровы!

Паны чокаюцца і выпіваюць, стоячы.

**Сасноўскі.** Прыемна мець справу з мудрым чалавекам.
**Любамірскі.** Табе не шанцуе ў гульні, пан Сасноўскі. Не гуляй у карты, пакуль не аддасі замуж Людвіку. *(Пасміхнуўся.)*
**Сасноўскі.** Не, не, пан Любамірскі. Горка навучаны лёсам... Досыць...
**Любамірскі.** Загасцяваўся я, трэба дамоў.
**Сасноўскі.** Заставайся, паначуй.
**Любамірскі.** Трэба парадаваць жонку...
**Сасноўскі** *(з разуменнем паківаў галавой)*. На вялікі жаль, я сваёй жонцы нічым не магу пахваліцца. Проста паведамлю, што прасватаў дачку за твайго сына.

(*Зноў напоўніў келіхі.)* Як гаворыцца, не было б шчасця, ды няшчасце памагло. За ўдалае сватанне! Будзьма!

**Любамірскі.** Будзьма!

Паны выпілі і абняліся на развітанне.

**Любамірскі.** Мне пара!

**Сасноўскі.** Заўсёды рады бачыць цябе, пан Любамірскі, у сваім доме. Прыязджай з сынам, абмяркуем, калі і як будзем ладзіць вяселле. (*Праводзіць госця за кулісы і вяртаецца, не хаваючы злосці, налівае сабе віна, выпівае.)* Гэта ж трэба, так не пашанцавала! Хацеў разжыцца, а тут як на злосць... Добра, што яшчэ так усё вырашылася...

У пакой уваходзіць Тадэвуш, апрануты ў капітанскі мундзір, пры шпазе.

**Касцюшка.** Пан Сасноўскі, дазвольце вас патурбаваць.

**Сасноўскі.** А, пан Тадэвуш! Заходзь! Рады цябе бачыць!

**Касцюшка.** Шчыра віншую вас з гетманствам! Жадаю і надалей вам поспехаў.

**Сасноўскі.** Дзякую. Гэта было шыкоўна! Што і казаць, вялікі давер, вялікі гонар.

**Касцюшка.** Такая пасада вымагае міласэрнасці да людзей і разумення.

**Сасноўскі.** Так, так, усе пад Богам ходзім. Дарэчы, я вельмі задаволены табою. Мая Людвіка аказалася вельмі здольнаю і ў матэматыцы, і ў маляванні, думаю, з яе можа атрымацца цудоўная жонка!

**Касцюшка.** Людвіка таленавітая, але ўсялякія здольнасці патрабуюць вялікай працы...

**Сасноўскі.** Ну, гэта я так, цешу сваё бацькоўскае самалюбства. Зрэшты, навошта паненцы таленты? Дастаткова, каб яна магла задавальняць патрэбы мужа, выхоўваць і па магчымасці даваць адпаведную адукацыю дзецям. А вось тваім талентам, пан Тадэвуш, я сапраўды захапляюся. Мяне доўга не было дома — я проста не пазнаю наш сад! Такое хараство! І кветкі, і дрэвы, і кустоўе! Асабліва гэтая белая альтанка — такое вытанчанае хараство. Бачу, нездарма цябе ў Парыжы вучылі, нездарма! Рады, што менавіта цябе наняў у якасці настаўніка сваім дочкам.

**Касцюшка.** Дзякую, пан Сасноўскі. Я стараўся.

**Сасноўскі.** Малайчына! Я нават падумваю, ці не ўзяць цябе за аканома? Ці табе гэта не цікава?

**Касцюшка.** Трэба падумаць, пан Сасноўскі. Я да вас па асабістай справе.

**Сасноўскі** *(зацікаўлена зірнуў).* Па асабістай?

**Касцюшка.** Так.

**Сасноўскі.** А што гэта ты такі ўрачысты сёння?

**Касцюшка.** Выпадак абавязвае.

**Сасноўскі.** Які выпадак? Мне тут Людвіка нешта шчабятала, але я не зразумеў...

**Касцюшка.** Я кахаю Людвіку, і прашу ў вас, пан Сасноўскі, яе рукі. Абяцаю быць верным і адданым мужам ёй, а вам добрым сынам.

**Сасноўскі.** Што?! Што я чую?! *(Твар яго зрабіўся злосны, наліўся чырванню.)* Не веру сваім вушам! Як ты пасмеў нават падумаць такое?

**Касцюшка.** Я кахаю Людвіку, а яна кахае мяне, і калі вы жадаеце шчасця сваёй дачцэ...

**Сасноўскі.** Ніхто не жадае шчасця маёй дачцэ больш, чым я, яе бацька! Таму лёс яе буду вырашаць сам, мне памочнікі непатрэбны! Не забывайся, пан Тадэвуш, хто ты ёсць!

**Касцюшка.** Кожны чалавек роўны перад Богам і мае сваю годнасць, а значыць, мае права на шчасце!

**Сасноўскі.** Пашукай сабе шчасця ў іншым месцы. Галубкі — не для шэрых вераб'ёў, а магнацкія дочкі — не для бедных шляхцюкоў! Запомні гэта!

**Касцюшка.** І вас зусім не цікавіць, што думае на гэты конт ваша дачка?

**Сасноўскі.** Яе лёс ужо вырашаны! Я прасватаў яе за Юзафа Любамірскага! Справа зроблена!

**Касцюшка.** Чаму ж Людвіка нічога не ведае?

**Сасноўскі.** Яна даведаецца апошняй.

**Касцюшка.** Сватанне — гэта ж яшчэ не замужжа. Можна разладзіць і зладзіць новае.

**Сасноўскі.** Нават, калі б Людвіка не была прасватана, я ніколі не дазволіў бы ёй выйсці за цябе замуж! Я адмаўляю табе раз і назаўсёды!

**Касцюшка.** Я ўсё зразумеў, пан Сасноўскі. Маю гонар! (*З годнасцю выйшаў.*)

У пакой імкліва ўбегла Людвіка, загаварыла са слязамі на вачах.

**Людвіка.** Ты забіў мяне, тата! Забіў!

**Сасноўскі** *(абняў дачку).* Не кажы так, дачушка. Ты будзеш шчаслівая, высакародная пані! У цябе будзе багаты дом, добры муж, дзеці... Усё, што трэба паненцы для шчасця...

**Людвіка** *(адступіла ад бацькі на крок і зацята прамовіла).* Я ў тваёй уладзе, бацька! І я яшчэ не ведаю, ці хопіць у мяне адвагі паўстаць супраць яе, але маё сэрца заўсёды будзе належаць толькі Тадэвушу!.. *(Яна імкліва выбегла з пакоя.)*

**Сасноўскі** *(падышоў да стала, наліў сабе віна, выпіў).* Ох, няма ладу з гэтымі паненкамі... Трэба пільнаваць ды пільнаваць... Але ж куды жонка глядзела? Як дазволіла развесці такія любошчы? Мо яшчэ і патурала гэтаму парыжскаму танцору! Я хутка разбяруся тут з усімі! Жонка! Жонка!.. *(Раззлаваны выходзіць.)*

На авансцэне зноў з'яўляецца Касцюшка ў інваліднай калясцы, з малюнкам у руках, ён узіраецца ў мінулае.

**Касцюшка.** Панятоўскі, Сасноўскі, Любамірскі — усе аб'ядналіся супраць мяне. Не здолеў я выкрасці маю галубку з арлінага гнязда. Што ж, з яе сапраўды атрымалася выдатная жонка і маці. Я гасцяваў у доме яснавяльможнай пані Людвікі Любамірскай, калі яна ўжо мела чацвёра дзяцей. Падумаў нават, што, напэўна, і ў мяне з ёю маглі быць такія ж прыгожыя дзеці, але не судзіў лёс. Муж у яе — прыстойны чалавек, багаты, пры высокай пасадзе, толькі няма шчасця ў Людвісіных вачах. Напэўна, яна ўсё яшчэ кахае мяне. А я?.. Я не належу сабе... Нават пазней, калі хацеў ажаніцца з Таклюсяю, гэта было ўжо далёка не тое палымянае каханне, якое я адчуваў да Людвікі. Усё мінае. Хутка і я міну... І нікога пасля мяне не застанецца: ні сына, ні ўнука... Адна Айчына чакае ад мяне дапамогі, а я звязаны нямогласцю і няволяю! Я толькі вязень! Душа мая не прымае гэтае ганьбы. Напэўна, цяпер нават Людвіка пагарджае мною...

### Карціна чацвёртая

Невялікая зала, ля акна Касцюшка сядзіць у крэсле з кніжкаю ў руках. За акном голыя галіны дрэў. Глыбокая восень. У залу ўбягае Слуга, пачынае прычэсваць і прыхарошваць Касцюшку.

**Касцюшка.** Што з табою, Іван? Пакінь мяне ў спакоі!
**Слуга.** У нас будуць высокія госці.
**Касцюшка.** Ты пра каго?
**Слуга.** Сам не ведаю, сказалі падрыхтавацца.
**Касцюшка.** Хлусіш, нешта ведаеш... Кажы!
**Слуга** *(азіраецца, шэпча*). Кажуць, што матухна-імператрыца сканала, царства ёй нябеснае. (*Перахрысціўся.)*
**Касцюшка.** Вось гэта навіна! І хто ж цяпер на троне?
**Слуга.** Не ведаю, клянуся, нічога не ведаю, я ж да вас прывязаны...
**Касцюшка.** Імператрыца памерла раптам?
**Слуга.** Так, села — і ўсё. Лёгкая смерць, царства ёй нябеснае (*перахрысціўся*).
**Касцюшка.** Паколькі смерць здарылася нечакана, дык хутчэй за ўсё загадзя пра завяшчанне ніхто не паклапаціўся, значыць, імператарам стане сын яе, Павел, хоць, магчыма, яна гэтага і не хацела.
**Слуга.** Прабачце, пан генерал, я не маю права разважаць пра панскія клопаты і палітыку. Вы сёння вельмі хараша выглядаеце...
**Касцюшка.** Што ты перада мною кампліменты рассыпаеш? Я ж не кабета.
**Слуга.** Прабачце, пан генерал, гэтак я так, да слова прыйшлося... *(Хутка выходзіць.)*
**Касцюшка.** Сапраўды замітусіліся не на жарт...

У залу ўваходзіць Павел, новы імператар Расіі, яго суправаджаюць два сыны — Канстанцін і Аляксандр, які пазней стаў царом Аляксандрам Першым. Касцюшка падняўся з крэсла, вітаючы гасцей.

**Павел.** Я прыйшоў, мой генерал, каб даць табе волю! Ці пазнаў ты мяне?
**Касцюшка.** Пазнаю імператара Расіі Паўла. А ў тым жэсце, якім ён дорыць мне волю, бачу, што стаіць ён вышэй таго трона, які заняў па праве.
**Павел.** Як пачувае сябе пан генерал?
**Касцюшка.** Дзякаваць Богу, здаецца, пачынаю вылузвацца з нездароўя.
**Павел.** Я рады. У пана генерала было ў Расіі шмат ворагаў, але было і шмат людзей, хто захапляўся ім. Цяпер, я думаю, мы зможам стаць сябрамі.
**Касцюшка.** Дзякуй на добрым слове. Але мяне заўсёды не столькі цікавіў мой асабісты лёс, колькі лёс маёй Радзімы.
**Павел.** Лёс Польшчы вырашаны.
**Касцюшка.** А Вялікае Княства Літоўскае?
**Павел.** Мы зробім усё дзеля таго, каб пра былое Вялікае Княства Літоўскае і памяці не засталося. Гэтыя землі назаўсёды ўвайшлі ў склад Расіі.
**Касцюшка** *(з горыччу).* Няхай бы лепш пра мяне забыліся, толькі б Радзіма мая жыла!
**Павел.** Я з вялікай сімпатыяй стаўлюся да Польшчы і палякаў, заўсёды быў супраць падзелу Рэчы Паспалітай, лічыў яго як несправядлівым, так і палітычна памылковым. Але Аўстрыя і Прусія не пагодзяцца на новы перадзел. Не абвяшчаць жа мне ім вайну! Расія пасля стольких войнаў жадае міру. Мінулае не вяртаецца. Паправіць нічога немагчыма. Так здаралася неаднойчы шмат з якімі краінамі.
**Касцюшка.** Тыя дзяржавы перасталі існаваць у выніку ўласнай агрэсіі, Рэч Паспалітая нікому не пагражала і ні з кім не ваявала. Гэта проста несправядліва! Краіну разарвалі на кавалкі!

**П а в е л.** Пан генерал, грамадзяне Рэчы Паспалітай зрабілі ўсё для таго, каб краіна перастала існаваць.

**К а с ц ю ш к а.** Што ж, я прызнаю памылкі свае і маіх суайчыннікаў. Хачу нагадаць пану імператару Паўлу Першаму, што ў палон трапілі дванаццаць тысяч маіх суайчыннікаў. Яны сядзяць у турмах, гінуць у Сібіры.

**П а в е л.** Я ад усяго сэрца спачуваю гэтым людзям. Але каб быць спакойным за іх далейшы лёс, я прапаную пану генералу і ўсім былым падданым Рэчы Паспалітай прысягнуць мне і вялікай Расіі на вернасць. І тады мы сапраўды станем братамі, аб'яднанымі адзінай мэтай.

**К а с ц ю ш к а.** Прысягнуць Расіі? Але немагчыма мець дзве родныя маці!

**П а в е л.** У палякаў і ліцвінаў засталася адна маці — Расія. Выбару няма. Усё ў руках пана генерала. Або дванаццаць тысяч палякаў вызваляюцца з кайданоў, або яны застаюцца паміраць у няволі!

**К а с ц ю ш к а.** Мне трэба падумаць, ваша вялікасць імператар Расіі Павел Першы.

**П а в е л.** Час ёсць, няхай пан генерал падумае. Маю гонар развітацца.

**К а с ц ю ш к а.** Маю гонар, пан імператар. *(Засмучана схіліў галаву.)*

Павел выйшаў у суправаджэнні афіцыйных асоб. Касцюшка задуменна пазірае ў акно.

**К а с ц ю ш к а.** Што я мушу зрабіць? Ад мяне залежыць лёс дванаццаці тысяч жаўнераў, якія бралі ўдзел у паўстанні. Я не маю права пакінуць іх на здзек і прыніжэнне! І прысягаць чужому цару ў мяне няма ніякае ахвоты! Які страшны выбар я павінен зрабіць! І хто мне падкажа рашэнне! Напэўна, мне трэба забыцца на ўласны гонар і годнасць! Ці мала мяне прыніжалі ў жыцці? Я павінен думаць пра маіх жаўнераў, пра маіх верных ваяроў, якія паўсталі супраць няпраўды, не шкадуючы ўласнай крыві і слёз родных людзей. Столькі гора, столькі бяды, калі памножыць дванаццаць тысяч жаўнераў на слёзы іх мацярок і бацькоў, братоў і сясцёр, жонак і дзяцей! Як невыносна баліць галава! *(Сеў, на імгненне суцішыўся.)* Пэўна, ад лёсу не ўцячэш... Збываецца прароцтва сялянкі, якая выратавала некалі ў маленстве мяне, калі ў разводдзе я ледзь не патануў у Прыпяці. Яна, расціраючы мне замерзлыя рукі і ногі, прыгаворвала: «За сямю гарадамі, за сямю рэкамі, за морамі тваё ўганараванне і слава...»

**Г о л а с  с я л я н к і.** За сямю гарадамі, за сямю рэкамі, за морамі тваё ўганараванне і слава... Будзе табе і гетманства. А пасля на сваёй зямлі яшчэ большым гетманам станеш... Усе людзі Рэчы Паспалітай будуць маліцца на цябе, як на Бога... Стагоддзі мінуць, а імя тваё не згасне, хоць вялікую вайну распачнеш, у выніку чаго зямля наша спустошыцца, гарады нашы агонь спапяліць, а краіну нашу ногі чужынцаў будуць таптаць... На чужой зямлі жыццё тваё абарвецца. Будзеш ты ад радні адарваны, не займееш сыноў па крыві, але сыны твае па духу здзейсняць тое, што ты задумаў — на вякі вечныя! Амінь!

**К а с ц ю ш к а** *(прайшоўся па пакоі, раздумваючы).* Напэўна, я прысягну чужому цару, каб выратаваць тысячы сваіх паплечнікаў. Цары часовыя: сёння — адзін, заўтра — іншы, а мая Радзіма вечная. А што ж будзе са мною? Цяпер мне зноў давядзецца шукаць прытулку на чужыне, бо не магу я служыць чужому цару, нават калі прысягну яму. Хачу служыць толькі свайму народу. Чым бы я ні займаўся, дзе б ні жыў, я заўсёды думаю пра яго, жыву і буду жыць дзеля яго! Праз адлегласць і час я застаюся ліцвінам! Помні мяне, Радзіма! Я іду да цябе...

***Заслона***

Алёна БЕЛАНОЖКА

# ЧАМАДАН З КРАКАДЗІЛАВАЙ СКУРЫ*

***Аповесць***

— Ды я не ведаю, кажу табе! Я ў Мінску не была ўжо ці не з месяц, усе справы пакінула на Мікіту, яны там разам знялі ролік для аднаго гурта, вось мусілі на днях скончыць мантаж!

— А твой Мікіта не мог цябе абставіць, падрабіць подпіс пад паперамі, каб ты была каму-небудзь крута вінная?

— Мікіта не такі ўжо і лапух: ён не будзе пілаваць сук, на якім сядзіць, растапырыўшы лапы і хвост.

Дзіма закурыў. Аліна змоўкла. Ложак быў дужа цвёрды, сядзець на ім — чыстая пакута, а ляжаць — і тым больш. Аліна пакруцілася і спытала:

— Ты не памятаеш, як доўга цябе сюды везлі? Я ж была ўся запакаваная ў мех, як той камбікорм, нічога не памятаю.

— Цяжка сказаць. Мяне даставілі на тваім «буцэфале». Спачатку па трасе, там былі нейкія вёскі з аднолькавымі назвамі — зарэчча-заполле, закустоўе-замастоўе, а потым з трасы звярнулі ў лес, нечым па галаве заехалі. Потым білі двое — адзін такі чарнявы, другі маленькі, лысенькі. Пыталіся, дзе грошы.

— Хм. Не ведаю ні чарнявых, ні лысенькіх. Баліць? — Аліна дакранулася да правай скроні Дзімы, дзе драпіна была асабліва маляўнічай.

— Баліць. Не прыбірай руку, яна ў цябе халодная.

— У мяне заўсёды халодныя рукі. Мой кузен кажа, што ў сапраўднай ледзі рукі павінны быць заўсёды халодныя. І галава таксама.

— Гэта ён правільна кажа.

— У цябе прыгожы твар, Мо. Заўтра гэты твар мусіў з'явіцца ў свецкай хроніцы…

— Ч-ш-ш. Памаўчы, калі ласка. Толькі руку не прыбірай.

Аліна ўладкавалася, паклала Дзіму галавой сабе на калені і змоўкла. Яна пачувалася няёмка — не таму, што з-за яе гэтаму хлопцу балюча і нічога не зразумела, а таму, што не яна рэжысёр, сцэнарыст і проста жудасная выдумляльшчыца, стала арганізатарам выкрадання з выцісканнем грошай. Нехта скраў яе ідэю, якую Аліна агучыла на адной з нарад «творчага цэху»: схапіўшы бутэльку шампанскага, яна тады ўскараскалася на стол рэстарацыі, у якой адбывалася «нарада», і пракрычала, абярнуўшы некалькі бакалаў: «Сумна мне з вамі, вярхушка творчай інтэлігенцыі! Вы толькі і ўмееце, што піць, жэрці ды песні гарлапаніць! Вось, далібог, трэба вас усіх пакрасці ды па цёмных падполках і падстрэшшах распіхаць, каб хоць неяк разнастаіць ваш вольны час, шаноўнае спадарства!»

Жадайце, каб атрымаць і пашкадаваць, што недакладна сфармулявалі жаданне!

---

* Працяг. Пачатак у № 7 за 2012 г.

Маладая рэжысёрка стала першай ахвярай свайго ж уласнага пажадання, бо была, так бы мовіць, энергетычным цэнтрам творчай кампаніі. І цяпер, седзячы пасярод ляснога масіву са смярдзючай лямпай пад бокам і прыгожым маладым хлопцам на ложку, Аліна нервавалася і злавалася таму, што не ведала, які фінал будзе ў гэтай гісторыі. Як рэжысёр яна прывыкла бачыць канчатковы вынік яшчэ да пачатку мерапрыемства. З дадзенай сітуацыі вынікала як мінімум два фіналы: альбо яна застаецца крыху пакамечанай, але жывой, альбо яе вусцішна забіваюць нікому не вядомыя сквапныя дзядзечкі.

Аліну многія не любілі за ўпартасць і простасць у фінансава-творчых пытаннях. У творчасці яна слухала толькі сваю інтуіцыю, а ў папяровых справах давярала выключна юрысту Міхалу Барысавічу. Да таго ж, Аліна дужа хутка ўзляцела на Алімп напаўжывога беларускага шоу-бізнесу і перабегла тым самым дарожку яго карыфеям, што трымалі цуглі эстрады ў сваіх зморшчаных ад старасці мазолістых далонях. «Калі б нашая эстрада была канём, яго належала б застрэліць па медыцынскіх паказчыках, бо ён жа стары, кульгавы, пляшывы і глухі!» — сказала Аліна ў адным з інтэрв’ю і ў той жа момант абрасла з усіх бакоў ворагамі і шпіёнамі. Хаця многія меркавалі таксама, як і яна, сказаць гэта ўслых было недаравальным нахабствам. Але Аліна была маладая і мела намер не ездзіць на хворым кані, рызыкуючы загінуць разам з ім, а вырасціць свайго ладнага, здаровага жарэбчыка, які б слухаў выключна яе каманды і быў сімпатычны на храпу. Аліна ўмела змагацца за свае мары і намеры. Часцяком яна вяла сябе не па-дзявочы жорстка. Але… капітан карабля пад назвай «прадзюсарскі цэнтр» не можа быць мяккім і лагодным, інакш карабель хутка ператворыцца ў інстытут шляхетных мамзэляў.

Дзіма заснуў. Аліна раптам успомніла, як пазнаёмілася з ім.

Гэта здарылася крыху больш года таму, у тыя слаўныя часы, калі яна магла сабе дазволіць такую раскошу, як аўтастоп-вакацыі з заплечнікам за спінаю і сяброўкамі з абодвух бакоў. Дзяўчына толькі што звольнілася з дзяржаўнай працы, якая не прыносіла ні грошай, ні задавальнення, і знаходзілася ў пошуках свайго «Я». «Яно можа чакаць на любым скрыжаванні, але для таго, каб сустрэцца з ім, трэба пачаць шлях!»

Быў жнівень, Аліна з Ганнай і Кацяй вярталіся з Украіны. Падарожжа прынесла дзяўчатам нямала прыемных момантаў, але больш за ўсё, канешне, іх уразіў Кіеў. Перш-наперш, сяброўкі прайшліся па святых месцах: Ганна зазірнула ў сінагогу, Каця — у Міхайлаўскі манастыр, а Аліна — на Лысую гару. Праўда, старажытнае паганскае капішча яна так і не адшукала, але хутка забылася пра гэта, бегаючы па Майдане басанож ды галёкаючы:

— Віват, Майдан, сэрца ўкраінскіх рэвалюцый! Які ж ты прыгожы! Так і хочацца арганізаваць стыхійны мітынг, мяне так і цягне! Дзяўчаты, давайце зробім мітынг, невялікі такі мітынжочак, мітынг па-беларуску! Дома нам усё роўна не дазволяць, а тут ніхто не здзівіцца, ва Украіне мітынг — гэта лад жыцця!

— Не трэба, Алінка. Пра што ты тут будзеш крычаць? — паспрабавалі тактоўна пераканаць сяброўку яе спадарожніцы.

— Ды якая розніца? Напрыклад, у свеце скарачаецца папуляцыя хахуль! Гэта дужа маштабная праблема! Уяўляеце сабе, — Аліна ўскараскалася на каменны парапет каля фантана, — нашыя дзеці і ўнукі могуць не ўбачыць хахулю і хахулятак! Без хахулі ў планеты няма будучыні! А потым, — Аліна саскочыла ў цёплую ваду фантана, — потым з-за павароту вынырнуць амерыканскія рэпарцёры, а яны ёсць усюды, дзе адбываюцца мітынгі, сфатаграфуюць нас — і вось мы ўжо ва ўсіх часопі-

сах і газетах пад загалоўкам: «Што вы чулі пра хахуль?» альбо «Хахляча-хахулячая рэвалюцыя!»

— Табе нельга ісці ў палітыку, ты пачнеш Трэцюю сусветную вайну і будзеш змагацца на баку хахуль! — зайшлася рогатам Ганна, а Каця пачырванела ад сораму і зрабіла выгляд, што не ведае Аліну. Яна, і праўда, ведала Аліну даволі мала, бо тая была сяброўкай Ганны, і ўжо не адзін раз пашкадавала, што згадзілася прыняць удзел у гэтым экстрэмальным падарожжы.

— А я і не збіраюся ў палітыку. Уся палітыка па сутнасці сваёй — гэта спрэчкі аб праблемах перыферыйных хахуль, якім усё роўна, што пра іх гавораць сталічныя хахулі: на перыферыі жывуць, як жылі, і будуць жыць далей, нават калі сталіцу з усім кіраўніцтвам паглыне тарнада. А сталічныя хахулі чым больш гавораць пра перыферыйных, тым хутчэй даходзяць да высновы, што без грошай, якія прыходзяць з перыферыі, яны проста пустое месца. І прыдумляюць вайну альбо рэвалюцыю, каб перамагчы і пераканаць перыферыйных хахуль, што ўвесь час тыя свае грошы аддавалі не проста ў чыесьці кішэні, а на карысць радзімы. Вось і ўся палітыка. Схема адна, змяніць яе нельга, а жыць па ёй — сорамна.

— Я лепш дапамагу хахулям такім чынам, што не буду перашкаджаць ім жыць і распаўсюджвацца! — заявіла Каця.

— А я не скажу сталічным хахулям, што недзе ёсць перыферыйныя, каб тыя не напрыдумлялі новых падаткаў! — сказала Ганна.

Дзяўчаткі хутка адцягнулі ўвагу Аліны ад праблемы абезхахульвання планеты вельмі простым, але заўсёды эфектыўным чынам.

— Аліна, ты толькі паглядзі, колькі мужчын вакол цябе! — падміргнула Ганна.

— О, праўда, як гэта я не заўважыла? З гэтымі рэвалюцыямі ў імя ідэі ніколі не бачыш, што адбываецца ў цябе пад носам! Пікап, прапаную пікап!

— Можа, усё ж такі мітынг? — перапытала Ганна і прыжмурылася.

— Не, пікап — самае тое! О, а давайце ўчынім міжсабойнае спаборніцтва: хто адвязе на радзіму больш нумароў тэлефонаў украінскіх мужчын? У каго будзе менш — з таго шампанскае! — з гэтымі словамі Аліна выцягнула з заплечніка абсалютна новы нататнік, набыты ў кнігарні на Крашчаціку. Аліна вельмі любіла прымаць удзел у спаборніцтвах і ператварала нават звычайныя сяброўскія сустрэчы ў чэмпіянаты — па красамоўстве, пражэрлівасці, выпівошнасці ды іншых смяротных грахах.

Аднаго нататніка для імправізаванай «тэлефаніяды» Аліне не хапіла, але другі яна набываць не стала, і без таго апынуўшыся абсалютнай рэкардсменкай па дысцыплінах: «Хуткасць Знаёмства», «Бессаромнасць», «Флірт» і «Шантаж». Па частцы пікапу Аліне не было роўных.

— Галоўнае — своечасова «саскочыць», каб кансумацыя не абярнулася прастытуцыяй! — павучала Аліна сяброўак, што нямелі ад жаху, калі назіралі, як Аліна спакойна падыходзіць да незнаёмых мужчын і заводзіць размовы на абстрактныя тэмы. Праз некалькі хвілін Аліна клікала дзяўчат: мужчыны былі гатовы частаваць півам і ежай.

— Ты сапраўдны шчаслівчык! Збягаеш ад непазбежнай расплаты толькі цудам! — гаварылі дзяўчаты, пакідаючы бар, як поле бою — з дрыжыкамі ў нагах.

— Трэба адчуваць момант! — смяялася Аліна. — На што вам патрэбна інтуіцыя? А ў выпадку з мужчынамі можна нават і без інтуіцыі абысціся: у іх жа ўсё на твары напісана вялізнымі літарамі! Прачытала — апрацавала — перавярнула сабе на карысць — сышла з тэлефончыкам і адрасочкам. І ніколі, ніколі не адмаўляйце

мужчынам у іх жаданні зрабіць вам прыемнае, калі не хочаце іх прынізіць. А яшчэ… не трэба даваць абяцанняў, якія вы не зможаце выканаць.

Каця, якая амаль што моўчкі назірала за Аліністымі выкрутасамі і не ўзяла ніводнага нумара тэлефона ні ў аднаго мужчыны, нарэшце не вытрымала:

— Дзяўчаты, можа хопіць, паехалі дадому!

Аліна закрыла распухлы ад запісаў нататнік, уздыхнула і згадзілася:

— Сапраўды, самы час, а то наша «тэлефаніяда» хутка перарасце ў перапіс насельніцтва Украіны. Едзем аўтастопам!

— Цягніком! — у адзін голас выдыхнулі Ганна і Каця, якія дужа стаміліся ад адчування небяспекі. Аліна нікога не баялася, бо лічыла, што ў свеце няма дрэнных людзей, ёсць тыя, да якіх складана знайсці правільны падыход. Складана — але магчыма.

Кампраміс быў знойдзены: да Чарнігава аўтастопам, а праз мяжу — цягніком, бо так больш зручна.

Дзяўчаты падцягнулі рамяні на заплечніках, накіраваліся на трасу Кіеў — Чарнігаў і сустрэліся там са стоперам Ромам, які, па супадзенні, таксама ехаў у Беларусь, і — зусім містыка! — тым жа метадам, што і дзяўчаты: да Чарнігава «стопам», а потым на дызелі.

Аліна пільна прыгледзелася да хлопца і раптам кінулася да яго на шыю:

— Ромка! Рамонак! Як даўно я цябе не бачыла, з часоў піянерскага лагера! Як ты вырас, не пазнаць!

— А ты? Як твой прадзюсарскі цэнтр? Яшчэ не арганізавала?

— Бач ты, усё памятаеш! Не, яшчэ не арганізавала, але я на правільным шляху!

Ехалі Рома і дзяўчаты ў розных вагонах, а калі зноў сустрэліся, як выйшлі з цягніка ў Гомелі, то Рома быў не адзін. Як толькі пасажыры дызеля, схапіўшы клункі, у якіх перавозілі праз мяжу тавары з чарнігаўскага кірмашу для продажу на кірмашах Гомеля па неапраўдана высокіх цэнах, растварыліся ў начной цемры, на пероне засталіся, апроч дзяўчат, яшчэ дзве постаці. Рома прадставіў сваім новым знаёмым Дзіму, загарэлага чарнавалосага хлопца з чубком набок, як носяць эма; праўда, для эма Дзіма быў дужа вясёлым. Выглядаў ён вельмі пакамечаным. Аліна зморшчыла нос. Дзіма заўважыў гэта і сказаў у сваё апраўданне:

— Трэція суткі на трасе. Пыл, сонца… Дадому еду.

— Вы самі з Гомеля? — спыталася Ганна.

— Не, — адказаў Рома. — Я магілёвец, а Дзіма — з Дружнага, гэта пад Мінскам.

— А дзе начаваць будзеце? — захвалявалася Каця. Лёсы бяздомных і безабаронных асобін заўсёды хвалявалі яе куды больш, чым лёсы таленавітых і здатных. Яна ахвотна раздавала грошы бамжам і ніколі не ахвяравала ніводнага рубля вулічным музыкам.

— У парку, на лаўцы. Ці нам упершыню? — пераглянуліся хлопцы.

— А-я-яй, Ганна, трэба нешта рабіць! — захвалявалася Каця ў два разы мацней.

— Што я магу прапанаваць? — задумалася Ганна. — Мы можам разам пайсці ў парк Румянцавых і Паскевічаў і выбраць вам самыя ўтульныя лаўкі!

Аліне Дзіма не прыйшоўся даспадобы: у яго быў вельмі прыгожы твар. Прыгожы той пекнасцю з часопісаў, калі, у залежнасці ад полу, твар гэты можа належаць і дзяўчыне і хлопцу, і адразу не разбярэш, хто перад табой на вокладцы. Аліна не любіла прыгожых мужчын, таму што вельмі часта сутыкалася з тым, што мужчы-

ны карысталіся сваім прывабным выглядам дзеля дасягнення ўласных мэт. Аліна лічыла такое светаўспрыманне выключна жаночай прэрагатывай. Больш за тое, у ёй гаварыла зайздрасць: хоць Аліна была і не дурніцай, але знешнасць яна мела дужа звычайную. Яе сябар Мікіта неяк адзначыў, назіраючы, як Аліна прасуе кашулю: «Калі б ты была яшчэ і прыгожая, з-за цябе мужчыны б вешаліся!» Само сабой, Аліна па-сяброўску адлупцавала Мікіту — дзякаваць Богу, што не гарачым прасам, а гэтае ягонае выказванне запомніла назаўсёды. Таму яна ішла ў парк натапыраная, як вожык, і ўсёй паверхняй цела чакала: калі ж, калі пыльны прыгажун Дзіма пачне зачароўваць яе, такую неабаяльную, але псіхалагічна падкаваную?

Пасля трэцяга літра піва, распітага пасярод нацыяналізаванай раскошы былога маёнтка Румянцавых і Паскевічаў, высветлілася, што Дзіма за дзевятнаццаць гадоў свайго жыцця так і не навучыўся прымяняць прыродныя дадзеныя на практыцы. Аліна так гэтаму здзівілася, што выцягнула з заплечніка пульхны нататнік з тэлефонамі ўкраінскіх мужчын і сунула яго Дзіму ў рукі разам з асадкай:

— Пішы!

— Што пісаць? — не зразумеў той.

— Адрасы, тэлефоны, па якіх цябе можна знайсці. Ты харошы хлопец, губляць сувязі з такім знаёмцам — недаравальна. Пішы! — выбухнула тырадай Аліна.

— Нашто я табе патрэбны? — паспрабаваў адмовіцца Дзіма.

— Пакуль што не ведаю, — паціснула плячамі дзяўчына. — Потым прыдумаю.

Дзіма ацаніў Алініну прамату і аддзячыў ёй, надрапаўшы ў паўзмроку свой мэйл і тэлефонны нумар на апошняй старонцы нататніка. Аліна адразу ж набрала той нумар, што напісаў Дзіма, і ў хлопца ў кішэні зазвінеў мабільнік.

Аліна адцягнула Ганну ўбок, пад гістарычны клён, якіх у парку было поўна, прыціснула да дрэва і прашаптала:

— Ну, што магу сказаць: хлопцы харошыя, не алкаголікі і не наркаманы, вены чыстыя, думкі светлыя, кажуць — не маняць, наўрад ці будуць нешта красці, а калі іх прыкарміць, то вясёлая ноч нам забяспечана. Думаю, можна запрасіць іх да цябе ў госці, каб не калелі на лаўках, і Каця лішні раз не пакутавала са сваім неўтаймаваным сумленнем.

Ганна паглядзела на хлопцаў, на паніклую Кацю, на ўзрушаную Аліну і гучна абвясціла:

— Ёсць ідэя — нам усім паехаць да мяне! У кватэры два пакоі — значыць, адзін для дзяўчатак, а другі для хлопчыкаў. Хто супраць?

Ніхто не быў супраць, толькі Дзіма сказаў:

— Ёсць умова. Калі мы з Ромам скінем абутак, вы зробіце выгляд, што нічога не адчулі, добра? Я трое сутак кеды не расшнуроўваў…

— Рыхтуйцеся, хлопчыкі, хутка дзяўчынкі прыйдуць да вас у госці, як у старым добрым піянерскім лагеры! — правуркатала Аліна ў напаўрасчыненыя дзверы «пакоя хлопчыкаў» і вярнулася ў «пакой дзяўчынак», па большасці за тым, каб адшукаць у сваім заплечніку пеньюар, якога там не мелася, бо ён быў шчасліва пакінуты на Майдане ў Кіеве — каб ізноў туды вярнуцца.

— Ты што, сапраўды пойдзеш да хлопцаў? Як гэта можна? — спыталася Ганна, а Каця буйна расчырванелася.

— Пайду. А што такое? — Аліна шукала пеньюар сярод складу рэчаў, што змяшчаў яе заплечнік. — О! Электрашокер, а я думала — згубіўся. Мы ж з імі нічога не будзем рабіць, хлопцы тры ночы нармальна не спалі, я проста хачу зрабіць ім

масаж і паразмаўляць пра сёе-тое… о! Набор адвёртак! Клёва, можна што-небудзь адрамантаваць. Добрай фірменнай адвёрткай можна адрамантаваць усё, што заўгодна, акрамя здароўя і біяграфіі. Ведаеце, дзяўчаты, не заўсёды апынуцца ў адным ложку з хлопцам азначае абавязкова мець з ім інтым. У мяне, напрыклад, сёння — настальгія! О, дарэчы, глядзіце, што ў мяне ёсць! — Аліна выцягнула на свет савецкі піянерскі значок. — Вы калі-небудзь праводзілі лета ў піянерскім аздараўленчым лагеры?

Ганна з Кацяй пераглянуліся і адмоўна пакруцілі галовамі.

— Якія вы нешчаслівыя! Я ж усё дзяцінства ў лагеры адматала, шэсць сезонаў!

— Як страшна гучыць! — жахнулася Ганна.

— Нічога не страшна! Лепшае, што ўва мне ёсць, выхавана ў піянерскім лагеры! — Аліна перакульнулася на ложку, на секунду ўявіўшы сябе маленькім прыгожым дэльфіняткам, абавязкова — залатым.

— Ага, і неўтаймаваная бадзёрасць круглыя суткі. Вас там, мусіць, у вашым лагеры электрычнасцю катавалі… — Каця нацягнула коўдру па самыя вушы: яна палову гадзіны намагалася заснуць, але Аліна ніяк не супакойвалася.

— У лагеры бадзёрасць проста неабходна, інакш назаўсёды застанешся сярод аднагодкаў мямляй і недарэкай. Трэба быць увесь час наперадзе. Вышэйшай, спрытнейшай і разумнейшай за астатніх. Быць лепшай сярод роўных!

— Нашто траціць энергію? Адсядзелася да канца змены ў куточку — і дадому… — сказала Каця з-пад коўдры.

— Не, калі ты дакладна ведаеш, што вернешся ў гэты лагер яшчэ неаднойчы, трэба ў яго сістэме знайсці сабе ўтульнае месца. Быць лепшай — значыць атрымаць прывілеі перад іншымі. Напрыклад, такую прывілею, як не спаць у дзённы час. Альбо не дзяжурыць па сталоўцы. Альбо з'ездзіць з важатымі ў горад за пакупкамі. Быць духоўным лідарам рэжыму — значыць ніколі па ім не жыць, а жыць па тым распарадку, які ты абярэш для сябе сам. Ненавіджу жыць па чужых рэжымах, люблю прыдумляць свае! — Аліна ізноў перакульнулася на ложку.

— Дык ты заўсёды была з важатымі і рабіла паклёпы на сваіх аднаатраднікаў? — спыталася Ганна.

— Ну чаму адразу такія думкі? Наадварот, я для свайго атрада магла выгандляваць лішнюю гадзіну дыскатэкі альбо паход у краму. Мой электарат быў задаволены. Эх, што з вамі размаўляць…

Аліна перакульнулася яшчэ раз. Яна ўспомніла неперfaказальную рамантыку піянерскага лагера, у якім правяла васямнаццаць летніх змен: шэсць год запар па тры змены. Лагер быў заводскі, бацькі-рабочыя адпраўлялі сваіх дзяцей на лета прэч з вачэй, каб пасярод дзікага лесу — яловых фітанцыдаў, камароў, вавёрак і папараці — дзеці спасцігалі асаблівасці жыцця ў соцыуме, які вельмі добра ўладкаваны сістэмна, але дужа блага ўладкаваны ў побытавым сэнсе. Немагчыма забыцца на хрыплаваты «пераплюй» падгулялага горна, якім заспаны гарніст неахвотна склікае ўсіх на ранішнюю гімнастыку. Гарніст — ён і не гарніст, а так, проста адзіны з усіх дзвюх соцень дзяцей, які змог здабыць са старога савецкага іржавага горна хоць які гук. Гімнастыку праводзіць фізкультурнік. Ён усю ноч піў чысты спірт і занюхваў яго лагерным плямістым катом. Таму фізкультурнік баіцца нахіліцца ці прысесці, бо адчувае, што адразу ж упадзе. Ён стаіць на адным месцы і хістаецца з боку ў бок, і ўсе дзеці паўтараюць за ім гэтыя немудрагелістыя практыкаванні, гайдаючыся ўлева і ўправа. Пасля актыўнай гімнастыкі — сняданак, пасля сняданку — прыбіранне тэрыторыі. Смецця няма, яго ніхто не кідае долу, бо за такую справу — адбой у

восем гадзін вечара, але ў мэтах працатэрапіі важатыя знаходзяць выйсце, і дзеці вымятаюць з карэння елак ігліцу бярозавымі венікамі і збіраюць шышкі. Шышкі падаюць проста на галовы, бо немагчыма сабраць сіламі двухсот дзяцей усе шышкі ў лесе, гэта відавочна — але важатыя думаюць па-іншаму. Гадзіна збору шышак — і прыбіранне тэрыторыі ператвараецца ў шышкавую вайну, потым хлопчыкі ідуць у медыцынскі пункт, дзе ўрач замазвае ім драпіны зялёнкай, а дзяўчынкі выпаўзаюць з-пад лавак і пачынаюць рыхтавацца да конкурсу самадзейнасці. У дзяўчынак адзенне і абутак — агульныя на ўсіх, і пахнуць усе маленькія мамзелькі адной парфумай! Вечарам дзверы карпусоў замыкаюцца на ключ, але кожны ўмее адчыняць іх пры дапамозе шпількі: гэты карысны навык перадаецца з пакалення ў пакаленне. А яшчэ — раз на змену ў лагер абавязкова прыязджае перасоўная станцыя хуткай стаматалагічнай дапамогі. Там усім запар лечаць зубы, нават тым, у каго яны здаравейшыя, чым макеты ў шафцы стаматолагаў. Але самае галоўнае, што выносілі дзеці з піянерскага аздараўленчага летняга лагера, — гэта, канешне, ніякае не аздараўленне, а адчуванне пляча і сяброўства. Праверанае дурным неўладкаваным побытам і жорсткай ломкай сістэмы, у якой здрада нясе табе больш карысці, чым вернасць, — такое сяброўства засталося на ўсё жыццё.

— А «каралеўская ноч» у самым старэйшым атрадзе? Вы ўсім атрадам апоўначы ідзяце на паляну сярод лесу, дзе вашыя выхавацелі і важатыя ўжо расклалі вялікае вогнішча. Вы печаце бульбу, граеце на гітарах і глядзіце ў неба, а там зарапад, жнівеньскі, сапраўдны, знічкі сыплюцца проста на макаўку, ажно не хапае жаданняў, каб загадаць! — пачала ўспамінаць Аліна ўслых.

— І што ты загадала? — пацікавілася Каця.

— Я? Мы з Ромкам у апошнюю «каралеўскую ноч» пайшлі ў заклад, што я стану багатай і знакамітай, арганізую прадзюсарскі цэнтр.

— Чаму — прадзюсарскі?

— Я ў лагеры ўсімі культурнымі мерапрыемствамі кіравала. Шукала таленты і адпраўляла іх на сцэну. І была ў мяне дзіцячая мара — свой прадзюсарскі цэнтр. З мяне ўсе кпілі. Я ж пасля гэтага і пайшла вучыцца — на рэжысёра, бо школы прадзюсараў у нашай краіне не было.

— І як, спраўджваецца жаданне?

— Спраўджваецца, але дужа марудна. Разумееш, паветра ў жніўні такое… густое, хоць рэж яго, жаданняў чалавечых напхана па самы Млечны Шлях, то зоркі ляцяць вельмі акуратна, каб не паламаць праменьчыкі. Вось і мае зоркі ляцелі і прытармożвалі.

— А як жа каханне? Чаму ты кахання не папрасіла? — спыталася Ганна.

— Ну, як гэта — не папрасіла? Папрасіла, не хвалюйся! Аднак мне патрапіліся дужа сквапныя рэжымныя зоркі, якія нічога не разумелі ў каханні, але перфектна разбіраліся ва ўсім, што прыносіць славу і здабытак. Блін, а мой пеньюар жа на Майдане трапеча, як сцяг, як я магла забыцца? Ну, пайду тады голая! — абвясціла Аліна, загарнулася ў прасціну і накіравалася да «пакоя хлопчыкаў».

Ганна і Каця даўно спалі. Аліна вынырнула ад хлопцаў, ціхутка пракралася ў кухню, паставіла на пліту чайнік, выйшла на балкон і прыбрала з твару ўсмешку. Яна дазваляла сабе не ўсміхацца толькі ў той час, калі заставалася сам-насам з адзінотай. Абраная прафесія прымушала Аліну ўвесь час несці радасць людзям.

— Жнівень! Прывітанне! — сказала Аліна некуды ў неба. — Дзе твае знічкі? Альбо яны падаюць толькі для тых, каму шаснаццаць год?

Рыпнулі дзверы. На балкон выйшаў Дзіма. Ён стаў побач з Алінай і закурыў, а праз хвіліну сказаў:

— Кожнай зорцы — свой час. Як у арміі. Трэба чакаць. Дарэчы, можаш зваць мяне — Мо.

Аліна з Дзімам прагаварылі да самай раніцы. Дзіму апанавала бяссонне, а Аліна наогул рэдка спала па начах. Аліна не магла надзівіцца на Дзімаву прыгажосць і вельмі, вельмі злавалася на яго за тое, што ён такі мілавідны. Але а шостай гадзіне Аліна канчаткова вырашыла адкрыць свой прадзюсарскі цэнтр: Дзіма пераканаў яе, што знічкі знічкамі, але за мары трэба змагацца. «Калі б у мяне была мара, — сказаў ён, — я не спадзяваўся б на неба». «Хіба ў цябе яе няма?» — спыталася Аліна і пачула ў адказ: «Я хачу ратаваць свет, але яшчэ не ведаю, ад чаго. Неканкрэтная мара марай не лічыцца!»

Прадзюсарскі цэнтр «MoST» быў адкрыты ў Мінску праз паўгода. Нікому са сваіх таварышаў, якіх Аліна запрасіла да сябе на працу, яна не распавяла, што за намаганні належала прыкласці, каб яе задума спраўдзілася. Аліна проста не хацела, каб сябры турбаваліся. Яна выявіла ў сабе надзвычайную абаяльнасць і пераканальнасць у перамовах, і ў гэтым Аліне дапамог яе ўнікальны радавод — вось усё, што ведаў калектыў маладых спецыялістаў. Пра начныя паездкі да «мяшкоў з грашыма» Аліна маўчала, бо гэта была інфармацыя, лішняя для любых вушэй, нават тых, каму можна даверыць жыццё.

Найперш Аліна накіравалася да аднаго са сваіх старых знаёмых, які ніколі не вызначаўся казачнай дабрынёю, але на той момант, як Аліна з ім сустрэлася ўпершыню, ужо валодаў шыкоўнай лысінай і саліднай маёмасцю. Дзе і як ён зарабіў такія грошы, для Аліны заставалася загадкай. Пагаворвалі, што ён выйграў буйную суму ў казіно, але сама Аліна чуткам не верыла, бо ведала па ўласным досведзе: лёгкія грошы не затрымліваюцца ў таго, да каго прыйшлі з ветрам удачы, і не могуць зрабіць свайго ўладара ні багатым, ні шчаслівым.

Больш за ўсё Аліну здзіўляла тое, як яе знаёмы распараджаўся сваімі грашыма. Грошы яму былі патрэбны ў асноўным для таго, каб прасаджваць іх па французскіх публічных дамах, нямецкіх барах ды кітайскіх рэстарацыях, а потым лячыць хворую пячонку ў Лондане. Жонкі ён не меў, дзяцей таксама. Была ў яго толькі беспародная сука, што прыўкрашвала тыя рэдкія гадзіны, калі ён не бадзяўся па Еўропе, а сядзеў у Мінску. Звалі суку адпаведна яе беспароднасці — Жуля, і ў гэтай мянушцы Жулінаму гаспадару чулася нешта шыкоўна-французскае, шляхетна-гішпанскае і тэатральна-шэкспіраўскае адначасова. Калі ж ён з’язджаў, за Жуляй прыглядаў спецыяльна вывучаны сабачы гувернёр.

І вось, застаўшыся ў сорак пяць гадоў з грашыма, лысінай і Жуляй, адзінокі магнат сабраў сваіх школьных таварышаў у музычны калектыў, даўшы яму меланхалічны назоў — «Мікстура ад тугі», скарочана — «МАТ». Сумныя адзінокія панове спявалі песні ў стылі «шансон», ладзілі выступленні, а пасля канцэртаў ехалі да свайго духоўнага лідара дадому і назюзюкваліся ў хламоцце. Дарэчы, ездзілі яны да лідара значна часцей, чым здараліся канцэрты. А яшчэ больш дакладна — яны прападалі ў яго кожны вечар, які ён праводзіў на радзіме.

Звалі гэтага Алінінага знаёмага — Джэром. Аліна не ведала, ці то сапраўднае яго імя, ці сцэнічны псеўданім, ці наогул мянушка. Яе галаву не займалі такія тонкія дэталі ягонай біяграфіі. Аліна цікавілася ў асноўным фінансавымі гальфстрымамі Джэрома, што расцякаліся ва ўсе бакі і сваёй цеплынёю абмывалі кішэні афіцыянтаў

і ўрачоў. Аліна ведала з крыніц, якім можна давяраць: у Джэрома раз-пораз здараюцца вострыя прыступы дабрачыннай актыўнасці, і тады фінансавыя гальфстрымы лашчаць рукі маладых творчых асоб.

Аліна патэлефанавала Джэрому а дзясятай гадзіне вечара: яе папярэдзілі, што званіць днём бессэнсоўна, бо тады ён цвярозы, а як цвярозы, то абсалютна неадэкватны, злы, а здараецца — нават буйны. Прыблізна а дзясятай вечара Джэром бываў ужо добра даты, але надзвычай шчодры, і яшчэ мог звязваць словы ў складана-дапасаваныя сказы.

Аліна падумала, што наўрад ці Джэром успомніць яе: яны былі знаёмыя праз трэціх-пятых-дваццатых асоб і бачыліся зусім не часта. Праўда, сустрэчы былі вельмі прадуктыўныя. Мінулым разам Джэром падарыў ёй пазалочанага Пегаса — сімвал паэзіі, які Аліна вельмі хутка збыла ў адзін з аграгарадкоў пад лозунгам «Даеш развіццё конегадоўлі!», а на вырučаныя грошы набыла нармальную аўдыёсістэму.

— Джэром? Ты, напэўна, пра мяне зусім забыўся! Не тэлефануеш, не пішаш… а-я-яй, як не сорамна? — правуркатала Аліна ў званілку, а ўжо праз дзесяць хвілін імчала насустрач грашам на самай дарагой таксоўцы, бо ведала, што Джэром аплаціць паездку.

Джэром сустрэў Аліну ў персідскім халаце, гучна выдыхнуў: «Ха!» — і ад яго пацягнула алкаголем і тытунем.

— Вітанкі, Заяц! — прамовіла Аліна, пацёрла каленкай каленку і ўвайшла, не счакаўшы запрашэння, у жытло.

— Вітаю, Андатра! Я проста невымоўна шчаслівы бачыць вас у маім сціплым дамку!

Аліна хмыкнула. Джэром заўсёды выдумляў дзяўчатам разнастайныя жывёльныя мянушкі, бо не запамінаў жаночых імёнаў: праз яго ложак прайшло столькі Настачак, Валечак, Кацярынак і Сняжанак, аднолькавых звонку і знутры, што, збіўшыся з ліку і ўшчэнт заблытаўшыся ў іхняй аднолькавасці, Джэром ператварыў свае інтымныя адносіны ў заапарк. Аліне ледзьве не дасталося кодавае імя «Сарна» («Такая ж лёгкая і хутканогая!»), але яна тады папярхнулася салодкім «Марціні» і паспяшалася пераназваць сябе ў Андатру, бо слова «Сарна» не лашчыла слых. Шчыра кажучы, Аліна ніяк не атаясамлівала сябе з капытнай антылопай, а хутчэй з вадзяной пацучкай — гэткай жа хітрай і спрытнай. Дзякуючы такім якасцям характару, Аліне пагэтуль удавалася шчасліва пазбягаць сексу з Джэромам. І канешне, ёй да колікаў у жываце не падабалася насіць на сабе мянушку, але правілы гульні тут устанаўліваў той, хто быў старэйшы і багацейшы за астатніх.

— А мы тут адпачываем і спраўляем хаўтуры… — трагічна прамовіў Джэром.

— Авой, а што, нехта памёр? — спыталася Аліна.

— Так. Сёння раўнютка дзевяць дзён. Спадарства, арганізуйма Андатры месца пад электрычным сонцам! — звярнуўся Джэром да сваіх гасцей. У зале пачуўся гук перасоўвання мэблі.

Аліна прайшла ў залу і агледзелася. Нічога не змянілася з тае пары, як яна гасцявала тут два гады таму: тое ж мядзведжае футра на дубовым паркеце, тое ж пудзіла ваўчыцы пад фінікавай пальмай, тыя ж нацёртыя да бляску даспехі даўно памерлага сярэднявечнага рыцара, шпагі і мячы ў падстаўцы для парасонаў і рассечаная гэтымі шпагамі і мячамі падвясная столь. Гарэхавы столік пад лямпай з зялёным абажурам, а за столікам — кампанія з малазнаёмых Аліне людзей, сярод якіх былі

дзве дзяўчыны-бландзінкі. Гаспадар не любіў мяняць інтэр'ер, у якім было зручна арганізоўваць папойкі, і ягоныя госці здаваліся таксама часткай інтэр'ернага дызайну, адухоўленай мэбляй, якая час ад часу казала хвалебныя оды ў гонар гаспадара жылля.

— Хто ж памёр, спадарыкі? — спыталася Аліна і па-кашэчы апусцілася ў фатэль, ад чаго яе непрыстойна кароткая спаднічка зрабілася спаднічкай-невідзімкай. Нехта падсунуў да Аліны чыстую талерку і напоўніў кілішак гарэліцай.

— Ты не спяшайся. Спярша — давай за сустрэчу! — засмучана прамовіў Джэром.

— Давай! — Аліна залпам асушыла кілішак і павольна сцягнула зубамі аліўку са шпажкі.

Джэром забыўся пра сваё гора і шапнуў Аліне на вуха:

— Ах, Андатра, як ты гэта робіш?

— Што? — спыталася Аліна, адчуўшы, што з'едзе адсюль з грашыма, і пацягнула руку за другой аліўкай на шпажцы.

— Ясі. Ты ясі проста па-каралеўску. Я заўсёды казаў: чым прыгажэй жанчына есць, тым больш вынаходлівая яна ў ложку! — Джэром падсунуў да Аліны талерку з аліўкамі.

Аліна праглынула аліўку:

— Дык раскажы мне, Заяц, што адбылося і каго больш няма з намі?

Твар Джэрома зноў набыў трагічны выгляд:

— Дзевяць дзён таму не стала маёй сяброўкі.

— Як гэта здарылася?

— Яна захварэла. Я паклікаў лепшага доктара. Дыягназ гучаў як прысуд: цыроз. Яна памірала. Я спытаўся, ці можна нешта зрабіць. Мне адказалі, што мажліва ўсё, але на лекаванне спатрэбіцца многа грошай і цярпення. Ты ж мяне ведаеш, Андатра: я ніколі не шкадую грошай на сяброў! Ёй калолі самыя дарагія лекі. Яна зноў пачала хадзіць, пайшла на папраўку! Я быў шчаслівы, урач таксама: ён дапісваў дысертацыю пра тое, як можна хутка вылечыць цыроз пячонкі новым, дагэтуль не вядомым навуцы метадам!

Джэром наліў сабе гарэлкі і выпіў. Аліна працягнула яму аліўку, але ён не стаў закусваць, толькі занюхаў пітво валасамі бландзіністай дзяўчыны, што сядзела па левую руку ад яго.

— І вось, любая мая Андатра, калі яна ўжо зусім вылечылася, гэты сукін сын павёў яе на праменад… і там яе збіў аўтамабіль! Я быў у Германіі, калі мне паведамілі! Раструшчыў некалькі шыбін у адной дрэздэнскай таверне, плакаў усю ноч, прыляцеў сюды і сказаў яму: яна загінула, але і ты, скаціна, не будзеш хадзіць па гэтай зямлі!

— Ты забіў яго, Джэром? Ты што?

— Не. Я ўсё-ткі чалавек. Я зламаў яму ногі.

Аліна заўважыла на стале фотаздымак у чорнай рамцы. Джэром, пабачыўшы зацікаўленасць госці, адразу ж узяў фота і сунуў у рукі Аліне:

— Вось. Гэта яе лепшы здымак.

Аліна ўбачыла на здымку Жулю ў шыкоўным ашыйніку, аздобленым крыштальнымі шкельцамі «Свароўскі».

— Ведаеш, Джэром… Жуля была самай вернай з усіх тваіх сук! — прамовіла Аліна і паставіла фота па цэнтры стала.

Джэром пацалаваў яе ў каленку.

— Так, Андатра, як ты ўсё разумееш. Я нават напісаў песню пра Жулю. Дакладней, мы з таварышамі: яны мяне так падтрымліваюць!

Удзельнікі музычнага калектыву «МАТ» таропка заківалі галовамі і затарахцелі:

— Гэта страта, якую немагчыма аднавіць! Вялікае гора для Джэрома і для ўсіх нас! Фатум, лёс, злы рок! Жуля была яго святлом і любоўю!

— Хочаш паслухаць песеньку? — спытаўся Джэром.

Аліне зусім не хацелася слухаць песню пра Жулю, але яна не магла адмовіць Джэрому і згодна кіўнула:

— Канешне, давай!

— Так-так! — усклікнуў бас-гітарыст калектыву. — Мы ўжо тройчы сёння слухалі гэтую песню, цяпер твая чарга!

Джэром непаслухмянымі пальцамі знайшоў на пульце ад дамашняга кінатэатра патрэбную кнопку, і на ўвесь катэдж загучала песня пра слаўнае жыццё і трагічную гібель псіны, чые розум і прыгажосць залатымі літарамі ўпісаны ў гісторыю жыцця яе гаспадара. Песню суправаджаў кліп, складзены з кадраў хатняга відэаархіва: Жуля гуляецца з мячыкам, Жуля грызе цукраную костачку, яна ж адрывае кавалак мяса ад цялячага сцягна, кусае за лытку бамжа…

Джэром глядзеў на экран і плакаў. Худы, як лазіна, клавішнік моўчкі паглынаў салату з труфелямі. Дзяўчаткі ляскалі залатымі бранзалеткамі і падпявалі: «Не, не бандыцкая куля… збіла сабачку з ног… не ўпільнаваў маю Жулю… засланы фраерок…» Тоўсты ўдарнік выстукваў рытм песні відэльцамі на століку і шаптаў:

— Яшчэ невядома, па кім я так буду тужыць… у мяне і сабакі няма…

На рэфрэне: «Ах, Жуля, дзе ты, залатая, ад болю я ў зямлю ўрастаю…» — Джэром ускочыў і выйшаў на веранду. Бландзінкі пераглянуліся і пакруцілі пальцамі каля скроні, адна з іх сказала:

— Так убіваецца па дварняжцы. Ненармальны. У мяне тры марскія свінкі здохлі, я іх таксама любіла — і што? А ён тут ужо і вены сабе рэзаў, калі мы першы раз песню слухалі!

Клавішнік пакінуў салату і пачаў налягаць на бараніну. Ударнік і басіст заспрачаліся пра тое, ці правільная ў песні гармонія.

Аліна пайшла да Джэрома, які сядзеў у гойданцы і глядзеў у начное зорнае неба вачамі, поўнымі слёз. Ён быў непрыгожы, няўклюдны і лічыў, што ўсё на свеце можна купіць, асабліва — каханне.

— Добра, што ты прыйшла, Андатра. Ты адзіная з маіх знаёмцаў, каму ніколі ад мяне не трэба грошы, і таму ты мне не хлусіш. Скажы, чаму я такі няшчасны?

Аліне зрабілася сорамна. Першы раз яна прыйшла прасіць у Джэрома фінансавай дапамогі — і аказалася не дарэчы. Заява Джэрома пра яе шчырасць паставіла Аліну ў няёмкае становішча, але яна хруснула пальцамі і адказала:

— Ты няшчасны, Джэром, таму што думаеш, што можаш падкупіць і смерць, і сумленне, і здраду.

— А што, не магу?

— Як мог бы — то Жуля была б жывая і весела гаўкала побач з табой. Падкуплены здраднік усё роўна здрадзіць табе: здрада — яго наркотык. А сумленне — у табе самім, унутры. Як можна падкупіць самога сябе? Шапіто, Джэром!

— Смелая. Ты мяне не баішся?

— Не. Мне цябе шкада!

— Не трэба шкадаваць мяне, траціць свае пачуцці.

— Джэром, шкадобы да людзей ува мне з лішкам, я не збяднею, калі пашкадую яшчэ і цябе.

— Яны, — Джэром хітнуў у той бок, дзе падымалі чаровы тост і весела смяяліся ягоныя начныя госці, — яны мяне не шкадуюць. Яны ядуць за мой кошт, ездзяць на аўто, што я ім падарыў, і пяюць мне дыфірамбы.

— Яны невінаватыя, Джэром. Магчыма, спачатку яны мелі спагаду і маглі табе паспачуваць, але ты задужа шчодра плаціў ім за гэта. Цяпер яны прымаюць твае падарункі як паўсядзённасць. Яны больш не сябры. Яны — васалы.

— Акрамя іх, у мяне больш нікога няма.

— Гані іх, пакуль яны не выдаілі з цябе ўсё да кропелькі. Толькі так можна праверыць, ці засталося ў іх хоць нешта чалавечае. Сапраўдныя сябры вернуцца, нават калі ты іх прагоніш назаўсёды. Вернуцца, каб спытацца, як твае справы.

Джэром гайдануўся ў крэсле:

— Ведаеш, маленькая Андатра… ты маеш рацыю! Няхай коцяцца ў пекла!

Ён матлянуў пярэстым крысом халата, уварваўся ў дом і закрычаў:

— Пайшлі прэч! Прэч! Калі вы яшчэ не нажэрліся, то забірайце ўсё са стала і валіце адсюль!

Бландзінкі перазірнуліся і кінуліся да выхада, прыхапіўшы ў кожную руку па бутэльцы гарэлкі.

— Джэром, ты што? Цішэй! — працягнуў басіст. Джэром выхапіў шпагу і махнуў ёю перад носам смельчака. Той схапіў свае чаравікі і босы выбег за дзверы. Клавішнік і ўдарнік, трымаючыся адзін за аднаго, адвесілі Джэрому паклон. У клавішніка з кішэні выпала купюра, той хутка падняў яе і запхнуў назад у кішэню. Парачка знікла за дзвярыма.

Джэром кінуў шпагу на футра і павярнуўся да Аліны, якая моўчкі назірала за працэдурай выгнання васалаў.

— А ты застанешся? Андатра, у мяне засталася толькі ты! Ты застанешся, мы ляжам побач і будзем…

— Не, Джэром. Я ніколі не гаварыла, што стану тваёй сяброўкай і буду ратаваць цябе ад адзіноты, — Аліна з’ела апошнюю аліўку.

— Навошта ж ты прыехала?

— Я? Ты цэніш у мне шчырасць… Я прыехала прасіць грошы. Уяві сабе — першы раз. Мне трэба адразу і многа. Я ўсё вярну.

Джэром апусціўся на канапку. Аліна наліла сабе гарэлкі, пасля наліла Джэрому:

— У мяне нічога няма, Джэром. Акрамя сяброў і вялікай мары. Я хачу, каб маім будучым дзецям і дзецям маіх сяброў не давялося біцца ў тыя сцены, аб якія мы знявечваем свае тварыкі. І я ведаю, як гэта зрабіць — абсалютна легальна, ды яшчэ іншым людзям на радасць. Але мне патрэбны стартавы капітал. Ты першы, да каго я прыйшла, Джэром. Я ўсё вярну. Да капейкі.

У Джэрома не было дзяцей, таму што ён не знайшоў жанчыну, якая была б вартая нарадзіць ад яго.

Джэром, хістаючыся, падышоў да рарытэтнай камоды і дастаў з яе крэдытную картку:

— Вось. Карыстайся. Гэта табе не ад мяне, а ад Жулі. Бяры… і болей не прыходзь. А то ты станеш такой жа, як і яны ўсе!

Аліна моўчкі пакінула пусты катэдж Джэрома. Яна ўжо адышла колькі метраў ад ганка, як раптам пачула:

— А што мне цяпер рабіць? Парай!

Аліна перасмыкнула плячамі і, не азірнуўшыся, крыкнула:

— Едзь да цыганоў! З імі сумна не бывае!

Яна ведала, што назаўтра васалы Джэрома вернуцца, і ён ізноў упусціць іх у дом.

Было шмат іншых сустрэч: дзённых і паўночных, прыемных і напружаных, карысных і бессэнсоўных. Адзінае, чым Аліна магла ганарыцца — яна нікому не засталася вінная. Пра гэтае паклапаціўся малады ўвішны юрыст Міхал Барысавіч.

— Усім маім знаёмцам, хто носіць імёны «Міхал» і «Барыс», жудасна шанцуе ў фінансавых пытаннях! — паўтарала Аліна і пацірала далоні. Было гэта вернай прыкметай таго, што ўсе хваляванні сябе апраўдаюць.

— Аліна Мікалаеўна, не паверыце: у фінансавых пытаннях шанцуе таксама Львам, Раманам, Аўраамам… — смяяўся Міхал. — Мы-такі вязунчыкі, толькі не трэба нас крыўдзіць, а то мы вельмі эфектыўна сябруем супраць крыўдзіцеляў!

Аліна не мела звычкі крыўдзіць тых, хто быў верны слову і агульнай справе.

Першыя сінглы маладых спявачак патрапілі ў ратацыі і занялі свае месцы ў хіт-парадах. Рэжысёр Мікіта і аператар-пастаноўшчык Ася адразу ж узяліся за здымкі кліпаў, музыкі, і аранжыроўшчыкі музыцыравалі круглыя суткі бесперапынна. Аліна вядомым адной ёй метадам змагла пераканаць маладых таварышаў, што кожная хвіліна часу, праведзеная не ў працы, адкіне ўвесь цэх на некалькі гадоў назад ад канчатковай мэты. А мэта была ва ўсіх адна — стаць лепшым прадзюсарскім цэнтрам на зямлі, запісаць лепшы ў свеце музычны альбом, зняць лепшае відэа і сабраць поўны ўраджай сусветных музычных узнагарод. Маладыя і амбітныя таварышы думалі не столькі пра адначасовае і хуткае багацце, якое пасыплецца з неба, як кілька ў час урагану, але і пра бясцэнны досвед, пульхныя партфоліа — кожны ў сваёй сферы дзейнасці. Гучнае імя і карысныя сувязі — гэта тое, што неабходна творчай асобе, каб спаць спакойна і не думаць, а ці будуць заўтра новыя праекты. Чым гучнейшае імя, тым здаравейшы сон.

Дакладна гэтак жа лічыў і Мікіта, рэжысёр, намеснік дырэктара цэнтра «MoST» і проста добры сябар Аліны.

Аліна ўзяла Мікіту да сябе працаваць не таму, што той быў яе сябрам, а таму, што ад кончыкаў ускудлачаных валасоў на патыліцы да кіпцікаў на мезенцах ног Мікіта быў сапраўднай творчай асобай. Ён увесь час знаходзіўся ў стане прыдумкі ці напісання чарговага геніяльнага сцэнарыя альбо раскадроўкі. Усе ягоныя ідэі былі багатыя на арыгінальныя вобразы — часам настолькі арыгінальныя, што без пяцідзесяці грамаў каньяку спасцігнуць іх сутнасць было немагчыма. Сам жа Мікіта, хоць і не ўжываў алкаголь, цвярозасцю розуму не вызначаўся, затое вылучаўся рэзкімі зменамі настрою ад слёз да неўтаймаванага рогату, ад маралізатарства — да натуральнага шаленства. У дадатак да ўсяго, Мікіта не ўмеў лічыць грошы: ён быў «вышэй за самыя ніжэйшыя праявы чалавечае сутнасці». Аліна ставілася да ўсяго гэтага вельмі спакойна, адзінае, што яе раздражняла — ягоная бародка ды тое, што Мікіта заўсёды насіў рудыя швэдры: Аліна не любіла руды колер.

І вось, пакуль Аліна аддавалася ўспамінам у цёмнай хацінцы пасярод лесу, Мікіта поўным ходам працаваў над мантажом відэароліка для аднаго малавядомага, але, па запэўніванні неспакойнай сяброўкі, дужа перспектыўнага гурта. «Дужа

перспектыўных» музыкаў Аліна знайшла ў пераходзе метро. Яна мела слабасць да разнастайных «свабодных майстроў» — гарманістаў, флейтыстаў, скрыпачоў і бубначоў, якімі літаральна кішэлі пераходы. Музыкі ў пераходах гралі не для вялікіх мюзік-холаў за неймаверныя ганарары, а для душы, якой хацелася крыху піва і палёту.

— Не магу зразумець: чаму ты захапляешся гэтымі пілігрымамі-абадранцамі? — пытаўся Мікіта і напускаў на свой прыгожы твар грымасы гідлівасці.

— Мікіта, «вольныя майстры» ўсё схопліваюць з лёту, звыклі працаваць у самых нечалавечых умовах — нават без прыбіральні, звярні ўвагу! — граюць без партытур і могуць трымаць аўдыторыю з раніцы да вечара! Акрамя такіх бясспрэчных пераваг, яны ні халеры не разумеюць у дакументацыі! Для нас гэта — манна нябесная!

— Ты будзеш прымушаць іх падпісваць кабальныя дамовы?

— Мікіта, як ты можаш так пра мяне думаць! Проста, калі музыка задужа дасведчаны, ён траціць шмат часу на прачытанне папер. Музыка мусіць займацца творчасцю, а не разводзіць бюракратыю. Там, дзе пачынаецца бюракратыя, мастацтва памірае.

— Зразумеў. Ідэальны музыка — той, які не ўмее чытаць і лічыць.

— Правільна, аміга.

Праўда, праца з «вольнымі майстрамі» мела, акрамя бліскучага аверса, шурпаты іржавы рэверс. Звычка не залежаць ад абставін пазбаўляла іх такой неабходнай характарыстыкі, як дысцыплінаванасць. Іх свабода і незалежнасць межаваліся з поўнай безадказнасцю. Мікіта злаваўся і бурчэў:

— Калі-небудзь гэтыя работнікі гітары і губнога гармоніка сарвуць табе канцэрт, і ты прагарыш на грошы, а я буду танчыць вакол лужыны, якую ты наплачаш!

Але Аліна ведала ўсе месцы тусовак сваіх вольных майстроў. Яна ніколі не эканоміла на разведцы («Хто папярэджаны — той узброены!») і магла знайсці кожнага цягам трох хвілін. Музыкі ўздыхалі: «У нашае дырэктаркі нават у пекле ёсць агенты…» Тлустай кропкай у справе выхаваўчай працы быў маленькі, але далікатны пункт за нумарам «пяць-кропка-восем» стандартнай дамовы, у якой гаварылася пра тое, што за кожную адмененую рэпетыцыю гурт выплочвае штраф у памеры кошту арэнды памяшкання за дзве гадзіны, а за сарванае выступленне няўстойку плоціць са сваёй кішэні.

— Ты б яшчэ ў канцы напісала: «І саечка за перапуд!» Вы здурэлі зусім з вашым Міхалам Барысавічам! — сказаў Мікіта, а Міхал пацiснуў плячамі і паказаў пальцам на Аліну:

— Гэта ўсё Аліна Мікалаеўна. Там ёсць яшчэ пункт шэсць-кропка-восем… і сем-кропка-тры.

— Нашыя музыкі ўсё роўна дамовы не чытаюць, вось падпішуць — а пасля я ім агучу, што ад іх патрабуецца. Будуць добра сябе паводзіць — ніхто не пацерпіць. Я сама дабрыня! — усміхнулася Аліна. — Самы час здымаць кліп. У нашых музыкаў з’явіўся аматар і спонсар.

— Хто-о?

— Не ведаю. Перамовы вядзём праз пасрэднікаў, грошы пераводзіць па такой схеме, што нават Міхал пакуль не разабраўся. Ну, не хоча чалавек сябе афішаваць — не будзем прымушаць. Першы ўзнос ён ужо зрабіў, так што хуценька мне сцэнар на стол, пажадана заўтра!

Мікіта схапіўся за галаву.

Матэрыялу для роліка было наздымана недастаткова, студыйныя камп'ютары па невядомых прычынах тройчы ламаліся, Мікіта некалькі тыдняў знаходзіўся ў творчым крызісе і ніяк не мог скончыць працу.

Гэты кліп яму даставаўся вялікімі нервамі. Калі б Мікіта не ведаў Аліну з глыбокага немаўлячага дзяцінства, ён «і звязвацца б не стаў з гэтай вар'яткай!» Кожны праект пачынаўся са скандалу, таму што Аліна лічыла, што ў спрэчцы нараджаецца ісціна, і спрачалася да хрыпаты над кожнай драбязой. Спрэчка была прынцыповай часткай яе жыцця. Калі з Алінай ніхто не спрачаўся, яна пачынала ўзрушана віскатаць: «У вас што, няма ўласнага меркавання?! Раскрытыкуйце мяне, а то я… буду кідацца ў вас кілішкамі!» Спачатку сцены цэнтра былі ў шурпацінах і падцёках ад розных напояў, ад тэкілы да валакардзіну. Калі ж за адзін дзень былі разбіты пяць калекцыйных фужэраў і парцалянавы сабачка, падораны кітайскім паслом, каманда вырашыла ў абход Аліны параіцца з дызайнерам па інтэр'еры. Пасля невялікай нарады і касметычнага рамонту ўсе шпалеры і мэбля ў цэнтры сталі ўстойлівымі да пашкоджанняў, а посуд і сувеніры — неразбівальнымі. Асаблівай трапнасцю Аліна не вызначалася, і кілішкі працягвалі лётаць, не наносячы значнае шкоды.

Над вобразам кліпа Аліна з Мікітам ваявалі вельмі доўга. Мікіту хацелася зрабіць відэа ў стылі фэнтазі, з пачварамі і драконамі, Аліна схілялася да звычайнай бытавой гісторыі з цяжкім восеньскім развітаннем на пероне.

— Ну, не разумею я тваіх эльфійскіх прынцэсак, хоць забі мяне, Мікіта! — паўтарала Аліна, пакуль Мікіта дапіваў чарговы кубак зялёнага чаю і падрыгваў нагою. — Ты бачыў нашых музыкаў? Якія ім прынцэсы!

— Нашыя музыкі вельмі падобныя да гоблінаў… — у першы раз за тры гадзіны адкрыў рот Мікіта і прыгнуўся, каб у яго не патрапіла асадка.

— Нехта тэрмінова пойдзе збіраць чамаданы! Эх, калі я ўжо сабе куплю чамадан з кракадзілавай скуры… — уздыхнула Аліна, і раптам яе твар прасвятлеў. — Чамаданы! Эўрыка, Мікіта, які ты малайчына, як ты ўмееш генерыраваць ідэі! Гэта будзе кліп з чамаданамі! Усё проста і зразумела, абмеркаванню не падлягае. Ідзі перапісвай сцэнарый, трэба тэрмінова ўсё перазняць.

Мікіта ўздыхнуў і пайшоў рабіць новы сцэнарый, плануючы задзейнічаць у кліпе пра вакзал хаця б адзінарога, калі ўжо драконаў і прынцэс ніяк нельга. Пасля яшчэ аднаго разбітага сервіза, кампраміс усё-такі быў знойдзены: чароўныя чамаданы-парталы, адзін — уваход у свет казачнай магіі, другі — выхад у рэальнае жыццё. Мікіта з энтузіязмам узяўся за справу, работа цэха завіравала, Аліна з лёгкім сэрцам схапіла пад пахі Міхала Барысавіча і з'ехала з ім у Гомель па «неадкладных афіцыйна-папяровых справах».

Мікіта ў чарговы раз праглядаў матэрыял — і яму зноў і зноў не падабалася. Удзельнікі гурта падаваліся соннымі, як донныя рыбіны. Ён засяроджана думаў, як дадаць у ролік «жывую містыфікацыю», пакуль Аліна ў раз'ездах: Мікіта ведаў, што на апошнім этапе Аліна не перакрэсліць праект, уздыхне, зробіць выгляд, што задаволена, і выпіша ўсім бонусы.

У глыбіні кішэні Мікітавых джынсаў занепакоіўся тэлефон: спярша дробненька задрыжаў, а потым зайграў вясёлую песеньку пра незямное шчасце: Аліна папрасіла Мікіту паставіць на свае званкі менавіта гэтую мелодыю, каб заўсёды, калі яна звоніць, Мікіта ведаў, што яго чакае шчасце. Аднак замест дзелавітага чырыкання сваёй сяброўкі Мікіта пачуў:

— Вось што, даражэнькі, калі ваша палёная кантора не верне грошы — Аліну зможаш бачыць толькі на фотаздымку. На магільнай пліце. З фотаздымка на сваёй магільнай пліце — побач будзеце ляжаць.

— Якія грошы? Вы хто? — Мікіта ўтаропіўся ў выяву адзінарога на сцяне і падумаў, што няблага было б легчы і добра выспацца.

— Няважна, хто мы. А вось вы будзеце светлым успамінам, калі не вернеце нам нашыя пяць мільёнаў еўра. У вас ёсць суткі.

Мікіта яшчэ раз паглядзеў на адзінарога, і яму здалося, што адзінарог падміргнуў левым вокам.

— Наташа! Зрабі каву! — закрычаў Мікіта.

З глыбінь цэнтраўскіх калідораў пачулася:

— Сёння ўжо сёмая, Мікіта Алегавіч, можа, хопіць, у вас ціск і плоскаступнёвасць!

— Наташа, з малаком і дзве лыжкі цукру!

— Добра…

Зашыпеў электрычны чайнік.

Пакуль шыпеў чайнік, Мікіта набраў нумар Асі — галоўнай апературкі творчага цэху.

— Ася, ты, часам, не ведаеш, дзе цяпер Аліна?

— Не-е-е… — Ася ўначы скончыла здымкі і цяпер спала, бачачы ў сне сцэны, якія здымала. Сярод прыгожых фэнтазійных краявідаў чамусьці раз-пораз незапланавана з'яўляўся Мікіта ў клятчастых штанах, верхам на адзінарогу. — Пазвані нашай мастачцы, можа, Аліна ёй выядае плешыну з-за новых дэкарацый…

— Бедная Юля… — уздыхнуў Мікіта і адразу ж пазваніў мастачцы, каб паспець выратаваць яе шыкоўныя рудыя валасы.

— Не, я Аліну, на шчасце, тры дні ўжо не бачыла, — адказала Юля. — Набяры нашай перакладчыцы, Яначцы, яна дакладна будзе ведаць, Аліна з ёй заўчора пад белае віно дакументы перакладала перад паездкай.

«Нашэсце жанчын!» — уздыхнуў Мікіта, але Яначцы пазваніў.

— Так, заўчора Аліна ўвалілася з бутэлькай белага, спачатку актыўна вяла сярод мяне прапагандысцкую работу на прадмет: «Давай да нас у цэнтр на пастаянку!», пасля перакладалі паперы, а пасля нам зрабілася весела, і Алінка паказвала фоткі з Кіева і нешта мармытала такое «дружны, у дружным», і там яшчэ на фотках былі дзяўчаткі і хлопцы, ды ўсе такія прыгожыя, што не разбярэш, хто дзяўчынка, а хто хлопчык. А што здарылася?

— Знікла.

— Як? Куды?

— Яначка, калі б я ведаў як і куды, я б яе знайшоў. У нас праблемы.

— Якія?

— Не тэлефонныя!

— Зразумела. Хутка буду. Трэба праверыць тое, што я наперакладала пад «Шарданэ». Каб толькі не з-за мяне…

За гадзіну Мікіта метадычна абзваніў усіх, хто мог ведаць, дзе знаходзіцца ягоная сяброўка. Усе шчасліва адхрышчваліся ад магчымасці праводзіць ціхую кастрычніцкую раніцу ў кампаніі гучнай Аліны і адсылалі Мікіту з такім пытаннем як мага далей. Сакратарка Наташа тройчы прыносіла каву, кава астывала, Наташа забірала яе і выпівала, каб прадукт не прападаў. Нарэшце, калі Мікіта чацвёрты раз пракрычаў: «Наташа, дзе мая кава?», Наташа прынесла кубачак, нахілілася да Мікіты і раздражнёна прамовіла:

— Пазваніце Міхалу Барысавічу, той заўсёды ведае, дзе Аліна Мікалаеўна, таму што Аліна Мікалаеўна — ягоныя грошы.

Але нават Міхал сонным голасам адказаў, што ўсе паперы акуратна складзены ў ягоны кейс, сама ж Аліна ад раніцы прахапілася, ваяўніча пракрычала нешта пра кагосьці дружнага і з'ехала з Гомеля. Жаночы голас спытаўся ў Міхала: «Хто гэта?», Міхал прашаптаў: «Па рабоце!»

Мікіта паклаў трубку і глынуў кавы. Усе адпачывалі, і толькі ён, Наташа і адзінарог мусілі працаваць за дваццаць чалавек і паралельна рыхтавацца да хуткай смерці з-за нейкіх грошай, якіх ніхто не бачыў. Усё гэтае вельмі нагадвала жарт.

Аліна любіла пажартаваць. Аднойчы, калі на яе сышло нябеснае прасвятленне, што творчая суполка дужа марудзіць, яна папрасіла ўсіх сесці на свае рабочыя месцы, а потым у памяшканне ўбеглі кінолагі з сабакамі. Сабачак прывязалі да ножак сталоў, і як толькі работнік меў намер устаць, сабачка гучна гыркаў і шчэрыў зубкі. За чатыры гадзіны калектыў зрабіў тое, што не мог скончыць два тыдні. Затое прыбіральня цэнтра ні да, ні пасля такога стымулюючага жарту не ведала падобнага аншлагу.

Мікіту зрабілася няёмка, таму што па ягонай спіне стройнымі шэрагамі пабеглі дрэсіраваныя «мурашы». Яго сяброўка, канешне, магла дазволіць сабе жарт, але ніколі такі, каб у фокусе былі грошы альбо жыццё. Мікіта ўвайшоў у кабінет Аліны, наблізіўся да велізарнага дубовага стала, закіданага паперамі ледзьве не да столі, і сярод папяровых хмарачосаў заўважыў Алінін нататнік: яна забыла яго, калі з'язджала ў Гомель. Нататнік быў стары і абшарпаны, а на вокладцы красавалася каза з баянам, намаляваная Алінай, і надпіс: «На фіга казе баян?» — так Аліна зрабіла спробу асадкі «Паркер», што ёй падарыў адзін са шматлікіх прыхільнікаў. Сапраўды, на чорта ёй была асадка, калі Аліна карысталася для запісаў выключна алоўкамі з грыфелямі самай высокай мяккасці. Напісаны такімі грыфелямі тэкст вельмі хутка размазваўся па паперы і ператвараўся ў шэрыя плямы.

Мікіта прыняўся гартаць старонкі нататніка і даволі хутка зразумеў, што разабрацца ў гэтых шэрых плямах самастойна, без удзелу Аліны, ён не зможа, а на тое, каб абтэлефанаваць усіх людзей, што значыліся ў нататніку, спатрэбіцца ці не паўгода. Мікіта цяжка ўздыхнуў і сеў у дырэктарскае чырвонае крэсла: Аліна адмовілася ад чорнага і каштанавага колеру скуры і, на злосць дызайнерам ды сабе на ўцеху, набыла і прыкаціла з магазіна мэблі гэтае, чырвонае, таму што лічыла чырвоны лепшым ахоўным колерам, які прыносіць удачу.

Мікіта сядзеў у чырвоным, як савецкі сцяг, крэсле і думаў пра тое, што, напэўна, ён аддаў бы перавагу смерці хуткай і бязбольнай, але, магчыма, яго будуць катаваць і мучыць гарачымі прасамі альбо «гішпанскім боцікам», а можа, расцягнуць на дыбе ці прывяжуць рукі да пятак і кінуць у Свіслач, каб праверыць, ці вядзьмак ён… Мікіта калісьці глыбока вывучаў літаратуру па сярэднявечных катаваннях, таму разбіраўся ў гэтым вельмі добра і праз колькі хвілін прыйшоў да высновы, што з усіх катаванняў яму больш пасуе смерць на вогнішчы. Гатовы самастойна скласці вогнішча па ўсіх законах інквізіцыі, ён рашуча падняўся з крэсла і ўжо хацеў загадаць Наташы паслаць па цесляра і зварыць апошні ў жыцці кубачак кавы, ды раптам яго позірк упаў на фотаздымак у металічнай рамачцы — Аліна і дзве дзяўчыны. На здымку было напісана: «Мы ў Кіеве: Аліна, Ганна, Каця!» Пад імем «Ганна» значыўся нумар тэлефона, запісаны дзявочым разборлівым почыркам — відавочна, гэта быў не почырк Аліны, бо ейныя грымзолі Мікіта мог пазнаць з мільёну; там жа стаяла прыпіска: «Тэлефануй, не забывайся!»

Мікіта набраў нумар.

— Прывітанне. Праходзьце, калі ласка.

Мікіта падхапіў паліто Ганны, здаў яго ў гардэроб і правёў дзяўчыну да століка ў піцэрыі, дзе яны дамовіліся сустрэцца.

— Мы з Алінай раней сюды хадзілі часта. Потым у яе нарасла такая гара спраў, што яна нават званіць перастала. Як яна жыве-дыхае? — спыталася Ганна і паглядзела на Мікіту вільготнымі карымі вачамі.

— Нармальна, — адказаў Мікіта і адразу ж папраўіўся, бо карыя вочы свідравалі яго, як добры германскі дрыль, — ненармальна. Ведаеце, Ганна, тут такая справа… можа, мы закажам што-небудзь?

— Закажам, — пагадзілася Ганна. — Я буду малочны кактэйль.

— А піцу?

— Мне нельга, я не зусім упэўнена ў кашэрнасці прадуктаў, з якіх тут яе гатуюць.

— Добра. Два малочныя кактэйлі, — прадыктаваў Мікіта заказ афіцыянтцы, што ўжо стаяла побач і завучана ўсміхалася. Афіцыянтка запісала заказ, гучна паўтарыла яго і знікла, як прывід.

— Дык вось, Ганначка. У нас небагата часу. Меней як суткі да таго моманту, як нас, а можа — і вас, пазбавяць жыцця не самым гуманным метадам. Ад нас патрабуюць грошы, Аліна знікла, а юрыст сцвярджае, што апошнія яе словы перад развітаннем былі пра нейкага дружнага чалавека. Вы пра гэта што-небудзь ведаеце?

— Ай, Аліна, ай, шэльма! Дастала яго ўсё-ткі! Як жа ён там, няшчасны, з ёй змагаецца? Бедны хлопча! — усклікнула Ганна.

— Каго дастала? Хто бедны? — не зразумеў Мікіта.

— Каго-каго. Дзіму Мотуза. Аліна ўсё хадзіла-прычытала, што дужа ён падабаецца ёй, што ён сама пекнасць і прыгажосць, што такіх хлопцаў яшчэ пашукаць трэба!

— Гэта ён — дружны?

— Не, ён, на маю думку, крыху дзікаваты. Дружны — гэта горад, дзе Дзіма пражывае.

— Думаеце, Аліна з’ехала ў Дружны?

— Не выключаю, яна даўно збіралася пазнаёміцца з яго бацькамі.

— Нашто?

— Ну, як… Аліна хацела з Мотузам узяць шлюб, ды толькі ўсё не магла прыдумаць, як зацікавіць у гэтым асабіста Дзіму, бо ён жаніцца не хоча, а на Аліне — дык і ўвогуле, ён жа не самазабойца.

— Паслухайце… а як Дзіма выглядае? — Мікіта трасянуў галавой, каб з самых далёкіх куткоў памяці выкаціліся вобразы шматлікіх хлопцаў і мужчын, з якімі яго знаёміла Аліна па рабоце альбо выпадкова. З гэтых вобразаў можна было адабраць патрэбны і ідэнтыфікаваць яго з тым хлопцам, якога апіша Ганна. Вобразы выстраіліся перад вачамі Мікіты ў роўныя шэрагі — цэлая армія мужчын, з якіх ніводзін не змог зрабіць Аліну шчаслівай.

— У Дзімы чубок набок, доўгі такі чубок, і яшчэ пляма высветленая на чубку, быццам у янота, — сказала Ганна.

Мікіта заплюшчыў вочы і пачаў метадычна аглядаць Аліных мужчын, што ўзніклі ў ягонай памяці. Сярод іх былі тоўстыя і хударлявыя, высокія і нізенькія, чарнявыя і бялявыя, але чубкоў «пад янота» не меў ніхто. Мікіта заплюшчыў вочы яшчэ

мацней, глыбока выдыхнуў, і разам з выдыхам перад ягоным унутраным зрокам паўстала маленькая фотакартка. На ёй быў чарнавокі хлопец з тым самым чубком «пад янота». Мікіта ўспомніў, што колькі дзён таму Аліна сабрала дзяўчат у сваім кабінеце, і яны доўга спрачаліся, які тып мужчынскага твару будзе найбольш ёй пасаваць. У выніку, пасля гарачых спрэчак і ўзаемных абвінавачванняў у безгустоўнасці, дзяўчаты напіліся глінтвейну, памірыліся, перацалаваліся і аднагалосна пастанавілі, што менавіта гэты хлопец складзе выдатную пару іхняй дырэктарцы для выхаду ў свет. Аліна тады паказала фотаздымак Мікіту і заявіла: «Знаёмся, гэта мой будучы муж!»

— Ёсць! Успомніў, быў такі персанаж! — узрадаваўся Мікіта. — Напэўна, Аліна паехала да яго. А ў вас няма ягонага тэлефончыка? А то ў нататніку Аліны нічога не знайсці: ці то яна шыфруецца на выпадак вайны, ці то здзекуецца з патэнцыйных шпіёнаў…

— Недзе быў, калі не выдаліла, я нумары ўсіх хлопцаў нядаўна вычысціла. О, знайшла, ён у мяне зваўся Мона Ліза, захаваўся. Толькі самі яму званіце, я не магу званіць мужчынам.

Мікіта набраў нумар Дзімы, і ўжо знаёмы ранішні голас адказаў:

— Прывітанне! Грошы знайшліся?

— Мы… мы над гэтым працуем! — Мікіта паклаў тэлефон на стол.

— Ну, як? — пацікавілася Ганна.

— Блага. Аліна і Дзіма разам, і ёсць такая ў мяне думка, што ратаваць нам давядзецца іх абаіх. Цікава, ці вялікую кампанію людзей арганізавала наша непаўторная арганізатарка перад тым, як іх схапілі.

— Вось, дарэчы, гэта Мотуз, — Ганна паказала Мікіту фота, якое таксама цудам захавалася ў яе тэлефоне. — Ён?

— Ён самы! — адказаў Мікіта, кінуўшы позірк на выяву.

Афіцыянтка прынесла кактэйлі, прыўзняла брыво, паглядзела на фота і ціха шапнула:

— Вой, гэта ж Дзімка!

— Вы яго ведаеце? — у адзін голас перапыталі Мікіта і Ганна.

Афіцыянтка запунсавела і апусціла вочы, але не сышла. Мікіта выняў з партманета хрумсткую купюру і паклаў яе ў маленькую кішэньку фартуха дзяўчыны. Афіцыянтка стала амаль барвовай і ціха прамовіла:

— Так, я яго ведаю, вучымся разам. Дзіма быў тут з маладой дырэктаркай цэнтра гэтага новага… «Мост» ён называецца, — можа, месяцы два таму альбо тры. Яны заказалі піцу, потым пілі віно, яна Дзіму цалавала ў нос. Увесь час у нос. Ён вельмі бянтэжыўся.

Афіцыянтка змоўкла, але сыходзіць не спяшалася. Мікіта ўсунуў у яе кішэньку яшчэ адну купюру. Афіцыянтка нахілілася да Мікіты і сказала напаўголаса:

— Шчыра кажучы, гэта хлопец маёй… прыяцелькі.

— Нічога сабе! — прысвіснула Ганна, выняла з кайстрачкі некалькі купюр, запхнула дзяўчыне ў кішэньку і спыталася:

— Ці ёсць у вас нумар тэлефона вашае прыяцелькі?

— Так! Яе завуць Таня! — радасна адказала афіцыянтка, напісала нумар на сурвэтцы і паляцела абслугоўваць суседнія столікі.

— Во як! «Учыніце неспадзёўку — здайце лепшую сяброўку!» Вельмі добры сэрвіс, я так лічу! — Ганна задаволена глытнула малочны кактэйль.

— Нешта мне падказвае, што трэба тэрмінова званіць Тані! — занепакоіўся Мікіта. Ён набраў нумар, але пачуў той жа мужчынскі голас, які паведаміў:

— А я пачынаю да цябе прывыкаць!

Мікіта раззлаваўся і кінуў трубку. Ганна спакойна дапівала кактэйль.

— Ці вялікія грошы патрабуюць ад вас? — спыталася яна.

Мікіта напісаў на сурвэтцы: «5 млн еўра». Твар Ганны выцягнуўся, яна скамячыла сурвэтку і, азіраючыся, схавала ў сваю кайстрачку. Потым прашаптала на вуха Мікіту:

— Шукайце, каму Аліна нашкодзіла!

— Дык як жа адшукаеш, ёй кожны другі зайздросціць, а кожны першы яе забіць гатовы!

— Тады шукайце, хто апошні на яе пакрыўдзіўся. Свежыя раны баляць мацней.

Дзіма прачнуўся і азірнуўся. Нічога не змянілася: тыя ж сляпыя вокны, тая ж газовачка, хіба што Аліна не сядзела, а пасопвала побач. Дзіма прыкрыў яе коўдрай і падняўся. Балеў правы бок, драпіны пяклі твар, хацелася ўмыцца і выбрацца з гэтага драўлянага карцара, але ні збана з вадой, ні сякеры Дзіма не знайшоў, хоць і абследаваў яшчэ раз усе куткі. У спадзяванні адшукаць што-небудзь у падпечку, Дзіма забраўся туды — і ўбачыў люк. Сапраўдны жалезны люк з ручкай на крышцы. Хлопец ухапіўся за ручку, пацягнуў люк на сябе, ён са скрыпам пасунуўся наперад. Ад шуму прачнулася Аліна і ўбачыла ніжнюю палову Дзімавага тулава, што тырчала з-пад печкі. Аліна дужа расхвалявалася:

— Дзімачка, што з табой? Ты там захраснуў? Цябе нехта трымае? Давай я табе дапамагу!

— Я не захраснуў! Тут нара! Хачу ў яе залезці! — сказаў Дзіма, выпаўзаючы назад.

— Ты мой Белы Трусік… Ведаеш, лепш не трэба лезці ў незнаёмыя норы, ці мала што там схавана!

— А я не хачу тут сядзець у прыцемках і чакаць, пакуль мяне зноў будуць біць.

— Добра. Тады прапусці мяне наперад, я не хачу, каб падземная пачвара адкусіла табе галаву па самы хвасцец.

Аліна схапіла лямпу, саскочыла з канапкі і паправіла штонікі. У памаранчавым святле бліснула зорка на бляшцы рэменя, што Мотуз-старэйшы перадаў Аліне ў спадчыну. Дзіма ўспомніў татавы метады выхавання, перахапіў з рук Аліны газовачку і палез у нару першы.

Праз некаторы час вузкі лаз ператварыўся ў прыстойны бетонны тунэль такой вышыні, што ў ім можна было падняць рукі ўгару і нават падскочыць. Аліна гэтым і займалася — скакала па тунелі і ўзрушана сакатала:

— Гээй! Як у кіно пра падпольшчыкаў! А калі з-за вугла выбяжыць жудасная пачвара-мутант і захоча нас з’есці? Што мы будзем рабіць?

Дзіма не падзяляў Алінінай радасці і таму сціпла адказаў:

— Аміга мія, я пастараюся прачнуцца, таму што не веру, што са мной можа гэта адбывацца.

— Вой, а мне ж так цікава! Я даўно гэтак не забаўлялася! Уяўляеш — нас могуць «шлёпнуць»!

— Вельмі добра сабе ўяўляю. Мяне тут ужо нашлёпалі.

— Нічога, за аднаго бітага двух нябітых даюць! А на маладым арганізме ўсе шнары зацягваюцца з той хуткасцю, з якой распаўзаецца плесня па «Ракфоры».

— Слухай, — Дзіма прыпыніў хаду і паглядзеў Аліне ў вочы, — мяне цікавіць адно пытанне. Чаму ты ніколі не даеш людзям права выбару? Усе мусяць рабіць

тое, што ты ад іх хочаш! Чытаць «патрэбныя» кнігі, слухаць «патрэбную» музыку, насіць вопратку, якую ты лічыш самай прыгожай і зручнай. Гальштукі завязваць правільна. Што гэта за комплекс багіні?

— Ну, Дзіма… жыць сумна. Як сама сябе не развесяліш — то загнешся ад тугі. Вось і весялюся, як умею. А сапраўдная весялосць — гэта працэс, які трэба добра арганізоўваць. Стыхійныя забавы прыводзяць да траўм.

— Што ты кажаш такое? Ты паслухай сябе! Гэта ж… вар'яцтва!

— Мотуз, ты нічога не разумееш, можа, як падрасцеш — то дапнеш! — успыхнула Аліна.

— Вось. Ізноў ты вырашыла за мяне, што я нічога не разумею. Як ты сама сябе трываеш, гэта ж катастрофа! — Дзіма рэзка павярнуўся, зрабіў некалькі крокаў наперад і ўпёрся носам у акуратныя жалезныя дзверцы. — Прыйшлі.

Дзіма паторгаў ручку, але дзверцы былі шчыльна зачынены і замкнёны на ключ. У замочнай адтуліне блішчэла святло. Дзіма пашкробся ў дзверцы, падналёг на іх плячом, але яны былі непахісныя.

— Што ж, у нас два шляхі. Можам вярнуцца — і там нас паб'юць, можам застацца тут — нас знойдуць, а пасля паб'юць яшчэ мацней. Выбірай! — сказаў Мотуз-малодшы.

— Дзякуй, канешне, за права выбару, якое ты мне даў. Дурная альтэрнатыва. Вось я, напрыклад, маю намер адкрыць дзверцы і патрапіць за іх. Стань справа і пасвяці мне!

Аліна адшпіліла ад кофтачкі англійскую шпільку, усунула яе ў скважыну, засяроджана паварушыла вастрыём, а пасля ўрачыста сказала:

— Вуаля! У піянерскім лагеры замкі складаней адмыкаліся!

Дзверцы адчыніліся.

Аліна і Дзіма ўваліліся ў памяшканне, застаўленае па перыметры сталамі з камп'ютарамі і пераплеценае правадамі. Па цэнтры залы стаяў стул, да якога скотчам была прыматана дзяўчына ў джынсах і швэдары, з прыгожай заколачкай у валасах і затычкай у роце. Дзіма на хвіліну сумеўся, а пасля сунуў Аліне ў рукі лямпу і кінуўся да дзяўчыны:

— Таня? Ты тут адкуль узялася?

— Ты ёй затычку з роту вынь, а тое Таня нічога не зможа табе адказаць! — параіла Аліна, падышла да стула, паставіла лямпу на бетонную падлогу і пачала дапамагаць Дзіму разматаць палонную.

Таня выпрастала рукі, пасля ногі, затым паднялася, каб размяць зацёклае тулава. Аліна адразу адзначыла, што Таня была выключна прыгожай на твар і цела маладой асобай: чарнавокая, як Дзіма, чорнавалосая, рухамі падобная да коткі і, відавочна, не абдзеленая мужчынскай увагай.

— Нічога не памятаю. Ішла па вуліцы, наляцелі двое, анучу нейкую на нос — і вось я тут, — нарэшце вымавіла яна. — Дзіма, а вы тут як апынуліся?

— Нас прывезлі на машынах. З шыкам! — адказала за Дзіму Аліна і працягнула Тані далонь. — Будзем знаёмыя, я Аліна, бачыла тваё фота на афішках. Ці не ты стала беларускай Lady Metal Death у мінулым месяцы? Віншую, ганаровы тытул, асабліва з улікам таго, што ў Беларусі няма гуртоў, што граюць Death Metal.

— А ты Аліна, і з-за цябе мы тут? — спыталася Таня.

— Чаму адразу з-за мяне? Хаця тыя, хто нас сюды прывёз, напэўна, думаюць гэтаксама, як і ты. Таму няхай сабе з-за мяне. Што гэта за маніторчыкі, тут падземны інтэрнэт-клуб? — пацікавілася Аліна ў Тані.

— А я адкуль ведаю? — адказала тая.

— Ну, ты болей тут прабыла, можа, учула што, можа, убачыла…

— Я спала!

— Прадказальна, але неразумна.

Тым часам Дзіма падышоў да аднаго са сталоў і прайшоўся пальцамі па клавіятуры. Манітор ажыў, на ім высвецілася: «Увядзіце код доступу».

— Патрэбны код. Ёсць ідэі, амігас?

— Дзімка, не трэба! — ускрыкнула Таня. — Можа, тут замініравана.

— Ну і што? Усё роўна паміраць, не хачу памерці ад цікаўнасці, хачу — як герой!

Дзіма ўзяўся падбіраць паролі. Таня моўчкі паназірала за ім, а потым адчула, што ад цікаўнасці, і праўда, можна памерці, села за машыну, што стаяла побач, і таксама пачала падбіраць код доступу. Аліна аглядала сцены бункера ў пошуках вентыляцыйнай шахты альбо дзвярэй, замаскіраваных пад кавалак бетону.

— А вы чаго разам? — спыталася Таня. — Што ў вас за справы такія, Дзіма?

Дзіма прамаўчаў, затое не змаўчала Аліна:

— А гэта мы ехалі ў Мінск жаніцца.

— Што-о? Як — жаніцца? — Таніны вочы зрабіліся вялікімі і амаль ідэальна круглымі.

— Ну, як людзі жэняцца? Пярсцёнкі, вэлюм, лімузіны, рэстаран, «горка-горка», першая шлюбная ноч. Я адказала на тваё пытанне? — Аліна працягвала шукаць выхад у сценах.

— Дзіма, чаму — з ёй? Што я рабіла не так? — прамовіла Таня тонам капрызлівай прынцэсы.

Дзіма ізноў прамаўчаў.

— Ты ўсё рабіла правільна. Кахайцеся сабе на здароўе далей, я вам замінаць не буду. Мы з Дзімам толькі распішамся — і я да яго нават не дакрануся, забірай на здароўе.

— Як гэта — забірай? Жанатага? Ты што, вар’ятка? Дзіма, нашто яна табе, яна з катушак зляцела зусім, а ты малады і прыгожы! Прыгожыя людзі мусяць аб’ядноўвацца, каб паляпшаць генафонд!

— Ага. І біць непрыгожых! — Аліна апусцілася на крэсла. — Непрыгожыя перамогуць — нас больш. І ўвогуле, вось што я вам скажу. Побач з Чалавекам Прыгожым заўсёды мусяць існаваць наступныя падвіды: першы — Чалавек Таленавіты. Ён патрэбны для таго, каб узносіць прыгажосць. Другі — Чалавек Прадпрымальны, каб удала прадаваць прыгажосць першага і талент другога. Трэці — Чалавек Выканаўчы, каб не задаваў лішніх пытанняў і моўчкі выконваў даручэнні першых трох. І, нарэшце, — Чалавек Моцны. Фізічна моцны, каб гэту ўсю кампашку абараняў, а то з такім раскладам у іх заўсёды будзе процьма ворагаў.

— Якіх ворагаў? — не зразумела Таня.

— Ды розных. Усялякіх. Зайздроснікаў. Сама ж па сабе прыгажосць ніякай каштоўнасці не ўяўляе ні для таго, хто ёй валодае, ні для ўсяго чалавецтва, бо яна — панняцце дужа адноснае. Жывуць сабе два прыгожых чалавекі разам і ніякае карысці з гэтага не маюць. Але вось Чалавек Таленавіты ўгледзеў у іх прыгажосць і ўзнёс яе да нябёс. Чалавек Прадпрымальны адразу ж прызначыў кошт усім песням, вершам, палотнам, фотаздымкам, Чалавек Выканаўчы і Чалавек Моцны сталі на абарону інтарэсаў справы, і нехта дужа багаты, паддаўшыся на ўгаворы, купіў твор.

І вось тады, мае даражэнькія, Прыгажосць займела свой кошт і ўсе зразумелі яе вартасць. І вісіць, скажам, такая «Мона Ліза» ў музеі некалькі стагоддзяў, і культурныя людзі глядзяць на яе і пляскаюць у ладкі: «Якая цудоўная карціна!» А я, хоць забіце мяне, ніякай прыгажосці ў гэтым твары не бачу і загадкі таксама аніякай не назіраю. Проста аднойчы Чалавек Таленавіты неасцярожна ўразіўся. Канешне, на такую хітрую схему — рабіць грошы з анічога — заўсёды знойдуцца зайздроснікі, што хацелі б адарваць тлу-усты кавалак.

— Слухаю цябе, — падаў голас Дзіма, — і разумею, чаму мы тут сядзім.

— Цікава — чаму?

— Ты памылілася з выбарам Чалавека Прыгожага, і Фатум цябе пакараў.

— Я магу памыляцца, але з дзясятак Чалавек Таленавітых, якіх спецыяльна вучылі ў Мастацкай акадэміі прыўзносіць пекнасць, не могуць памыляцца разам са мной. Яны глядзелі тваё фота і пастанавілі: прыгожы. А далей — мая работа. А ты, Мотуз, не выварочвайся і не камплексуй, лепш дапамажы мне, і, як прыйдзе тэрмін, я сама адпушчу цябе з мірам.

— Што за глупства! — усклікнула Таня.

— Якая нявыхаванасць! — адказала Аліна. — Я тут вам сваю тэорыю распавядаю, душу выварочваю, а вы яе глупствам называеце. Няхораша, спадарынька. Я ж табе не кажу, што ў цябе ў валасах тырчыць бліскучая безгустоўная заколка, якая табе не пасуе. Вось і ты маўчы, тым больш, што выбірацца адсюль нам усё роўна разам. Шапіто. Што ў нас з кодам доступу, Дзіма?

— Нічога не атрымліваецца.

Аліна ўспомніла, як на пачатку сваёй прафесійнай дзейнасці працавала ў адным Доме культуры. З моманту адкрыцця згаданай установы сцэнарыі там набіраліся на друкарскай машынцы, а камп’ютары калектыў бачыў толькі па тэлевізары ў выпусках навін. Але ўсё мяняецца, і на змену старому дырэктару, які даслужыўся да медаля і маразму, прыйшоў новы: малады, здаровы і актыўны. Адразу ж услед за ім у Доме культуры з’явілася некалькі новых камп’ютараў. Цёткі бегалі вакол камп’ютараў і войкалі, не ведаючы, з якога боку да іх падступіцца, але куды грамчэй за цётак войкалі хлопцы са службы тэхнічнай падтрымкі, калі зразумелі, з чым ім давядзецца мець справу. Дырэктар запатрабаваў, каб усе камп’ютары былі запаролены: а ну, як у Дом культуры праточыцца шпіён і скрадзе геніяльныя, ужо некалькі разоў скрадзеныя сцэнарыі? Цёткам выдалі паролі, і тыя, каб не забыцца камбінацыі літар і лічбаў, пазапісалі іх тоўстымі маркерамі на аркушы і павесілі над працоўнымі месцамі. Дырэктар схапіўся за галаву, а цёткі заенчылі: «Па-іншаму мы забудзем!» Аднак хлопцы з тэхпадтрымкі аказаліся кемлівыя і тут жа паставілі на ўсе камп’ютары адзін і той жа пароль: лічбу «1». Яго немагчыма было забыць.

Аліна націснула на клавіятуры адзінку.

На маніторы з’явіўся надпіс: «Код доступу пацверджаны, чакайце».

Дзіма пашкроб патыліцу:

— Ты ведала?

— Не. Я здагадалася. Тут на сістэмным блоку наклейка «Тэхноладжы прайм». Я ведаю гэтых хлапчанят, яны дужа раскруціліся апошнім часам. А некалі ў Магілёве культработнікам яны прадавалі камп’ютары. Дарэмна арганізатары гэтага бункера не паклапаціліся пра тое, каб адразу ж змяніць паролі. Эх, беларускае «авось»! Давай далей сам!

Дзіма засяроджана ўтаропіўся ў экран і праз хвіліну выдаў:

— Тут патрэбная адмысловая праграма, якая на кампе яшчэ не стаіць. Я табе

нічым не змагу дапамагчы. Да таго ж, тут усё па-англійску! Я не перакладчык, ты ўжо прабач, канешне, што я такі нерознабаковы…

— Эх, Яну, Яначку б сюды, дзяўчыначку маю залатую! Тая б хутка ўсё пераклала. Ну што за дзень! А ты чаго там села? Хоць выгляд зрабіла б, што табе цікава! — абурылася Аліна на Таню, якая забілася ў кут і раскладвала на адным з камп'ютараў «касынку».

Таня зласліва паглядзела на Аліну і працягнула раскладваць пасьянс.

— Так, казляткі-рабяткі мае дарагія, давайце адсюль выбірацца, я ўся змерзла! — абвясціла Аліна. — Не можа такога быць, каб у гэты бункер меўся ўваход толькі праз падпечак у хацінцы. Гэта, як мінімум, нязручна. Ёсць ідэі?

— Ну… тут можа быць датчык, які рэагуе на гук, скажам, удару далоні аб далонь! — выказаў меркаванне Дзіма.

Аліна гучна заапладзіравала. Ніякіх змяненняў у інтэр'еры памяшкання не адбылося.

— А можа, як у казцы: «Пацягні за вяровачку, дзверы адчыняцца»? — прапанавала яна.

— Аміга мія, тут столькі вяровачак, што мы да старасці будзем цягаць! Вакол адны правадкі! — сказаў Дзіма.

Тут з цёмнага кута падала голас Таня:

— Слухайце, вы б яшчэ кручок пашукалі, як у прыбіральні! Тут стопудова ўсё з камп'ютараў адкрываецца, не дурні рабілі!

— Чым ты там занятая? — Дзіма падбег да Тані і пачаў адцягваць яе ад камп'ютара.

Апошняя карта пасьянса лягла на сваё месца, і прыемны электронны голас прамовіў:

— Віншую, вы перамаглі! Адчыніць дзверы?

— Ого! Анічога сабе: Таццяна-вызваліцельніца! Ну-тка, націсні там «Так!», і мы хуценька пабяжым адсюль па сваіх справах! — парадавалася Аліна.

Таня націснула «Так!». У століі адкрыўся круглы праход, падсветлены неонавымі агеньчыкамі. З праходу выехала металічная лесвіца і ўпёрлася ножкамі ў бетонную падлогу.

— Як вы думаеце, мы глыбока пад зямлёй? — спыталася Таня і паглядзела ўгору, адкуль, нібыта з разбеглых хмарак, пралілося незямное блакітнае святло.

— Мы пра гэта не даведаемся, пакуль не ўзнімемся! — сказаў Дзіма і ўзяў Таню за руку.

Аліна сурова паглядзела на Дзіму.

— Дзіма, я, канешне, разумею, што ты ўзяў самае дарагое, што можна прыдумаць у дадзенай сітуацыі, але… давай хоць вінчэсцер адкруцім з якой-небудзь машыны, не хачу вяртацца з гэтага паходу без трафеяў!

— Можа, не трэба нарывацца на непрыемнасці? — перапытала Таня, стоячы адной нагой на металічнай прыступачцы лесвіцы ў неба.

— Трэба! Ну, ты ж прывозіш з падарожжаў сувеніры? «Залатыя пляжы Анталіі» там… Вось і я хачу прывезці з гэтага падарожжа што-небудзь незабыўнае, на доўгую і шчаслівую памяць.

— Залатыя вінчэсцеры Беларусі! Бляск! — хмыкнула Таня.

Аліна выцягнула з пояса рэмень і пачала спраўкай раскручваць сістэмны блок камп'ютара, за якім яшчэ нядаўна сядзеў Дзіма. Дзіма адштурхнуў Аліну ад машыны, выключыў камп'ютар з сеткі і адкруціў «трафей» сам.

Аліна ўхапілася за газнічку:

— А я вось гэта з сабой забяру. Такая рэліквія, што шкада тут пакідаць!

З гэтымі словамі Аліна пасунула Таню і першая пачала караскацца па лесвіцы ўверх.

Мікіта і Ася сядзелі ў офісе перад экранам з амаль зманціраваным кліпам і засяроджана думалі. Абдумалі яны два пытанні. Першае: куды падзелася Аліна? І другое: праца не павінна спыняцца.

— Слухай, Ася, нам трэба пераздняць тую сцэну з чамаданамі, дзе герой і гераіня блытаюць іх, калі развітваюцца. Дужа вяла атрымалася. Аліна, калі ўбачыць, будзе кідацца посудам. А яна апошнім часам раз-пораз пачала кідаць трапна. І потым — каб заказчыкі нос не скрывілі, хто іх ведае, якія яны там. А яшчэ ў нас няма той сцэны, дзе адзінарогі пасвяцца на казачнай палянцы.

— А хто заказчыкі? Хіба не Аліна ўсё аплочвае? — сонная Ася грэла рукі аб кубак з гарбатай.

— Не, фінансуе Масква. Наша дырэктарка дужа не распаўсюджвалася, сказала толькі, што ўсё мусіць быць на вышэйшым узроўні. А тут, паглядзі, у гераіні такі выгляд, нібыта яна спазняецца на ўласныя памінкі! — Мікіта зноў і зноў праглядаў сцэну з чамаданамі і грукаў у маленькі афрыканскі барабанчык: гэта дапамагала яму сабрацца.

— А чаго ты хацеў? Здымалі ў пяць гадзін раніцы, усе былі ледзь жывыя! І потым, гэтая вакалістачка ў іх толькі з тыдзень спявае, на пляцоўку — ты памятаеш? — спазнілася, усё некуды спяшалася, а на дзясятай гадзіне здымак проста зняла касцюмчык і з'ехала. Такая спецыфічная мамзелька.

— Вось вакалістку нам і трэба адшукаць ды пераздняць, проста кроў з носа!

— Калі здымкі прызначым? — спыталася Ася. Яе жудасна раздражняў барабанны дробат, але гэта яшчэ было цярпіма ў параўнанні з губным гармонікам Аліны.

Аліна, каб зняць стрэс, з нядаўніх часоў узяла моду граць на губным гармоніку. Трэба сказаць, музычнага слыху Аліна не мела. Зусім. Але ў яе была непераадольная прага да музыкі. Калі пасяджэнні і нарады калектыву зацягваліся, Аліна брала гармонік, Мікіта — барабанчык, і пачыналася тое, што калектыў цэнтра называў «Хоць святых вон вынасі!» Усё б анічога, Аліна грала не так ужо і гучна, ды й адзін барабанчык многа шуму не ствараў, але ж Мікіта з'ездзіў на сафары ў Афрыку і прывёз адтуль яшчэ некалькі барабанаў рознай велічыні. Калі яму карцела паскорыць творчы працэс, ён прасіў Наташу прынесці барабанную ўстаноўку. Апошнія пару тыдняў Наташа проста насіла ўстаноўку на сабе, таму што барабаны Мікіта патрабаваў усё часцей, і гулкія павільёны цэнтра падгучваліся афрыканскімі рытмамі па шмат разоў на дзень. Больш за астатніх ад гэтага пакутавала сама Наташа, але Ася парэкамендавала ёй набыць бярушы. Ззяючая Наташа на высокіх «шпільках», з бярушамі ў вушах і барабанамі вакол стану ўвасабляла сабой атмасферу свята і неўтаймаванай весялосці.

— Здымкі мы прызначым… чым хутчэй, тым лепш. Вось што, я сазванюся з хлопцамі, «зараджу» ўсіх на вечар, а ты паклапаціся, каб памяшканне падрыхтавалі, выставілі святло і рэквізіт быў на месцы, — прамовіў Мікіта і выдаў пальцамі на барабанчыку перфектны дробат. — Хачу хоць пад канец зняць добры ролік!

Ася паставіла кубак на стол і зрабіла крок да выхада, але потым вярнулася, села насупраць Мікіты і ўзяла яго за гузік на кашулі:

— Мікітачка, я не хачу, каб мяне забілі, давай паспрабуем Аліначку знайсці? Можа, у міліцыю, у КДБ пазваніць?

— Ася! Рампа, лямпа, тры сафіты! Ідзі і працуй, а я сам прыдумаю, як вырашыць гэтую праблему! Лепш падумай, дзе мы знойдзем коней для пераатварэння іх у адзінарогаў!

Ася на дыбачках выйшла з кабінета. Яна любіла Мікіту і не пераносіла, калі ён злаваўся. Ася раўнавала Мікіту да Аліны — не як да жанчыны, а як да ўвасаблення цяжкай працы, што патрабавала ад Мікіты велізарных энергетычных выдаткаў. Яна хацела б ляжаць побач з Мікітам пад вярблюджай коўдрай і размаўляць пра розныя глупствы, хацела б самааддана служыць яму: гатаваць ежу, праць бялізну, расціць дзяцей. Але Ася была дужа добрай аператаркай, і Мікіта распарадзіўся, каб яна служыла сваёй прафесіі. Як толькі Ася станавілася за камеру, адразу ж знікала яе флегматычнасць, у рухах з'яўлялася жвавасць, а ў словах — канкрэтыка. Менавіта гэта ў дзяўчатах Мікіта цаніў больш за ўсё: канкрэтыку. Але гасла святло, выключаліся прыборы, і Ася станавілася мілай чарнавокай «бэбі», чыё сэрца перапаўнялася пяшчотай, а мова — памяншальнымі суфіксамі.

— Ранішняя яечня, згатаваная табой, яшчэ знойдзе мяне, як я выйду на пенсію! Я нічога не губляю! — адмахваўся Мікіта ад Асінай пяшчоты.

Ася надзімала вусны:

— Глядзіце, не загрызіце з Алінай адно аднаго, у імкненні даказаць, хто з вас самы лепшы і таленавіты! А мая яечня можа заспець і некага іншага!

— Што ж… светлая яму памяць! — адказваў Мікіта: Ася, як і ўсе дзяўчаты, хто працаваў у цэнтры «MoST», не ўмела гатаваць.

Мікіта не хацеў прасіць дапамогі ў староннiх асоб: чуткі пратачыліся б у прэсу, і буйныя заказы маглі б вельмі проста перацячы да канкурэнтаў. Ён зноўку пачаў ліхаманкава гартаць Алінін вар'яцкі нататнік, спадзеючыся знайсці хоць маленечкую зачэпачку, нітачку, якая вывела б яго на след і дапамагла разблытаць гэтую незразумелую сітуацыю. Аднак Мікіта ізноў не знайшоў нічога цікавага, акрамя малюначкаў з надпісам: «Мо». Мікіта ўздыхнуў: звычайныя псіхалагічныя тэсты, якімі карыстаюцца псіхолагі ў сярэдніх і старэйшых класах. Напэўна, Аліна ад няма чаго рабіць тэсціла Дзіму. Аліна любіла прымусіць чалавека намаляваць карцінку, а потым разбіраць гэтую карцінку з пункта гледжання псіхалогіі.

Рэзка адчыніліся дзверы, і ў кабінет убегла румяная Яна з ружовенькім партфелем у руцэ:

— Вітанкі, Мікіта!

— О-о, прывітанне, як ты аператыўна!

— Дзякуй, што даслаў машыну, а то я б яшчэ з гадзіну ехала, — зашчабятала Яна, скідаючы беленькі палітончык на сафу.

— Які ў цябе… строгі дзелавы дыпламат!

— Там нэтбук з электроннымі перакладчыкамі і нашымі з Алінай дакументамі, — азвалася Яна. — Я ведаю, што ў вас у цэнтры няма ніводнага слоўнічка, нават самага ўбогага, для першакласнікаў, а беларускі інтэрнэт увесь час вісне! Як вы працуеце?

— У нас ёсць ты! — выгукнуў Мікіта. — Гарбату? З шакаладкай?

— Толькі калі гэта не «Алёнка», — сказала Яна, адкрываючы ружовы дапламат.

— «Алёнку» з маіх знаёмых есць толькі Алінка.

— Алінка пастаянна есць розную лухту, вы за ёй прасачыце, а то як-небудзь нахамячыцца бураксу ці мыш'яку!

— Ну, ёй з гэтага не будзе анічога! У мяне існуе падазрэнні, што яна на сняданак есць мыш'як, каб прызвычаіць свой арганізм да атруты! Наташа, зрабі гарбату! — крыкнуў Мікіта ў калідор.

— Добра! — пачулася з нетраў цэнтра.

Яна ўключыла нэтбук:

— Мікіта, дзе дакументацыя? Будзем звяраць!

— Вось! — Мікіта адкрыў сакрэтэр, дзе, падшытыя ў акуратныя папкі, стаялі ўсе да аднаго дакументы цэнтра. Наташа была вельмі добрым сакратаром і клапацілася пра тое, каб папяровыя справы арганізацыі выглядалі ахайна.

— Давай сюды, я знайду, з чым Аліна да мяне прыязджала, — Яна выцягнула папкі, скінула іх на сафу і пачала хутка перабіраць дакументы. — Дарэчы, Аліна была не адна, а з вашым юрыстам, Міхалам Барысавічам… Ох, ён у вас! Такі донжуан! Яны заваліліся з бутэлечкай вінца. Хацелі спярша ўзяць кактэйлі, але яны, па большасці, дужа брыдотныя, мне ад іх млосна, дык вырашылі пасядзець класічна, з віном. Але ж ад віна мяне «расцягвае», то я магла зрабіць які-небудзь недаравальны ляп.

— Ну, ты перакладаеш на аўтапілоце, чаго так хвалявацца?

— Не-не, Мікіта, я ж ведаю, што кажу. Аднойчы пераклала «fee» не як «ганарар», а як «членскі ўнёсак», а потым Аліна званіла і цікавілася, што гэта за арганізацыя, у якую мусіць уступіць яе гурт, каб плаціць такія валютныя членскія ўнёскі, ці не БРСМ тарыфы падняў. Вось так.

Увайшла Наташа з барабанамі вакол таліі і гарбатай на падносе. Мікіта ўдарыў у барабанчык. Наташа ўсміхнулася, паставіла паднос і выйшла. У Яны зазвінеў тэлефон.

— Мікіта, хвіліначку, я адкажу: гэта любы звоніць! З любымі трэба размаўляць як найчасцей…

— Гэта чаму?

— Каб іх не займалі размовамі трэція асобы! Інакш усё каханне распаўсюдзіцца на іх. Алё? Зая мая, я сёння буду позна, тут у нас надзвычайная сітуацыя. Не сумуй. Я пазваню. Буськ.

Яна пачала пераправяраць дакументы.

Ася з Наташай увайшлі ў касцюмерную. Наташа зняла барабанную ўстаноўку і паставіла яе ў куток.

На шматлікіх паліцах і вешалках захоўваўся ўвесь рэквізіт, які рыхтавалі спецыяльна для здымак кліпаў, а цяпер, адзін раз выканаўшы сваю місію, ён проста пакрываўся пылам. Чорныя плашчы, ружовыя шалікі, дэманічныя крылы — плён фантазіі Мікіты, — піянерскія горны, коўдры, кандэлябры, блакітныя слонікі і яшчэ цэлая гара ўсякага хламоцця, адсарціраванае на «Апошняе», «Перадапошняе» і «На памяць, паржаць». Над усім гэтым узвышалася пара чамаданаў, якія Наташа запхнула на самую верхатуру. Гэта былі файныя, дарагія скураныя чамаданы тэракотавага колеру.

Наташа спрытна ўскараскалася па драбінах наверх і сцягнула чамаданы з паліцы.

— Ася, лаві, першы пайшоў! — крыкнула яна і запусціла чамадан уніз.

Ася злавіла яго і паставіла побач з сабой.

— Трымай другі! Ой, які цяжкі, што там такое, цагліны? — Наташа кінула другі чамадан.

Ася не паспела яго схапіць, чамадан упаў проста на падлогу і раскрыўся.

Асі і Наташы заняло мову: з чамадана высыпалася цэлая куча купюр. Купюры былі падзелены на пачкі, кожны пачак перацягнуты каляровай гумкай.

У касцюмерную зазірнула прыбіральшчыца. Ася схапіла з вешалкі плашч і накінула яго на горку грошай.

— Дзяўчаткі, а я тут пыл хацела працерці! — сказала прыбіральшчыца і ўсміхнулася.

— Не трэба, цётка Валя, ідзіце дадому!

— А як жа, сёння ж генеральная ўборка? — захвалявалася прыбіральшчыца.

— Не-не, мы вас адпускаем, пераносім уборку на… праз тыдзень! Да пабачэння! — прасакатала Ася і пасунула нагой пад плашч пачак грошай.

— А Мікіта Алегавіч не будзе злавацца?

— Не будзе, усё добра, адпачывайце!

Прыбіральшчыца зашаркала тапкамі па калідоры. Дзяўчаты выдыхнулі. Ася выцерла пот з ілба:

— Тэхперсанал заўсёды не да месца. Гатовая трымаць пары: як надыдзе Судны дзень, будуць бегаць са швабрамі каля анёлаў ды архангелаў і бубнець: «Натапталі», «Падніміце ногі», «Хопіць крыламі бруд развозіць…»

Наташа сцягнула плашч з горкі грошай:

— Слухай, Ася, а яны сапраўдныя? — яна ніколі ў жыцці не бачыла столькі грошай адразу, але глыбока ў душы, канешне, спадзявалася, што калі-небудзь не толькі ўбачыць, але і зможа распарадзіцца імі так, як пажадае.

— Не ведаю. Яшчэ ўчора іх у гэтым чамаданчыку не было.

— А давай праверым, ці не фальшыўкі? — Наташа пацягнулася да купюр.

— Не чапай! — закрычала Ася.

— Чаму? — здзівілася Наташа. — Яны могуць быць атручанымі?

— Наташа… ну якая атрута? Пакінеш на іх свае «пальчыкі» — ды патрапіш за краты і не будзеш ведаць, за што. У нас ёсць тут пальчаткі?

— Недзе былі. Пальчаткі скураныя для касцюма Чорнага Гобліна і пальчаткі, аблямаваныя футрам, для касцюма Кіскі Анфіскі. Табе якія?

— Кіскі Анфіскі? Звар'яцець можна. Давай сюды гэтыя, з-пад Анфіскі.

Дзяўчаты сабралі грошы. Ася пасадзіла Наташу на чамадан:

— Сядзі тут і не ўставай, нікому не звані, а я схаджу па Мікіту.

Наташа кіўнула, дастала доўгую пілачку для кіпцікаў і пачала няспешна раўняць свае акуратныя гелевыя пазногцікі. Наташа была з тых дзяўчат, якія выконваюць даручэнні вельмі дакладна, але даручэнні ім даюць, як правіла, нескладаныя, таму ў іх застаецца процьма вольнага часу, каб клапаціцца пра сваю знешнасць.

Мікіта надзеў пальчатку Кіскі Анфіскі, узяў выпадковую купюру, прасвяціў яе ультрафіялетам, даследаваў праз павелічальнае шкло і рэзюміраваў:

— Здаецца, гэта тыя самыя грошы, што шукаюць выкрадальнікі Аліны. Ты паглядзі — адны «еўрыкі»!

— І што цяпер? Трэба іх вярнуць, і ўсё будзе добра, так? — з надзеяй спыталася Ася.

— Разумееш, Ася, мы не ведаем: можа, гэтыя грошы цяпер патрэбны самой Аліне. А можа, гэта стабілізацыйны фонд нашай кампаніі, а нехта паклаў на яго вока. Дырэктарка ў нас спецыфічная, яна сродкі можа трымаць не толькі ў чамадане, але і ў выглядзе брыльянтаў у матрасе. Трэба ўсё як след абдумаць і не займацца самадзейнасцю. Дарэчы, якая тут сума? Наташа, ты лічыць умееш?

— Крыўдзіце, Мікіта Алегавіч! Я амаль скончыла курсы бухгалтараў!

— Ух ты! Амаль скончыла? Сёння проста наш дзень! — Мікіта ўскінуў рукі над галавой. — Вось што. Сёння ты лічыш грошы!

Наташа кіўнула, нацягнула пальчаткі Чорнага Гобліна і пачала падлік.

Мікіта паглядзеў, як Наташыны пальчыкі спрытна бегаюць па паперках, і сказаў Асі:

— Здымкі не адмяняюцца. Збіраем учарашніх музыкаў. Усіх. Нешта мне падказвае, што яны могуць ведаць пра гэтыя грошы значна больш, чым мы. Там, дзе з'яўляюцца маскоўскія спонсары, заўсёды пачынаюцца праблемы…

Дзіма забраўся ў люк апошнім і прысвіснуў:

— Дык гэта ж велізарны бункер, у ім не адзін паверх! І тут таксама нейкая апаратура…

— Толькі не падключаная! — сказала Аліна, перавярнуўшы зэдлік і спатыкнуўшыся аб шафку. — Відавочна: тут усё яшчэ толькі на стадыі арганізацыі і камплектацыі.

— Чаму паўсюль такая цішыня? — спыталася Таня і раптам перайшла на шэпт. — А калі яны ўсе затаіліся і кінуцца на нас з-за вуглоў з пісталетамі?

— Наўрад, — Дзіма павярнуў кран над умывальнікам, што сіратліва бялеў за дзвярыма з таблічкай «WC». — Чуеце, як скрыгочуць трубы? У іх не жыве вада. Ну, якая салідная падпольная групіроўка будзе пасылаць сваіх работнікаў працаваць на базу, дзе не наладжаны камунікацыі?

— Гэта праўда! — пацвердзіла Аліна, якая дужа любіла камфорт. — Першым чынам — сантэхніка і святло, а яшчэ — ацяпленне, а то ў холадзе мазгі адмаўляюцца думаць!

— Бінга! Да таго ж, ніводзін агент, які сябе паважае, не будзе сядзець у шафе, нават калі яна прасторная і дужа дарагая! — адзначыў Дзіма, зазірнуўшы у шафу, што стаяла проста пасярэдзіне вузкага калідора, па абодвух баках якога знікала ў перспектыве цэлая галерэя зачыненых дзвярэй.

Аліна ўхапілася за ручку першых з іх, што патрапіліся на шляху, тарганула, але дзверы былі зачынены. Аліна паглядзела на замурзаную далонь і раззлавана прашыпела:

— Ш-шапіто… яны што, салідолам ручкі памазалі, каб не рыпелі?

— А можа, іх шпількай адчыніць ды паглядзець, што там? — прапанаваў Дзіма.

— У нас, я адчуваю, небагата часу. Хутка нашыя паважаныя бандыты вернуцца, не хочацца іх расстройваць сваёй прысутнасцю ў недазволеным месцы! Давайце лепш насолім ім сваім знікненнем! — Аліна рушыла наперад.

***Працяг будзе***



*Ян РАДВАН*

# РАДЗІВІЛІЯДА,[*]

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга IV*

«Ойча, Ты Сыну свайму аднасутны; высокае неба
Волю спаўняе Тваю, а зямля — прыказанні. Мой Божа!
Страчваю сёння пачуцці, зрабілася марнаю слава...
Дай жа прытулак душы і пазбаў мяне гэткай пакуты;
Ты — больш ніякія сілы людскія ці Боскія ў свеце —
Памяць і вечны ратунак даеш; адары ж па заслугах!
Вось і дажыў я, і, колькі жыццёвых шляхоў ні даваў Ты,
Я бараніў родны край і караў нашых ворагаў жорстка.
Зараз пакіну я ўсё: і турботы, і справы людскія.
Ойча вялікі і добры, памілуй магутных ліцвінаў,
Дай жа вялікай Літве мець уладу, пашану і гонар!»
Так ён сказаў — і жыццё адляцела з аслаблага цела.
Дзе ж ты, наш гонар вялікі! Калі цябе лёсы забралі,
Славы пазбыліся мы, у душы — неспакой і бязладдзе.
Гора пануе ў грамадстве — і вось пачаліся аблуды,
Купяцца людзі і хочуць з’яднацца ганебнай дамовай,
Зноў беззаконнасць настала, няснаскі: Дыскордыя правіць,
Марс засваволіў бязбожны, у рокашах брыдкіх шчыруе.
Зброю цяпер грамадзяне наставілі супраць Айчыны.
Тое, што продкі здабылі, абрынуць у гневе гатовы.
Боская згода святая пакінула ўрэшце сарматаў,
Шчырасць, набожнасць і вера тады пацярпелі паразу.[1]
Вось заступілі іх месца ліхія пачвары з замежжа,
Подступ, спакуса, падман, крывадушнасць... І нават здаецца,
Быццам бы змоўшчыкі ўсе — так Эрынія спрытна штукарыць.
Воды рачныя тым часам бяды надыход прадказалі,
Сталіся знакам няшчасця: так, Вілія мутнаю плыняй
Аж забурліла, і Вільна забілася ў бераг каменны,
Горы, лясы ды ўзбярэжжы напоўніўшы лямантам горкім.[2]

---

[*] *Заканчэнне. Кніга чацвёртая, пачатак у № 6—12 м. г. № 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7 г. г.*

[1] Глоса: «Цяпер у Сарматыі пасялілася вялікая нязгода».

[2] Глоса: «Перад сконам Мікалая Радзівіла Вілія разлілася і ўчыніла вялікія страты для збудаванняў і лясоў».

Гэтак свяшчэнныя воды аплаквалі князя, што нават
Вільню ў тузе залілі ды гудзелі з нязвыклым стагнаннем,
Білі ў свае берагі з нейкім лямантам скрушна-тужлівым.
Пеністым вірам вада паламала гаі ў наваколлі,
Скрозь на ўзбярэжжы і хаты, і нават пагоркі глытала;
Мур непахісны — і той напалохаўся хваляў шалёных.
Плакала й Вільна тужліва, па скалах і вострых каменнях
Лямант гаротны ляцеў — гэтак рэчка бясконца стагнала,
Рвала свае валасы, завывала ў нястрымнай жалобе;
Гэтак вось трызну яна па табе, Радзівіле, спраўляла:
Воды цяклі і цяклі з перапоўненых сплаканых вочкаў.
Людзі казалі, што так — колькі дзён — яна плакала скрушна
Там, каля ўзгорка, дзе Бекеш славуты ляжыць у магіле:[3]
Покуль гаруе яна пра сваю несуцешную страту,
Цела рачное знутры расцякаецца вільгаццю шчодра.
Зараз не ўбачыш між водаў ніякага лапіка сушы:
Бітваў мінулых сляды пад вадой тыя рэкі схавалі.
Боствы цяністае пушчы, пяшчотныя німфы, якія
Сотню лясоў насяляюць і сотню празрыстых крыніцаў,
Тысячным хорам сваім Радзівіла памерлага клічуць,
Тысячнай стратай ты стаўся й цябе, Радзівіле, не вернеш.
Плачучы моцна, яны разарвалі, як кажуць, вяночкі
З кветак прыгожых, і ўсе валасы раскалмацілі ў скрусе,
Білі па твары сябе, катавалі сябе камянямі,
Спевам самотнага лебедзя, каняй журботнай крычалі,
Сукняў багатых зяленіва рвалі бязлітасна панны.
Плакалі нават пагоркі й журботны курган Свінтарога,[4]
Турава разам гара[5] ад нязноснай пакуты стагнала,
Вылі высокія пушчы і землі магутных ліцвінаў.
Пусткі здалёку стагналі, адказвалі ім узбярэжжы,
Чуючы стогн праз чашчобы. Лясы й навакольныя вёскі
Так галасілі: «Бяда! Дабрадзея такога згубілі!»
Гэткаю славай для Троі быў Гектар у замку Скамандра:
Ён, адцясняючы грэкаў да іх караблёў хуткакрылых,
Шчыра імкнуўся змяніць лёс пакутлівы мілай Айчыны.
Рыма ўлюбёнец, Каміл, сабе гонар здабыў, бо прымусіў

[3] Глоса: «Магіла двух братоў Бекешаў і помнік на высокім выступе гары каля Вільні». У тэксце згадваецца Каспар Бекеш, сябар і спадзвіжнік Стэфана Баторыя, які памёр у Гародні ў 1579 годзе. Яго брат — Габрыэль Бекеш — памёр у 1581-м і быў пахаваны побач з братам.

[4] У «Хроніцы» Мацея Стрыйкоўскага згадваецца вялікі князь Літоўскі Свінтарог Уценусавіч. Едучы на ловы са сваім сынам Гермонтам, ён натрапіў на вельмі прыгожае месца паміж гарамі, дзе рака Вільна ўпадае ў Вілію, і прасіў свайго сына, каб той спаліў яго цела паводле паганскага звычаю на гэтым месцы, а таксама каб на гэтым жа месцы спраўляліся пагрэбы і пазнейшых літоўскіх князёў.

[5] Паводле беларуска-літоўскіх хронік і «Хронікі» Мацея Стрыйкоўскага, князь Гедымін, палюючы ў пушчы паміж Лысымі гарамі, застрэліў вялікага тура на той гары, дзе цяпер стаіць верхні віленскі замак; ад таго тура і гара была названа Туравай.

Брэна, які штурмаваў Капітолія мур непарушны,
Золата Рыму вярнуць, разграміўшы ягонае войска[6].
Гэткая ж слава для нас — Радзівіл, верны светач Айчыны:
Ён быў найлепшы ў вайне, але ў міры — таксам найлепшы.
Як жа гаруе Літва, пралівае бясконцыя слёзы,
Скрушна нясуцца жалобныя стогны. На мармуры ставіць
Дату яго нараджэння, а потым... о гора! — так піша:
«Хто ж цябе вырваў ад нас, Радзівіле, ды так абнядоліў?
Ойча, куды ж ты пайшоў? На каго ж ты нас, ойча, пакінуў?»
Стала Літва Філамелай, якая спявае між ружаў:
Дзёрзка здабыўшы дзяўчыну, наглядчык казінага статка
Сына пазбыўся свайго[7], і вось так, паўтараючы спеў той,
Стогны нястрымна туга; ці, прысеўшы журботна пад шаты
Гожай акацыі, скрозь вінаградпай лазою абвітай,
Слёзна спявае, і гай паўтарае: «Ітыле! Ітыле!»[8]
Людзі ж, сенат і кароль «Радзівіл! Радзівіл!» — усклікаюць,
Мноства народаў Літвы паўтараюць імя Радзівіла.
Што ж ім рабіць? І якім адмяніць дакументам магчыма
Ход непахісных падзей, што адліты на цвёрдым базальце?
Як затрымаць ім яго на шляхах да нябесных узвышшаў —
Князя, які падышоў да высокіх, да Боскіх парогаў?
Вось і святыя браты, згуртаванне нябеснага племя —
Ім, найвышэйшым стварэнням, і неба пачаткі належыць —
Радасна мужа страчаюць усёй грамадою супольнай,
Шчыра прымаюць яго да свайго асяроддзя, дзе ззяе
Боскі высокі палац у аздобе нябесных смарагдаў.
Вось ужо блізка лунае траістае Бога аблічча —
Ён, тым не меней, Адзіны, магутны наш Бог невымоўны.
Купяцца сонмы навокал, шматлікіх істот незлічона,
Следу зямной нетрываласці тут ні на кім не заўважна,
Вечная сіла красуецца, гонар бясконцы пануе,
Разам заводзяць яны бессмяротную гучную песню.
Вось падыходзяць бліжэй і спяваюць пра Боскую славу

---

[6] Правадыр гальскага племя Брэн захапіў Рым у IV ст. да Р. Х. Ён згадзіўся на заключэнне міру пры ўмове выплаты вялізнага выкупу — тысячы фунтаў золата. Калі рымскі трыбун заўважыў, што гіры для ўзважвання золата фальшывыя, ён адмовіўся важыць імі, але Брэн кінуў на шалі яшчэ і свой цяжкі меч ды крыкнуў: «Гора пераможаным!» Марк Фурый Каміл напаў на галаў і выгнаў іх з Рыма, у выніку чаго было вернута золата, адабранае Брэнам.

[7] *Філамела* — паводле антычнай міфалогіі, дачка цара Афінаў. Муж яе сястры Прокны, Тэрэй (паводле міфа ён — цар Фацыды, у Радвана — пастух) згвалціў яе і, каб скрыць злачынства, вырваў ёй язык. Філамела расказала пра гэта сястры з дапамогай вышыўкі. Прокна, каб адпомсціць за сястру, забіла свайго сына ад Тэрэя, Ітыса, і накарміла мужа яго мясам. Зеўс ператварыў Філамелу ў ластаўку, Прокну — у салаўя, Тэрэя — ва ўдода (паводле пазнейшых крыніц, у салаўя пераўтварылася Філамела).

[8] *Ітыл* — паводле грэчаскай міфалогіі, сын Аэдоны. Апошняя, зайздросцячы Ніобе, якая мела дванаццаць дзяцей, задумала забіць яе старэйшага сына Амалея. Для гэтага яна загадала Ітылу, каб той паклаў Амалея каля сценкі, але Ітыл не паслухаўся, і Аэдона забіла ў цемры свайго ўласнага сына. Аэдону, ахопленую страшэннай тугой, багі пашкадавалі і ператварылі ў салаўя, каб яна магла штогод вясною аплакваць свайго адзінага сына.

Шчасныя душы — яны выхаванкі вышэйшага свету.
Сам Валадар-Алімпіец туды Радзівіла кіруе.
Тут Алімпійская Панна заводзіць вяртанца ў Айчыну,
Вера сівая прымае душу да спрадвечнага ўлоння,
Зведаўшы, што за іспыты трывала душа Радзівіла.
Зараз у вечным маленні, забыўшы часіны нягоды,
Князь ганаруе сталец залатога спрадвечнага неба,
Дыхае пахкай амброзіяй, цешыцца вечным трыумфам —
Словам, узяты на неба як служка Хрыста надзвычайны.
Ён па духмяных палях і прывольна, й спакойна гуляе,
Водар салодкі нябесны каштуе ад кветак спрадвечных,
Гімны спявае ўрачыста і цешыцца радасцю. Хутка
Духам падняўся сваім над пагрозамі марнага свету,
Цела ж пакінуў сваё, зруйнавае лютаю смерцю,
Цела, якое ніколі не будзе аплакана досыць.
Лепшаю часткай сябе ён квітнее ў нябесным палацы,
Варты ўсялякай пашаны, вялікі і непараўнальны.
Ён — быццам Фенікс, які зноў рыхтуе жыццё пасля смерці, —
Там, дзе чырвонае сонца на ўсходзе зямлю асвятляе;
Ён дасягае найперш вершалін аравійскае пальмы,
Потым дае птушаняці карыцу ды касію разам,
Міравы вадкі алей і смалістых галінак ашчэпы,
Потым яшчэ дадае каляровага нарду аздобы —
Цымус раскошы зямной, і, адолены моцнаю стомай,
Ён пакідае зямлю, зноў прыдбаўшы птушынае цела,
Жар здабывае нябесны і ў полымі цалкам згарае,
Потым сябе ж адраджае ізноў да жыцця той жа птушкай,
Пальмавай свежай галінкай аздобіўшы золата пер’я.
Гэтак, калі Радзівіл свайго цела пазбыўся і трапіў
Сам у нябесны палац, засталіся нашчадкі героя:
Шляхам бацькоўскім ідуць і працягваюць добрыя справы,
Новаю славай ліцвінаў зрабіўшыся. Праўда, старэйшы —
Меў ён імя Мікалай — паказаўся і знік (о пакута!)[9],
Мог бы, канешне, ён мець немалыя і славу, і гонар.
Зараз адзін — Хрыстафор[10] — застаецца надзеяй ліцвінаў,

[9] Мікалай Радзівіл, сын Мікалая Радзівіла «Рудога», памёр у 1589 годзе. Упамінанне яго як памерлага катэгарычна абвяргае шырока прадстаўленую ў папярэдніх даследаваннях версію пра выхад «Радзівіліяды» з друку ў 1588-м. На гэта звярнуў увагу Сігатас Нарбутас, дакладна датаваўшы час апублікавання паэмы 1592 годам.

[10] Хрыстафор (Крыштоф) Радзівіл «Пярун» (1547—1621) насамрэч быў добрым прадаўжальнікам справы свайго бацькі. У ваеннай кампаніі 1580 года ён захапіў замак Усвяты і нанёс паражэнне войску маскоўцаў каля Вялікіх Лук. У 1581-м атрады Хрыстафора Радзівіла і Філона Кміты зрабілі смелы рэйд да вярхоўяў Волгі, заняўшы Старыцу і Ржэў. Менавіта на гэта ўказвае Ян Радван, прыбягаючы далей да персаніфікацыі Волгі. Пасля смерці Стэфана Баторыя Крыштаф Радзівіл імкнуўся да стварэння дзяржаўнай уніі паміж Вялікім Княствам Літоўскім, Польскай Каронай і Маскоўскім княствам. Падчас войнаў са Швецыяй камандаваў войскамі ў Інфлянтах. У 1601 годзе нанёс паражэнне шведскаму войску ў бітве пад Кокенгаўзенам і захапіў Вендэн (сёння — Цэсіс у Латвіі).

Вечным аплотам. Цяпер праз свяцілішча гонару й цноты
Ты да свяшчэнных вышынь і да годнасцей многіх узняўся.
Зараз маскоўцы трымцяць перад ім, а блакітная Волга
Аж пацямнела ад смутку: прыйшлося прызнаць ёй бясспрэчна
Поспех суровага мужа і рукі падставіць пакорна.
Светлыя воды ля Пскова, спакойная плынь Барысфена
Клічуць яго, а прыгожы Смаленск, даўні Северск свяшчэнны
Просяць яго дапамогі; а значыць, яны як трафеі
Богам прызначаны ў небе, і моліцца шчыра Айчына:
Хай ён задумы ўсе здзейсніць сярод памагатых надзейных,
Хай абароніць Айчыну і зброяй, і мудрым законам.
Вечны Стваральнік і мора, і сушы, людзей і нябёсаў,
Правіш Ты мудра зямлёй і свяцілы на небе кіруеш.
Брама нябёсаў вітае Цябе і Алімп Табе сведчыць
Вечную славу. Твой клопат — ахоўваць дзяржавы ў спакоі.
Будзь жа шчаслівы і шчодры, дазволь не разбіцца калоне —
Той, што стаіць, — Хрыстафору, яму спагадай, каб хацяб ён
Выйсці цяпер дапамог з заняпаду айчыннай дзяржаве.
Будзь жа дарадцам яму і народу ва ўсіх яго справах!
Мне падалося? Мо, знікла ўжо хмара са змрочнага неба?
Што, прыбываем цяпер? Прывітанне, чаканая суша!
Мы дасягнулі зямлі Гіянтэйскай па моры натхнення,
Доўга па ім веславаўшы між хваляў святых аянійскіх.
Вось і настаў супачын, разышліся ля берага хвалі,
Хутка цяпер у надзейную гавань заходзім, бо лодка,
Шмат вандраваўшы па водах, стамілася ўрэшце, і носам
Радасна прыстань кранае, здабыўшы вянок па заслугах.

*Пераклад з лацінскай і каментарыі*
***Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ***

*Да юбілеяў*
*Уладзіміра Калесніка*
*і літаратурнай прэміі яго імя*

Ігар ГЕТМАН

# ПАЧАТАК ВЯРТАННЯ

Уладзімір Андрэевіч Калеснік працаваў на ніве беларускага літаратуразнаўства з канца 1950-х да сярэдзіны 1990-х гадоў. Гэты працяглы час, па нашым меркаванні, выразна падзяляецца на тры перыяды: 50—60-я гады; 70-я — сярэдзіна 80-х гадоў; другая палова 80-х — 1994 год.

Перыяд 50—60-х быў, па сутнасці, часам аднаўлення беларускай літаратуры і літаратуразнаўства пасля разгрому 1930-х — пачатку 1940-х. І ў гэтым аднаўленні немалая роля належыць Уладзіміру Калесніку.

Яго шлях як гісторыка літаратуры бярэ пачатак на малой радзіме — Навагрудчыне. Тут былі вучоба ў гімназіі, якая дала неблагое веданне польскай і нямецкай моў, знаёмства з еўрапейскімі гісторыяй і літаратурай. У пасляваенны час адукацыя была працягнута ў Мінскім педагагічным інстытуце і аспірантуры пры ім. Спачатку аспірант Калеснік планаваў заняцца вывучэннем фальклору Заходняй Беларусі, аднак з часам ад гэтай задумы адмовіўся. Чаму?

Свой зварот да вуснай народнай творчасці заходнебеларускага перыяду Калеснік тлумачыў тым, што ў даверасnёўскім часе ён бачыў хутчэй не сапраўдную літаратуру, а найперш шчыры парыў народа да творчасці. Аднак ад гэтай задумы давялося адмовіцца. «На кампартыі Заходняй Беларусі тады ляжаў цень. У архівах я не знаходзіў пацвярджэння тых абвінавачанняў, якія лічыліся аксіёмамі. Браць іх на веру не дазваляла гордасць. Ды і не лезлі праз горла папрокі ў адрас крыштальна чыстых людзей, з якімі я пазнаёміўся ў час вандровак і архіўных пошукаў. Рашыў змяніць тэму і пачаў пісаць пра даверасnёўскую творчасць Танка», — так патлумачыў Уладзімір Калеснік прычыну змены тэмы.

Даследаванне даверасnёўскага Танка, з аднаго боку, прымушала абмежавацца творчасцю толькі аднаго аўтара, а з другога — давала адносна большую магчымасць манеўра, чым гэта дазвалялася б пры даследаванні цэлай эпохі.

У 1959 годзе выйшла ў свет першая кніга Уладзіміра Калесніка «Паэзія змагання». Яна была напісана на аснове кандыдацкай дысертацыі аўтара: нават структура кнігі нагадвае будову дысертацыі «Творчасць Максіма Танка да верасня 1939 года». Пазней Калеснік гаварыў, што шмат змяніў бы ў сваёй кнізе, якая выйшла ў той час, калі краіна жыла ў атмасферы няпэўнасці. Гэта быў перыяд асцярожнай і маруднай дэсталінізацыі, таму супярэчнасці часу, безумоўна, не маглі не адбіцца на змесце кнігі.

Калеснік падрабязна аналізуе ўсю даверасnёўскую спадчыну Танка. Яго сімпатыя

да аб’екта даследавання відавочная. Аднак у ацэнцы дзеячаў эпохі, якая разглядаецца, не заўсёды ўдаецца пазбегнуць рэзкіх, часам несправядлівых ацэнак. Пры гэтым трэба ўлічваць час напісання працы, калі шэраг імён са станоўчым знакам проста не мог з’явіцца, а зусім не згадаць іх аўтар не меў права.

«Паэзія змагання» была сустрэта тагачаснай крытыкай у цэлым прыхільна. Крытыкі ўбачылі ў кнізе адыход ад норм вульгарнага сацыялагізму, які панаваў у беларускім літаратуразнаўстве сталінскага перыяду. Кніга была крокам у бок адноснай нармалізацыі, упарадкавання літаратурнай спадчыны дваццацігадовай даўнасці. Яна адкрыла беларускаму чытачу складаны свет літаратуры Заходняй Беларусі, непадобны да прынятага, па-сацыялагізатарску спрошчанага. Аўтар настойваў на праве на жыццё гэтай унікальнай з’явы айчыннай культуры, якая недаацэньвалася сучаснікамі.

«Паэзія змагання» сцвярджала погляд на заходнебеларускую літаратуру як неаднародную з’яву і заяўляла пра неабходнасць яе прысутнасці ў гісторыі літаратуры ва ўсёй сваёй разнастайнасці. Асноўны аргумент на карысць таго, што заходнебеларуская літаратура не заслугоўвае забыцця: яна была прагрэсіўнай з’явай, якая служыла справе аб’яднання беларускага народа ў адной дзяржаве.

Пасля заканчэння аспірантуры Уладзімір Калеснік два гады працаваў у Бабруйску. У той час катастрафічна не хапала выкладчыкаў, гэтым і тлумачыцца, што нядаўні аспірант, яшчэ «не абаронены», быў пастаўлены на пасаду загадчыка кафедры літаратуры Бабруйскага настаўніцкага інстытута. Нягледзячы на ўзрост, Калеснік адпавядаў займаемаму месцу: паводле ўспамінаў калег, узровень ведаў, якія ён даваў сваім студэнтам, высока ацэньваўся апошнімі.

У хуткім часе Уладзімір Калеснік «быў заўважаны» і пайшоў «на павышэнне» — на працу ў Брэст: з 1956 года ён загадчык кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута. Усё далейшае яго жыццё было прысвечана Берасцейшчыне.

У аўтабіяграфіі «Сваім следам», што выйшла ў зборніку «Пра час і пра сябе» ў 1966 годзе, Калеснік прызнаваўся, што праца над «Паэзіяй змагання» патрабавала ад яго велізарнага духоўнага і фізічнага напружання, што стала прычынаю далейшага рашэння не займацца манаграфічнымі даследаваннямі, а працаваць у больш «лёгкім» жанры літаратурных партрэтаў, эсэ, нарысаў.

Вышэйназванаму прынцыпу адпавядае другая кніга даследчыка «Час і песні», што выйшла ў 1962 годзе. Гэтай кнігай аўтар працягвае распрацоўваць дзялянку заходнебеларускай літаратуры. Цяпер яго ўвагу прыцягваюць не такія маштабныя, як Танк, фігуры. Хаця ў даваенны час іх імёны былі вядомымі: Алесь Салагуб, Міхась Васілёк, Мікола Засім, Аляксандр Гаўрылюк.

Калеснік-даследчык, карыстаючыся спрыяльным момантам, вярнуў з небыцця вялікую колькасць імёнаў. Менавіта з небыцця — тут няма перабольшвання. Таму што мала хто з заходнебеларускіх дзеячаў вызваленчага руху змог знайсці належнае месца ў новым грамадстве. Нехта быў рэп-




**Новая кніга**

***Аляксандр ВАЎКОВІЧ***

**«ЛЕТА ЧЫРВОНЫХ КОНЕЙ»**

Аповесці, апавяданні, эсэ, пуцявыя нататкі розных гадоў. Брэст, «Альтэрнатыва», 2012.

*У кожнага з нас сваё лета, свае коні. У кожнага захоўваюцца ў патаемных кутках душы свае ідэалы прыгажосці, спакою і шчасця. Для кагосьці гэта звычайны заход сонца на рэчцы дзяцінства або малінавыя снегіры на белым снезе. Гэта з намі не проста так — гэта мы дастаем для таго, каб знайсці і параўнаць, каб змагацца і перамагчы, каб расстаўляць рашучыя кропкі: дзе зло, дзе дабро, дзе чорнае, дзе белае. Кожны выбірае самастойна...*

рэсаваны сталінскім рэжымам, нехта эміграваў, іншы расчараваўся і назаўсёды адышоў ад актыўнага грамадска-культурнага жыцця, палічыўшы дзеянні 20—30-х прыкраю памылкаю маладосці.

Тыповым можна назваць прыклад жыццёвага шляху Міколы Засіма, ураджэнца невялікай вёскі Шані пад Пружанамі. Ён амаль адначасова захапіўся і палітыкай, і літаратурай. Яго шлях — шлях зацятых заходнебеларускіх рэвалюцыянераў: падполле і турма ў Польшчы, удзел у партызанскім руху ў часы вайны, прызнанне і адносна спакойнае жыццё ў пасляваенны час. Такі шлях прайшлі дзясяткі. І апошні этап, як ні парадаксальна, для творчасці многіх стаў перыядам змяркання. Лепшае, што было імі створана, засталося ў мінулым. Іх паэзія — гэта сапраўды «паэзія змагання». А да паэзіі спакою яны аказаліся няздатнымі. Іх грубы, неадшліфаваны талент не змог спаборнічаць з сапраўднай літаратурай. Гэта, як казаў Калеснік, «не той матэрыял, на якім крытык можа з чыстым сумленнем дэманстраваць вузкі прафесіяналізм. …Масавая паэзія была фактам народнага парывання да чалавечай годнасці, а не мастацтвам слова ў ардынарным разуменні гэтага выразу».

Кнігамі «Паэзія змагання» і «Час і песні» Уладзімір Калеснік пачаў уводзіць у навуковы ўжытак заходнебеларускую літаратуру. Упершыню ў гісторыі беларускай літаратуры было пачата маштабнае і цэласнае вывучэнне заходнебеларускай літаратурнай спадчыны якраз гэтымі кнігамі Калесніка. Гэтыя працы накрэслілі прынцыпы даследавання, характэрныя для вучонага. У абедзвюх працах аўтар шырока выкарыстоўвае так званы біяграфічны метад, кампанент культурна-гістарычнай метадалагічнай школы. Аб'ектыўнае выкарыстанне біяграфічнага метаду прыходзіла ў сутыкненне з вульгарна-сацыялагізатарскімі ўстаноўкамі папярэдняй эпохі.

Першыя кнігі Уладзіміра Калесніка выявілі ягоны глыбокі эстэтызм у гармоніі з актыўным грамадзянскім пафасам, паказалі майстэрства даследчыка ў стварэнні шырокага гісторыка-літаратурнага кантэксту, якім адрозніваліся ўсе яго працы, выявілі імкненне аўтара да адкрывальніцтва забытых імёнаў і вяртання іх у актыў нацыянальнай літаратуры.



*Старшыня Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Сумар уручае дыплом Кацярыне Мароз. 2009 год.*

### У ЛІТАРАТУРНАЙ ПРЭМІІ БРЭСЦКАГА АБЛАСНОГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТА ІМЯ УЛАДЗІМІРА КАЛЕСНІКА — ПЕРШЫ ЮБІЛЕЙ

Верыцца і не верыцца: усяго пяць год — а гэтулькі здзяйсненняў, новых імёнаў, папросту — літаратурнага плёну. Тое, што сёння здзейснена, у 2006-м яшчэ толькі віравала ў марах, было жаданнем, прагла ўвасаблення. Якая ўсё ж гэта вялікая радасць — калі мары здзяйсняюцца.

Мецць сваю літаратурную прэмію пісьменнікі Берасцейшчыны марылі даўно. За пяць гадоў існавання яе паспелі атрымаць два дзясяткі літаратараў. Разам з прэміяй аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі заснаваны абласны літаратурны конкурс для дзяцей і моладзі. Яго пераможцам (іх таксама ўжо не адзін дзясятак) уручае ўзнагароды асабіста кіраўнік вобласці падчас працэдуры ўзнагароджання лаўрэатаў Калеснікаўскай прэміі. Па выніках выдаецца штогадовы зборнік лепшых твораў-канкурсантаў «Адкрыццё».

Заснаванне прэміі заўважна ажывіла літаратурны рух на Берасцейшчыне. Дзякуючы ёй з'явілася абласное свята паэзіі «Лунінская восень», гэта па-першае. Па-другое, пачаў выходзіць «берасцейскі» (зазвычай лістападаўскі) нумар часопіса «Маладосць». Па-трэцяе, Брэсцкае аддзяленне першым сярод аддзяленняў СПБ заявіла пра сябе ў сусветнай віртуальнай прасторы. Калі хтосьці не ведае пра гэта, то вось адрас: spb.brest.by. Спіс зробленага можна доўжыць. Самае галоўнае: мы маем творы і кнігі, значныя ў мастацкім і грамадскім планах, з якімі не сорамна выходзіць на сусветны ўзровень.

*Аляксей КАЎКО*

# УСПАМІН ПРА КОЛАСА

Не ведаю, як у каго, а ў мяне першае знаёмства з творамі Якуба Коласа пачалося з верша «Чыгунка». Ва ўсякім выпадку гэта першае, што ўрэзалася ў памяць:

У два рады між палёў
Роўна рэйкі ляглі,
Рэжуць нетры палёў,
Точаць грудзі зямлі.

Гэта было, калі я яшчэ няўпэўнена вадзіў пальцам па беларускай чытанцы. Цяжка сказаць, чаму менавіта гэты верш запомніўся. Былі ж, напэўна, у той чытанцы і іншыя вершы паэта. Магчыма, наіўнага вясковага хлапчука ўражвала думка: дзе ж гэта людзі ўзялі столькі жалеза, каб пракласці рэйкі праз палі і лясы? Бацька ж мой, каб прыбіць які колік да плоту, адсякаў звычайна кавалак калючага дроту, які яшчэ ад той перашай імперыялістычнай вайны вісеў пад страхой хлява, раўняў яго малатком на плоскім камені і такім вось цвіком абыходзіўся.

А пасля прыйшло хвалюючае:

Ярка на камінку
Смольны корч палае,
Бацька на калодцы
Лапці выплятае.
Латае халацік
На ўслоне матка:
Ў школу заўтра пойдзе
Іх сынок Ігнатка.

Нешта вельмі блізкае было ў гэтым вершы. І ў нашай хаце палаў на камінку смольны корч, і ўслон быў, і лапці бацька выплятаў з ліпавага лыка, наказваючы, каб я не вельмі гоцаў на тым самаробным каньку, бо дзе ж набярэшся тых лапцей.

Калі я ўжо добра асвойтаўся з кнігамі, творы Якуба Коласа сталі, бадай, самымі любімымі ў нашай сям'і. «Новая зямля», напрыклад, перачытвалася многа разоў. Чытаў я, звычайна, уголас. Асабліва ўважлівымі слухачамі былі мама і цётка Хрысціна. На нейкі час яны нават спынялі свой клопат над кудзеляй, каб не ўпусціць якое слова. А калі я заканчваў чытаць, мама здзіўлена гаварыла:

— Хто ж гэта так добра ведае пра наша жыццё?

Хоць была непісьменнай, мама пасля майго чытання запомніла цэлы раздзел з «Новай зямлі» — «Раніца ў нядзельку». Пад настрой яна з асаблівым замілаваннем дэкламавала, нібы спявала:

Дзень быў святы.
Яшчэ ад рання
Блінцы пякліся на сняданне,
І ўжо пры печы з чапялою
Стаяла маці... Пад рукою
Таўкліся дзеці, заміналі.
Або смяяліся, спявалі...

А колькі смеху, вясёлай гамонкі было ў нашай хаце, калі я чытаў апавяданні Якуба Коласа «Соцкі падвёў», «Пісаравы імяніны», вершаваныя «Зяць», «Святы Ян»... Перачытвалася ўсё коласаўскае, што трапляла ў рукі. У гады свайго вясковага дзяцінства я і падумаць не мог, што прыйдзе час, калі мне пашчасціць убачыць аўтара любімых твораў, пачуць ягоны голас, выслухаць парады. Гэта адбылося пазней, калі я пачаў таптаць сваю журналісцкую сцежку, спрабаваў далучыцца да літаратурнай справы —

І ў нашай хаце палаў на камінку смольны корч, і ўслон быў, і лапці бацька выплятаў з ліпавага лыка, наказваючы, каб я не вельмі гоцаў на тым самаробным каньку, бо дзе ж набярэшся тых лапцей

**У гады свайго вясковага дзяцінства я і падумаць не мог, што прыйдзе час, калі мне пашчасціць убачыць аўтара любімых твораў, пачуць ягоны голас, выслухаць парады**

у рэспубліканскім друку з'явіліся мае першыя апавяданні.

...У ліпені 1947 года ў Мінску праходзіла нарада маладых пісьменнікаў рэспублікі, на якую быў выкліканы і я. Праходзіла яна ў Доме ўрада, дзе тады размяшчаўся і Саюз пісьменнікаў БССР. Заняткі вяліся па секцыях. У нашай «дзіцячай» секцыі было ўсяго пяць чалавек. Цяпер усіх і не прыпомню. Прыгадваюцца Вера Сурская і зусім яшчэ юны Ніл Гілевіч... Кіраваў секцыяй патрыярх беларускай дзіцячай літаратуры Янка Маўр. Яму дапамагалі Пятро Глебка, Алесь Якімовіч, Эдзі Агняцвет, Павел Кавалёў. Вялося дэталёвае абмеркаванне нашых твораў, рабіліся слушныя заўвагі, даваліся парады. Алесь Якімовіч, тагачасны рэдактар «Бярозкі», прынёс у партфелі яшчэ не сшытыя лісты чарговага нумара часопіса, дзе было і маё апавяданне «Піянер».

— Прачытай, хлопча, што ты там напісаў, — прапанаваў Янка Маўр.

Можна ўявіць, з якім хваляваннем я чытаў сваё апавяданне: яшчэ б — сам аўтар «Палескіх рабінзонаў» слухае! Скончылася тым, што апавяданне было ўхвалена і кіраўніком секцыі, і яго памочнікамі.

І вось, калі работа нашай секцыі падышла да завяршэння, у невялікі пакойчык, дзе мы займаліся, зайшоў тагачасны старшыня Саюза пісьменнікаў Міхась Лынькоў. Ён прынёс радасную вестку: на падвядзенне вынікаў нарады прыедзе Якуб Колас.

Усе ўдзельнікі нарады (а сярод нас былі Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак, Алена Васілевіч, Аляксей Русецкі, Паўлюк Пранузе, Мікола Аўрамчык) сабраліся ў самым вялікім пакоі Саюза пісьменнікаў. Уселіся на збітых з нефарбаваных дошак лаўках (крэслы ў той час былі яшчэ раскошай) і з хваляваннем пачалі чакаць.

І вось заходзіць Якуб Колас. Як мудры гаспадар, ён акінуў задуменным поглядам залу, прывітаўся, злёгку кіўнуўшы галавой, і прысеў ля стала. Хоць на дварэ ў гэты час шчыраваў ліпень, паэт быў апрануты ў цёмна-сіні прасторны касцюм, пад гальштукам. Як нас папярэдзілі, ён ужо колькі дзён дрэнна сябе адчуваў, але ўсё ж прыйшоў на гэтую сустрэчу.

Калі кіраўнікі секцыі расказвалі пра вынікі нашай работы, ён уважліва слухаў, падпёршы далоняй шчаку. Час ад часу праводзіў праніклівым позіркам па зале, нібы жадаючы высветліць: што могуць даць нашай літаратуры гэтыя маладыя людзі.

...З вялікай увагай мы слухалі выступленне любімага пісьменніка. Якуб Колас расказаў пра тое, як ён у мінскай турме пачаў пісаць паэму «Новая зямля», як узніклі задумы іншых яго твораў, пажадаў удзельнікам нарады пільна прыглядацца да жыцця, добра авалодаць нашай роднай мовай.

Сустрэча гэтая запомнілася мне на ўсё жыццё. Як дарагую рэліквію берагу я пажаўцелы ад часу фотаздымак, на якім старэйшыя пісьменнікі сярод удзельнікаў нарады. У цэнтры здымка — Якуб Колас. Тут жа — Янка Маўр, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Міхась Клімковіч, Анатоль Астрэйка, Антон Бялевіч, Пімен Панчанка, Раман Сабаленка і іншыя вядомыя беларускія творцы. Гэты здымак я пазней бачыў у музеі Якуба Коласа ў Мінску, а таксама ў кнізе Аляксандра Міронава «Дзед Маўр».

А творы Якуба Коласа я і па сёння перачытваю з вялікім захапленнем. 

Аляксандр ІВАНОЎ

# ШЧЫМЛІВАЕ, ТАМУ ШТО РОДНАЕ

***Прызнаюся, што большую частку надрукаваных тут твораў я чытаў раней, а да некаторых, прашу прабачэння за недалікатнасць, меў асабістае дачыненне. Каб не выглядаць у вачах чытача тым, хто любіць прымазацца да чужой славы, з вашага ж дазволу звярнуся да гэтага трошкі пазней і, веру, тады ж рэабілітуюся.***

А цяпер пра аўтара. І не толькі таму, што жанр рэцэнзіі гэтага патрабуе. Анатоль Крэйдзіч у журналісцка-пісьменніцкім асяроддзі чалавек добра вядомы і паважаны. У першую чаргу не сваімі высокімі пасадамі — старшыні пісьменніцкай арганізацыі Берасцейшчыны і галоўнага рэдактара Іванаўскай раёнкі «Чырвоная звязда». Па вялікім рахунку пасада, якой бы адказнай яна ні была, рэч часовая і, згадзіцеся, далёка не заўсёды ўдзячная. Галоўнае, як ні круці, — гэта справы. А ў творчым асяроддзі важна, каб кіраўнік і па вопыце, а асабліва па творчым патэнцыяле, рушыў наперадзе сваіх калег хаця б на адзін сціплы крок. Гэта асобны статус — стаяць у цэнтры творчага працэсу. Акумулюючы, скіроўваючы ў пэўнае рэчышча, даючы парады, на сваім прыкладзе паказваючы, як зрабіць лепей. Доказы? Яны і ў тым, якая цікавая, не падобная да іншых раёнак выдаецца газета ў Іванаве, і ў тым, як набірае моцы грамадскі і творчы голас пісьменніцкай арганізацыі Берасцейшчыны, і ў тым, што сам Анатоль Мікалаевіч як журналіст і пісьменнік набывае творчую сталасць.

Анатоль Крэйдзіч, бадай, першым адкрыў для шырокай публікі імя таленавітага берасцейскага мастака з Іванаўшчыны Янкі Рамановіча. Янка і сёння малады, з тым магутнейшым творчым патэнцыялам мастак, які наўрад ці сам да канца асэнсоўвае сваю творчую веліч. Чуў яго асабістыя адносіны да сябе самога: «Вось працую, выдаю з сябе тое, што само па сабе на свет просіцца...»

**З РАЗДЗЕЛА «МІНІЯЦЮРЫ»**

- На паліцах кнігарняў усё болей прозвішчаў і ўсё меней Імёнаў.
- Я цвёрда ўпэўнены ў тым, што ні ў чым нельга быць цвёрда ўпэўненым.
- Агонь грызе жалеза жоўтымі зубамі. Як стары бабёр.
- Неўзабаве гэтая грудачка ператварылася ў лужыну. А ў яе ўпаў жаўток — чырвонае веснавое сонца.
- Некаторыя мініяцюры «замешаны» на гумары.
- У 35 год ён моцна захварэў і сабраўся паміраць. І перад смерцю гэтак закарцела выказацца. І выказваўся 65 гадоў…
- Ён вельмі хацеў праславіцца. І праславіўся. Тым, што вельмі хацеў праславіцца.




### ЧЫТАННЕ НАВЫРАСТ

Чытаць напісанае Анатолем Крэйдзічам — зусім не тое, што «праглынуць»бульварны раманчык. Тут хочацца«смакаваць» слова, часам неабходна прыпыніцца, узважыць прачытанае, убачыць падтэкст, спасцігнуць аўтарскую філасофію. Працэс гэты я б параўнала з тым самым чытаннем «навыраст», пра якое піша літаратар у адной з нататак, калі, каб зразумець напісанае, «цягнуцца трэба». Але ж, «дацягнуўшыся», адчуваеш сябе духоўна ўзбагачаным, мудрэйшым, больш дасведчаным у жыцці, бо створаны моваю любові свет кнігі — гэта рэчаіснасць, героі твораў — рэальныя людзі. Вядома, час не стаіць на месцы, рэаліі змяняюцца, людзі сталеюць, пакаленні адыходзяць — нараджаюцца героі новых кніг. Але ж напісанае — застаецца! «Як спыненае імгненне вечнасці».

***Ірына САЛОМКА***

А тады Янка толькі пачынаў выходзіць на шырокую творчую дарогу, дзе ўсё, паверце, вельмі далёкае ад рамантычна-ўзнёслага ўспрымання. Творчасць наколькі знешне прывабная, настолькі ж па змесце сваім і характары найцяжэйшая справа, здольная сапраўднага майстра праглынуць цалкам. Ахвяра для творцы рэч зразумелая, а вось зайздрасць… Як патрэбны творчаму чалавеку, асабліва калі ён толькі ступае на шырокі творчы шлях, спагадлівасць і падтрымка! Як свежае паветра ў раніцу! Вось гэта і даў Янку Анатоль Крэйдзіч, змясціўшы шэраг сваіх публікацый у нашай «Зары» і рэспубліканскіх выданнях. А ўжо яны, публікацыі, данеслі да шырокага кола грамадскасці імя таленавітага мастака з палескай глыбінкі. Асаблівае месца тут займае дакументальна-мастацкая аповесць «Богаў сон», якая першай значыцца ў кнізе «Роднае, шчымлівае».

Нарыс — адзін з найбольш паважаных і складаных літаратурных жанраў, у якім, прыемна адзначыць, Анатоль Крэйдзіч адчувае сябе як рыба ў вадзе. Чаму гэта падкрэсліваю? Сапраўдны гуру беларускай журналістыкі, вядомы вучоны і даследчык, прафесар Барыс Васільевіч Стральцоў некалі асобна падкрэсліваў, што нарыс і нарысіст — гэта штучны тавар і, на здзіўленне, пад'ёмны нарыс далёка не для кожнага, няхай і вядомага пісьменніка, бо, акрамя каларытнага героя і мастацкіх сродкаў выказвання, патрабуе публіцыстыкі, даследавання праблемы і здольнасці аўтара паказваць шляхі яе вырашэння. У сваім «Родным, шчымлівым» Анатоль Крэйдзіч падае на суд чытача важкую нізку дыхтоўных нарысаў.

У пачатку сваіх нататак я ўжо падкрэсліваў, што нейкім чынам і сам маю пэўнае дачыненне да гэтай кнігі. Мы з Анатолем Мікалаевічам зразумелі тады адзін аднаго, што называецца, на палове слова, без якіх-небудзь там дадатковых тлумачэнняў. Вось так, проста: ёсць тэма, ёсць неабходнасць не толькі зачапіць яе, азначыць, але і пайсці далей — вылучыць, развіць, даследаваць. А тэма была такая. У жыцці, у паўсядзённай мітусні ёсць нейкія дробязі, на якія наўрад ці хто звяртае ўвагу, — так прынята, так усталявалася, так робяць усе. Але ж, калі добра падумаць, калі прыкінуць, што да чаго, выкарыстаць сродкі літаратурнай мовы і цікавыя факты, то за дробяззю ўсплывае з'ява.

Я добра памятаю, як загарэліся ад прапановы вочы ў Анатоля Крэйдзіча, як літаральна на другі ж дзень ён прынёс цікава і

**Гуру беларускай журналістыкі, прафесар Барыс Васільевіч Стральцоў некалі асобна падкрэсліваў, што нарыс і нарысіст — гэта штучны тавар**

таленавіта напісаны тэкст, а потым яшчэ і яшчэ. У суботніх нумарах «Зари» былі надрукаваны нататкі «150 пісьменніцкіх радкоў», якія атрымалі шмат добразычлівых водгукаў, а пазней былі адзначаны прэстыжнай прэміяй «Залатое пяро» Беларускага саюза журналістаў. Дык вось, як ужо зразумеў чытач, у нашай гісторыі адыграў вырашальную ролю, вядома ж, не рэдактарскі заказ, а сапраўдны майстар — Анатоль Крэйдзіч. Ну, і Яе Вялікасць творчасць. Тут папрашу ў чытача ўвагі да пазіцыі «Зари». Яна традыцыйна патрабавальна ставіцца да літаратурнага слова, да выбару і распрацоўкі тэмы, не ганяецца за крыміналам і не дзьме на вуголле, каб зрабіць падабенства вогнішча. Усё ж мы — прыхільнікі класічнай журналістыкі з яе багатым выбарам жанраў і адказнасцю за слова.

У сённяшняй журналістыцы, на жаль, баль правіць не нарысіст, а рэпарцёр, «канёк» якога — прынцып «што бачу і чую, пра тое і пішу, а астатняе прыдумаю». Кажуць, што гэта вельмі «рыначна» і таго патрабуе чытач. Хто ведае... Толькі вось за апошні год на матэрыялах «Зари» свет убачылі дзве кнігі — «Письма войны» і «След», якія атрымалі высокі чытацкі рэзананс не толькі на Берасцейшчыне, але і за межамі дзяржавы. Цяпер вось кніга Анатоля Крэйдзіча таму яскравы доказ.

**У жыцці, у паўсядзённай мітусні ёсць нейкія дробязі, на якія наўрад ці хто звяртае ўвагу, — так прынята, так усталявалася, так робяць усе. Але ж, калі добра падумаць, калі прыкінуць, што да чаго, выкарыстаць сродкі літаратурнай мовы і цікавыя факты, то за дробяззю ўсплывае з'ява**

Каб нехта не ўспрыняў гэтае адхіленне ад тэмы як нейкі піяр галоўнага рэдактара, зноў звяртаю ўвагу чытача да «Роднага, шчымлівага». Анатоль Крэйдзіч зрабіў асабіста для мяне прыемнае адкрыццё сваімі мініяцюрамі. Так, гэта асобны жанр, як у паэзіі санет, які адзін цэлай паэмы варты. Гэта сапраўды вышэйшы пілатаж у літаратуры, бо такая кароткая літаратурная форма патрабуе яркага вобраза, адточанага слова. Не буду надта інтрыгаваць чытача, а выстаўлю на яго прысуд адну з Анатолевых мініяцюр: «Біяграфія: так было, але гэта не праўда. Мастацкі твор: так не было, але гэта праўда». Ну, як — спадабалася? А то ж!.. І ўся яго кніга такая — добрая, чыстая. Як крынічка: прыхіліся — адарвацца цяжка. Пытайцеся: хутка яна павінна з'явіцца ў кнігарнях. 



Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

# ДЗЁННІКАВЫЯ НАТАТКІ*

**1 жніўня, субота, 1987 год**

Ліпеня як не было, прайшоў хутка, але малайцом ён у мяне, два з паловай сшыткі, якія прывёз з «Іслачы» — гэта нешта значыць. Трэба ў гэтым годзе як-небудзь скончыць.

Пасля снядання паехаў у Дом літаратара, завёз кніжку Дзяменцева, папрасіў Пташнікава, каб аддаў у бібліятэку «Іслачы». Набралася шмат хлопцаў: Пташнікаў, Андраюк, Кісялёў, Міхальчук, Законнікаў, Мальдзіс. Пастаялі, пагаварылі. Аказваецца, знялі Антановіча, Пташнікаў смяецца, што я пацэліў не ў таго. Што аб'яўляюць адзін прыпынак у метро — плошчу Якуба Коласа — па-беларуску. Мяне ўразіла, як ехаў у метро і пачуў, гэта ўжо з месяц, пасля нашага ад'езду ў «Іслач». Так што зрухі, хоць і маленькія, але ёсць. Замест Антановіча — Вайтовіч, які быў некалі дырэктарам кінастудыі.

Заходзіў да дзяцей, аддаў Анюце зайца, цукеркі і кілаграм памідораў. Мужчын не было, адны кабеты.

Трохі з Галяй перакусілі і ўзяліся за работу. Я ўсё яшчэ не выйшаў з тэмы. Але адчуваю, што дома цяжэй, тут шмат раздражняльнікаў.

Дачытаў Асташонка, канец слабы, горшы чым пачатак. Мо іх памяняць месцамі? Шмат калькаваных зваротаў, цьмяных мясцін.

Прагледзеў «ЛіМ», шмат пра Янку Брыля, яму 4.08. — 70 год.

Напісаў яму невялікі ліст, трэба будзе заўтра выслаць.

**3 жніўня, панядзелак**

Неяк кепска я падлічыў свой адпачынак і думаў, што мне ісці на работу ў аўторак. Ажно пазваніў Дайнеку, а ён кажа, што сёння ўжо нам трэба выходзіць, бо і ён ішоў разам са мною ў адзін дзень, а яшчэ Саламаха.

І вось я на рабоце, хоць са спазненнем. У нас усе ў пакоі, няма толькі Гігевіча, я нават не спытаў, дзе ён — дома, на дачы, ці куды паехаў. Янішчыц казала, што прыходзіў на работу рэгулярна. Гаварылі, што яго акцыі цяпер падымуцца — яго зямляк Вайтовіч стаў загадчыкам аддзела культуры. Праўда, як быццам яшчэ не стаў, але стане. Антановіч быццам ідзе на павышэнне, ці не міністрам замежных спраў на месца Гурыновіча.

А вось Саўка застаецца на сваім пасту — лепшага не знойдуць.

Аўтары сёння яшчэ мяне мала турбавалі. Зайшоў Уладзімір Граўцоў, ён быў на нейкай стажыроўцы ў «Вожыку», цэлы месяц, пытаўся пра свае апавяданні. Неяк я пра яго зусім забыўся, а ён нічога пра сябе не нагадваў. Казаў, што за гэты час напісаў п'есу, нешта ў стылі Шварца.

Пазваніў яшчэ Аўраменка, пытаўся пра свой дэтэктыў. Дамовіліся на другую палову гэтага месяца.

А больш ніхто мяне не турбаваў.

Тармола званіў Янішчыц і перакінуўся са мною парай слоў, пытаўся, ці спадабалася мне ў «Іслачы». Я, натуральна, расхваліў наш Дом творчасці, заінтрыгаваў яго. Казаў, што трэба падумаць, мо і сам паедзе. Пытаўся, колькі каштуе пуцёўка.

Ждановіч наш быў на Нарачы, адпачыў добра, але казаў, што прастудзіўся ў канцы, купаўся ў халоднай вадзе.

Сёння трохі спрабаваў пісаць, каб не страціць формы. Скончыў 27-ы раздзел.

**4 жніўня, аўторак**

Да работы трохі папісаў, але нешта не клеілася. Пісаць цяжэй, калі чакае чытанне. На рабоце аўтары засумавалі без мяне, то

* Працяг. Пачатак у № 1—6 за 2008 г., № 7 г. г.

пачынаюцца званкі і візіты. Адразу пазваніў Дакутовіч, але Далідовіч яго яшчэ не прачытаў.

Доўга гаварыў з Пасынкавай па тэлефоне, цяпер яна піша вершы, але не забывае і прозы. Любіць сябе дапрацоўваць. Такая забаўная аўтарка — пенсіянерка. Не ведаю, ці яна што надрукуе з таго, што напісала.

Званіў Капусцін, пагаварылі пра яго апавяданне — у тым годзе на пачатку выходзіць яго кніжка, то трэба ўлічыць...

Пазваніў з Ліды Янец, пагаварылі пра яго трылогію. Я канчаю яго другую кнігу, буду брацца за трэцюю. Чытаецца цікава, — так я яму і сказаў.

Заходзіў Асташонак, доўга гаварылі пра яго аповесць «Незабудкі». Ён не чакаў ад мяне такой крытыкі — сам прызнаўся. Ну ясна, Тычына яго расхваліў. Пагаварылі яшчэ пра апавяданне «Супер», якое мы яму вярнулі, і якое ён пасля таго перапрацаваў, сказаў, што разраслося. Абяцаў прынесці яшчэ раз, а над аповесцю падумае, што з ёю рабіць.

Далідовіч вярнуў мне частку апавяданняў, якія я даваў яму на чытку — Дзедзіца, Праўдзіна, Цвяткова, Кавалёва, Свістуновіча. Ёсць шмат заўваг, але ў асноўным ухваліў.

Гаварылі пра Антановіча, быццам яго звольнілі — за тое, што даў няправільныя звесткі Сакалову і гэтым самым выклікаў крытыку з боку грамадскасці. Як быццам Паўлаў да гэтых звестак не меў ніякага дачынення. Выходзіць, што я рыкашэтам трапіў у Антановіча.

Званіў яшчэ Сачанка, перад гэтым Далідовіч аддаў мне яшчэ адну яго рэч — да тых, што ў нас ужо ляжаць прачытаныя. Пагаварылі пра адпачынкі.

Вечарам чытаў Янеца, дачытаў другую частку.

У гадзін 11 прайшоў вялікі дождж.

**5 жніўня, серада**

Чытаў Янеца, пасля паехаў у горад, шукаў «Літгазету». Ледзь знайшоў. Здаецца, ёсць цікавыя матэрыялы. Зуёнак піша пра нашага Панчанку, трэба будзе прачытаць.

На рабоце адразу сустрэў Санько, казаў, што чакае ўжо амаль гадзіну. Прынёс дапрацаваную аповесць, павялічылася амаль удвая, уставіў цэлыя раздзелы.

Пазваніў Кантылёў, дзякаваў, што надрукавалі, нават запрашаў адзначыць.

**З успамінаў Івана КАПЫЛОВІЧА**

***ШАХМАТАМІ ТОЙ ПАРОЙ «ХВАРЭЛІ» МНОГІЯ ПІСЬМЕННІКІ***

***Падчас візітаў у рэдакцыю «Маладосці» я даволі часта пад канец працоўнага дня гуляў у шахматы ці з Леанідам Дайнекам, ці з Васілём Зуёнкам, ці з кім з аўтараў — наведвальнікаў рэдакцыі. Трэба сказаць, што шахматамі той парой «хварэлі» многія пісьменнікі. Гульня гэта вымагала творчых роздумаў не менш, чым і пісьменніцкая праца. Менавіта яна спрыяла тады збліжэнню і ўзаемаразуменню. Ды, мабыць, і развіццю творчых здольнасцей таксама спрыяла. Гульня ў шахматы ў «Маладосці» для мяне таксама была адной з прыступак на маім пісьменніцкім шляху: дзякуючы шахматам я спасцігаў якасці чалавечай душы, зрухі ў псіхалогіі чалавека — тое, без разумення чаго напісаць сапраўдны мастацкі твор немагчыма.***

Званіў Праўдзін, пытаўся пра свае апавяданні. Дамовіліся заўтра ці паслязаўтра сустрэцца.

Званіў яшчэ Макоўскі, цікавіўся лёсам сваёй аповесці. Яшчэ я не прачытаў. Быў Багданаў, паэт, ён часам заходзіць да Сіпакова. Казаў, што Міхась Стральцоў цяжка хворы, у Бараўлянах пасля аперацыі, цяпер у рэанімацыі. Толькі нядаўна адзначыў сваё 50-годдзе, і вось, калі ласка, такая бяда!

Быў званок з Літфонда — заўтра пасяджэнне праўлення ў 16 гадзін.

Пасля працы схадзіў у «1000 драбязы», раніцай заходзіў купляць паперу і не ўзяў рэшты 3 рублі. Як ні дзіўна, аддалі. А я ўжо думаў, што накрычаць і скажуць, што стары вымагацель хоча вырваць у іх тры рублі.

Вечарам скончыў урэшце Янеца, ажно забалела галава. Ці я ўжо страціў усякі густ, але мне ён здаецца цікавым. Ёсць трохі наіўнасці, але няма пустаты, ёсць падзеі і нават трохі характары.

Пачатак паўстання Касцюшкі мо трохі спрошчаны, надта ўжо хітрая ў яго атрымалася Рэгіна, былая пакаёўка ксёндза Мысліка.

Галя ў 8 вечара паехала ў горад на спатканне з палякамі, і вось 12 ночы, а яе яшчэ няма. Што там такое магло здарыцца? Няўжо дагэтуль не нагаварыліся?

**6 жніўня, чацвер**

Зранку паехаў на сустрэчу з Германам, спаткаліся ля Чырвонага касцёла. Потым ішлі пешшу па вуліцах, аглядалі горад. Па Валадарскага, пасля Рэвалюцыйнай, выйшлі на Пляц Волі, зайшлі ў царкву, там цяпер рамонт, пасля па Бакуніна на Нямігу, на Горкага, агледзелі рэстаўраваныя дамыдомікі, заходзілі ў той, дзе я некалі жыў — Горкага, 21. Цяпер там фатаграфія, а побач бар «Ласунак», прадаецца гарачае малако. Зроблена ўсё добра, пад старадаўнасць. Паглядзелі выставу дасягненняў народнай гаспадаркі, на жаль, самазвалаў не было, былі адны толькі вялізныя шыны бабруйскай вытворчасці. Агледзелі Оперны, пабылі ля помніка Максіма Багдановіча, прайшлі па скверы Янкі Купалы, бачылі палякаў, ім малады гід расказваў па-польску пра Янку Купалу, пра дасягненні. Да рэвалюцыі беларусы не мелі мастацтва, развітай літаратуры, мова забаранялася і г.д.

На Кастрычніцкай селі на метро, пасля аўтобусам № 59 ехалі да нас. Папалуднавалі — і я пайшоў на працу. Сёння аўтараў амаль не было, нешта станіліся. Не пазваніў нават Праўдзін, мо хіба будзе званіць заўтра.

Заходзіў у «Звязду», Алена Ціхановіч сказала, што абодва апавяданні (Праўдзіна і Шалкевіча) ухвалены сакратарам, так што надзея ёсць. Пабыў да 16-ці і паехаў на Літфонд, сёння была справаздача дырэктара Дома творчасці Каваленкі. Гаварыў ён добра, самакрытычна — усім спадабалася. Востра стаяла пытанне пра дзяцей — браць іх ці не браць. Вырашылі, што Дом творчасці павінен быць сур'ёзным і ціхім — каб можна было працаваць, а не ператвараць яго ў дом адпачынку для дзяцей пісьменнікаў, мо так будзе і лепш. Але паўстае пытанне: а куды дзяваць дзяцей?

Бачыў Міклашэўскага. Казаў, што з сакратароў цяпер адзін Жук на рабоце, астатнія ў адпачынку. Гаварылі пра Антановіча — як ён нечакана загрымеў. І ўсё праз сваю абачлівасць — баяўся перагнуць палку ўлева, узяў управа — і на табе, не ўгадаў, прамахнуўся.

**7 жніўня, пятніца**

Зранку паехаў на дзяжурства. Чытаў апавяданне Праўдзіна. Тэма вельмі адказная — як п'яніца-сын замарозіў матку на балконе, бо не давала грошай на гарэлку. А ў яго ўсё зроблена на жывую нітку, без належнага майстэрства.

Было некалькі званкоў, пыталіся Сіпакова, Янішчыц. Мне прапанавалі нейкае выступленне ў кнігарні, праўдзівей, не мне, а хацелі знайсці чалавека, які рэдагаваў Аўрамчыка, каб недзе выступіць перад чытачамі. Калі ўрэшце ім спатрэбіцца хто яшчэ, акрамя Левановіча, то і я не адмоўлюся. Але самому напрошвацца няёмка.

Зайшоў нечакана Мікола Грынчык, ён прыходзіў у «Камуніст Беларусі» з рэцэнзіяй на фальклорныя нашы выданні, не было Кацюшэнкі ў аддзеле крытыкі і бібліяграфіі, і ён яго чакаў. Пагаварылі пра Міхася Яроша, пра яго нялёгкі шлях у інстытуце, як яго баяўся Навуменка — каб хаця Ярошаў цень не ўпаў на яго светлую асобу.

Гаварылі пра Гарбачова — як яму цяжка ламаць усе нашы старыя ўяўленні пра чалавека, грамадства, уладу, камунізм і г.д. Пра Айтматава, Астаф'ева, Рыбакова.

Пазваніў Іван Капыловіч, трохі пагаварылі, ён нядаўна вярнуўся з Палесся, а яшчэ далей — з Крыма, з Сакаў. Казаў, што там спёка. Праязджаў недалёка ад Чарнобыля, быў у адной пустой вёсцы. Страшны малюнак — усё як вымерла, агароды, двары пазарасталі бур'янам і пустазеллем, травой, няма нічога жывога. Жах агортвае душу.

Ездзіў пасля 15 у Дом літаратара, узяў заказ. Адтуль махнуў да Рапановіча, сазваніліся днём. Ён мне расказваў, як даставаў сабе пуцёўку ў санаторый па прафсаюзнай лініі і як нічога не дабіўся. Як хацеў узяць даведку ў дактароў, што ён можа праходзіць ці праводзіць адпачынак у санаторыі — і як яму не далі такой даведкі, бо што калі ён... калі з ім... раптам... Я сказаў, каб ён напісаў ліст Чазаву або ў «Мед. газету», хай бы людзі падзівіліся з нашай бюракратычнай медыцыны.

У «Праўдзе» артыкул Шмялёва пра сямейны падрад:

«В ряде случаев можно было бы даже ликвидировать колхозы и совхозы, а заключение договоров с коллективами родственников возложить на местные органы власти… Это, по видимому целесообразно в хронически убыточных хозяйствах…»

Відаць, толькі такім чынам можна будзе прымусіць зямлю радзіць так, як трэба чалавеку.

**10 жніўня, панядзелак**

Напісаў заяўку, заўтра панясу ў выдавецтва «Мастацкая літаратура» свой раман, які стварыў 18 гадоў таму. Трохі пачытаў для пробы — хто ведае, як яго сустрэнуць. Ёсць непасрэднасць, наіўнасць нават. Хоць мне тады было ўжо амаль 40 год. Не амаль, а 41. Памятаю, што быў ён для мяне цяжкі — па сямейных адносінах. Усё гэта там трохі і занатавана.

На рабоце быў Праўдзін з аўтараў, пагаварылі пра яго апавяданні. Узяў яшчэ раз на дапрацоўку — два з маімі заўвагамі, а два — з Далідовічавымі.

Яшчэ заходзіў Іван Капыловіч, трохі пагуляў з Дайнекам у шахматы. Казаў, што яго родная сястра, можна сказаць, пры смерці. Рабілі аперацыю, але пайшлі метастазы ў печань. Страшэнныя болі, і ўсё горш і горш. Двое малых дзяцей, старэйшы сын у арміі. Так што Капыловіч перажывае нялёгкую пару.

Далідовіч мяне «ўзрадаваў» — сказаў, што дзявяты нумар «Маладосці» давядзецца мне рэкламаваць. Усе ўжо былі заняты ў рэкламе, адзін я выкручваўся. Галоўны пайшоў у адпачынак, цяпер Далідовіч адзін.

Пасля працы пазваніў Іры Крэнь, дамовіліся сустрэцца. Пасядзелі, пагаварылі — пра нашу літаратуру, пра моўныя праблемы, пра Рапановіча. Прабыў у іх пару гадзін, вяртаўся пад дожджыкам.

Вечарам званіла цётка Марыя, расказвала пра свае беды: не паспела выздаравець, як Вадап'янаў аб'явіў ёй, быццам бы сходзіцца з першаю жонкай. Але высвятляецца, што ў яго аб'явілася палюбоўніца, з якою ён і збіраецца звязаць свой лёс. А чалавеку 70 год. Вось гэта сюрпрыз!

**11 жніўня, аўторак**

Пасля снядання паехаў у выдавецтва «Мастацкая літаратура», на прыём да дырэктара. Давялося чакаць з паўгадзіны, у яго былі госці з «Савецкай Беларусі», дамаўляліся пра рэкламу выдавецкай прадукцыі, заходзілі загадчыкі рэдакцый. Чакаў і Асіпенка, але пасля пайшоў. Казаў, што яго раман пераносяць у плане на год назад. Я дачакаўся, пакуль госці пайшлі, і зайшоў да дырэктара. Аказваецца, я яго ў твар ведаю, ён мяне таксама: Міхась Дубянецкі з «Ураджаю». Пагаварылі спачатку пра маю аповесць «Кожны чацвёрты». Ён яе яшчэ не прачытаў. Ці яна рэцэнзавалася — не ведае. Адным словам, адцяжка часу. Але пабачым, як будзе ісці справа далей. Сказаў і пра новы раман, які я прынёс. Дамовіліся, што я аддаю яго ў рэдакцыю прозы. Так і зрабіў, аддаў загадчыку рэдакцыі Рубанаву. Былі яшчэ рэдактары Пяршай і Кананові ч. Бачыў Шупеньку, Яўсеева. У Алы Куліш — вялікае гора, памёр яе муж, Грыша Куліш, украінец, добры таварыскі чалавек. Яму было недзе 50 з нечым. Яўсееў казаў, што ў іх доме мужчыны сярэдніх год мруць адзін за адным.

На рабоце было даволі ціха. Пазваніў Міклашэўскі, сказаў, ці не паехаў бы я ў Вільнюс на пахаванне Жукаўскаса, у СП нешта не знаходзяць чалавека. Яшчэ заходзіў мой сябра Пякарскі, трохі пагаварылі на калідоры. Дамовіліся недзе ў пятніцу спаткацца.

**12 жніўня, серада**

Зранку накрапваў дожджык, як восенню. І на дварэ холадна, ніжэй за 10 градусаў.

Хадзіў у горад, купіў «Літгазету». Пасля яшчэ заходзіў у магазін.

На працы было некалькі званкоў — ад Какорыча, Рабянка, Шарашэўскай.

Званіў таксама Арлоў, пытаўся пра сваю аповесць.

Заходзіў Грахоўскі, забраў карэктуру сваёй аповесці, быў рады, як пачатковец. Кацюшэнка паехаў у камандзіроўку, але я занёс яго карэктуру ў «Кам. Беларусі», аддаў сакратару Дубовіку.

Заходзіў Зайцаў, прыносіў дапрацаваную аповесць «Гарадскія кветкі» — пасля заўваг Дайнекі, які прачытаў яго рукапіс. Дамовіліся яшчэ, што варта пачакаць з яго гістарычнай рэччу, якую ён цяпер канчае, але частку якой даваў мне ўжо даўно. Тым больш, што яна прысвечана часу паўстання Кастуся Каліноўскага.

Я буду дзяжурным па 9-м нумары. Дайнека ўручыў мне карэктуру. Пазваніў Казятнікаў, сустрэліся ля Дома друку ў канцы працы. Развітаўся з Тармолам, які прыехаў да Янішчыц ці яшчэ да каго, і мы з Казятнікам паехалі да нас. Павячэралі, пасля шмат гаварылі, а пасля глядзелі перадачу «Пазіцыя». Пазіцыя была цікавая — хутчэй вялікадзяржаўная. Інтарэсы нашых нацый і рэспублік абараняла большасць — Салавухін, Алейнік, прадстаўнікі Кіргізіі, Грузіі. Казахі

**З успамінаў Івана КАПЫЛОВІЧА**

***НА КАРЛА МАРКСА, 40***

***Азіраючыся назад, у той час, калі я рабіў першыя крокі ў літаратуры, згадваю другую палову васьмідзясятых. Менавіта тады мае апавяданні і аповесці былі надрукаваны ў часопісе «Маладосць». Рэдакцыя месцілася тады на другім паверсе будынка ЦК ЛКСМБ, што на вуліцы Карла Маркса, 40. У аддзел прозы часопіса я заўсёды ішоў з асаблівым хваляваннем і ўтрапеннем. Уладзімір Дамашэвіч, чалавек у беларускай літаратуры к таму часу вядомы і сваімі празаічнымі творамі, і тым, што даваў «дабро» на друкаванне твораў Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Барыса Сачанкі, Анатоля Кудраўца, а таксама маладых аўтараў, не расчароўваў мяне ў сваіх чаканнях і спадзяваннях — пачуць словы, якія стануць грунтам для далейшай творчай працы, для роздуму, дадуць упэўненасці і веры, што я ўзяўся пісаць прозу невыпадкова, што раблю сваю справу годна. Уладзімір Максімавіч — чалавек і рэдактар добрай, спагаднай натуры. Ён знаў, якія словы сказаць кожнаму, хто не пабаяўся гэтай салодкай катаргі — пісьменніцкага лёсу.***

гаварылі цьмяна. Добра ўключыўся апаратар і сказаў пра сабор Хрыста Спасіцеля, які быў узарваны — бо ён нагадваў пра дружбу ўсіх народаў, якія насялялі тады Расію. Архітэктура Ленінграда больш касмапалітычная, і яна менш за ўсё была знішчана, а што рускае, нацыянальна выражанае — тое выкаранялі.

Пасля Баравік папраўляў яго, закрануў «Памяць». Асабліва ярасна абараняў вялікадзяржаўныя пазіцыі новы Юры Жукаў, ці не сын таго Юрыя, што ўжо сыходзіць са сцэны. Але абодва нізкалобыя.

**15 жніўня, субота**

Сёння засеў за карэктуру, але пацягнула да свайго сшытка, да 16 гадзін пісаў. Канчаў 29-ы раздзел, але яшчэ не скончыў. Канцоўку да яго ўжо знайшоў, яна не такая, як была ў першым варыянце. Але пабачым, як яна ляжа, як будзе стасавацца.

Па абедзе ездзіў у горад, трапіў пад дождж. Купіў «ЛіМ», купіў нават бульбы, яшчэ Галі сшыткаў, фламастэраў. У «ЛіМе» не надта каб шмат цікавых матэрыялаў. Нешта «ЛіМ» стаў глухнуць. Ці то рэдактар вінаваты, ці аўтары? Чаму вось ты, братка, сам не папішаш? Не крыўдуй, што тваё выступленне не надрукавалі, яно надта рэзкае, анархічнае на наша ўспрыманне, ні вока ні бока. Мо трэба будзе падумаць...

Карэктура чытаецца добра, набрана амаль без памылак. Матэрыялы ў асноўным цікавыя, так што нумар павінен быць неблагі.

Было некалькі тэлефонных званкоў — званіў Алесь, малы Герман — ён яшчэ не паехаў у Ленінград.

За заўтра неабходна прачытаць прозу.

**17 жніўня, панядзелак**

Дождж супакоіўся, раніца сухая, але неба было ўсё зацягнута хмарамі. Чакаць пагоды не даводзілася.

Прачытаў Кацюшэнку, яшчэ ўчора. Грахоўскага не паспеў, ды і вычытваць там не было чаго. Старыя аўтары вычытваюць сябе лепш за маладых.

У 11 гадзін пачалі зводзіць карэктуру. Ішло ўсё добра. Зайшоў Косця Цвірка, прынёс карэктуру і нейкія сур’ёзныя заўвагі. Па прозе не было толькі карэктуры Скарача, афіцэра Савецкай Арміі, родам з Драгічынскага раёна. Яму не выслалі нават карэктуру. Ды і не бяда — усяго адно апавяданне. Грахоўскі і Кацюшэнка прачыталі сваю долю.

Недзе да 13 гадзін усё звялі, набрана, як усе прызналі, было добра, спрэчак зусім мала.

Пасля 14 я застаўся, як звычайна, на рабоце. Была нейкая мажлівасць даць апавяданне Дубоўскага, але пасля высветлілася, што спадзяванні дарэмныя — жанчына, якая замяшчае нашу Яніну, памылілася і сказала, што ёсць яшчэ месца на некалькі апавяданняў.

Былі званкі — ад Рублеўскага з Віцебска, яго я не прачытаў, ад Галіцкага — не прачытаў таксама.

Заходзіў Капыловіч Іван, трохі пасядзеў, быў Шайдаў з Оршы, але як быццам заходзіў проста так, без мэты, аповесць я яму вярнуў. Заходзіў Клімковіч Максім, пагаварылі пра яго апавяданні. Яшчэ адно, вялікае, ён прынёс нядаўна, і я яго не паспеў прачытаць.

**19 жніўня, серада**

Сёння быў дзяжурны, але неяк забыўся пра гэта і ўспомніў толькі пасля, як ужо

выйшаў на работу. Купіў «Літгазету», здаецца, цікавая. Але цяпер так выходзіць, што няма часу чытаць. Чытаў, нп., Арлова, пачытаў у «Известиях» артыкул з Туркменістана «Патроны на вынас» — як лёгка можна раздабыць для злачынца не толькі аўтамат, але і гранаты, і мо што большае. Урэшце загаварылі пра разгільдзяйства ў арміі, а то там было ўсё шыта-крыта, ніхто не меў права сунуць нос у іх армейскія сакрэты. А там, дзе сакрэты, то так і ведай, што хаваецца бардак.

На рабоце пісаў свой сцэнарый для рэкламы «Маладосці» № 9. Яшчэ трэба будзе толькі сагітаваць Грахоўскага, Кацюшэнку і Цвірку для гутаркі ў студыі.

Заходзіў Янка Галубовіч з Маладзечна, вельмі скардзіўся, што яго не друкуем. Заходзіў Ул. Цвяткоў, пагаварылі пра яго справы. Адно апавяданне я яму вярнуў — яно мала падобна да прозы. А фантастыка мо і пойдзе, яшчэ Далідовіч не дачытаў.

Быў Ягоўдзік, расказваў, як ён змагаецца за беларускі клас у сваёй, суседняй, школе, якія прымаў захады: напісаў ліст Сакалову і Сухнай, хадзіў у райана, у школу да дырэктара Меяровіча, на кватэры да бацькоў будучых першакласнікаў. Магчыма, што і адкрыюць клас.

Вечарам яшчэ дапісваў свой сцэнарый. Нешта вялікі атрымліваецца, Галя тут жа друкуе. Яна заўтра хоча ехаць у Лебедзева, да Крыстыны. Я ўжо напісаў віншаванне, ёй 16.08 было 11 год.

**20 жніўня, чацвер**

Зранку вычытаў перадрукаваны Галяю сцэнарый, пазваніў Шлегу, дамовіўся, што завязу яму на тэлестудыю. Так і зрабіў, аддаў міліцыянеру на прахадной, а Шлег пасля забярэ, бо ён нешта запісваў з 10-ці гадзін.

Па Валгаградскай зайшоў да Клімянковых, быў палкоўнік у «штабе» — на верандзе, якую мы празвалі «штабам». Ужо трохі падобны да здаровага чалавека, казаў, што ногі слаба трымаюць. Яшчэ фактычна не есць, а толькі п’е — булёны, адвары, узвары, чай. Пахудзеў, твар стаў нармальны, а то быў адутлаваты, з абвіслымі круглымі шчокамі. Паменшаў і жывот. Адным словам, чалавек прыходзіць у норму. А то важыў 125 кг. Гэта вага небяспечная.

На працы пазвоньвалі, прыходзілі аўтары.

Пазваніў Саковіч Павел, спытаўся пра сваю аповесць. Дакутовіч таксама — Далідовіч яго яшчэ не прачытаў. Аляксейчык спытаўся пра гумарэскі.

Аб’явіўся новы аўтар — Зубараў, які носіцца з тэмаю Багдановічы і Горкія-Пешкавы. Напісаў дакументальную аповесць, збіраецца абараняць дысертацыю. Вось і мне прынёс сваю работу, хоча паказаць на прадмет надрукавання некалькіх урыўкаў.

Яшчэ не ведаю, але здаецца, што там яго ўласнага нічога няма, ёсць толькі клей, якім ён склейваў цытаты з перапіскі Адама Багдановіча і Максіма Горкага.

Пасля працы заходзіў у «Несцерку», думаў купіць ці пaглядзець сабе шапку, але на мае грошы не было.

Вярнуўся дадому — Галі яшчэ няма, не вярнулася з Лебедзева. Прыехала недзе ў гадзін восем.

Маладыя купілі нарэшце халадзільнік, ледзь упакавалі яго на кухні. Галя пасля расказвала пра Крыстыну. Што добрае малое, што вельмі дысцыплінаваная, але кажа, што ўцячэ ад маткі з Эстоніі ў Мінск, да бабы Галі.

**21 жніўня, пятніца**

Зранку дачытаў аповесць Арлова «Час чужы», 70 ст. Твор цікавы, філасофскі, мо трохі схематычны, рацыяналістычны, але чытаецца на адным дыханні, выклікае роздум над лёсам чалавека і яго народа. Пра лёс таленавітага чалавека і яго немагчымасць аддаць увесь свой талент народу, бо ёсць сілы, якім гэта зусім не трэба — ім добра і без тваго таленту, а, галоўнае — спакайней: нічога не трэба рабіць, толькі чакай, што табе скажуць, а ты спускай гэта ўніз. Вось і ўвесь сакрэт поспеху.

Аповесць напісана пра Гусоўскага, 1521 год, але яна, як ні дзіўна, сучасная.

Пазваніў Шлегу, ён сказаў, што запіс нашай рэкламы будзе 25-га вечарам, каб мы былі гатовы.

На рабоце чытаў Салаўя, але мала. Прыслала сярдзіты ліст Мальчэўская, скардзіцца на свой лёс і маю нячуласць да яе і наогул, што я папрасіў яе прыслаць «светлае» апавяданне, каб дадаць да таго «цёмнага». Што я перарадзіўся і дрыжу толькі за сваё крэсла.

Вось, аказваецца, які я. А мне некаторыя кажуць, што я ліберал і крамольнік.

Заходзіў Арлоў, ён едзе да цешчы, забі-

раць дзяцей. Пагаварылі пра яго аповесць. Разам ехалі да Дома літаратара, я забіраў заказ. Яшчэ заехаў на працу, быў Капыловіч, трохі пагуляў у шахі з Дайнекам. Сёння ў яго крыху лепшы настрой.

Ждановіч рабіў рэпартаж з завода, нешта пра перабудову. Кажа, што шмат цікавага, але, як ні дзіўна, яшчэ не пра ўсё можна пісаць.

Пасля працы спаткаў Пякарскага, з'ездзілі да яго, перакусілі, а потым схадзілі на возера, паглядзелі, што там цяпер робіцца. Сядзяць толькі вудары, плавала некалькі лодак. Вада ў параўнанні з ранейшым спала.

Вярнуўся ў 21 гадзіну. Галя прывяла дадому Крыстыну, не ведаю, дзе яны былі днём. Крыстыну не пазнаць — 11 год.

**22 жніўня, субота**

Зранку было надта шумна ў кватэры, нават здавалася цесна. А прыбавіўся ўсяго адзін чалавек — Крыстына. Вырашылі, што яна будзе жыць у нас, учора яе ўжо запісалі ў 108 беларускую школу ў пяты клас. Рашэнне гэтае прыняла сама Галя, спачатку я на яе накрычаў, а пасля, як яна расказала, у якіх умовах там жыла Крыстына ў Эстоніі, што яна фактычна адна, бо маці зранку да вечара на працы, то я перамяніў думку. Там месца небяспечнае, новабудоўля, шахцёрскі сланцавы пасёлак, шмат былых зэкаў, публіка страшная. Хай будзе так, як Галя сказала. Ёй то будзе цяжка, гэта факт, але хай выхоўвае ўнучку, яна пра яе ўвесь час думала і плакала.

І вось сёння яны, баба і ўнучка, паехалі ў Лебедзева, забіраць Крыстыніны рэчы, яна ўжо застанецца ў нас. Каб толькі ўсё было добра...

Я прачытаў вялікае апавяданне «Сын разведчыка» Новікава з Горкаўскай вобласці, ён быў разведчык, і ваяваў разам з хлопцам з 30-га года, Сашам Шамянковым, які цяпер жыве ў Мінску. Апавяданне дакументальнае, трэба будзе аддаць яго ў аддзел нарыса і публіцыстыкі.

Галя з Крыстынай прыехала недзе ў гадзін 6 вечара, казала, што там, у Лебедзеве, быў цэлы бой, Крыстыну не пускалі, а яна ні за што не хацела заставацца. Галоўны матыў — што ў Люды, Крыстынінай маці, забяруць кватэру, бо яна атрымлівала яе як маці-адзіночка, відаць, двухпакаёвая. Вось для чаго ёй патрэбна дачка! Ужо адну кватэру адсудзіла ў першага мужа — Жоржа, цяпер атрымала другую — зноў на дачку. А чалавечага догляду дзіця не бачыла, і таму ірвецца ад маткі да бабы, менавіта гэтай, а не той бабы і дзеда, якіх яна не любіць, бо іх няма за што і любіць.

Я за дзень так нікуды і не выйшаў, нават не купіў «ЛіМа». Дапісаў сваё кароткае выступленне на настаўніцкай канферэнцыі, якая будзе недзе ў наступную пятніцу. Пасля пачытаў яшчэ апавяданне Галіцкага, пра будаўнікоў. Трохі расцягнута, але пісьменна, што цяпер не часта здараецца.

**23 жніўня, нядзеля**

Сёння ўжо сапраўднае лета, людзі нават купаліся, загаралі на нашым канале. Было днём недзе 25 градусаў. Мы сям'ёю: я, Галя, Крыстына і Філя — выходзілі таксама, пасядзелі ў траве на другім беразе, чыталі хто што. Я чытаў «Звязду» — пра Ігнатоўскага. Урэшце ўспомнілі пра Ігнатоўскага! Ігнаценка і Кароль даюць агляд яго навуковай дзейнасці, але павярхоўна, аглядна, бяздоказна. І канчаюць вялікі артыкул так: «У студзені 1931 года У. М. Ігнатоўскі быў выключаны з партыі як нацыянал-ухіліст». Узнікае пытанне: правільна яго выключылі? Правільна расстралялі? Відаць, па іх канцоўцы мяркуючы, што правільна. А чаму не паказаць яго гэты «нацыянал-ухілізм»? Чаму не расказаць народу, чаго ён хацеў, у які бок быў яго ўхіл? Мо якраз туды, куды трэба?

Выходзіць, што яго навуковыя работы не будуць надрукаваны? Гэта адказ Янку Брылю, які гаварыў на пленуме, што трэба выдаць гістарычныя працы Ігнатоўскага. Адным словам, Ігнатоўскі — не, Ігнаценка — так! Выдаваць не трэба, бо будзе відаць, дзе спісвалі цяперашнія гісторыкі ў Ігнатоўскага, дзе «паляпшалі» і «асучаснівалі», «аб'ідэйвалі».

Зранку трохі сядзеў над сваім сшыткам, але ішло цяжка. Заключныя раздзелы, і хочацца хутчэй скончыць, і хочацца, каб было лепш, каб чытач не лаяўся і не пляваўся — некалі, як будзе апублікавана. Але калі гэта будзе... Аднак жа — трэба спадзявацца. Бо ўжо тое, што я насіў у выдавецтва — «Камень з гары», — пачало варушыцца.

На гэтым тыдні заходзіў у рэдакцыю Алесь Марціновіч, нешта прыносіў Сіпакову і сказаў, неяк між іншым, што Мушынскі чытае мой раман і будзе пісаць рэцэнзію для выдавецтва. І што як быццам яму падабаецца... Будзем чакаць! Калі будзе надта крытычная, то папрашу даць на другую — ужо не з прыхільнікаў Адамовіча, а з яго праціўнікаў.

Прачытаў яшчэ дзесяць старонак ці больш апавядання Галіцкага. Стыль добры, але надта зацягваецца дзеянне, і хоць ёсць канфлікт, ды ён неяк вяла раскручваецца, абрастае нейкім пабочным неабавязковым матэрыялам.

Званіла сёння нам Марыя Вадап’янава, пагаварылі пра яе справы. Як быццам ёй лепш, ужо няма такога болю, рана пакрысе закрываецца, хоць яшчэ не ўсё скончылася. Затое не зажыла яшчэ рана сэрца, якую зрабіў Вадап’янаў. Казала, што і яна напісала паперу ў іх парткам, хай ведаюць, які сумленны ў іх камуніст.

Я званіў Грахоўскаму, дамовіліся, што ён будзе прымаць удзел у нашай рэкламе 9-га нумара «Маладосці» ў аўторак. Не дазваніўся толькі Кастусю Цвірку, відаць, недзе на дачы.

**З успамінаў Івана КАПЫЛОВІЧА**

***АТМАСФЕРА Ў «МАЛАДОСЦІ» СПРЫЯЛА МАЛАДЫМ***

***Тагачасная атмасфера ў «Маладосці» спрыяла маладым. І галоўны рэдактар Васіль Зуёнак, і яго намеснік Генрых Далідовіч, і рэдактары аддзелаў Уладзімір Дамашэвіч, Пятрусь Макаль, Сцяпан Кухараў, Янка Сіпакоў сустракалі кожнага аўтара ветліва і шчыра. Супрацоўнікі «Маладосці» не толькі рабілі слушныя заўвагі, але і распытвалі пра тое ды пра гэтае, дзяліліся сваімі сакрэтамі творчасці. Малады аўтар, безумоўна, адчуваў сябе больш упэўнена, быў удзячны за цеплыню і словы, якія літаральна краналі, наводзячы на глыбокія роздумы — пра жыццё, пра людзей, пра сябе…***

**31 жніўня, панядзелак**

…На працы былі званкі — пазваніў Дакутовіч, спытаўся, як яго аповесць. Далідовіч яе прачытаў, будзем гаварыць недзе на днях.

Званіў Санько, мо я яго прачытаў?

Заходзіў Падневіч, прынёс дапрацаваную п’еску. Быў Кавалёў, гаварылі пра яго фантастычныя апавяданні.

Заходзіў Зайцаў, прынёс частку свайго гістарычнага твора. Затым пазваніў прафесар Залескі, хоча мяне бачыць і нешта сказаць.

З работы прыйшоў позна, у 7 гадзін, трапіў пад дождж ля самага дому. Бачыў гарадскую вясёлку, яна нават ляжала адным канцом на вуліцы, за метраў 10. Магутны дождж ішоў (нават з рэдкім градам) так, што сонца не было закрыта на захадзе, і вось за метраў 50 ад нас, што моклі пад каштанам на Сталетава, стаяў нахілены слуп вясёлкі. Нават дзеці крычалі: «Мама, радуга!»

Мо гэта вясёлка прадракала мне ўдачу? Зноў заявіліся госці — чакалі мяне ля дзвярэй — сказалі, што са школы. Але адна была з суда, тая самая судовы выканаўца. Дома ўжо была Наташа з Данем, а Жорж пайшоў у магазін. Раз са школы, то я ўпусціў 2 жанчын, мільганула і трэцяя — Людміла.

Хутка зайшоў Жорж, вельмі рашучы, зачыніў дзверы перад носам ва ўчастковага. Пасля я яго ўпусціў. Ён пагражаў напісаць пратакол, але пасля мы разгаварыліся, ён супакоіўся. Жорж гаварыў з судовым выканаўцам і прадстаўніком школы і райана, аддзел апекі. Гаварылі яны доўга, сварыліся, спрачаліся, я з участковым сядзеў на кухні. Жоржу актыўна памагала і Наташа. Урэшце праз гадзіны дзве ці больш перагавораў судовы выканаўца сказала, што пытанне вырашана, што яна больш сюды хадзіць не будзе, што ніхто нас таксама турбаваць не будзе; дзяўчынка хай смела ідзе ў школу. Яны ўсё выходзілі вясёлыя, мы таксама былі рады, што так скончылася. Як быццам Жорж пры дапамозе двух кодэксаў даказаў, што праўда на яго баку. Бо пасля дзесяці гадоў дзіця мае права выбіраць, з кім яму быць — з бацькам ці маткай. А хутчэй за ўсё яны пераканаліся, што бацька для дзіцяці будзе лепшым, чым маці. Яны яе ўжо, няйначай, раскусілі.

Быў задаволены і ўчастковы ст. лейт. Касабуцкі, пратакол не стаў складаць.

Мы яшчэ ўсе трохі пашумелі, пагаварылі і пайшлі спаць. Нібы гара з плеч звалілася. А то я днём адчуваў сябе кепска — ціснула сэрца, у грудзях нібы нешта тлела.

Кася ГЛУХОЎСКАЯ

# ПАНЧАНКА. ГІСТОРЫЯ ЧАЛАВЕЧАЙ ШЧЫРАСЦІ



***У розных людзей розныя меркаванні наконт сапраўднай паэзіі. Адны, як Уладзімір Жылка, апяваюць хараство, як Багдановіч, стаяць за мастацкую дасканаласць і выверанасць радка. А ў творчасці іншых заўважаеш не столькі мастацтва, колькі паталагічную шчырасць аўтара: па-дзіцячы наіўную, простую. Шчырасць, якая ў захапленні ад самой сябе і якая прыводзіць у захапленне іншых.***

Некаторых паэтаў любіш як паэтаў — за адно іх майстэрства. Але сапраўдныя творцы выкарыстоўваюць талент выключна для таго, каб перадаць нешта важнае — асабіста для іх і для ўсяго чалавецтва. У вершах такіх аўтараў паўстае найперш не лірычны герой, а жывая асоба, і творчасць яго стаецца больш асабістай. Толькі не ў сэнсе інтымнай, а ў плане шчырасці з чытачом. Менавіта пра такіх аўтараў можна сказаць: «Я люблю яго не як паэта, а як гуманіста». На мой погляд нязменна пераважае нешта адно.

У шэрагу тых, чыё чалавекалюбства заўсёды было не менш важнае за майстэрства, найперш хочацца назваць імёны Анатоля Вярцінскага і Пімена Панчанкі. Быць можа, менавіта таму іхнія творы такія ўдзячныя для цытавання: уражвае канцэнтрацыя думкі ў фразе. «Бо без чалавечнасці не будзе вечнасці», — сказана проста і тым больш трапна.

Западае ў душу, з якой настойлівасцю паэт Пімен Панчанка стараецца апраўдаць — ні больш ні менш! — увесь гэты свет.

Дабрадушны я
Альбо сярдзіты,
Весела бывае
Ці нявесела —
Я штодня
Мяняю гнеў на літасць, —
То маё прызванне
І прафесія…

Усе яго словы нясуць пячатку нязбыўнай, зацятай дзіцячасці. То бок шчырасці. Умення і здзіўляцца, і радавацца, і расчароўвацца на поўную моц, без нейкіх сталых абмежаванняў. Нібы ён кожны дзень пачынае нанава, абсалютна не памятаючы, на што здольны свет. Ён дзівіцца — то з болем, то з ухваленнем — на тыя рэчы, якія мы прызвычаіліся не заўважаць, нібы сам факт іхняга існавання ўжо не з'яўляецца цудам.

Асабіста для мяне дагэтуль пранізліва, велічна, як гімн гучыць немудрагелістае «цвітуць цудоўна крапіва з дзядоўнікам». Бадай гэта штандар незаўважанай прыгажосці, тых «вянкоў з дзеразы», якімі мы, па словах Міхася Стральцова, неабачліва пагарджаем. А Пімен Панчанка — захапляецца. І спрабуе раскрыць людзям вочы альбо, як будзе сказана ямчэй, зняць шоры з гэтых вачэй.

Ён задае пытанні, якія мы самі сабе даўно перасталі задаваць па пэўных нагодах. Але

дзякуючы таму, што гэтыя пытанні ставіць паэт, даецца новы шанец: не словам, не пытанням — нам. Таму што без адказаў жыць будзе ўсё больш складана, ажно да моманту, калі прасцей стане не жыць:

У вясёлым і добрым настроі быў Бог
І усякіх дзяцей ён прыдумаў у яснае ранне:
Дык чаму ж вырастае з дзіця абібок,
Гвалтаўнік,
І пляткар,
І забойца,
І здраднік?..

І праўда чаму? Прынамсі я адказаць не магу тым больш, усё часцей думаю пра гэта і, можа, таму вельмі хочацца проста не думаць. А гэтак нельга…

Зрэшты, і праўда Пімен Панчанка пачынае кожны дзень нанава, што лічыць — досыць абгрунтавана — правільным, заклікаючы ўсіх да такой навізны, шчырасці, чысціні пачуццяў:

Не старэйце, людзі, дачасна,
Нараджайцеся кожны дзень…

Але пры ўсім пры тым нельга сказаць, што гэты чалавек паўстае перад намі абсалютна святым, універсальным генератарам заклікаў і грамадскіх думак. Ён памыляецца не менш за астатніх і прызнае гэта, але з такім болем, з такім нязбыўным расчараваннем, што гэта з'яўляецца яму апраўданнем.

Складаны лёс паэта ў савецкую эпоху: мяжа шчырасці і сумлення там тонкая і вострая, як лязо. І колькі знявечаных людзей застаецца — складана сказаць. Але нават у тых лозунгавых, сацыялістычных, «перадавых» вершах Пімена Панчанкі дзівіць і захапляе іхняя даверлівасць. Калі Янка Купала быў вымушаны, проста за горла ўзяты неабходнасцю пісаць «савецкія вывершкі», то пастрэвалюцыйная творчасць Пімена Панчанкі больш нагадвае думкі чалавека, які, безумоўна, верыць у тое, што кажа і робіць. Хоць такая пазіцыя дзівіць і раніць. Не толькі чытача, але і самога паэта — праз нейкі час, па выкрыцці, па асэнсаванні глыбіні падману і самападману, ва ўладзе якіх ён знаходзіўся. Пра гэта сведчыць «Паэма сораму і гневу», вельмі балючая і рэзкая. І настолькі ж шчырая. Расчараванне, боль, сорам праступаюць усё мацней, даводзячы да роспачы. Але гэта не сорам за тое, што чалавек хлусіў наўмысна, а большы сорам за тое, што быў ва ўладзе хлусні, з'яўляўся яе шчырай зброяй, што сілы свае і свае намаганні, пераканаўчую чысціню накіроўваў у абарону таго, што вылілася ў злачынства і гвалт над людзьмі. Мінае час — і ён вымушаны задавацца пытаннямі, сумнявацца, акрэсліваць «схему жыцця» словамі: «Маем што маем. Нічога не маем». І разумець з жахам:

Я цэрквы закрываў,
Я абразы паліў,
Сялянскую магчымасць перапісваў.
І нюхалі нішчымныя палі
Кароў галодных
Родныя мне пысы…
Я ссёк сады,
Прынёс бяду лясам,
Я сеяў кукурузу на балотах…
Зямлю я разлюбіў…
А я пісаў пра дробязь…

З-за таго і больш зразумелымі становяцца словы, рэзкія для вершаў, але прымальныя ва ўмовах гнеўнага пакаяння: «Я рос бяздумным дурнем, як і ўсе»,

***Ён уражваў тым, што вельмі любіў сваіх унукаў. Усе пісьменнікі любяць сваіх унукаў, але Пімен Емяльянавіч любіў іх асабліва. «Я ўнука вяду ў Маўзалей» — гэта не дэкларатыўнае, гэта праўда. Калі пісьменнік ехаў на з'езд ці па розных іншых прычынах у Маскву, ён заўсёды браў з сабой жонку Зою Кірылаўну і ўнукаў. Пры яго знешняй маналітнасці, ён быў досыць вострым на слова, мог сказаць, не тоячыся, тое, што думае, пры тым, што яго паважалі і баяліся, такія моманты глядзеліся асабліва кранальна. Ён прасіў для ўнукаў білеты і месцы ў гасцініцы, як быццам гэта было самым галоўным у яго паездках. Напэўна, так і было.***

***Лета Пімен Емяльянавіч заўсёды праводзіў у Каралішчавічах: там сям'ю Панчанкаў чакаў дамок, самы звычайны, без усялякіх умоў. І гэты час ён праводзіў з жонкай і ўнукамі. І нават калі тэлебачанне прыязджала яго здымаць, то здымкі праходзілі «на фоне дзяцей».***

***УСПАМІНАЕ МІХАСЬ ШАВЫРКІН, БЫЛЫ ЗЯЦЬ:***

***— Памятаю, як запрасілі нас з Тацянай, дачкой Пімена Емяльянавіча, у кватэру на Пуліхава, 29, на сустрэчу за святочным сталом з нагоды рэгістрацыі нашага шлюбу. Я, вядома, саромеўся. Я ведаў яго творы, мне было пра што з ім гаварыць, але за тым сталом я маўчаў. Што ж я буду гаварыць у такіх абставінах? Ну, чокнуліся, выпілі. Зоя Кірылаўна гаворыць: «Закусвайце. Сала смачнае, вэнджанае, з Камароўкі». А Таццяна ў адказ: «Ён сала не есць». І тут я адчуў, што «папаўся»: ці то плечы Пімена Емяльянавіча падняліся, ці то галава ў іх уцягнулася, а вочы глядзяць на мяне, як пражэктары: «Ён сала не есць». Тады Зоя Кірылаўна кажа: «Дык вы сялёдачку вазьміце». А Таццяна зноў: «Ён сялёдкі не есць». Плечы Пімена Емяльянавіча адразу апускаюцца, і ён кажа: «Тут нешта ёсць. Давай за гэта і вып'ем». Вось так пры нашай першай сямейнай сустрэчы паміж першай і другой мы нават не закусілі.***

Можа быць, менавіта гэтая гнеўнасць дае зразумець, наколькі нечакана і балюча пісьменніку прымаць, усведамляць такія правіны, дзе яго асноўная віна — гэта няведанне.

Самае дзіўнае, што пра такія пачуцці вершаў не пішуць. Не пішуць так адкрыта. Не прынята называць нейкія рэчы настолькі сваімі імёнамі там, дзе пануе лірыка. А Панчанка гэта робіць. Відаць, ён не можа інакш…

І вера, і вернасць, і вечнасць,
І наш паэтычны туман —
А мо гэта ўсё недарэчнасць
І нейкі сусветны падман?

Зрэшты, ён задаецца страшным пытаннем: «Дык хто мы? Песняры ці хлусняры?» Разважце, чаго каштуе такое прызнанне ад паэта. «А я пісаў пра дробязь…», — самы бязлітасны вердыкт.

Не мы. Жыццё табе даўгі заплаціць.
За раўнадушша.
Вінаваты сам…

І ўсё-ткі з пэўнасцю можна заўважыць: Пімен Панчанка ніколі не быў раўнадушны! Ён мог памыляцца, мог ашуквацца, як і кожны з нас, хаця тое, што прабачальна для чалавека, для паэта і для настаўніка робіцца большым грахом… Але ў раўнадушшы абвінаваціць яго немагчыма. Як немагчыма ўпікнуць у няшчырасці, асабліва пасля прачытання ягоных дзённікаў, апублікаваных у часопісе «Полымя». Шчырае шкадаванне, што Пімен Панчанка не быў празаікам: яго празаічны стыль, яго нататкі вылучаюцца і мастацтвам, і нейкім асаблівым святлом слова… Здаецца, больш крыштальнага пісьменніка цяжка знайсці — вось што яго вылучае.

І хоць напрыканцы жыцця Пімен Панчанка пакідае нам сумныя, выпакутаваныя словы:

Родны Янка Купала,
Вы пісалі:
«Я веру — настане…»
Дарагі мой Іван Дамінікавіч,
Не, не настане!
Гэта ўжо не світанне,
Гэта наша настане змяркане,
Гэта з мовай маёй,
Гэта з песняй маёй
Развітанне.

— усё-ткі верыцца, што ягоная шчырасць, як і горкі вопыт, як і раскаянне, як і нязбыўны клопат пра гэты свет і імкненне пакінуць след — толькі светлы! — у чалавечай душы. След, які можа пакінуць толькі сапраўдная паэзія.



***З «Маладосці» яго знялі, таму што надрукаваў «Мёртвым не баліць» Васіля Быкава без дазволу «зверху». А праз «Маладосць» жа тады ішлі ўсе творы Быкава. І прыкладна тады ж гэты самы твор у перакладзе на рускую мову ў «Новом мире» надрукаваў Твардоўскі. На тым і супакоіліся, але Пімена Панчанку ўжо «кінулі» на камітэт міру.***

***Ішлі шасцідзясятыя гады…***

# З ДЗЁННІКАЎ ЕЎДАКІІ ЛОСЬ*

## *Лепельскае педвучылішча*
## *1946 год*

**2 студзеня 1946 года**

Ужо захацелася вучыцца... Напісала ліст капітану Недзікаву (прышле сваё фота) і аднесла на пошту 4 лісты. Потым былі на ёлцы ў школе, спявалі разам з вучнямі, чытала верш «Вучыцца», расказала пра вучобу ў педвучылішчы (дужа слухалі ўсе — і настаўнікі, і вучні, і бацькі). А сёння Маня і Маруся пайшлі ў госці ў Цвеціна. Я засталася, каб пашыць сабе кофтачку. Заўтра чакаем дзядзьку.

**3 студзеня 1946 года**

Вельмі папрацавала за дзень. Маня і Маруся прынеслі з Цвеціна Сяргейкава паліто і... гальштук (усё гэта ў час вайны і блакады было закапана ў зямлі, у скрыні, засталося цэлым). Як цяжка на гэтыя рэчы глядзець, як цяжка глядзець на маму (гэта ж яе сыночка паліто...). Душэўна неспакойная... Былі б умовы — занялася б паэзіяй.

Выпрасіла ў Жэні «Полное собрание сочинений» Л. Толстого. Чытаючы біяграфію яго, адзначыла сама сабе, што пачала «марать бумагу» з васьмі гадоў. Пасмяяліся ўсе разам, успомніўшы п'есу, якую я напісала яшчэ ў 3-м класе. Маня, Маруся, Каця і я «ігралі» яе ў бульвары (ён знаходзіўся побач з нашым домам на Бульварнай вуліцы). Якая цудоўная была пара жыцця і дзяцінства!

Талстой — ісцінны стваральнік цудоўнага! Трэба закончыць пачаты вершык…

**4 студзеня 1946 года**

Чытаю Л. Талстога і думаю, што дзень недарэмна пражыла. Камедыя «Дон-Жуан» такая чароўная, цудоўная па мастацкай апрацоўцы і павучальная (па прынцыпе класіцызму).

Увесь дзень прыходзяць людзі (і вось Алена Барысава, яна выходзіць замуж, дык я прашу, каб вяселле зрабіла). Гутарым пра жыццёвыя змены, выказваем незадаволенасць тым, што Коля, яе брат, а наш дзядзька, не дае пра сябе знаць. Успамінаем цётку Праскоўю і дзядзьку Трафіма, усіх родных, жывых і тых, хто не вярнуўся з вайны, фронту, партызаншчыны...

Прыехалі дзядзька Грыша і цётка Паша на нараду настаўніцкую. Дзядзька Курыла, які прывёз іх, расказвае франтавыя падзеі: як бралі фашысцкія акопы, пра немцаў-«смяротнікаў», пра нямецкі санітарны цягнік, пра трафейныя каманды і шмат такога, чаго яшчэ не чула.

**8 студзеня 1946 года**

Я вельмі ганаруся тым, што нас ніколі не забываюць людзі. На самай справе, што б гэта рабіў, калі б не суцяшалі людзі?

Засумавала я па педвучылішчы (асабліва па Галі).

Была ў сваёй школе на камсамольскім сходзе. Расказала пра работу камсамольскай арганізацыі педвучылішча, дапамагла скласці план работы, пакінула верш пра моладзь і Радзіму (камсамольцы школы папрасілі, сказалі, што змесцяць у камсамольскай «Кнізе гонару»). Цікава, трэба будзе паглядзець тую «кнігу».

З рання пачалі зборы ў дарогу. Хвалюецца мама. Вечар. Будзем пячы хлеб (далі маме мукі на ўсіх нас, па картках). Д. Асоўская прынесла пасылку для Вары (а ўсё больш цяжару). Мама зладзіла маленькія саначкі нам, пацягнем як-небудзь...

Пакідаем родны дом (пабіты асколкамі снарадаў), дарагіх маму і Маруську.

---

* Працяг. Пачатак у № 7 г. г.

**9 студзеня 1946 года**

Я — у Лепелі, у сваім жабрацкім «пакойчыку». Перабяру ў памяці падзеі дня, знаходжу, што атрымалася ўсё добра.

Паснедалі мы з Маняй у мамы дома, увязалі хатуль на санкі, пацягнулі іх за вяроўку, перакінутую на шыю. Так і рушылі з Ушач.

Але адразу стала зразумелым, што на санках не пацягнеш. Разгрузілі іх там жа, за ваколіцай (мама праводзіла). Узвалілі на плечы даволі цяжкія клункі (мама і хлеба дала, зберагала муку для нас, і бульбы насушыла, і круп атрымала і аддала нам, нейкае адзенне, абутак для зімы падрыхтавала, выпрошваючы ў людзей...) і зноў рушылі з вельмі горкім настроем... Што ж, ніхто нас не гоніць вучыцца, самі ідзём — так трэба працаваць! У мамы нічога не засталося з ежы, усё нам аддала, хоць мы і не хацелі браць, нават крыўдзіліся... Мама...

Перад вачыма — дарога, прамая, шырокая, роўная. Дзе-нідзе блісне люстэрка лёду, з-пад тоўстага пласту снегу выглядваюць камяні бруку. Роўна, як струнка, шагаюць адзін за другім тэлеграфныя слупы, ад подыху ветру іграюць сваю прывычную музыку струны-правады. Як марудна праходзяць кіламетровыя слупкі! Ідзеш, ідзеш доўга, цяжка несці, а яны, як наўмысна, адыходзяць адзін ад другога на вялікую адлегласць.

Дарога... Як часта хаджу я па табе, хаджу смела, вольна, любуюся лясамі і азёрамі, палямі і кусцікамі, якія з двух бакоў ідуць побач з табой. І розныя думкі натхняюць мой розум, калі я кожны раз праходжу табою, пакідаючы ззаду 45-кіламетровы адрэзак...

...Прайшоўшы 18 кіламетраў, мы пачулі гул машыны. Асмеліліся прыпыніць і папрасіцца даехаць. Добрыя шафёры-хлопцы трапіліся — узялі нас. Ехала шмат людзей. Гадзіны ў дзве прыехалі ў Лепель. Добры дзень, інтэрнат мой абгарэлы! Улезлі праз акно, вырвалі прабой (ніхто яшчэ не з'явіўся з канікулаў). Варым у «печцы» капусту — асноўны наш прадукт харчавання. Рады, што мама спякла нам хлеба... Дзякуй ёй, роднай... Цалую твае рукі, мама!..

Усе сілы і энергію — на дасягненне выдатных вынікаў у гэтай чвэрці!

**10 студзеня 1946 года**

Здарылася такое, пра што не хацелася б думаць… Прачынаемся ноччу ад дыму, які запоўніў увесь наш пакой. Што такое, ад чаго дым — спрасонку не хутка зразумелі. Зірнулі ў печ — аж тлеюць нашы бурачкі!.. Ды гэтак сатлелі, што ад дзвюх пар застаўся толькі адзін, ды і той у дзірках... Да таго ж, мае панчохі і анучкі, пачак запалак, якія таксама сушыліся ў печцы. Вось тут і рабі, што хочаш... Плакаць, крычаць ці што?.. Але ж босымі засталіся абедзве, а заўтра — на занняткі... Я аказалася больш прадпрымальнай: распарола сваю спадніцу чорную, парэзала, і сшылі мы ўдзвюх да абеду буркі (хоць такія нязграбныя). Абула і... зусім задаволена гэтым. А з чаго ж другія пашыць? Як з чаго? Гэткім жа парадкам, як спадніцу, «расшыла» сваю жакетку. Касцюм ператварыўся ў абутак. Шыем другія буркі (адзін гатовы, але таксама паршывы, гарбаты, і другі канчаем). Так, моцныя ўсё ж у нас з Маняй сэрцы ў грудзях! Маня дык адразу загаласіла (ды і не дзіўна!), а я — як каменная... Вось будзе памятацца век жыццё гэтае нечалавечае!.. Купілі шпульку нітак — 13 руб. і пачак запалак — 3 руб.

**11 студзеня 1946 года**

Першы дзень вучобы пасля канікулаў. Да будынка вучылішча падыходжу з сардэчным трапятаннем, быццам упершыню. Гучна вітаюся з дзяўчатамі. Пра сёе-тое, званок. Прыродазнаўства, ваенна-фізічная падрыхтоўка, бел. літ., фізіка (рашыла задачу на дошцы), геаграфія, спевы (з'явілася новая выкладчыца, даволі мілавідная, заўважыла мяне за добры голас). Абеду не было. Памылі падлогу, я пішу, Маня чытае газету (але холадна). На двары вецер са снегам б'е ў акно, стукаюць абгарэлыя чорныя аканіцы, нешта вые і скрыпіць... Але ніякага страху, а толькі рояцца ў галаве думкі пра тое, як бы хутчэй давучыцца, пракласці сабе дарогу ў жыццё, пазнаць хоць маленькае шчасце, мець хоць вось такі ўласны вугал... Парой прамільгне думка і больш высокая, але не хутка яна ажыццявіцца... О, калі б дасягнуць гэтага!..

**12 студзеня 1946 года**

Так прысніўся Сяржа, што доўга не магла заснуць.

Разышліся, даўшы ўсёй маёй істоце ведаць пра сябе, незагойныя душэўныя раны... Ці загояцца яны калі-небудзь?..

Два ўрокі былі свабоднымі, і ўвесь час гэты прайшоў «у паляванні» за Нінай-буфетчыцай (і ўсё ж хлеба не атрымала).

У бібліятэцы ўзяла часопісы «Крестьянка» і «Дружные ребята», якія прачытала да апошняга слова. Сёння ў ДК — даклад. Так бы патрэбна было схадзіць, але дужа цяжка на сэрцы, што хоць плач!..

**15 студзеня 1946 года**

Жыццё ўвайшло ў сваю звычайную каляіну. Звычайным здаецца пастаянны неспакой: як бы атрымаць хлеба, талоны на абед, сам «абед», чым прапаліць печку, дзе дровы браць і іншае.

Зрабілася такая «вясна», што ўжо і думаць пра зіму не хочацца, сыра... Усюды ручаі цякуць, увесь снег растаў, ездзяць на калёсах, цёпла-цёпла. Адно дрэнна — мокрыя ногі (галошы з гумы дзіравыя). Учора хадзіла ў кіно на «Золотую тропу». Добрая карціна. Маня ж праводзіла гутаркі з выбаршчыкамі. Чытаю часопісы. Узялася за рукадзелле. Чакаю Дз-ву і Ур-н — можа, прынясуць хоць пісьмо з дому, ад мамы і Марусі. Маня ўжо колькі разоў ірвалася званіць, але я не даю (навошта маму хваляваць?). Зноў зіма. Жывём памаленьку.

**16 студзеня 1946 года**

Ногі ў абутку змёрзлі. Чытаю творы Леніна (рыхтуюся да даклада, хвалююся). Дв-ва прынесла 100 руб. і 1 кг круп ад мамы. Маня званіла сёння дамоў. Было пасяджэнне камітэта: да 20-га — 5 чалавек у камсамол. Ужо позна. Склала ведамасць, напісала анкету, кнігу ўліку. Змясцілі мой верш «Вучыцца» (у газеце).

Што такое «догма», «экспрапрыяцыя», «рэферат», «альтэрнатыва»?

**17 студзеня 1946 года**

Толькі што прыйшлі з агульнага сходу вучылішча. Ён зрабіў на мяне такое ўражанне, даў столькі карыснага, добрага, што застанецца ў памяці на доўгія-доўгія гады як самы лепшы і светлы ўспамін маіх студэнцкіх гадоў! Мяне выбралі ў прэзідыум. Гаворачы пра вынікі паўгоддзя, маё імя называлі і дырэктар, і завуч, і сакратар камітэта камсамола. Мяне ставяць у прыклад іншым і ў вучобе, і ў дысцыпліне, і ў грамадскай працы. Дык ці ж гэта не радасць?! Сакратар давёў да слёз, гаворачы пра цяжкія ўмовы жыцця... Потым вымусілі выступіць. Думаю (ды і па водгуках студэнтаў) — сказала выдатна. Я ўдзячна ўсім. Ну як жа цяпер не вучыцца, не тварыць?! Абавязкова верш напішу пра сход!..

Эх, павага, пашана — спадарожнікі мае верныя!

**20 студзеня 1946 года**

Узялася за падрыхтоўку да даклада. Як я задаволена, што надарылася магчымасць глыбей і лепш вывучыць жыццё Ільіча. Колькі цікавых цытат завучыла, колькі спазнала новага пра вялікую барацьбу свайго народа! Дайшла да таго, як Ленін прыехаў у Расію напярэдадні рэвалюцыі, як яго сустракалі рабочыя. Пазнаёмілася з жывапісам, з карцінамі мастакоў пра Леніна. Прыходзілі студэнткі, спрачаліся на літаратурныя тэмы. Ах, як трэба сур'ёзна заняцца літаратурнай дзейнасцю. Абавязкова ўладкуюся ў гарадскую бібліятэку!

Напісала верш «Наша дружба», змяшчу ў газеце.

«...Для ребёнка папа и мама — это такая святость, такие непогрешимые существа, без которых он не мыслит ни минуты своего существования. Лишить ребёнка отца или матери — значит, причинить ему глубочайшее горе, сделать его несчастным, отравить золотую пору малолетства. С годами потеря забудется, но в сердце останется тяжёлая травма» (Ленин). «Нет границ человеческому знанию» (Ленин).

«Жизнь — это борьба»...
«Осёл останется ослом,
Хотя осыпь его звездами...
Где нужно действовать умом,
Он только хлопает ушами»
*(Державин)*

**23 студзеня 1946 года**

Што можна сказаць пра маё цяперашняе жыццё? Ды ці ж можна сказаць пра ўсё? Так, добрая штука — пачуццё маральнага задавальнення, хоць гэта з'явілася вынікам упартай, вялікай працы ў неймаверна цяжкіх умовах. Жыццё кіпіць... «Вечеринки, собранья и ночи без сна» — характэрная з'ява ў жыцці апошняга тыдня месяца: За гэты час я выступала 6 разоў (акрамя невялікіх выступ-

ленняў). Як люба, калі бачыш, што на цябе глядзяць з павагай!

**27 студзеня 1946 года**

Надумалася, ды ўчора напісала пісьмо маме. А мама прыйшла да нас! Вельмі змораная, замёрзлая, весь дзень ішла пешшу. О, гора!.. Прынесла бурачкі «новыя», сабрала нешта з ежы. Сёння адпачывае, а заўтра — назад. Зноў мука...

**29 студзеня 1946 года**

Занялася пісьмамі. Напісала дзядзьку Грышу, Олі з Таняй. Ад Каці атрымала (яна прыслала нават карцінку). Чытаю «Дикая собака Динго, или Повесть о первой любви» Фраермана. На пасяджэнні рэдкалегіі разбіралі мае «труды». Праходзіць поўнасцю. Па арыфметыцы атрымала «пяць» (сама задаволена адказам). Якую слаўную справу пачалі з Галяй!.. О, гэта ніхто не павінен ведаць! Чытала на перапынках «Просто любовь» В. Васілеўскай. У жыцці адбыліся змены: да нас дабавілі жыхароў.

Заўтра — сустрэча з кандыдатамі.

**31 студзеня 1946 года**

Што за ўрачыстасць! Правучыліся тры ўрокі і арганізаваным парадкам пайшлі на стадыён. Здалёк чуваць музыка, бачны натоўпы народу, усё зіхаціць ад сцягоў і плакатаў. Прыйшлі — і адразу вочы ўглядаюцца на трыбуну ў надзеі ўбачыць людзей, пра якіх толькі і гаворка ідзе ўвесь час, пішуць газеты — нашых кандыдатаў. Так, я адразу пазнала У. І. Мурзіча, бо бачыла на партрэтах. Ён выступаў, расказваў пра сваё жыццё і работу. Потым выступаў І. Д. Вятроў — генерал-лейтэнант юстыцыі. Шкада, што я яшчэ не маю права галасаваць. Калі б можна было, 10 галасоў аддала б за такіх людзей!

**5 лютага 1946 года**

Усё кіпіць, шуміць, бурліць... Можа толькі яшчэ прыбавіліся новыя, нячутныя дагэтуль галасы прыроды, жыцця... Душэўны ўздым ад наступіўшай «вясны»: усюды суха, чыста, не ўбачыш ні крупінкі снегу; а раніцай, калі ідзеш на заняткі, вясенні вецярок лашчыць твар, і свабодна ўздымаюцца грудзі, яшчэ мілей становіцца ўсё кругом, яшчэ больш сілы адчуваеш ва ўсім сваім стварэнні.

Часцей наведваю сваю чытальню, клуб. Глядзелі разам з Маняй кіно «Возвращение Максима» (ды галоўнае, прапусціў тав. Р. без білета, слаўны малы-зямляк!). Былі на мітынгах.

З'явілася такое імкненне да нечага светлага, да кіно, да людзей, што баюся, як бы не перашкодзіла ўсё гэта вучыцца.

Атрымала пісьмо ад Марускі. Як яна пераймае і капіруе мяне! А піша і выказвае думкі цудоўна! У суботу думаю «скатать» дамоў. Атрымала сёння 20 сшыткаў! Вось радасць! (на дзвюх). Педвучылішча наша — штаб па падрыхтоўцы да выбараў. 50 чалавек адправілі на раён, 30 — на ахову сувязі, астатнія — агітатары і іншае. Хутка выбары.

**7—13 лютага 1946 года**

Сумую. Нечага чытаць. Па рус. літ — «5». Маня пайшла на ўчастак. Стомленая, сяджу на ўроках (прыйшла з Ушач). Дома старалася быць вясёлай, менш пра сваё жыццё «размазваць». Сустрэлася са сваімі настаўнікамі і былымі вучнямі. Маруська падарыла добрую кніжачку «Для запісу» (на змену гэтай). Прачытала «Морские рассказы» Станюковіча (хоць дзіцячую). Дапамагала маме ў працы рознай. Дужа цяжка было ісці назад: перадачы далі суседкі сваім дочкам, трэба на плячах несці і сваё, і іхняе. Снег па калена, завея, вецер у твар... Але з'явілася «целой и невредимой»; сустрэла ветліва, сардэчна мая Маня. Як рукой зняло стомленасць ад яе клопату! Дужа ўзрадавалася пісьму капітана Недзікава, у якім было яго фота (прыгожы, малады, статны). Просіць нашы фота. Як жа сфатаграфавацца?

Атрымала даведку ад дырэктара, у якой педвучылішча гарантуе за мяне атрыманне кніг у гарадской бібліятэцы (як выключэнне). Узяла на першы раз «Войну и мир» 1-ы том (Л. Талстога).

«...Варфоломеевская ночь произошла от расстройства желудка Карла IX, а Россию спас слуга Наполеона, не подавшего ему сапогов от дождя, в связи с чем у Наполеона получился насморк, и он не мог дать серьёзного приказа...»

«...Город, занятый врагом, подобен девушке, потерявшей свою невинность...»

«...Мародёр — что-то среднее между жителем и солдатом...»

«...Каждый человек живет для себя, пользуется свободой для достижения своих личных целей и чувствует всем существом своим, что он может сделать или не сделать сейчас такое-то действие; но как скоро он сделает его, так действие это, совершённое в известный момент времени, становится невозвратимым и делается достоянием истории, в которой оно имеет не свободное, а предопределенное значение...»

«...Чем выше стоит человек на общественной лестнице, чем с большими людьми он связан, тем больше власти он имеет на других людей, тем очевиднее предопределенность и неизбежность каждого его поступка...» (Л. Талстой, «Война и мир»).

Замест першага тома мне далі чацвёрты, да таго ж, не ўсе старонкі... Распытаю пра сангвінікаў...

**18 лютага 1946 года**

Напісала пісьмо, а Маня — брату Івану. З'явіўся Пацэй і выклікаў адразу ж да дошкі. Аддала верш у газету.

Задумалася я моцна над лёсам будучым маёй гэтай «Запісной кніжачкі». Чытаючы літаратуру, знаёмлюся са шматлікімі «Запіснымі» і дзённікамі: партызанкі Іны Канстанцінавай і лейтэнанта Крыбта, адэскай піянеркі і Зоі Касмадзям'янскай, шматлікіх герояў апавяданняў, аповесцей, раманаў. Розныя лёсы спасціглі іх гаспадароў, а запіскі іх аказаліся на старонках кніг.

Не жадаю я такой долі... Але захоўваць буду! І спадзяюся, што праз шмат гадоў (калі толькі жывая буду!), перачытваючы гэтыя лісткі, цеплыня ўспамінаў асяніць сэрца пра жыццё гэта, смешнае нейкае і беднае. І, што граху таіць, уяўляю, як буду чытаць запіскі сваім дзеткам (калі яны будуць)... А можа, мае нашчадкі пазнаёмяцца?.. Хто ведае?!. Добра было б, каб пачыталі!..

Вельмі шкада, што няма Сярожынага дзённіка! Ён жа яго вёў на фронце...

**21 лютага 1946 года**

Жыццё — што нейкая віхура непраглядная: жывёш, сам не разумеючы як. Фізічнай працы выконваеш менш, чым разумовай, а часу — хвіліны не знойдзеш, каб запісаць штосьці. А пісаць ёсць пра што, толькі паперы няма ўволю. Таму коратка прыходзіцца занатоўваць хоць бы галоўнае, для памяці, для будучыні.

Учора атрымала пісьмо ад Л. М. Задзеў хлопец за душу: успомнілася жыццё дома, вучоба ў школе. Сёння — ад Каці, і ў ім фота, на 30 кап. марак і насавая хустачка з вышытымі словамі: «На памяць сяброўцы дзяцінства Дуні ад Каці» і кветачкі.

Па прыродазнаўстве напісала на дошцы формулы солей вуглекіслаты, па спевах чытала ноты, па ваеннай справе — страявая і прыцэльванне. Заўтра будзем трэніравацца да лыжнага кросу. Пасля ўрокаў хадзіла на нараду ў дырэктарскую як выдатніца, пасля — выпускала газету. Маня ў гэты час хадзіла на пошту, размаўляла з мамай па тэлефоне і з Маруськай. А я чакала і хвалявалася. Асабліва радасным было тое, што прыслаў пісьмо Георгій Мацвеевіч, просіць наша фота. Учора сачыняла да паўночы, мала прачытала. Маразы страшэнныя. «Я заўтра дадому іду!» — заяўляе з радасцю Маня. — «Мне ад гэтага не горш», — кажу ёй і канчаю на гэтым.

**23 лютага 1946 года**

З-за таго, што не было часу і, галоўнае, газы, запіс учора не зрабіла. Атрымала па рус. літ. «5». Два апошнія ўрокі «прагуляла»: адыходзіла Маня дамоў, а з'есці нечага было. Вось і хвалявалася дзве гадзіны, пакуль талоны атрымалі і абед, а тады ў чарзе па хлеб усе косці сцерла ды нервы страпала. Буханку далі, але Маня пайшла, не дачакаўшыся мяне. Мне яе шкада...

Закончыла верш «Освобождение». Буду чытаць на вечары. Быў прафсаюзны сход, дзе прынялі ў члены прафсаюза. Расказвала аўтабіяграфію. Пісалі бел. дыктант, рускі пераказ. Настрой — самы цяжкі і горшы. Гатова загаласіць... Але ўсё на свеце мяняецца. І мой настрой — таму што выбралі ў прафкам, а потым — сакратаром. Рабацёнкі прыбавілася. Хлеба ўжо затое без чаргі атрымала. Зацірка пшоная добрая. Пайшлі ўсім «домам Хатаевіча» (гэта наш інтэрнат, па прозвішчы былога гаспадара) на вечар. Сумнавата адной было: ні Мані, ні сяброўкі Галі. Не спадабаўся мне вечар...

**25 лютага 1946 года**

Сумна, адна дома. Вось ужо 2 гадзіны ночы. У акне бачна цёмнае, усыпанае зоркамі неба. Марозу няма. Цёпла, ціха, ноч...

Спіць Зіна. Толькі што скончыла пісаць справаздачу пра сваю працу ў якасці групорга, заўтра здам.

...Змёрзлі на ўроку і прыйшлося «танцаваць» з Галяй. На чыстапісанні патрабавала «на мінутку» Аляксандра Антонаўна «маленькую Лось», прасіла пасля ўрокаў застацца на занятку літаратурнага гуртка. Гадзіны паўтары там была, і заданне вывучыць «Попа і балду», і яшчэ нешта з Пушкіна да суботы. Толькі дома з’ела гароху — адразу ж пайшлі на пасяджэнне прафкама і камітэта. «Па костачках» вечар прошлы разабралі. Хвалілі і Маню як добрую спявачку. Прыйшоўшы дамоў, пілавалі «здабытую» палку і палілі ў печцы.

На рэпетыцыі правярала А. А. Касцюм патрэбен старой бабкі. Прыйшла з Ушач Маня. Прынесла сабранага мамай «гасцінца». Алгебра не рашаная, а валюся ад стомленасці. Холадна, цёмна, сумна і бедна...

**28 лютага 1946 года**

Дні вельмі перагружаны разумовай працай. Перачытала ўрокі да ўходу, з’елі супу «прошлогоднего» і пайшлі. Чытала на ўроках і перапынках «Евгения Онегина». Разы тры прыходзіла Бандарэвіч па нейкіх справах, бегала да Мані на розныя парады.

Пасля ўрокаў — у бібліятэку, адтуль — да дырэктара, узяла даведку на атрыманне газы. Пабегла дамоў па бутэлечку для газы (і рады, таму што ўжо два дні было цёмна ў нашай «обители»). На рэпетыцыю... А тут дроў няма. У Мані ж быў камсамольскі сход, а пасля — хор. Яна пайшла дамоў упоцемку, я ж яшчэ гадзіны дзве ўсё тут знаходзілася... Пішу на ваеннай падр., але вымушана была пакінуць, таму што выклікаў да дошкі, растлумачыла пра маштаб і рашыла задачу. Буду чытаць «Смерть поэта» і казку. Узялася чытаць урокі, але што там запомніш, калі ў галаве суцэльны шум і вочы зліпаюцца.

Радзіліся пра тое, што надзець сёння на вечар (быццам выбіраем з багатага гардэроба, а ўсяго ў нас — залапленыя сукеначкі і буркі...). У дзве гадзіны ночы кладзёмся спаць, а Зіна крычыць: «Буркі гараць!»... Ад дыму бела, задыхаешся. Вось дык лёс! Трэція буркі за зіму гараць!.. О, гора! Што ж рабіць?.. Сёння ўжо зноў «пасцім» наглуха.

Рыхтуюся да выступлення. Дамовілася з дзяўчатамі наконт адзення і абутку. Хочацца патанцаваць, а абуць нечага. Эх-ма!..

«...Разумна і натуральна імкненне чалавека да асабістага шчасця, але ці ж у адным сэрцы павінен заключацца ўвесь мір яго шчасця? Калі б уся мэта нашага жыцця заключалася толькі ў нашым асабістым шчасці, а наша асабістае шчасце заключалася толькі ў адной любві, тады жыццё было б сапраўды змрочнай пустыняй, заваленай дамавінамі і разбітымі сэрцамі...» (В. Г. Бялінскі).

«...Мы посчитали всех нулями, а единицами — себя» (А. Пушкін).

Вечар правяла так, як яшчэ да гэтага часу не праводзіла... Слаўна, ах, як добра!!!

**1 сакавіка 1946 года**

Першы дзянёк вясенні, а гэтак стала цёпла, што і на душы весялей становіцца (а ў ногі-то мокранька). Маня задумала сфатаграфавацца (памажы Божа, хоць бы не абдумалася, так хочацца мець фота!). Можа, як-небудзь расплоцімся за карткі...

Сярбаем гарох, хлеба няма. У 6 гадзін прафсход быў (пратаколішча з вярсту прышлося пісаць). Узяла раман «Будущность» Самуйлёнка. Да панядзелка патрэбна падрыхтаваць даклад пра Дуніна-Марцінкевіча.

Як ужо позна! А яшчэ столькі трэба зрабіць! А дзе знайсці тэму, каб напісаць да 8-га сакавіка? «Освобождение» згадзіцца, але яшчэ патрэбна. Баюся, каб не заглох «талент» паэтычны...

**3 сакавіка 1946 года**

12 гадзін ночы. Нядзеля. Толькі што прыйшла ад К. М., і запалілі ў печцы пасечаную палку, якую прынеслі з Маняй. Учора і сёння — суцэльныя прыгатаванні да фатаграфавання. Гэтак пабегалі, пакуль знайшлі штосьці надзець. 120 руб. прыказаў С. за 4 штукі фотакартак. Але што ж зробіш?.. Эх, Саламашка!..

Вось ужо нагаварыліся ў Клаўдзі Мікалаеўны! Падумалі: трэба пра ўсё расказаць, а то ніхто нічога не будзе ведаць пра нас, пра наша жыццё і вучобу, пра думы і мары, пра дом і Ушачы... Хоць адзін надзейны чалавек ёсць у мяне...

Напісала пісьмо ў Мінск (куды і каму — не напішу нават тут, у сваёй запісной кніжцы!).

**4 сакавіка 1946 года**

Цяжка пражываць. Але ўсё роўна вышэй за ўсё стаяць інтарэсы культуры, прыстойнасці, вышэйшага жыцця. Як бы ўжо, здаецца, хадзіў, паводзіў сябе, адзяваўся б, калі б была магчымасць!.. Але дачакаемся ж і гэтага! А пакуль ідзём на заняткі не еўшы, хоць і клаліся спаць — таксама нічога не было.

Зноў патрывожыла думка пра хваробу, узвеяная К. М.

Тыя фота не атрымаліся (вось Саламашку за тое, што дзярэ!). У другі раз здымаліся. Я апранула чорную з крэмавым каўнярком сукенку, шляпу сваю — ніхто не пазнаў...

Да дзяўчат прыйшлі бацькі (дзе яны толькі дзяюць прадукты?!).

Успомніла свайго роднага татку... Ці ж так жылі б мы, калі б ён быў жывы?..

Было цёпла на дварэ, а цяпер зноў снег і холад. Пра дом думаецца, хочацца бачыць маму і Марусю. Наогул, хочацца нейкага перавароту ў жыцці, якога — сама не разумею...

**5 сакавіка 1946 года**

Шынкевіч прынесла пасылачку ад мамы. Атрымала пісьмо ад Л. М. Вельмі хвалююся за маму (кажуць, захварэла). Умовы горш і горш. Захворваю зусім...

**7 сакавіка 1946 года**

Пайшла дамоў Урбан і панесла наша пісьмо маме. На адной старонцы ліста пісала Маня, на другой — я.

На літгуртку размяркоўвалі ролі да някрасаўскага вечара («Мазай і зайцы»). А заўтра вечар «жаночы» (даўно пра яго гаворым). Сёння правярала К. М. мой верш. Па геаграфіі — «5». Ніяк не забуду, што няма хлеба (ужо 7 дзён у вочы не бачылі).

**9 сакавіка 1946 года**

Учора адсвяткавалі свой дзень, не так дзень, як вечар. Прасілі настаўнікаў, каб «двойкі» не ставілі. Потым па даручэнні К. М. бегалі з Галяй дамоў да яе, Кл. Мік., за шэрай спадніцай (быў дома яе муж). Стаю ў калідоры, а завуч чытае прыказ дырэктара: «Выдаць прэмію ў размеры 100 руб. Еўдакіі Лось...» Узбегла на сцэну, атрымала з рук дырэктара канверт з грашыма, сказаўшы некалькі слоў падзякі. Пасля — мастацкая частка (чытала сваё «Освобождение», верш «Я горда...»). Пасля танцавалі.

Рус. дыктант — «5». Паехала Бандарэвіч на практыку і пакінула шмат спраў. А больш за ўсё — выпіска прафбілетаў (выпісала 50 штук). Зноў наспеў адзін планік дзелавы, але маўчок да будучага вучэбнага года. Чакаем з нецярпеннем Ніну Урбан — далей і быць не можам, не ведаючы пра маму. Пацягаліся па базары, думалі купіць абутак — не па кішэні... Толькі купілі малака паўлітра і міску капусты.

Прыйшла Галя, рашалі задачы (мілая сяброўка, маці ёй казляцінкі дала, а яна і нам кавалачак удружыла). Хутка экзамены.

«Не упускайце из вида ни одной стороны воспитания: говорите детям и об опрятности, о внешней чистоте, о благородстве и достоинстве манер и обращения с людьми, не выводите необходимость всего этого... не из условных понятий о приличии, но из вечных понятий о достоинстве человеческом. Внушайте им, что внешняя чистота и изящество должно быть выражением внутренней чистоты и красоты» (Белинский).

«Тот, кто беззаветно верит в добро и справедливоеть, кто любит свободу больше жизни, тот победит в самой тяжкой борьбе» (Гроссман).

Ура! Ды я ж — сапраўдны мастак! Падумаць толькі: такога Бар-ка адмалявала! Самы натуральны!

**11 сакавіка 1946 года**

Пайшла на заняткі з незвычайнай яснасцю ў думках. Вельмі хвалявалася за кантрольную, але рашыла самастойна і задаволена. Цяпер лепш справа з матэматыкай, чым у прошлым годзе.

Прынесла Ніна кавалачак матэрыялу на кофту, панчохі і пісьмы. Мама «распісалася». Ірвуся дадому. Расстроіла Ніна вось чым: прыйшла, кажа, да вашых, а мама і Маруська... Ох, жыццё, жыццё! У такія гады маладыя і гэтак трэба перажываць!.. А ў мамы тое ж самае... Адпісалі дамоў і яшчэ шмат куды. А пакуль застаюся тая ж, з жахлівай ахвотай з'есці што-небудзь... І няма нічога...

**12 сакавіка 1946 года**

Выклікала К. М. па педагогіцы — «5», а па беларускай кожны раз выклікае пісаць сказы. З абедамі вельмі туга: больш чатырох ні за што не возьмеш (чатыры абеды юшкі з чорнай рыбай — гэта гарлач у 2 літры). Без хлеба хлябаем. А слабасць нейкая, кашаль дурны ўзмацняецца. Дырэктар прыходзіў глядзець наш інтэрнат. Надумалася і напісала заяву, панясу заўтра яму — далей так нельга цягнуць (ці будзе што?). У Зіны торбачку з мукой зняў нехта (але добра ясна — хто). Дужа перапужаліся, непрыемна (разам жа жывём).

Хутка канец чвэрці. Час сур'ёзны. Прачытала «Клавдия» Чартовай. Цудоўная і такая простая кніга, пра самых простых людзей. Мару пра такую «летнюю ноч», якая была ў Клаўдзіі... Няўжо не будзе яе ў мяне?

**13 сакавіка 1946 года**

Раніцой доўга ляжала, як Абломаў. Урокі нават перачытала. На ўроках вельмі дысцыплінавана вяду сябе, ды і ўсюды таксама. Слухі ідуць добрыя: стыпендыю хутка дадуць, вясна хутка, дамоў тэрмін падыходзіць. А сёння пацягнула К. М. за плечы да дырэктара заяву несці. О, жанчына-душа! Яна, як бачна, ніколі не забывае нас. І так выйшла, як я і не думала (падумаць, дык страшна!): даў дырэктар 3 хлебных карткі за другую палову лютага, выпісаў 4 кг гароху, 2 кг круп і паўлітра масла поснага. Ура і ура! Цяпер пражывём! Пасля ўрокаў атрымалі тры буханачкі хлеба — цэлая падзея; адну — я, другую — Маня, а трэцюю для нас — Т. П. Прынеслі супу і наеліся да «тошноты». Зноў гляджу на свет вясёлымі вачыма!..

У пяць гадзін было пасяджэнне бюро. Буду старацца, біцца, каб да Мая падысці без сораму. Сабрала ўзносы і праштампавала білеты. Заўтра — прафсход. Хутчэй бы канчаўся вучэбны год... Ужо спее ў галаве тая прамова, якую скажу ў знак падзякі дырэктару і настаўнікам за ўсё...

**16 сакавіка 1946 года**

Усё і ўся перамянілася, перавярнулася, прайшло некалькі часу — вось апынулася я... дома, у сваім разбітым доміку, ва Ушачах. Шмат было хваляванняў, пакуль, нарэшце, адпрасіліся.

Узяла фота ў С. (як шкада, што па твары Мані прайшла чорная паласа, увогуле — добрыя). І галоўнае — палову платы ўзяў.

Пусцілася ў шлях-дарогу з Клаўдзяй (стрыечнай сястрой). Цёпла, але ўсё ж праклялі ўсе машыны, дзе яны знаходзяцца, — ні адна не ехала! Вось жа нагаварыліся! Клава мая ледзь да Жараў дайшла, смешна з яе. Дамовіліся ўмоўным знакам паведаміць пра свае праходжанні на зваротным шляху. Рассталіся з ёй, і зашагала я так, што не толькі дайшла да Броўчына, але і да лесу, і лес Баркоўшчынскі перайшла і, не даходзячы пяці з паловай кіламетраў да Ушач, нагнала мяне машына і нечакана стала. Шафёрык міленькі, ён сам астанавіў машыну і добразычліва прапанаваў падвезці...

Яшчэ на сцежцы ля хаты сустрэла Маруська. Маму не магла супакоіць да слёз. Цяжкае жыццё... Ногі забалелі (усё за 40 км!).

Прывяла ў парадак фотарамкі (у сваю адну паставіла за шкло побач з Сяргейкавай з ваеннага вучылішча). Мама плача і плача, кажа, што такіх нарасціла малайцоў, а жыць няма з кім, гаруе... Дзеткі мае... Прыходзіла цётчына Анюта (стрыечная сястра). Стала зусім цёпла. Я — дома, цуда!

**18 сакавіка 1946 года**

У нядзелю паабедалі, як мне здаецца, добра, залезла на печ, ляжу і думаю. Раптам ускочыла і кажу: «Пайду я, мама, сёння ў Лепель! Вось толькі забягу ў школу, перадам Багдановічу вершыкі і распытаюся пра школьныя справы». Сабралася хутка, развіталася з Маруськай, мама праводзіла мяне да бальніцы, і пайшла я адна далей і далей ад Ушач. Крычала б ад жалю да мамы, ад свядомасці вялікага гора нашага, але насустрач ідуць людзі на базар і не магу душу рваць.

Дарога, дарога... Зноў ты... Чаго толькі не перадумаеш на ёй?! Мір і людзі, дом і родныя, парадкі і будучае — усё да дробязі. Дайшла да сцяжынкі і хутчэй глядзець, ці напісана на снезе што. Няма. Узяла і напісала: «Я ішла». Адышла з паўкіламетра — і нечакана хтосьці крычыць. Азірнулася —

бяжыць. «Клаўдзя!» — крычу яшчэ здалёк. Вось цікава: сышліся на зваротным шляху, як і хацелі. Усё ж едзе яна ў Ленінград. Ішлі памалу, прыйшлі гадзін у 6 вечара. Добра, што прыйшла: такая алгебра цяжкая і астатнія прадметы. Зноў у сваёй стыхіі, з дзяўчатамі, з Галяй...

**20 сакавіка 1946 года**

Вясна. Больш за ўсё адчуваецца па тым, што мокрыя ногі. Спазнілася на ўрокі (пісала Клаве ў альбом). На алгебры Пацэй моцна «начытаў», што адпала ахвота і ў альбомы пісаць, і ўсе апошнія ўрокі мучылася, хоць па фізіцы атрымала «5». Па белмове (па апісанню) — «5» (дык сказалі, што з кніжкі спісала; ну, значыць, пісаць умею!).

Сёння з Маняй пагутарылі па душах. С-ха даў яшчэ 3 фота — два маіх і адно Маніна (гэта за тую дваццатку).

**21 сакавіка 1946 года**

На двары міла, светла, цёпла. Спрабавала на ўроках балець галава, але неяк рассеялася, калі па геаметрыі атрымала «5». У 17 вечара — бюро. Выступала. Прагулялася з Зінай да пошты, сустрэлі «жоўтапагонніка». Маня заклеіла галошы (30 руб.). Я таксама думаю пераняць яе прыклад, бо нічога лепшага не прыдумаеш. Усе спяць, а ў мяне рознай справы поўна. Думы і думы... Якія яны розныя!.. Адна — вясёлая, другая — невыносна цяжкая, а разам пераплёўшыся, яны даюць адну, бліжэйшую да вясёлай. Чаму — не ведаю сама... Ці ад свядомасці таго, што апусціла ў скрынку першае сапраўднае пісьмо, ці ад поспехаў у вучобе і грамадскай працы, ці проста ад з'яў прыроды, якія не даюць сумаваць... Жывём!..

**22 сакавіка 1946 года**

Усё добра, як ніколі. Справы ідуць угору, адносіны з людзьмі — таксама добрыя.

Узяла «Оборона Сталинграда», а здала «Золотая звезда» Нікуліна. Задаволена кнігамі! Купіла ў падарунак Марусьцы шапачку за 25 руб.

**24 сакавіка 1946 года**

Картачка прапала і сшыткі па маляванні разам з малюнкамі таксама (купляла сшыткі на базары, апошнія рублі аддала).

Што болей жыву, то ўсё больш прыходжу ў адчай і асведамляю вялікае гора — страту Сяргея. Усё кругом нагадвае пра яго. Цяжка і чорна на сэрцы... Аддала 30 руб. за заклейку галош. Прыходзілі Яніна, Клава, Галя. Атрымалі крыху хлеба. Чакаем 20-і гадзін, каб званіць маме.

**26 сакавіка 1946 года**

Учора быў даклад добры, змястоўны. Прыбегла Галя рана ў вучылішча і падае мне пісьмо: пішуць Лёневы сябры з часці, адрасоў просяць. Ну ж і пісалі! Агульнымі сіламі — напісалі Маню, Ніну, мяне. Ай, як цікава, будзем чакаць! А ўчора атрымала пісьмо ад капітана Недзікава. Картачку падпісала сваю (ён жа прасіў нас, сясцёр воіна-франтавіка лейтэнанта Лось С. Я.), пісьмо яму піша Маня. Клалася спаць позна: пісала артыкул. А ўчора быў камітэт. Увечары — лекцыя, пайду абавязкова. Па арыфметыцы — «4». Няма нічога есці. Доўга яшчэ жыць да атрымання хлебных картак. Ну, хопіць, а то настаўнік зробіць заўвагу.

**31 сакавіка 1946 года**

Скончана 3-я чвэрць. Адзнакі выстаўлены: адна «чацвёрка» і сямнаццаць «пяцёрак» (нічога сабе, мірыцца можна).

Быў вечар, але благі, усё «змазалі». На танцах мала была: шкада ж туфель новых (100 руб. аддала, а ўжо рвуцца). Ой, горушка! Урокі зусім не вучу і не буду вучыць: так есці хочацца, дужа цяжка на сэрцы, так цяжка, што не вытрымаць. 50 руб. пазычыла, а што далей? Плакала... Госпадзі, калі ты толькі ёсць, — няўжо не дапаможаш?..

**1 красавіка 1946 года**

Учора пачалі 4-ю чвэрць. Хвалілі за выступленне на вечары. Хадзіла ў бібліятэку, дзе гадзіны дзве разглядала архіў «Огонька». Вельмі ўражана, паглядзеўшы на жыццё людзей усюды. Галава закружылася... Крыўдна, чаму не ўсе людзі аднолькавыя? У свет пайшоў бы!..

Як навесці спраўкі пра брата Аляксандра Мацвеевіча?

Узяла раман «Бессмертие» Югава. Гутарылі з Маняй на самыя балючыя тэмы. Зайздрошчу Клаве, яе шчасцю. Надумалася Маня ісці ў сераду дамоў. Ні грошай, ні хлеба, ні харчу — нічога няма (а што там

дома возьмеш, калі адна мама б'ецца, як рыбіна аб лёд?).

**3 красавіка 1946 года**

Маня ўстала і збіраецца ісці (без дазволу, але потым дырэктар «адпусціўся» — і я перастала хвалявацца).

На ўроку ваенна-фіз. падр. рапартавала, у калоне — першая. Пачалося паўтарэнне, хутка і экзамен. Добра ўсюды.

Ах, заўтра ж варэння 2 кг атрымаю, ды і буду лізаць без хлеба. Маня ўжо, факт, дома. Дзе ўзяць матэрыял, патрэбны для Мая? Папрашу часопіс «Краснаармеец» пачытаць, там ёсць цікавае.

**4 красавіка 1946 года**

Раніцай ускочыла ад вокліча Зіны. Атрымала хлебныя карткі і... буханку хлеба. «Снегурочка» павінна добра прайсці. Іду дамоў з рэпетыцыі, а насустрач Галя з Нінай.

— Куды?

— У кіно. Ідзём з намі.

## *Глыбоцкае педвучылішча 1947 год*

**5 студзеня 1947 года**

— Ай, Дуся, Дуся, — ушчувае дырэктар вучылішча, — такая ты акуратная ў вучобе, і тут таксама не дапускай памылак (пераблытала з пратаколам сходу выкладчыкаў, які давялося пісаць, нявопытная ў гэтай справе). Упершыню пачаў патрабаваць Уладзімір Антонавіч справаздачу пра прачытанае, і вось бяруся чытаць па-сапраўднаму. Пушкіна адольваю...

Перадавала радыё з Мінска пра сустрэчы з паэтам Броўкам і пра мае выступленні. А сёння па руках у класе ходзіць артыкул газеты: «Броўка ў студэнтаў» з тым жа зместам.

Правялі ўчора камсамольскі сход, дзе прыйшлося двойчы выступіць: за рэкамендаванага Мікалая П. і на пытанні «чаму сумна стала ў вучылішчы?» Заўтра зноў ісці ў вёску, у Шуневічы. Пра першы паход напісала крыху ў пісьмовай рабоце па назыўных сказах. А ў нядзелю — лыжны крос... Зноў у вучылішча прыбыла камісія правяраць работу (з Міністэрства). Трэба вучыць, бо на кожным уроку неабходна будзе «аддувацца» за ўсіх... Сёння галава забалела ад праверкі сшыткаў: прынёс Уладзімір Антонавіч дыктанты ўсе, а там — памылак!.. Слабая грамата ў нашых студэнтаў!..

**7 студзеня 1947 года**

Шмат разоў бралася я за гэты сшытак, каб запісаць, і ўсё адкладвала... Сёння на ўроку (фізкультуры!..) адбыўся ўзаемаабмен фотакарткамі, першая і незвычайная размова пра жыццё, пра персанажы раманаў «Анна Каренина» і «Рудин». Прыйшлі да заключэння, што Рудзін большасці не падабаецца, а падабаецца — Валынцаў. Што Анна Карэніна распусная і неідэальная, а сімпатыі на баку Карэніна.

Зноў, як калісьці, паўстае пытанне і сумненне, што ж з'яўляецца галоўнейшай умовай у дасягненні поспеху, шчасця?..

Супругі Качан і Шуцько настойліва патрабуюць да іх на працу (у рэдакцыю раённай газеты, з прадастаўленнем усіх умоў). Сэрца баліць, як падумаеш, што трэба пакідаць вучобу!..

Не ведаю, што цэніцца ў народзе, што на першым месцы паставіць: ці багацце, ці розум, ці прыгажосць? Вазьмуся за розум, здольнасці… Не стрымаць імкнення да ведаў, да кнігі... Іншы раз прыходзяць мары: скончацца ўрокі, складу ў партфель кнігі, пастаўлю каўнер паліто і пабягу дамоў па марозцу, у цёплы і светлы пакой, паабедаю — і працаваць, працаваць... Як бы гэта вучыўся?!. Але гэта і ёсць умовы... А як бы жыў, калі б апранаў і абуваў тое, што хочацца і добрае!.. Я ж зусім не той раблюся! На жаль, не тыя думкі, што ўчора былі... Нездарма ж нехта з пісьменнікаў сказаў, што слава гасне перад прыгажосцю... Не, і гэта няпраўда! Кожны сам сабе добры... І мне вось пры ўсёй маёй беднасці прыходзіцца быць шчаслівай...

**9 студзеня 1947 года**

...Бягу на выбарчы ўчастак № 3, дзе з'яўляюся даверанай асобай ад райкама камсамола пры падліку галасоў.

У гэты вечар адбылося страшнае і непрыемнае для нашага вучылішча: арыштавалі нашых чатырох студэнтаў, і якіх студэнтаў! М-ц (сакратар камітэта камсамола вучылішча), Б-іч (камсамолец і член прафкама), Е-аў (камсамолец, камандзір узвода) і Ф-с А. І да гэтага часу не ведаем, што за прычына. Б-ча ўзялі з танцаў, а Ф-са з М-ам — з кватэры ноччу, Е-ва — пасля галасавання...

Дрэнныя справы і ў такі святочны дзень — дзень выбараў у Вярхоўны Савет БССР...

Вялікая і радасная падзея — прыехала мама, была цэлых два дні і так мёрзла, бедная... Пры непасрэдным удзеле Таццяны Сяргееўны Шуцько і Качана мы ўгаворвалі маму пераязджаць у Глыбокае жыць і працаваць. Але мама адмовілася. Можа, гэта і лепей... Усё ж жывёш і думаеш, што ёсць недзе хата (хоць і разбітая вайной!), куды можна з'ездзіць, дзе ўсё роднае, сваё... Горка плакала я, праводзячы маму. Успомнілася ў гэты час птушка, якая нечакана трапіла ў жыллё. Б'ецца-б'ецца яна ва ўсе сцены, у шчыліны, жадаючы вырвацца на волю, заб'ецца, сядзе дзе-небудзь у кутку, складзе і апусціць крылцы, бяссільная. Нехта патрывожыў — і яна зноў б'ецца і лятае, і вось адшукала жаданую дзірку або фортку, ці шырока расчыненыя дзверы і… вылецела на свабоду!..

Так вось і мы б'ёмся ва ўсе сцены, пастаўленыя жыццём, то мацней, то слабей, шукаем шырокіх дзвярэй да свабоды, да лепшага жыцця. Але няма іх пакуль...

**12 студзеня 1947 года**

Мы, не ў сілах больш дажываць да прамярзання касцявога мозгу, перацягнулі койку сваю ў пакой да дзяўчат на 3-ці паверх, дзе хоць на нейкую долю цяплей (ім жа бацькі прывозяць з вёсак дровы на санях). А каля печкі дык і зусім магчыма! І я мела магчымасць з задавальненнем разы тры пагрэць плечы каля яе. Спім тут, ядзім пакуль што ў сябе, урокі вучым дзе давядзецца: у класе, у пакоях дзяўчат, а то і нідзе... Атрымала па рус. літ. «5», а па методыцы геаграфіі заявіла, што нічога не ведаю... Маня паедзе на практыку дамоў, ва Ушачы. А мне зноў напомнілі пра тое, пра што заўсёды думаю, — працу ў рэдакцыі. Маруся піша: «Усе настаўнікі раяць... Кожны пісьменнік у свой час папрацаваў у рэдакцыі» (во як, мяне з пісьменнікамі параўноўваюць!..).

У пакоі сыра, дурное паветра, цяжка да каго звярнуцца па дапамогу (толькі крычаць і шумяць начальнікі нашы).

**14 студзеня 1947 года**

Павінна адкрыцца сама сабе, што не зусім ужо не валодаю дарам назіральнасці. Вось, напрыклад, сёння ў час пісьмовай работы я выкарыстала яшчэ той выпадак, калі хадзілі па грыбы са свайго «дэпо» з Марусяй... Здаецца, на ўсё глядзіш і нічога не можаш заўважыць. А трэба прывыкаць гаварыць пра прадметы менавіта характэрнымі словамі.

Чытала «Маладую гвардыю» (для ўсіх, громка, да самага цёмнага). А калі ж узяцца ды напісаць што-небудзь? П. У. Броўка прасіў дасылаць яму, што напішу, для паправак, рэкамендацый, парад... Але, кажа, калі не буду ленавацца... Ды якое ж тут гультайства, калі немагчыма... Пакіну... Пакіну...

Клас грымнуў рогатам: адказвае Ізм-іч і не прывяла прыклад на рыску пасля «па–».

— Стараннік дасць! — робіць паслугу Логуш.

— Ну, ну, скажы!

А той «глаголит»: «Понапрасну Ванька ходишь, понапрасну ноги бьёшь»... (гэта да Ак-кі). Рогат бурны...

І сама трапіла «пад абстрэл»: выклікаў Калтовіч У. А. і запытаўся ўтварэнне прыслоўяў, але я ведала — «5» паставіў.

**17 студзеня 1947 года**

Спаборнічалі каманды дапрызыўнікоў — нашы «асы» першыя! 10 км у процівагазах з гранатамі, вінтоўкамі, праз перашкоды. Я кінулася хутчэй да Янака, узяла яго лыжы. Бедны Пеця К., адразу лёг, яму ж горш за ўсіх. А Эдзік Г. — гордасць! Ён цягнуў тры вінтоўкі і прыбег першым! Вось юнак! Не, не будзе такіх!.. І калі прывялі «Бондзю» з акардэонам, — яны не сцярпелі і пусціліся танцаваць...

Пазнаёміліся са спартсменамі, военачальнікамі і іншымі. Елі ў чайнай. Пасля абеду Тамара з Ірай пайшлі дамоў, а я на лыжах Яноўскага трэніравалася (я ў каман-

дзе дзяўчат, ехаць трэба 5 км). І што ж, самая паўнейшая няўдача: праехала метраў 150 і разы чатыры папраўляла спадаўшыя рамяні. Вярнулася... Як вершы пісаць, як дыктанты, як, нарэшце, польку танцаваць, так павінна і на лыжах хадзіць!..

Як-ніяк, а 21-га збіраемся ў Мінск на спаборніцтвы. А хлопцы сёння едуць у Полацк. Удачы ім!..

**26 студзеня 1947 года**

Вось прыйшоў у клас Дашкевіч і кажа: «Ужо прагучала па радыё перадача пра сустрэчы з П. У. Броўкам» і пра мой прывітальны верш, прысвечаны яму... Ну як жа не радавацца?! А трэба расці і расці!.. Пётр Усцінавіч абяцаў, што на выпускны вечар прыедзе з Коласам і іншымі паэтамі. Вось будзе гулянне!..

**27 студзеня 1947 года**

Была ў вёсцы, рабіла даклад, выступалі, слухалі людзі і потым, казаў Пётр, здзіўляліся: «Глядзіце, дзяўчына, а сячэ, быццам з-пад тапара!» Пасля з моладдзю танцавалі, спявалі.

«Вярнуліся з праверкі» сшыткі з вершамі, і Аркадзь Іванавіч сказаў: «Нічога дрэннага заўважыць не магу. Чыталі мы іх калектыўна». Раіць яшчэ раз прачытаць «Теорию» Вінаградава.

Загаварылі пра вучобу, здольнасці, і я сказала, што пайду на завочнае... Усе ахнулі, пачалі суцяшаць, спачуваць...

— Хто хоча вучыцца, хто можа, — кажа Аркадзь Іванавіч, — таму няма магчымасці...

А як быць самой у гэтай справе?..

**4 лютага 1947 года**

Яшчэ раз перадавала радыё з Мінска пра сустрэчы з паэтам Броўкам і пра мае выступленні. А сёння па руках у класе ходзіць артыкул з раённай газеты: «Броўка ў студэнтаў» з тым жа зместам.

**28 лютага 1947 года**

Зноў у Глыбокім. А дзе ж я была цэлы тыдзень? Не верыцца, не, не верыцца... У Мінску!.. У роднай, слаўнай сталіцы! Я заўсёды буду з хваляваннем успамінаць пра цябе, з пачуццём вялікай радасці, гонару, цеплыні. Я ніколі не забуду дні, праведзеныя тут. З болем у сэрцы ўспомню твае свяшчэнныя руіны!.. Не, не магу...

Гатовая рыдаць... Я ўбачыла пасляваенны Мінск, мужны, нескароны ворагу...

Прайшло толькі два гады, як скончылася вайна, Вялікая Айчынная. А горад жыве, працуе, адбудоўваецца... Мы ідзём па вуліцах Мінска. Яшчэ бачны сляды фашысцкай акупацыі: разбураныя дамы, каменне і цэгла, ямы ад варожых бомб і снарадаў... На галоўнай вуліцы — працуюць будаўнікі (як і на іншых), бачны групкі моладзі, студэнтаў, школьнікаў, якія выйшлі на дапамогу будаўнікам; грукочуць машыны, прыбіраючы смецце, расчышчаючы пляцоўкі для будоўлі...

Прыпыніліся, паглядзелі ўдалеч — і ўсё бачна навокал, няма перашкод, няшмат захавалася будынкаў... Як жа цяжка будзе ўсё гэта адбудаваць!..

У адным з магазінаў купілі маленькую кніжачку пра горад (хацелася больш даведацца пра тых людзей, хто змагаўся ў Мінскім падполлі). А іх жа, пэўна, было многа, патрыётаў-змагароў! Абавязкова даведаюся пра іх барацьбу!.. Я ж сама вырасла ў партызанскім краі!..

Дзякуй лёсу, што трапіла ў Мінск пасляваенны, будзе што расказаць сваім нашчадкам, калі яны будуць у мяне!..

…Сабраліся ўсёй камандай у 25 чалавек (у Ветрыне). Паехалі. Усё было добра ў дарозе, толькі... Маня згубіла білет і пашпарт. Я даведалася пра гэта ў Маладзечне. Так, перажыць прыйшлося... Але (мусіць, бог міласцівы) яны знайшліся ўжо ў Мінску за падкладкай яе паліто...

Тысячы людзей. Мароз. Лыжы ў чахлах. Вучэбная машына. Беламорская, д. 31, школа ФЗО № 24 будаўнікоў, 2-і паверх, цёплы светлы пакой. У інтэрнаце — 500 лыжнікаў, уся сіла рэспублікі, юная сіла. З якой зайздрасцю глядзелі мы на прыгожыя касцюмчыкі спартсменаў, на іх лыжы! Вось падвёў нас гэты Д-жа пракляты!.. Да, чаго давёў, п’яніца, прапіў усе грошы яшчэ ў Крулеўшчызне, потым у Мінску, што былі адпушчаны для нас, лыжнікаў, не праявіў клопату пра нас... І выгляд у нас быў нікчэмны, бедны... Сорамна было перад іншымі...

У нашу адсутнасць арыштавалі яшчэ Б-іч, П-ка, Б-ук (Л. і Е.). Б-іч — адзін з заснавальнікаў і вучылішча гэтага, і камсамола, першы скрозь і ўсюды!.. Жудасць бярэ ад

усяго гэтага! Нічога добрага ні чакаць, ні думаць не прыходзіцца. Я вельмі хвалююся.

А сёння, 1 сакавіка, арыштавалі і ўвезлі Т-лу А.

**2 сакавіка 1947 года**

Трэба запісаць хоць крыху з падзей мінскіх.

23-га лютага, першы дзень, — парад удзельнікаў у парку культуры і адпачынку імя Горкага, на ледзяным полі стадыёна «Харчавік». Я — у шэрым, з сінім папярэчным шлякам світэры і шэрых шараварах, у ботах і перавязанай «жгутом» блакітнай хустцы. У руках лыжы. Кругом катка развяваюцца вялікія чырвоныя, зялёныя шаўковыя сцягі. З рэпрадуктара даносіцца «Марш фізкультурнікаў». Суддзя з рупарам у руках падае каманду для пастраення па двое. Я стаю з Вольгай Вараб'ёвай, моцнай лыжніцай з Ветрына, членам нашай зборнай каманды. Рапарты, даклады, каманды розныя... Шчоўкаюць фотаапараты, на трыбуне — кіназдымшчык. Мы стартуем на іпадроме. Першымі ў эстафеце 3 па 5 км ідуць Казак, Канановіч, Юхноўскі. Потым — дзяўчаты. Першай ідзе Маня (мая сястра). Усе мы: Маня, Валя і я стартуем пад нумарам 51. Маня ішла другой, але недалёка ад фінішу ўпала і аказалася пятай. За ёй — Валька (гэта апошняй прыйшла). Дзе ж мне цяпер нагнаць? Ірвуся са старту... Дагнаць, дагнаць!.. І вось я абганяю апошнюю, мінскую... Адзін круг, другі — прыходжу да фінішу першай. Чую пахвалы, радасць сваіх і чужых: малайчына!..

А потым — тэатр (дырэктар купіў білеты). Здымаем сваё верхняе адзенне і застаемся не ў зусім прывычных воку пастаяннага наведвальніка тэатра спартыўных касцюмах. Але нічога, не саромеемся ніколькі! Я — у світэры чырвоным, спадніцы сіняй, з-пад яе бачны шаравары, як у хахла, у той жа любімай павязцы на галаве (але, ей-богу, я выглядала цудоўна!), а Маня — і таго «лепш» — толькі ў жакеце і шараварах... Глядзім «За тых, хто ў моры», а іграюць найлепшыя артысты рэспублікі: Глебаў, Рахленка, Ждановіч, Бірыла, Шаціла, Уладамірскі, Ржэцкая, Янпольскі, Бараноўскі, Кудраўцаў і іншыя. Падымаецца вялікі, ліловага плюшу занавес, і бачым у блакітнай нябеснай вышыні белы флаг на мачце, белую лятучую чайку...

Першая сцэна... І я перастала існаваць для ўсяго зямнога... Пэўна, смешная была я, не заўважаючы акружаючых, калі дырэктар у антракце падышоў і пытаецца: «Ну як, спадабалася?» А потым дабавіў, што ў вучылішчы правядзём дыспут па спектаклю, што мне выступаць прыйдзецца.

Цяпер вось пішу і перада мною артыкул «Спектакль пра гераізм і мужнасць», пра ўсё тое, што я асабіста бачыла і чула. Зноў усё не веру, ці праўда гэта...

Трашчыць галава, ные ў грудзях... Можна сказаць, страціла адразу двух блізкіх людзей: сёння раніцай паехала на практыку Маня (дамоў, ва Ушачы), а раней яшчэ — не стала сябра-студэнта...

Паехаў увесь трэці курс практыкавацца... У вучылішчы ціха, сумна... Закончу словамі Герцэна: «Время, опыт — единственные права, чтобы дружбу признать истинною. Что значит иметь друга, это я знаю, что значит ошибиться в человеке — и это я знаю: это кусок мяса, отодранный от своего сердца, горячий и кровавый...»

**3 сакавіка 1947 года**

Так і быць: штодзённа пакрыху буду ўспамінаць, хоць яно ўсё, як жывое, стаіць перад вачыма, але больш за ўсё тады, калі гляджу на фота... Разляцеліся, як птушкі, дарагія таварышы, студэнты 3-га курса, пайшлі на практыку. Даўно дома Маня (сёння ўжо ўбачыла яе ў сне), дзесьці ў Лужках Пеця К., усе астатнія лыжнікі засталіся тут (Пётр Ю., Эдзік Г., Стась К. і іншыя менш блізкія). Гляджу на фота, зробленае ў Мінску. Пастроіліся неяк на двары каля будкі фатографа, хто ў чым!.. А потым селі мы з Маняй, а за намі сталі Эдзік Г. і Пеця К. Добра выйшла Маня, крыху горш — Эдзік, цудоўна атрымаліся я і Пеця, ззаду стоячы. Агульнае фота атрымалася не вельмі добрым. На другім баку яго я напісала: «Ніколі, ніколі не забуду, да апошніх дзён жыцця, гэтага студэнцкага жыцця слаўнага, гэтай пастаяннай нястрымнай весялосці, гэтай узаемнай павагі і любові, гэтай светлай і моцнай дружбы».

«Самае цяжкае — гэта першыя крокі. Першыя крокі немінучы ў кожнай справе, і амаль заўсёды бываюць цяжкімі. Не будзем жа баяцца цяжкасцей і пастараемся як мага хутчэй зрабіць менавіта гэтыя крокі» (з методыкі).



# АНАЛОГІІ

*На мінскіх Кальварыйскіх могілках заўсёды царавалі вароны. І тады, калі пасаджаныя тут дрэўцы былі зусім маладзенькімі. І тады, калі дрэвы падраслі, зашумелі густой лістотай — надзейным сховішчам ад людскіх вачэй.*

*Магчыма, гэта былі не толькі вароны, але і гракі. Але Антось не надта ўмеў іх адрозніваць. Лётаюць, гарлаюць, на фоне неба — аднолькава чорныя.*

*Вось крумкачы тут дакладна не сяліліся. Крумкач — птушка гордая, самотная.*

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ
«Пярсцёнак апошняга імператара»

***Што лепш: знайсці вечны спакой у Вестмінстэрскім абацтве, месцы, дзе знаходзяцца самыя прэстыжныя могілкі свету, ці быць аб'яўленым непераўзыдзеным геніем, але гадоў гэтак праз дзвесце, не раней? Трэцяя па ліку размова з астрапсіхолагам Аляксеем Селянінавым ставіць перад чытачамі і аўтарамі «Маладосці» такое вось неардынарнае пытанне. Адказаўшы папярэдне на іншыя: чым дакладна геній адрозніваецца ад таленту і хто на самай справе атрымлівае, а галоўнае — плоціць ганарары.***

**А. С.** — …Востры на язык філосаф Шапенгаўэр пісаў, што ў практычным жыцці ад генія не болей карысці, чым ад тэлескопа ў тэатры. Шапенгаўэр быў глыбокі філосаф. Сапраўды, тэлескоп у тэатры непатрэбны: неабходны там бінокль. А ў тэлескоп мы разглядаем нябесную сферу. Дык вось талент — гэта бінокль, тады як геній — тэлескоп. Але дзе канчаецца сфера дзеяння бінокля і пачынаецца сфера дзеяння тэлескопа, сказаць дакладна цяжка.

**С. Д.** — Згодна з адным выразам лічыцца, што геній — гэта талент, замешаны на працы ў прапорцыі адзін да дзевяноста дзевяці. Гэта ж гамеапатычная доза! Бяром малекулу таленту, прымешваем сумніўны цукар працы — атрымліваем геніяльны твор? З гэтага вынікае наступнае: чалавек, маўляў, хоць і валодае талентам, але назваць геніяльным можна толькі яго твор, а не яго самога. Гэта я пра тое, што не ўсе выразы трапныя, нават калі яны народжаны тымі, каго лічаць геніямі. І сапраўды, некаторыя біноклі «бачаць» далей, чым іншыя тэлескопы.

## СЁЕ-ТОЕ ПРА САЧАВІЧНУЮ ПОЛІЎКУ

**А. С.** — Будзем гаварыць так: здольнасці — гэта рэалізаваныя на працягу жыцця задаткі, а талент — вышэйшая праява здольнасцей. Папярэднія ўяўленні пра тое, што псіхіка нованароджанага — гэта tabula rasa, чыстая дошчачка, на якой можна напісаць што заўгодна, абвергнуты. Чалавек нараджаецца з пэўнымі схільнасцямі, так ці інакш у яго найбольш развіты тыя ці іншыя структуры мозга. Гэта і ёсць субстрат, на якім утвараюцца задаткі. Але я ўсё ж супраць біялагізатарскага, вульгарна-матэрыялістычнага падыходу. Ёсць у гэтым нешта большае, нешта такое, што выходзіць за межы зямнога разумення. Талент, згадзіцеся, заўсёды харызматычны. Ён прыцягвае да сябе ўвагу нейкага кола людзей, няхай і не вельмі шырокага. Харызматычным можа быць не толькі палітык або дыктар тэлебачання. Калі бліжэйшае акружэнне прыглядаецца і прыслухоўваецца да цябе, прызнае ў табе ўладара думак, гэта азначае, што ты — харызматычны.

**С. Д.** — Відаць, такім спосабам да нас даводзіцца, што талент — гэта місія. А харызма «ідзе ў камплекце» — як інструмент, які прыкладаецца да яго, каб палегчыць працэс выканання гэтай місіі.

**А. С.** — Так і ёсць! Значэнне слова «харызма» — божы дар, тое, што дадзена звыш. І, трэба разумець, дадзена ў часовае карыстанне. Безумоўна, гэта значыць, што тонкі план, вышэйшыя сілы, Бог (можам назваць гэту інстанцыю яшчэ як-небудзь) на цябе разлічвае. Табе дадзены ў карыстанне пэўныя здольнасці з разлікам на тое, што ў цябе атрымаецца іх раскрыць і рэалізаваць на карысць грамадства. Так, талент — гэта дар і, безумоўна, місія. Тут дарэчы ўзгадаць адну прытчу.

Як вядома, у Старажытнай Грэцыі талентам называлася адзінка вагі і адначасова грашовая адзінка. Мераць грошы вагой — гэта, увогуле, старадаўняя традыцыя: успомніце хаця б англійскі фунт. Дык вось, згодна з біблейскай прытчай, гаспадар даў кожнаму з трох сваіх слуг па таленту — самай буйнай грашовай адзінцы на той момант. Першы з іх пусціў яе ў абарот і прымножыў сваё багацце, другі закапаў свой талент у зямлю, а трэці размяняў і змарнатравіў. Біблію трэба чытаць і паміж радкоў, улічваючы, што акрамя зямнога, відавочнага значэння яна мае яшчэ і сімвалічнае. Тады ў якасці гаспадара можа выступаць сам Гасподзь, а слугі — людзі. Памножыць талент, развіць яго — гэта, усе пагодзяцца, ідэальны варыянт. Дзіўна, што другі варыянт — закапаць у зямлю, не выкарыстаць па назначэнні (не палічыць магчымым, пабаяцца, не знайсці у сабе сілы) — лічыцца дрэнным. А ён, на мой погляд, проста нейтральны. Бо горш за іншых адчувае сябе той, хто распусціў свой талент, размяняў яго на прыгаршчу медзякоў імгненнага зямнога поспеху. Ён пазбаўляецца гэтага дару, сваёй харызмы, назаўсёды. Таму што не апраўдаў даверу. Той жа, хто закапаў, яшчэ мае магчымасць адкапаць…

**С. Д.** — Але ж давайце паглядзім на тых, каго ўсе называюць таленавітымі і паспяховымі, да каго хочуць быць падобнымі і чый статус лічыцца недасягальным. Спевакі і спявачкі. З ліку тых, каго нават не называюць артыстамі, яны — выканаўцы (чыёй толькі волі?). Тэлевізійныя вядучыя. Да гэтых бірка «паспяховы» прыклейваецца «аўтаматам». Многія з гэтых людзей гатовы плаціць грошы, каб журналісты бралі ў іх інтэрв'ю, а рэдактары часопісаў змяшчалі на вокладках іх фота. Дзіўна, але яны ўпэўнены, што менавіта гэта і ёсць поспех. Наіўныя, яны так ніколі і не зразумеюць, што за грошы можна набыць толькі штучнае. Між тым, Віктор Гюго пісаў, што поспех — рэч гнюсная, што людзей уводзіць у зман яго відавочнае падабенства з заслугай. Для людскога натоўпу поспех — гэта амаль тое ж самае, што і перавага. «Зоркападобныя адбіткі качыных лапак на мяккай гразі балота яны прымаюць за сузор'і ў бяздонных глыбінях неба».

**А. С.** — За такія памылкі заўсёды прыходзіцца плаціць. Псіхічныя парушэнні, дэпрэсіі, алкагалізм і наркаманія — гэта адсюль. У кожнага чалавека існуе вышэйшае, ідэальнае Я. Дзякуючы гэтай інстанцыі чалавек не можа не параўноўваць сябе рэальнага з сабой патэнцыйным — з тым, кім ён мог бы быць. І чым бліжэй ён у сваіх параўнаннях да ідэалу, тым больш шчаслівым, добраўпарадкаваным і рэалізаваным сябе адчувае. Рэальная і даволі распаўсюджаная сітуацыя: здавалася б, запатрабаваны, модны мастак не вылазіць з дэпрэсіі. А ён проста параўноўвае сваё кан'юнктурнае, сённяшняе, імгненнае з тым, што мог бы стварыць пры іншых абставінах. І яму хочацца гэта стварыць, але, на яго думку, яно не знойдзе патрэбнага водгуку. Ён, кажучы словамі Бібліі, ужо прадаў свае права першародства за сачавічную поліўку. А гэта нават не кампраміс — будзем называць рэчы сваімі імёнамі. Гэта здзелка. З сабой і сумленнем. Вышэйшае Я і сумленне — гэта адна і тая ж інстанцыя.

Законы, якія кіруюць нашым жыццём на зямлі, відавочна, існуюць і ў нябёсах. Згодна з крымінальным кодэксам, за злачынствам ідзе пакаранне. Але адсутнасць дзеянняў таксама можа разглядацца як злачынства. Асаблівы артыкул пад назвай «Злачынная бяздзейнасць», як я падазраю, ёсць і ў Вышэйшым Кодэксе. Чаму многія людзі жывуць з пачуццём віны, хаця яны, на першы погляд, не зрабілі нічога дрэннага? Тлумачэнне про-

стае: гэта адчуванне нявыкананасці сваёй місіі — і прадчуванне непазбежнасці адказу згодна менавіта з гэтым артыкулам.

## ТАЛЕНАВІТЫ ЧАЛАВЕК

**С. Д.** — Таленавіты чалавек для Стваральніка, мне здаецца, тое ж самае, што для настаўніка вучань-выдатнік. Апошні таксама і насценгазеты малюе, і ў алімпіядах бярэ ўдзел, і ў зборы макулатуры на яго найбольшае спадзяванне, таму і заданне пад нумарам з зорачкай адрасавана заўсёды менавіта яму. Стваральнік ідзе далей: «Ці не падкінуць яму да паэтычных здольнасцей яшчэ і талент арганізатара?» Усё ж праўду кажуць: таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім.

**А. С.** — Ёсць людзі, на якіх пячатка генія ляжыць ад нараджэння. А можа быць і так, што патэнцыял чалавека раскрываецца паволі, з цягам часу. З гэтага пункта гледжання ён нібыта праходзіць перыяд вучнёўства. Хрыстос быў пракрокам ад нараджэння, а Маісей зрабіўся ім у сталым узросце. Я не выключаю і той варыянт, калі па меры раскрыцця таленту чалавеку даюцца новыя заданні. Усе ведаюць, што Фрэйд — гэта пачынальнік псіхааналізу, які цалкам змяніў падыход да псіхікі чалавека і аналізу яго светабудовы. Але мала каму вядомы такі факт, што ў 1930 годзе Фрэйд стаў лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Гётэ. Не як псіхолаг, урач, навукоўца, а як… літаратар. Сапраўды, працы Фрэйда ў добрым перакладзе чытаюцца разумнымі людзьмі з вялікай асалодай. Мала яму было прасвятлення ў псіхааналізе, ён яшчэ здолеў папулярызаваць сваё адкрыццё агромністай колькасцю тэкстаў. Альберта Швейцара, які атрымаў прэмію Гётэ раней за Фрэйда, у 1928 годзе, мы ведаем як гуманіста, філосафа, урача, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Міру. А ён быў яшчэ і таленавітым музыкантам-арганістам, і самабытным музыказнаўцам, які значна паспрыяў вывучэнню і распаўсюджанню творчасці Іагана Себасцьяна Баха.

Талент не можа не ствараць, інакш гэта проста рамеснік. Дзейнасць апошняга рэпрадуктыўная: ён «капіруе» на падставе ўзораў мінулага. І гэта можа быць добра, нават выдатна. А талент (і тым больш геній) — заўсёды крэатыўны: ён стварае нешта прынцыпова новае, тое, чаго яшчэ не было. Пры гэтым талент прымушае нас пагядзець на свет яго вачыма, а геній — пераварочвае наша ўяўленне пра акаляючы свет. Чалавецтва не ведала, напрыклад, што існуе закон гравітацыі, пакуль яблык не зваліўся на галаву Ньютану. Тут напрошваецца яшчэ адна аналогія: талент — гэта вынаходніцтва, а геній — адкрыццё. Шуман гаварыў, што талент працуе, а геній стварае. Але хутчэй так: рамеснік працуе, а талент творыць.

**С. Д.** — Вось і відаць, што з часоў Шумана шмат што змянілася. Шкала каштоўнасцей дакладна пасунулася ўніз. Талентам, бачыце, цяпер называецца той, хто валодае ўсяго толькі задаткамі, а тыя, у каго здарыўся пробліск таленту, аб'яўляюцца геніяльнымі. Я не магу не заўважаць існавання яшчэ аднаго дзіўнага крытэрыя: пакуль творца жыве, яго называюць таленавітым, як толькі памірае, яго далучаюць да ліку геніяў. Выходзіць, усе, хто сёння нешта піша — кніжкі, музыку, карціны, — утвараюць чаргу ў пантэон, пад шыльду «Класікі». Але хіба ў гэтым сэнс існавання геніяў?

## І БОГ, І ЛЮДЗІ

**А. С.** — Як і заўсёды, каб лепш зразумець сэнс таго ці іншага тэрміна, я прапаную зрабіць этымалагічны аналіз. Слова «геній», як мы ведаем, бярэ пачатак ад лацінскага genius — дух. Геніямі ў Старажытным Рыме лічыліся боствы, калі жадаеце, анёлы-ахоўнікі — чалавека, роду, дому, горада і нават цэлай дзяржавы. Такім чынам, ужо само паходжанне слова падкрэслівае яго незямную прыроду, звышнатуральнасць, трансцэндэнтнасць: геній — гэта нешта такое, што зямному не належыць. Ізноў дазволю сабе бытавую аналогію. Звычайны чалавек з сярэднестатыстычнымі здольнасцямі — гэта лямпачка накальвання: дваццацьпятка, саракоўка, сотка — каму як пашанцавала. Талент — гэта таксама асвятляльны прыбор, але большай магутнасці: магчыма, фотаўспышка або пражэктар. Геній — гэта ўжо нешта падобнае да ўспышкі маланкі.

Напрыклад, у гісторыі навукі гэта ўзровень Каперніка, Галілея, Ньютана, Фрэйда ці Эйнштэйна: гэта зрух парадыгмы.

**С. Д.** — Зрух по фазе. Прабачце, але ў фізіцы гэты выраз мае дачыненне да электрычнасці, а вы ўзгадвалі электрычныя прыборы і з'явы. Талент — гэта той, з кім лепш відаць, а ідэі генія напачатку здаюцца вар'яцтвам.

**А. С.** — А ці ведаеце вы, што фундаментальная праца знакамітага італьянскага псіхолага і судовага псіхіятра Чэзарэ Ламброза так і называецца: «Геніяльнасць і вар'яцтва»? Ён разглядае гэтыя паняцці як грані аднаго крышталя. У сваіх высновах ён бязлітасны, як тыповы прадстаўнік знака Скарпіён. Але, чытаючы працу, міжволі прымушаеш сябе падумаць пра тое, што спадар Ламброза ў многім мае рацыю. Менавіта з гэтай прычыны яго меркаванні не вельмі папулярныя: лічыцца, што шырокаму колу чытачоў не трэба з імі знаёміцца. Як астрапсіхолаг скажу, што геній — гэта чалавек, які знаходзіцца пад уплывам адной з вышэйшых планет, не бачных воку, — Урана, Нептуна ці Плутона. Дарэчы, астрапсіхалогія, як мне здаецца, дазваляе правесці свайго роду «дыферэнцыйную дыягностыку» паміж паняццямі «талент» і «геній». Дапусцім, што перадумовы для адоранасці фарміруюцца пад уздзеяннем аспекта Сонца і Нептуна. Дык вось, у выпадку таленту мы маем Сонца, падтрыманае тонкімі вібрацыямі Нептуна, а ў выпадку генія пераважае Нептун: мы маем ахвярнае Сонца, якое падпітала Нептун, аддало яму сябе цалкам. Безумоўна, выяўленасць вышэйшай планеты заўсёды адзначае тонкасць, магчыма, нават эфемернасць грані паміж свядомым і несвядомым. Прыпадобіўшыся да Чэзарэ Ламброза, мы вымушаны прызнаць: лёс генія заўжды складаны. Як правіла, гэта людзі з пэўнымі псіхалагічнымі акцэнтуацыямі. Не можа быць інакш. Як не можа звычайны, сярэднестатыстычны чалавек стварыць тое, што прымусіць змяніць погляд на свет, зрушыць існуючую парадыгму.

**С. Д.** — І зразумела ж, чалавек не можа называцца геніем, а яго творы — геніяльнымі пры жыцці або адразу пасля смерці. Паколькі ў дачыненні да генія ўсё адпавядае звышзвычайнасці, мне тут бачыцца аналогія з далучэннем да ліку святых. У гэтай справе акрамя выканання некаторых умоў патрэбен прамежак часу, і не малы. Караткевіч, дарэчы, пісаў, што чалавек — гэта тое, кім ён будзе, а не тое, кім ён з'яўляецца цяпер.

**А. С.** — Так, святым дазволена тварыць цуд, яны, такім чынам, могуць мяняць рэчаіснасць. Геній таксама творыць цуд і мяняе рэальнасць. Тут напрошваецца яшчэ адна аналогія. Суадносіны паміж талентам і геніем у нечым нагадваюць суадносіны паміж такімі паняццямі, як святар, дакладней, спавядальнік, і прарок. Не трэба толькі прарока блытаць з прадракальнікам: прарок не прадказвае будучыню, ён абвяшчае, як гэта рабіў Маісей, чалавецтву ў цэлым або пэўнай яго частцы нейкі сусветны закон. Што робіць спавядальнік? Ён прадстаўляе людзей Богу. Што робіць прарок? Прадстаўляе Бога людзям. Так і тут: талент набліжае людзей да Бога, а геній — Бога да людзей. Магчыма, гэта занадта смелая метафара, але…

**С. Д.** — Мне падабаецца. Вы вось надта прыгожа сказалі пра лямпачкі накальвання, пражэктары і маланку, але што вы скажаце пра вулічныя ліхтары? Ёсць жа людзі, якія выконваюць гэту ролю: за кошт святла, якое яны выпраменьваюць, наперад крочыць нехта іншы.

## МІСІЯ ВУЛІЧНАГА ЛІХТАРА

**А. С.** — Быў некалі выдатны псіхолаг Віктар Франкл. Прайшоўшы праз жахі нямецкіх канцлагераў, гэты чалавек увесь свой час прысвяціў пытанням сэнсу жыцця. І калі ў яго спыталі: «Доктар Франкл, а ў чым сэнс менавіта вашага жыцця?», ён адказаў: «У тым, каб дапамагаць іншым людзям адшукваць сэнсы іх жыццяў». Магчыма, наша размова рызыкуе аказацца не вельмі паслядоўнай, але давайце раскрыем гэту тэму.

Ні ў кога не выклікае сумненняў геніяльнасць Моцарта, Вольфганга Амадэя. Але ўспомнім яго бацьку. Леапольд Моцарт сам быў адораным кампазітарам і бліскучым

музыкантам. Але галоўнае ў тым, што ён быў выдатным педагогам. Яго трактат пра мастацтва ігры на скрыпцы, вытрымаўшы вялізную колькасць перавыданняў, на працягу многіх дзесяцігоддзяў лічыўся непераўзыдзеным. Цяжка сказаць, ці здолеў бы Моцарт-малодшы ў поўнай меры раскрыць свой велізарны патэнцыял, калі б не педагагічны дар яго таленавітага бацькі. Вось вам і ліхтар. Дарэчы, сам Вольфганг Амадэй Моцарт у свой час не захацеў займацца з юным Бетховенам, і нават, па адной з версій, назваў яго неацясаным правінцыялам, які не варты часу вельмі запатрабаванага кампазітара. Іосіф Гайдн таксама не ўбачыў у Бетховене генія. Так і не здолеўшы атрымаць добрую адукацыю з прычыны беднасці, Бетховен усё ж прайшоў пэўную школу. У яго быў вельмі дастойны педагог, хаця імя гэтага чалавека стала хадзячай назвай у самым жудасным сэнсе. Настаўнікам і блізкім сябрам Бетховена стаў Антоніа Сальеры. Яго музыка, канешне, саступае музыцы Моцарта, аднак гэта відаць сёння, па прашэсці часу, які, паўторым, патрэбен для таго, каб выкрышталізаваўся геній. У свой жа час, пры жыцці, Сальеры быў нават больш папулярным, чым Моцарт. Яго оперы ішлі ва ўсіх тэатрах, ён быў прыбліжаны да аўстрыйскага імператара. Сальеры, натуральна, не меў патрэбы ў грошах і таму дазваляў сабе займацца з тымі, каго лічыў асабліва таленавітымі, бясплатна. Дзесьці з шасці дзясяткаў яго выхаванцаў добрая палова фігуруе цяпер у музычных слоўніках і энцыклапедыях. Для большай ілюстратыўнасці назавём хаця б тры імя: Бетховен, Шуберт, Ліст. Вось вам яшчэ адзін прыклад вулічнага ліхтара…

У Сусвеце ёсць рознамаштабныя з’явы, і на Зямлі, на жаль, таксама. Той, хто ў межах адной культуры здаецца неперавзыдзеным, у межах іншай можа згубіцца. Напрыклад, у Расіі геніямі могуць лічыцца паэты ўзроўню Пушкіна ці Лермантава. А Баратынскі ці Дэльвіг, якія склалі б гонар любой іншай культуры, — безнадзейна другаразрадныя. Іншымі словамі, улічваць трэба маштабы не толькі асобы, але і той культуры, якая гэту асобу спарадзіла.

Безумоўна, каб ідэя генія стала хаця б даступнай, грамадства павінна быць падрыхтаваным. І на ўзроўні калектыўнага несвядомага павінны адбыцца пэўныя падзвіжкі. Суадносіны паміж талентам і звычайным чалавекам — адзін да тысячы. І, напэўна, геній з талентам у такіх самых суадносінах.

**С. Д.** — Тэорыі эвалюцыі сцвярджаюць прыкладна тое ж: спачатку — плаўнае, павольнае накапленне нейкіх пэўных якасцей, потым — рэзкі скачок і пераход на новы ўзровень развіцця. Ці не азначае гэта, што геніяў узрошчваюць таленты? Урэшце, вы часта паўтараеце, што кожны чалавек думкамі і дзеяннямі робіць свой унёсак у тое самае юнгаўскае калектыўнае несвядомае, у сусветны розум. А геній жа атрымае сваё менавіта з гэтай капілкі, ці не так?

**А. С.** — Пры адказе на гэта пытанне дазволю сабе выкарыстаць містычны падыход. Як мы ведаем, ёсць уяўленне пра тое, што жыццё верагоднаснае, а будучыня шматварыянтная. А значыць, паралельныя рэальнасці сапраўды існуюць: ёсць проста розныя варыянты развіцця лёсу. Мы, да канца таго не ўсведамляючы, на працягу ўсяго жыцця здаём залікі і экзамены, нешта ў сабе накопліваем, праводзім нейкую працу. І ўжо ў залежнасці ад вынікаў чарговай «экзаменацыйнай сесіі» ў нашым жыцці рэалізуецца той ці іншы сцэнарый развіцця падзей. Такім чынам, сапраўды выходзіць, што талент — гэта пажыўнае асяроддзе для генія. Часта людзі з комплексам педагогаў ці трэнераў скардзяцца на лёс, а на самай справе яны павінны быць удзячнымі і Госпаду, і сваім вучням за тое, што ім прадастаўлена такая місія і створаны ўмовы для яе выканання. Не трэба турбавацца за тое, што ты не запатрабаваны ў тым сэнсе, у якім табе хочацца. І ніколі не трэба шукаць падзякі. Геній, дарэчы, заўсёды разумее, што магчымасць выконваць сваю місію, — гэта ўжо само па сабе вышэйшая ўзнагарода.

## ПЕРАЗАГРУЗКА МАТРЫЦЫ

**С. Д.** — Адны людзі лічацца вялікімі дзякуючы таму, што яны зрабілі, іншыя — дзякуючы таму, чаго не зрабілі. Жарты жартамі, але ці сапраўды геній разумее, што ён геній?

**А. С.** — Калі ў Дэн Сяопіна, родапачынальніка сучаснай палітычнай і эканаміч-

най сістэмы Кітая, спыталі, што ён думае пра Вялікую французскую рэвалюцыю, ён вымавіў: «Ведаеце, пакуль няма чаго сказаць, бо прайшло яшчэ так мала часу». Гэта пытанне было зададзена ў 1989 годзе, роўна праз дзвесце гадоў пасля той самай рэвалюцыі. Стагоддзе — і нават не адно — павінна аддзяляць нас ад генія, каб было відаць, што ён — сапраўды геній. Прычым не ад даты нараджэння, а ад перыяду творчага росквіту, ад часу стварэння шэдэўра.

**С. Д.** — Дарэчы, пра шэдэўры. Наш чарговы дыялог і аднайменная рубрыка здаюцца мне нечым накшталт «лікбезу». Каб каго-небудзь не пакрыўдзіць, можна назваць гэта «перазагрузкай матрыцы». Але сутнасць не мяняецца: мы чарговы раз тлумачым значэнне паняццяў, якімі нашы сучаснікі раскідваюцца не толькі ў прыватных размовах, але і выступаючы публічна. У нас цяпер куды ні кінь, усюды шэдэўры. А на самай справе…

**А. С.** — Слова chef-d'oeuvre ў перакладзе з французскага азначае «галоўная праца». Гэта, такім чынам, узорны твор. Шэдэўры не могуць ствараццa на кожным кроку. Можа, камусьці гэта падасца дзіўным, але далёка не ўсе творы тых самых Моцарта ці Баха могуць быць названы шэдэўрамі. У сярэднія вякі chef-d'oeuvre павінен быў прадставіць рамеснік, чаляднік, каб быць залічаным у цэх майстроў. Гэта была, так бы мовіць, экзаменацыйная праца, зробленая з мэтай даказаць прафпрыдатнасць. А цяпер шэдэўрам можа быць названа інсталяцыя, створаная з адшуканых на сметніку бляшанак, а геніем аб'яўлены той, хто вульгарызуе, нават паскудзіць класічную п'есу або оперу. Яго пры гэтым называюць не толькі геніяльным, але і культавым (на мой погляд, гэта проста агідны, сапраўды богазневажальны тэрмін). На шчасце, гэты «культ» хутка развенчваецца. *Уж сколько их упало в эту бездну…* Дзе будуць гэтыя «культавыя» рэжысёры, пісьменнікі і мастакі хаця б праз дзесяць год?

**С. Д.** — Ёсць і іншая праява: чалавек лічыць сябе нікчэмным пры ўяўным таленце.

**А. С.** — Талент і сціпласць — тэма слізкая і вельмі аб'ёмістая, таму прапаную яе не закранаць. Скажу толькі, што многае залежыць ад псіхатыпу: экстраверт у гэтым сэнсе, канешне ж, адрозніваецца ад інтраверта. А самапрыніжэнне часам нават горш, чым гардыня. Гэта ўсё кампенсаторныя рэчы, праявы комплексу непаўнавартасці. Многія псіхолагі, дарэчы, лічаць, што такога паняцця як завышаная самаацэнка не існуе ўвогуле: ёсць або адэкватная, або заніжаная. А вось праявы апошняй могуць быць рознымі — ці залішняя сціпласць, кампенсацыя са знакам «мінус», ці, як гавораць матэматыкі, бяром «па модулю» — і атрымліваем кампенсатарнае перабольшванне сваіх вартасцей. Геніямі кіруюць знешнія сілы, аднак і тут трэба ўспамінаць Чэзарэ Ламброза: геніяльнасць ці вар'яцтва? Многія параноікі лічаць сябе надзвычай адоранымі, у іх заўсёды ёсць місія — выратаваць чалавецтва, адкрыць яму вочы на нейкія ісціны. Гэта тонкае пытанне. Ці варта пра гэта гаварыць? Урэшце, кожны таленавіты чалавек па прыродзе сваёй біпалярны.

**С. Д.** — Я думала, вы скажаце: «…з'яўляецца пацыентам Ламброза».

**А. С.** — А гэта яму сапраўды не пашкодзіць. Адукаваны, тонкі, здольны да эмпатыі кансультант-псіхатэрапеўт — выдатная дапамога для таленавітага чалавека. Ён можа паказаць перспектыву, не даць скаціцца да дэпрэсіі і прафесійна падтрымае ў перыяд эйфарыі. На самай справе, гэта добры спосаб зразумець сваю місію і ўдакладніць, які этап яе рэалізацыі надышоў.

Яшчэ наконт місіі таленту. У адказ захопленаму прыхільніку, які рассыпаўся ў дыфірамбах, вялікі Гендэль прамовіў: «Мне было б вельмі шкада, васпан, калі б мая музыка служыла выключна для задавальнення. Мне вельмі хочацца, каб яна рабіла людзей лепшымі». Вялікі кампазітар выдатна разумеў, што сапраўдная яго місія — не забаўляць, не насалоджваць, а прымушаць думаць і ачышчацца духоўна.

## HOMO HONORATUS

**С. Д.** — Цікава, пры якіх умовах ствараліся шэдэўры: калі чалавек ведаў, што ён атрымае за гэта ўзнагароду, ці калі проста рабіў тое, у чым адчуваў унутраную патрэ-

бу? Я вось пераканана, што калі чалавеку ёсць што сказаць свету, ён здолее зрабіць гэта прыгожа, не зважаючы на тое, атрымае ганарар ці не. А фразай: «Які ганарар, такая і праца» канстатуецца рамесніцкі падыход да справы. Ёю, такім чынам, распісваюцца ў бяздарнасці.

**А. С.** — Пытанне тут павінна быць толькі ў тым, згаджаешся ты на пэўны ўзровень ганарару — ці не згаджаешся. Ставіць якасць працы ў залежнасць ад узнагароды — значыць, не паважаць самога сябе. Мы не ведаем, які задатак прынёс міфічны чорны чалавек Моцарту, але я не думаю, што рэквіем рэ мінор, які стаў вяршыняй яго творчасці і, на жаль, лебядзінай песняй, быў напісаны выключна з разлікам на ўзнагароду. Вялікі Антоніа Вівальдзі памёр на чужыне, у Вене, амаль што жабраком. Ён напісаў вялізную колькасць геніяльных канцэртаў (якія, дарэчы, вельмі папулярны і ў нашы дні), стаў надзвычайнай з'явай у музычнай культуры, сказаў новае слова, але, маючы патрэбу ў грашах, распрадаваў свае выдатныя творы па дукату за штуку. Франц Шуберт, якога разам з Бетховенам можна лічыць распачынальнікам новай музыкі, сучаснага сімфанізму, не пачуў пры жыцці выканання аніводнай сваёй цудоўнай сімфоніі. Як вызначыць, з-за чаго тыя ці іншыя творцы рабілі тое, што не давала матэрыяльнай узнагароды? Ніхто не заплаціў Шуберту за яго «Няскончаную сімфонію». Але яна і праз дзвесце гадоў прыводзіць да містычнага трапятання і прымушае задумвацца пра тленнасць існага, хуткаплыннасць жыцця, пра тое, што трэба імкнуцца нешта завяршыць.

**С. Д.** — Не хочацца выстаўляць сябе буркатлівай цётачкай, але зноў прыйдзецца ўзгадаць шкалу каштоўнасцей і розніцу паміж тым, што было ў часы Шумана, і тым, што робіцца ў свеце цяпер. Людзі чакаюць узнагароды за добрыя ўчынкі. Не падазраючы нават, што падманваюць сябе. Знайшоўшы кашалёк з грашыма, некаторыя думаюць, што калі аддаць яго за ўзнагароду, то недзе Там гэта залічыцца. Вось Там дакладна не залічыцца: добрая справа не робіцца за грошы, інакш яна перастае быць добрай справай. У час вайны людзі ішлі пад кулі не для таго, каб атрымаць ордэн і званне героя, гэта ж відавочна. Але чамусьці шматлікія сучасныя творцы — «інжынеры чалавечых душ»! — лічаць, што працаваць без ганарара — гэта значыць, не цаніць сябе і сваю працу. Пры гэтым пад ганарарам маюцца на ўвазе, канешне ж, грошы, і ні ў якім разе не нешта іншае. «Дзякуй», маўляў, на хлеб не намажаш і ў кішэню не пакладзеш. Але ж, даруйце, месца на могілках Вестмінстэрскага абацтва наўрад ці гарантуецца за грошы.

**А. С.** — Трэба адзначыць, што само паходжанне слова «ганарар» указвае на прынцыповае адрозненне ганарара ад заработнай платы. Ганарар ад лацінскага honorarium — узнагарода за паслугу, ідзе ад honoratus — ганаровы, той, хто карыстаецца павагай і носіць сваё імя з гонарам. А слова honor азначае, акрамя іншага, і ганаровую ўзнагароду. Мы ж ведаем, што існуе вялікая колькасць літаратурных і якіх заўгодна прэмій, вельмі прэстыжных і значных, матэрыяльны, грашовы складнік якіх або выключна сімвалічны, або не існуе ўвогуле. У Старажытным Рыме самым ганаровым лічылася працаваць на сябе. А праца па найме была лёсам плебеяў або асоб, якія не мелі рымскага грамадзянства, гастарбайтэраў, калі ўжываць сённяшнія тэрміны. Зарплата — тое, што раней называлі жалаваннем, выплочвалася наёмнаму работніку. А ганарар заўсёды прадугледжваў адзінкавыя выплаты за высокакваліфікаваную працу, якую маглі выконваць толькі адукаваныя людзі. Дарэчы, заўсёды існавалі віды дзейнасці, якія прыносілі гонар самім фактам іх выканання. Праца без аплаты, pro bono publico — дзеля грамадскага дабрабыту, лічылася прэстыжнай! Магчыма, гісторыкі мяне паправяць, але, наколькі мне вядома, рымскім консулам і ў галаву не прыходзіла патрабаваць у Сената ўзнагароджанне за выкананне сваіх ганаровых абавязкаў.

**С. Д.** — Гэта, канешне, не павінна служыць «індульгенцыяй» для працадаўцаў, якія лічаць, што можна і не плаціць ці плаціць па мінімуму.

**А. С.** — Прынцып тут просты. Калі я атрымліваю ганарар, то не вы мне плоціце грошы і таму лічыце мяне ледзь не сваім

васалам, а я прыязна згаджаюся вылучыць дзеля вас некаторую частку майго бясцэннага часу. Натуральна, што за адпаведную плату — калі такім будзе маё пажаданне. Чалавек, які працуе за ганарар, разумее, што яго жыццё будуецца не так, як жыццё наёмных працаўнікоў. Відавочна, што яго становішча менш надзейнае, што яно падвергнута самым розным флюктуацыям. Дакладнасць, прадвызначанасць, акрэсленасць, якая пануе ў жыцці наёмных працаўнікоў, азначае, што і межы іх акрэслены, і выйсці за гэтыя межы ім не дадзена — якімі б высокімі ні былі ўзнагароды за іх працу. Неакрэсленасць, няпэўнасць, нявызначанасць у жыцці творчага чалавека, які працуе за ганарар, гаворыць пра тое, што і межаў у яго няма. Па-першае, ён можа атрымліваць узнагароды з розных крыніц, а па-другое, і гэта самае галоўнае, пра што творчы чалавек рэдка задумваецца, патрабуючы ўзнагароды неадкладна, «ля пэўнай крыніцы», — гэта тое, што ў Госпада Бога заўсёды ёсць магчымасць яго ўзнагародзіць — так ці інакш. Не трэба толькі чакаць падзякі менавіта тут і цяпер.

**С. Д.** — Ніколі нічога не прасіце, самі прыйдуць і ўсё дадуць. Гэты прынцып сапраўды працуе!

**А. С.** — Абраўшы такі варыянт лёсу, ступіўшы на шлях творчасці, шлях непрадказальнасці і неакрэсленасці, чалавек робіць свядомы выбар. У жыцці немагчыма выбраць нешта адно, а вынікаў патрабаваць ад чагосьці іншага. Нельга быць творчым і незалежным, карыстацца свабодай ва ўчынках і меркаваннях, не мець будзільніка і начальніка — і пры гэтым чакаць стабільных і дакладных ўзнагарод. Яшчэ раз падкрэсліваю: выбірайце нешта адно.

**С. Д.** — З іншага боку, калі чалавек свядома адмаўляецца ад ганарару, класічны псіхааналітык угледзіць у гэтым праяву комплексу непаўнавартасці, а калегі і сябры, хутчэй за ўсё, пакруцяць пальцам каля скроні. Зразумець такі крок, а тым больш, узяць за прыклад, дадзена далёка не кожнаму.

**А. С.** — На мой погляд, адмаўленне ад ганарару становіцца сімвалічным самапакараннем. Згодна з класічным псіхааналізам,

***ЯКАР ПАДЗЕІ***

***— Талент і творчасць знаходзяцца пад кіраўніцтвам знака Ільва і кіруючага ім Сонца, — гаворыць Аляксей Селянінаў. — Першапачатковы імпульс — гэта Леў, Сонца — ідэя, замысел, неверагоднае адчуванее эйфарыі, свята. Але як таленавіты замысел увасобіць? Тут спатрэбіцца знак Панны — сціплы, працалюбівы, скрупулёзны, метадычны. Сонца і Леў кіруюць золатам, і можна сказаць, што творчы парыў — гэта неаформлены залаты злітак, а Панна — вытанчанае ювелірнае ўпрыгожанне. Пра гэта гаварылі многія пісьменнікі: калі ў мяне, маўляў, няма натхнення (гэта знычыць, «я не магу уключыць у сабе Ільва»), я саджуся і пачынаю пісаць («уключаю Панну»). У Марыны Цвятаевай ёсць нават цэлы цыкл вершаў, прысвечаных пісьмоваму сталу. Напэўна ж, не проста так. Увогуле, чалавек жыве ў ілюзіях. Яму здаецца, што патрэбны падзеі, а на самай справе — уражанні і перажыванні: урэшце, важна не тое, што з вамі здараецца, а тое, як вы гэта ўспрымаеце.***

***У нейралінгвістаў ёсць такое паняцце — якар. Пад ім разумеюць нейкую частку перажывання (часам, у пэўным сэнсе сімвалічную), якая дазваляе нам «узнавіць» усё перажыванне цалкам. Адсюль, напрыклад, вера ў «шчаслівую сукенку». Усё вельмі проста: яе ўладальніца перажыла трыумф менавіта ў гэтай сукенцы — і з таго часу яна зрабілася адмысловым сімвалам, які дапамагае ўзнавіць перажыванне поспеху. Гэтаксама і пісьменнік, які садзіцца за пісьмовы стол, несвядома разлічвае тым самым ізноў выклікаць ужо не аднойчы перажытае адчуванне натхнення.***

***«Для мяне гэтыя першыя хвіліны — ледзь не найбольшая асалода ў жыцці, — піша словамі свайго героя Уладзімір Караткевіч. — Метадычна раскласці на стале рэчы: чыстая папера — справа, злева — месца для спісанай. Справа крыху далей — вымытая да рыпення попельніца. Ля яе нечапаны (абавязкова нечапаны!) пачак цыгарэт. Дзве ручкі запраўлены чарнілам. На падаконні злева свежазмолатая кава ў герметычным слоіку і кававы апарат… Сам ты толькі што пагаліўся, узяў ванну, абавязкова надзеў новую чыстую кашулю. Перад табою бялюткі аркуш ільснянай паперы, і зялёная лямпа кідае на яго яркае ў салатавым паўзмроку кола… Незайманы, цнатлівы ліст паперы чакае першага пацалунка пяра».***

пакаранне — гэта спосаб выкупіць нейкую віну. А для творчых людзей, якія тонка адчуваюць, характэрна ў чымсьці ірацыянальнае пачуццё віны за недасканаласць акаляючага свету. Яны ведаюць, што здольны зрабіць яго лепшым, а таму дабравольна бяруць гэты цяжар на сябе. Можа, гэта і напышліва прагучыць, але яны лічаць сваім доўгам і шчасцем пры любой магчымасці ўнесці хоць які-небудзь элемент гармоніі ў гэты свет, зрабіць яго хоць трохі святлейшым. Як чытач лічыць, чым кіруюцца маладыя артысты, якія не толькі выступаюць у дзіцячым хоспісе бясплатна, але і набываюць сваім маленькім гледачам падарункі за асабістыя (часам вельмі абмежаваныя) сродкі? І ці можа лічыцца вартым ганарарам шчырая ўсмешка безнадзейна хворага дзіцяці — магчыма, апошняя ў яго трагічна кароткім жыцці…

**С. Д.** — Разгледзім адваротную сітуацыю: калі чалавеку паабяцаць занадта вялікі ганарар, ён, магчыма, ніколі не справіцца са сваёй працай дасканала — з-за страху, што не зможа адпрацаваць гэтыя грошы.

**А. С.** — Цалкам верагодна. Занадта малая ўзнагарода яшчэ не стымулюе чалавека працаваць, занадта вялікая — ужо не стымулюе. Узнікае з’ява, якая ў псіхалогіі называецца трэмарам дасягненняў. Што гэта такое, лёгка зразумець, калі паспрабаваць з шырокай шклянкі пераліць вадкасць у бутэльку з вузкім горлам: рука абавязкова будзе дрыжаць. Чалавек не павінен памерці ад голаду, гэта відавочна, але часам творчым людзям наканаваны сапраўды нечалавечыя ўмовы: магчыма, каб «выціснуць» з іх паболей. Давайце зноў успомнім лёс Моцарта. У Зальцбургу, на пасадзе капельмайстра, ён атрымліваў фіксаванае жалаванне, але быў слугою, што яго страшэнна прыніжала і абражала. У Вене ён стаў свабодным мастаком. Але яму трэба было самому шукаць працу і прасоўваць свае творы, у тым ліку не цураючыся і напісання салоннай музыкі, і ўрокаў, якія даводзілася даваць бяздарным, але высокапастаўленым і плацёжаздольным вучням.

Пры жыцці Моцарт не лічыўся вялікім…

**С. Д.** — Мёртвага значна прасцей прызнаць геніем…

**А. С.** — Хаця б таму, што ён ужо ніколі нічога не напіша… А часам грамадствам кіруе пачуццё віны. *Каким поэтом мы пренебрегли!* І гэта запозненае раскаянне часам прыводзіць да кампенсаторнага ўзвелічэння. Гендэль не менш вялікі, але наш час аддае перавагу Баху, бо апошняму не ўсталявалі манумента яшчэ пры жыцці, ён быў напаўзабытым доўгі час і не пахаваны ў Вестмінстэрскім абацтве…

* * *

**А. С.** — На жаль, сучасныя геніі будуць ацэнены гадоў праз сто, не менш. Пры ўмове, што свет праіснуе да гэтага часу.

**С. Д.** — Вы лічыце, што…

**А. С.** — Я мяркую па тым, куды накіраваны вектар развіцця.

**С. Д.** — Але ж заўсёды існуе нейкая колькасць так званых самаактуалізаваных асоб, якія...

**А. С.** — Баюся, што чалавецтва можа дайсці да той незваротнай кропкі, калі гэтай колькасці будзе недастаткова. Дазволю сабе чарговую аналогію: яшчэ ў студзені 1917 года Мікалай II мог абвясціць канстытуцыйную манархію, назначыць адказны перад Думай урад. А ў лютым яму сказалі: «Ваша Вялікасць, на жаль, ужо позна». Як даведацца, дзе мы знаходзімся цяпер: у пачатку таго студзеня ці напрыканцы таго лютага?

**С. Д.** — Наш часопіс — не глянец, яго чытаюць, будзем спадзявацца, моцныя духам асобы.

**А. С.** — Чым больш свядомыя людзі будуць чытаць гэты матэрыял і разважаць пра тое, што мы абмяркоўвалі, тым больш у нас шанцаў...

**С. Д.** — ...не дайсці да кропкі. 

***Запісала Святлана ДЗЯНІСАВА***

Людміла ДУЧЫЦ

*Да дня археолага*

# ПАПЯРЭДНІКІ

***Тэрмін «археалогія» ўпершыню быў ужыты ў V стагоддзі да нашай эры антычным гісторыкам Фукідзідам у працы «Пелапанэская вайна». Яшчэ раней вавілонскі цар Набанід збіраў калекцыю архаічных рэчаў, па яго загадзе праводзіліся раскопкі старажытных гарадоў на берагах Тыгра і Еўфрата. А на нашых землях першым пачаў апісваць археалагічныя помнікі Мацей Стрыйкоўскі, храніст. Было гэта ў XVI стагоддзі.***

Як навука беларуская археалогія пачыналася ці не з даследаванняў Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага (Адама Чарноцкага). Гэта ён упершыню паказаў, што помнікі археалогіі з'яўляюцца гістарычнай крыніцай. Але зразумелі яго не адразу. Калі ў 1819 годзе вучоны наведваў арыстакратычныя салоны Пецярбурга і распытваў гаспадароў маёнткаў пра гістарычныя помнікі іх уладанняў і звязаныя з імі паданні, з яго пасміхаліся. Малады чалавек займеў рэпутацыю вар'ята. А калі цікавіўся падобнай інфармацыяй у мужыкоў на Балотным Рынку, яго ўспрымалі як шпега або рабаўніка. Нават навуковыя таварыствы спачатку адмаўляліся падтрымліваць экспедыцыі Даленгі-Хадакоўскага: яго даследаванні лічылі праслаўленнем язычніцтва.

Але час ішоў. І таямніцы гісторыі паступова адкрываліся. У сярэдзіне XIX стагоддзя ў Еўропе з'явіліся першыя працы па перыядызацыі, стратыграфіі пластоў і сістэматызацыі археалагічных знаходак. Тады ж пачалося дэталёвае дакументаванне раскопак. Тым не менш, вобраз археолага ў народзе заставаўся міфалагізаваным. За каго толькі не прымалі археолагаў, як толькі не называлі: «*пецярбургскі чыноўнік Гедэмін*», «*чыноўнік з Прусіі*», «*чалавек з Францыі*», «*нейкі Віленец*», «*адзін з князёў Раманавых*», «*хвранцузская Камісія*», «*нехто з Германіі*», «*нейкія з Менску*», «*прысланыя людзі*».

## ГРАФСКА-КНЯЖАЦКАЯ НАВУКА

Браты Канстанцін і Яўстах Тышкевічы — прадстаўнікі вельмі багатага і знатнага графскага роду — раскапалі сотні курганных пахаванняў у ваколіцах Лагойска, зрабілі планы гарадзішчаў і заснавалі археалагічны музей. Браты падтрымлівалі сувязі з археалагічнымі таварыствамі Еўропы, а вынікі сваіх даследаванняў друкавалі ў спецыяльнай літаратуры. У раскопках Тышкевічаў прымалі ўдзел знаныя людзі: пісьменнік Юзэф Крашэўскі, гісторыкі Адам Кіркор і Міхаіл Гаўсман, маршалак шляхты Менскага павета Генрых Татур, маршалак шляхты Вілейскага павета Мечыслаў Тукала… Асноўную працу, канешне, выконвалі прыгонныя сяляне, якім Тышкевічы шчодра плацілі, але сяляне былі ўпэўнены, што адкапаныя рэчы паны «*забіраюць сабе на забаву*». Курганы ў народзе лічыліся месцамі святымі, недатыкальнымі, і таму, калі раскопкі даходзілі да касцяка, сяляне спынялі працу і пачыналі маліліцца за ўпакой памерлага тысячу гадоў таму. Курганы прыходзілася дакопваць самім уладальнікам Лагойскага графства.

У другой палове XIX стагоддзя археалогіяй захапіліся многія ўладальнікі маёнткаў. Справа аблягчалася тым, што на сваіх



*Археолаг, фалькларыст, этнограф, краязнавец Яўстах Тышкевіч.*

землях яны маглі праводзіць раскопкі без дазволаў дзяржаўных устаноў, у тым ліку Імператарскай Археалагічнай Камісіі. Зразумела, што такія памешчыкі былі людзьмі высокаадукаванымі і дапытлівымі. Памешчык маёнтка Завідзічы каля Лепеля Міхаіл Кусцінскі падчас вучобы ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце пасябраваў з графам Аляксеем Уваравым, які пазней заснаваў Рускае імператарскае археалагічнае таварыства і быў арганізатарам першых Усерасійскіх археалагічных з'ездаў. Вакол Кусцінскага заўсёды групаваліся археолагі-аматары ўсіх навакольных раёнаў — і Аляксей Рымскі-Корсакаў, і Аляксандр Семянтоўскі, і ВінцэнтВаладковіч, і Генрых Жаба, і Пётр Церабнёў, і Францішак Вярэнька, і іншыя. У Завідзічах Кусцінскі зладзіў археалагічны музей, экспанаты якога пасля смерці археолага набыў Вацлаў Федаровіч для свайго музея ў Віцебску.

Уладальнік маёнткаў Прылукі і Стайкі каля Мінска граф Эмірык Гутэн-Чапскі служыў у Міністэрстве Унутраных Спраў. На сваіх землях ён раскопваў курганы і збіраў старадаўнія манеты. Граф Альберт Патоцкі з Беразіно таксама раскопваў курганы на берагах Бярэзіны, а граф Луі де Флеры вывучаў яцвяжскія пахаванні ў каменных курганах і магілах каля Гродна. Адзін з князёў Паскевічаў у Гомелі ў канцы XIX стагоддзя даручыў праводзіць археалагічныя даследаванні свайму землямеру Мікалаю Філонаву, а сам з сям'ёй прыязджаў паглядзець на вынікі раскопак.

У гэтыя ж гады на Барысаўшчыне Тытусь Саподзька пачаў вывучаць курганна-жальнічныя могільнікі з каменнымі выбрукоўкамі, а вынікі даследаванняў друкаваць у польскіх навуковых часопісах. На Быхаўшчыне ў сваіх уладаннях археалагічныя помнікі даследаваў Людвіг Выкоўскі, на Рагачоўшчыне — Станіслаў Цэрха.

## ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ АРХЕАЛОГІІ

Калі ў сярэдзіне XIX стагоддзя археалогія лічылася навукай багатых, то пад канец таго ж стагоддзя сацыяльны склад даследчыкаў старажытнасцей істотна пашырыўся. У асноўным гэта былі людзі з адукацыяй, атрыманай у расійскіх і еўрапейскіх універсітэтах, члены Імператарскага рускага археалагічнага таварыства, Віленскай археалагічнай камісіі, Маскоўскага археалагічнага таварыства. Сярод тагачасных археолагаў былі губернатары (Аляксандр Дамбавецкі, Руф Ігнацьеў), чыноўнікі (Сымон Чалоўскі), лекары (Міхаіл Гамаліцкі), вайскоўцы (Міхаіл Цыбышаў, Аляксандр Карэва), мастакі

***Раней да помнікаў старажытнасці ставіліся па-рознаму. Адны іх шанавалі і ахоўвалі, а некаторыя разбуралі, не ўяўляючы каштоўнасці. У 1765 годзе полацкі падваявода Траян Корсак з прычыны знішчэння замкавага вала нават узбудзіў крымінальную справу супраць базыльянаў. А ў 1830 годзе тут зафіксавана зусім іншае стаўленне да помнікаў. Міністэрства Унутраных Спраў Расійскай імперыі даручыла віцебскаму губернатару даслаць звесткі пра помнікі даўніны. У сваю чаргу губернатар даў указанне паліцэйскім уладам і земскім судам. Полацкія ўлады адказалі, што ў іх ёсць толькі адзін помнік — домік Пятра І. Толькі пасля паўторнага ўказання з губерні было прыслана кароткае апісанне Спаса-Еўфрасінеўскага і Барыса-Глебскага манастыроў.***

***У 1790 годзе на Полаччыне ўладальнік маёнтка Мосар раскапаў старажытнае пахаванне разам са шкілетам каня, бронзавымі бразготкамі і гліняным гаршком. Усе знаходкі ён паслаў у падарунак каралю Станіславу Аўгусту. Кароль узнагародзіў даследчыка ордэнам святога Станіслава.***

(Дзмітрый Струкаў), інжынеры (Аляксандр Карачэўскі-Воўк), супрацоўнікі губернскіх Статыстычных камітэтаў (Пётр Мурамцаў, Аляксей Сапуноў, Генрых Татур). Шмат зрабілі настаўнікі. У сярэдзіне XIX стагоддзя выкладчык Навагрудскага дваранскага вучылішча Аляксей Дзмітрыеў раскопваў курганы ў ваколіцах горада. У 1871 годзе дырэктар Пінскіх вучылішч раскапаў у прадмесці адзін з двух вялікіх кurganoў. Падрабязная справаздача з малюнкамі была паслана ў Рускае імператарскае археалагічнае таварыства. Інспектар вучылішч Мікалай Авенарыўс падчас летніх вакацый ладзіў археалагічня экспедыцыі на тэрыторыі Мінскай губерні. Матфей Фурсаў, дырэктар Магілёўскай гімназіі, разам з чыноўнікам Сымонам Чалоўскім па даручэнні губернатара Аляксандра Дамбавецкага раскапаў больш як 60 курганоў у басейне Дняпра. Акрамя таго, даследаваў рэшткі мамантаў у аршанскіх вапнавых капальнях. Гарадзішчы і курганы на Ашмяншчыне вывучаў Рамуальд Зянкевіч, старажытнасці Гродна — выкладчык гімназіі Яўстафій Арлоўскі (ім быў надрукаваны шэраг прац).

Цікава падкрэсліць, што многія археолагі змагаліся ў шэрагах паўстанцаў 1863 года: Міхаіл Гаўсман, Зыгмунд Мінейка, Мікалай Віткоўскі, Мечыслаў Тукала...

У XIX стагоддзі рабіліся спробы складання археалагічных карт. Археалагічную карту Ашмянскага павета складаў Рамуальд Зянкевіч, Мінскага — Руф Ігнацьеў, Лепельскага — Мікалай Кусцінскі. Карту Мінскай губерні з альбомам археалагічных знаходак стварыў Генрых Татур, карту Магілёўскай губерні паралельна складалі Матфей Фурсаў з Сымонам Чалоўскім і Еўдакім Раманаў. Міхаіл Федаровіч збіраў матэрыялы для Археалагічнай карты Беларусі. Некаторыя даследчыкі ўжо ў канцы XIX стагоддзя рабілі хімічныя аналізы археалагічных знаходак.

Надзвычай вялікую ролю ў вывучэнні беларускіх старажытнасцей меў IX Археалагічны з'езд, які адбыўся ў Вільні ў 1893 годзе. Камітэт па падрыхтоўцы з'езда працаваў два гады. Напярэданні актыўна праводзіліся археалагічныя раскопкі і збіраліся матэрыялы для Археалагічных карт Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губерняў. З'езд пачаўся 1 жніўня, яго адкрывала старшыня Рускага імператарскага археалагічнага таварыства графіня Праскоўя Уварава. Пасяджэнні праходзілі ў памяшканні 1-й мужчынскай гімназіі, а ў 2-й гімназіі дзейнічалі выстаўкі археалагічных знаходак, малюнкі і фатаграфіі, экспанаты з прыватных калекцый. У будынку Настаўніцкага інстытута праходзілі «вячэрнія чаяванні», падчас якіх працягваліся абмеркаванні дакладаў. Для дэлегатаў з'езда гарадская ўправа вылучыла 30 нумароў у лепшых гатэлях горада. На з'езд прыязджалі вялікі князь Сяргей Аляксандравіч і вялікая княгіня Елізавета Фёдараўна. У Бернардзінскім садзе ў гонар археолагаў ладзілі свята. Былі арганізаваны экскурсіі — у Трокі і Коўна, вандроўкі на параходзе па Нёмане. Княгіня Гогенлоэ ў сваім маёнтку Вяркі зладзіла для ўдзельнікаў з'езда прыём.

## ПАЧАТАК XX СТАГОДДЗЯ

Далучэнне да археалагічных даследаванняў з боку настаўнікаў і выкладчыкаў вышэйшых навучальных уста-



*Еўдакім Раманаў.*

ноў працягваецца. У Гарадоцкім павеце на Віцебшчыне курганы раскопвае прафесар Харкаўскага ўніверсітэта Леў Лазарэвіч-Шапялевіч. У 1908—1913 гадах дырэктар Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі праводзіць каля свайго горада раскопкі замчышча. Сярод выяўленага — фрагменты кафлі XVI стагоддзя і рэшткі тынкоўкі з фрэскавым роспісам. У 1911 годзе выкладчыкі Клімавіцкай мужчынскай гімназіі разам з гімназістамі робяць план бліжэйшага курганнага могільніка і раскопваюць некалькі насыпаў. Напярэданні



*Археалагічныя знаходкі з курганоў Цэнтральнай Беларусі. З калекцыі Тышкевічаў.*

***З пачатку II тысячагоддзя ледзь не абавязковай часткай княжацкіх рэзідэнцый былі скарбніцы, у якіх сярод іншага захоўваліся старадаўнія знаходкі. У XVII стагоддзі Радзівіл Крыштап II у скарбніцы Любчанскага замка на Навагрудчыне разам з іншаземнымі дзівосамі выстаўляў рэчы з уласных раскопак. Мясцовыя археалагічныя знаходкі захоўваліся таксама ў палацы суседніх Шчорсаў. У пачатку XIX стагоддзя археалагічныя і этнаграфічныя матэрыялы збіраў у сваім гомельскім палацы граф Мікалай Румянцаў. На аснове гэтых збораў у 1831 годзе ў Пецярбургу быў адкрыты Румянцаўскі музей, які ў 1861 годзе перавезлі ў Маскву.***

Першай сусветнай да вывучэння старажытнасцей Беларусі далучаюцца вучні знакамітага археолага Аляксандра Спіцына — студэнты Пецярбургскага ўніверсітэта. Сяргей Дубінскі вывучае курганы ў раёне Бельска на Гродзеншчыне, Міхаіл Шавельскі працуе каля Бяларучаў паблізу Мінска, а Канстанцін Шэроцкі праводзіць археалагічныя назіранні ў Полацку. Справаздачы пра гэтыя працы захоўваюцца цяпер у Пецярбургу. У 1913—1914 гадах шэраг помнікаў археалогіі і архітэктуры ў Гродне, Лідзе і Крэве даследуе Восіп Ядкоўскі, выпускнік археалагічнага інстытута ў Маскве.

Аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута з трохгадовым курсам навучання адчыняецца ў 1911 годзе ў Віцебску. Пасаду дырэктара займае Баляслаў Брэжга. Лекцыі па археалогіі прыязджаюць чытаць знакамітыя навукоўцы. Віцебская ўстанова праіснуе адзінаццаць гадоў і будзе скасавана ў 1922 годзе пасля закрыцця Маскоўскага археалагічнага інстытута.

Ёсць шэраг звестак, якія звязаны з правядзеннем археалагічных раскопак падчас Першай сусветнай вайны. Напрыклад, студэнт-гісторык, вучань Аляксандра Спіцына Фёдар Шчытнікаў быў мабілізаваны ў войска. Карыстаючыся тым, што ягонае падраздзяленне стаяла паблізу возера Шо на Глыбоччыне, ён арганізаваў салдат на раскопкі курганоў. Падрабязны дзённік, які вёў Шчытнікаў, захаваўся да нашага часу.

Захапляліся раскопкамі і нямецкія вайскоўцы, якія па прафесіі таксама былі археолагамі. Так, на тэрыторыі Белавежскай пушчы праводзіліся раскопкі курганоў пад кіраўніцтвам берлінскага прафесара Альфрэда Гётцэ. Нямецкія вайскоўцы капалі курганы і каля вёскі Лудчыцы паблізу Быхава, і каля вёскі Забалоцце Лёзненскага раёна.

У 1921 годзе тэрыторыя Беларусі была падзелена паміж Польшчай і СССР. На тэрыторыі савецкай Беларусі аховай і вывучэннем помнікаў археалогіі займалася камісія пры Наркамаце адукацыі. У 1925 годзе ў Інстытуце беларускай культуры з'явілася камісія па ахове помнікаў археалогіі, а пазней, у 1930 годзе, была створана секцыя археалогіі пры Інстытуце гісторыі Ака-

дэміі навук. Пытанні археалогіі абмяркоўваліся на Рэспубліканскіх краязнаўчых з'ездах.

Актыўна вяліся археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Здзіслаў Дурчэўскі і Раман Якімовіч праводзілі раскопкі ў Гродне, Раман Якімовіч, Юзэф Марціняк — у Давыд-Гарадку, Яраслаў Вайцяхоўскі праводзіў кансерватарскія работы на замчышчы ў Навагрудку. У 1920-я гады археалагічныя помнікі на тэрыторыі Пінскага, Лунінецкага і Столінскага паветаў праводзіў Раман Гарашкевіч, які ў той час працаваў настаўнікам у гімназіях Лунінца і Пінска. У Навагрудку раскопкамі займаўся Язэп Драздовіч, які тады працаваў настаўнікам малявання.



*Гісторык, інжынер, даследчык старажытнай гісторыі Беларусі Тэадор Нарбут (1784—1864).*

***У 1810 годзе курганы каля Рагачова раскопваў Тэадор Нарбут — ваенны інжынер, магчыма, аўтар праекта Бабруйскай крэпасці і ўдзельнік яе будаўніцтва, а пазней — вядомы гісторык. Нарбут спрычыніўся і да раскопак курганоў каля Навагрудка, і ў сваім маёнтку Шаўры Лідскага павета.***

### АРХЕОЛАГІ-СВЯТАРЫ

У вывучэнне нашай гісторыі значны ўнёсак зрабілі святары — праваслаўныя і каталіцкія, выпускнікі духоўных навучальных устаноў — семінарый і акадэмій.

Яшчэ ў сярэдзіне XVIII стагоддзя архімандрыт Гродзенскага Каложскага, у той час уніяцкага, манастыра Ігнаці Кульчынскі дэталёва апісаў старажытную царкву і на падставе вывучэння цаглянай кладкі датаваў яе XII стагоддзем. Ён даследаваў і іншыя старажытнасці Гродна і Жыровічаў.

На рубяжы XVIII—XIX стагоддзяў архімандрыт Іойль Шулакевіч праводзіў раскопкі на тэрыторыі Бельчыцкага манастыра Полацка — выявіў рэшткі падмурка старажытнага храма. У сярэдзіне XIX стагоддзя ў вёсцы Гошчава Івацэвіцкага раёна мясцовы святар Лонгвін Фармасевіч кіраваў раскопкамі курганоў.

**Уладальнік маёнткаў Прылукі і Стайкі каля Мінска граф Эмірык Гутэн-Чапскі служыў у Міністэрстве Унутраных Спраў. На сваіх землях ён раскопваў курганы і збіраў старадаўнія манеты**

У канцы XIX стагоддзя святар Леў Паеўскі служыў у шэрагу прыходаў Гродзенскай губерні. Падчас службы ў Камянцы-Літоўскім ён прыклаў шмат намаганняў для рэстаўрацыі Камянецкай вежы. У 1898 годзе Імператарская Археалагічная Камісія дала яму дазвол на вывучэнне курганоў па берагах ракі Лясной. Паеўскі браў актыўны ўдзел у працы чатырох Усерасійскіх археалагічных з'ездаў (8, 9, 10 і 15) — выступаў з дакладамі.

У канцы XIX стагоддзя святар Сынкавіцкага храма (цяпер на тэрыторыі Зэльвенскага раёна) Яўстафі Міхайлоўскі праводзіў археалагічныя даследаванні на Слонімшчыне. Вядома, што калі ён рыхтаваўся раскопваць курганы каля вёскі Арловічы, мясцовае насельніцтва выступіла ў абарону курганоў, пагражаючы «*бязбожнаму святару*» раптоўнай смерцю за знявагу магіл продкаў.



*Арабскія дзірхамы.*

Многія святары дапамагалі археолагам. У раскопках курганнага могільніка каля вёскі Языль Старадарожскага раёна ўдзельнічаў мясцовы святар протаіерэй Грыгорый Пігулеўскі. Эдуарду Вольтэру і Вандаліну Шукевічу пры даследаванні каменных магіл дапамагаў ксёндз з вёскі Нача Воранаўскага раёна Зміцер Сакалоўскі. Святар Залескай царквы на Глыбоччыне Міхаіл Памеранцаў у канцы XIX стагоддзя ў царкоўным летапісе нават вылучыў спецыяльны раздзел па мясцовых старажытнасцях.

У XIX — пачатку XX стагоддзя ў духоўных вучэбных установах выкладалася такая дысцыпліна — царкоўная археалогія. У Полацкай духоўнай семінарыі гэты прадмет вёў Ксенафонт Гаворскі, член-карэспандэнт Рускага імператарскага археалагічнага таварыства. Ён праводзіў раскопкі курганоў каля вёсак Шпакоўшчына, Рудня і Балотаўка паблізу Полацка, каля мястэчка Селішча на Ушаччыне і на берагах ракі Дрысы. Гаворскі першым у Беларусі акцэнтаваў увагу на структуры курганных насыпаў і раўках вакол іх, а таксама занатоўваў народныя паданні пра помнікі археалогіі.

Уладзімір Завітневіч, Фёдар Пакроўскі, Зміцер Даўгяла сталі знакамітымі археолагамі, але раней скончылі Пецярбургскую духоўную акадэмію. Некаторыя археолагі Беларусі былі выпускнікамі Кіеўскай і Казанскай духоўных акадэмій, многія скончылі духоўныя семінарыі. У жніўні 1909 года члены Мінскага Царкоўнага Гісторыка-археалагічнага Камітэта Андрэй Снітка, Аляксей Папоў і Дзмітрый Скрынчанка з дазволу Імператарскай Археалагічнай Камісіі і губернатара і з блаславення епіскапа Міхаіла правялі раскопкі каля Барыса-Глебскай царквы ў Тураве і знайшлі каменны саркафаг.

Максіміліян Рыла, які нарадзіўся ў Пароску на Гродзеншчыне, атрымаў адукацыю ў Полацкай езуіцкай акадэміі, Віленскім універсітэце і Грыгарыянскім універсітэце ў Рыме, стаў каталіцкім місіянерам на Блізкім Усходзе і ў Паўночнай Афрыцы. Ён з'яўляўся членам Папскай археалагічнай акадэміі і Арыенталагічнага таварыства Францыі. Менавіта яму належыць заслуга вывучэння руін старажытнага Вавілона. Рыхтаваўся да духоўнага каталіцкага звання і Міхал Віткоўскі. Пасля паўстання 1863 года яго саслалі ў Сібір. Там ён працаваў разам з Іванам Чэрскім у пойме ракі Ангары, і за вывучэнне помнікаў каменнага веку быў узнагароджаны залатым медалём Рускага геаграфічнага таварыства.



*Мікола КАНДРАТАЎ*

# РАЙСКІЯ ЎСПАМІНЫ ЯНКІ БРЫЛЯ

***Японскі пісьменнік Акутагава мае рацыю: «Проза займае месца ў літаратуры дзякуючы той паэзіі, што ў ёй утрымліваецца». Гэтыя словы вельмі адпавядаюць творчасці нашага пісьменніка Янкі (Івана Антонавіча) Брыля, які нарадзіўся ў горадзе Адэса 4 жніўня 1917 года пад знакам Льва.***

Сімвалічны вобраз гэтага знака — леў, які сядзіць з каронай на галаве і трымае лапу на шары. Яшчэ адзін — леў, прывязаны залатым ланцугом да залатога слупа. Гэта сведчыць пра тое, што кожнаму прадстаўніку згаданага знака даецца магчымасць стаць каралём, уладаром, але той, хто ім стане, павінен несці велізарную адказнасць за ўсіх, над кім пастаўлены, інакш можа натварыць мноства бед.

Ключавое слова знака Льва (♌) — творчасць. Адзіным яго кіраўніком з'яўляецца планета Сонца (☉) — сімвал духу чалавека, яго творчых сіл, гонару, шчодрасці і самастойнасці.

Калі мы паглядзім на касмаграму пісьменніка, то звернем увагу, што 9 сярод 12-ці асноўных планет знаходзяцца ў ёй у асаблівых становішчах: *прыстанку, экзальтацыі, выгнанні* альбо *падзенні*. Такое здараецца даволі рэдка. Гэта акалічнасць сведчыць пра значнасць лёсу Янкі Брыля. Дасягненні такога чалавека могуць быць асабліва яскравымі. На акаляючых людзей ён здольны аказваць рэзанансны ўплыў.

Знак Льва з'яўляецца самым выдзеленым у касмаграме Брыля. Аднак акрамя Сонца, якое знаходзіцца тут у злучэнні з Сатурнам (♄) і Нептунам (♆), у яго трапіў таксама Чорны Месяц (⚸) — планета падману і спакусы, самае слабое месца ў любой касмаграме, знак, на якім чалавек можа спатыкнуцца і ўпасці. Да таго ж Чорны



*Янка Брыль.*

Месяц у разглядаемым выпадку знаходзіцца ў злучэнні з планетай Меркурый (☿) — вельмі важнай для Брыля як пісьменніка: Меркурый сімвалізуе слова, кантакт, пісьмо, інфармацыю і інтэлект. Пагроза тут вось у чым: чалавек з такім знакам мае спакусу апаганьваць дух, праяўляць эгаізм і гардыню, зайздросціць усім, хто таленавіты. Ён можа быць і творчай асобай, але прывіваць людзям заганы, сеяць сваёй творчасцю ману альбо проста закапаць уласны талент у зямлю — такія сцэнарыі цалкам верагодныя.

Атрымліваецца, што з аднаго боку Янка Брыль павінен быў абавязкова праявіцца па сваім сонечным знаку, а з іншага боку гэта



*Касмаграма Янкі Брыля.*

праява магла быць для яго небяспечнай. Што ж дапамагло пісьменніку пазбегнуць цёмнага шляху?

Адказам на гэтае пытанне, ключом да касмаграмы Янкі Брыля з'яўляюцца вышэйзгаданыя планеты Сонца і Нептун, якія знаходзяцца ў злучэнні ў знаку Льва. З Авесты вядома, што вельмі даўно, калі на Зямлі быў Рай, ліха не існавала. Тады кожная планета, акрамя Сонца, мела ў касмаграме іншы *прыстанак* — месца, дзе яна адчувала сябе адзіным і паўнапраўным гаспадаром. Сёння тое месца называецца **сакральным прыстанкам** гэтай планеты. З уварваннем ліха ў Сусвет усё змянілася. Сёння толькі **Сонца** ў знаку Льва займае тое ж становішча, што і ў часы Раю — *сакральны прыстанак*. Леў — адзіны знак Задыяка, у якога, нягледзячы на масу магчымых комплексаў, больш гармоніі, чым разбурэння. У гараскопе Брыля Сонца вельмі моцна выяўлена — мае каралеўскі кармічны статус +8 балаў. Гэта акалічнасць спрыяла праяве пісьменнікам вышэйшай сакральнай праграмы па знаку Льва — не фальшывіць, быць сабой, давала абарону і паўнавартаснасць.

Існуе таксама **сакральная экзальтацыя** планеты — месца яе *экзальтацыі* ў райскія часы — знак Задыяка, дзе планета атрымлівае вышэйшую сілу, якая ёй можа быць дадзена. Знак сакральнай экзальтацыі паказвае, што для чалавека з'яўляецца пуцяводнай зоркай у жыцці. Вышэйшая *сакральная экзальтацыя* знака Льва раскрываецца праз планету **Нептун**. Для Янкі Брыля прыйсці да сапраўднай любові і існай творчасці можна было толькі праз вышэйшыя ідэалы. Леў атрымлівае невядомыя сілы, калі для яго ўсё таемнае становіцца відавочным. Такія людзі здолеюць тварыць цуды, калі будуць не толькі шчодрымі, але і сціплымі.

Такім чынам, Янку Брылю, які меў дзве галоўныя «райскія» планеты ў злучэнні, была дадзена магчымасць успомніць адчуванне Раю. А калі чалавек здолее аднавіць у памяці тыя адчуванні, ён не зможа тварыць зло ў цяперашнім свеце, бо зведае эталон, на які трэба арыентавацца — ён успомніць наш свет без ліха ў ім. Ліха атрымала сілу таму, што ахінула цемрай памяць чалавека пра райскія часы. Веды — гэта мінулае. І цяпер чалавек творыць злыя ўчынкі часта таму, што не ведае, як сябе правільна паводзіць. А Янка Брыль ведаў — хаця б тую райскую ісціну, якая датычыла знака Льва, звязанага з яскравасцю, адкрытасцю, творчым пачаткам, дзецьмі, святам і весялосцю. Хаця, зразумела, гэта сталася не адразу.

У кожным гараскопе ёсць самае моцнае месца, дзе чалавеку могуць дапамагчы светлыя сілы — гэта той знак Задыяка, у якім знаходзіцца планета, што сімвалізуе сабой Боскую ісціну, — Белы Месяц (⯝). У Янкі Брыля яна патрапіла ў знак Вадаліва (♒). Гэта давала пісьменніку магчымасць быць рэфарматарам, альтруістам, верным сябрам, прыхільнікам роўнасці, свабоды і павагі да ўсіх.

Яго наватарства (па Урану — ♅) для беларускай літаратуры праявілася ў тым, што ён запачаткаваў жанр лірычнай (па Месяцу — ☽) прозы — планеты Уран, Месяц і Белы Месяц знаходяцца ў Вадаліве ў злучэнні. Як бачым, Янка Брыль пайшоў светлым шляхам — па Белым Месяцы. На працягу розных прамежкаў жыцця пісьменнік вёў пошукі творчага стылю, каб у выніку прыйсці ад больш глабальных форм — мікражанру, каб «стаць самому адзіным героем сваіх твораў, адкінуць усякія літаратурныя, у тым ліку жанравыя рамкі, абмежаваўшыся самым шырокім азначэннем "лірычная проза"», як адзначыла літаратуразнаўца В. Нікіфарава ў «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя».

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## СТАРАДАРОЖСКІ РАЁН

Шмат карыснага матэрыялу пра Старадарожчыну літаратурную чытачы знойдуць у зборніку «Над ракой Арэсай» (Мінск, 2008), складзеным і пракаментаваным Кастусём Цвіркам пры ўдзеле Міхася Татура і Нэлі Астрэйкі.

### Горад Старыя Дарогі

**Вуліцы А. Гайдара, Янкі Купалы, А. Пушкіна**

**Белага Анатоля** (10.12.1939—14.11.2011), беларускага грамадска-культурнага дзеяча, навукоўца, калекцыянера, стваральніка прыватнага мастацкага музея ў горадзе Старыя Дарогі, радзіма. Скончыў БДУ (1967). Старшыня грамадска-асветніцкага клуба «Спадчына» (1984). Сумесна з сябрамі клуба «Спадчына» ў 1985 г. выступіў ініцыятарам звароту ў ЦК КПБ, Саўмін БССР і Вярхоўны Савет БССР пра ўшанаванне 125-х угодкаў студзеньскага паўстання 1863 г. пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага. Адзін з прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, якая падпісала ліст у ЦК КПСС пра стан беларускай мовы і культуры. З 1995 выкладаў у БДУ. Адзін з заснавальнікаў таварыства «Бацькаўшчына», адзін з заснавальнікаў беларуска-амерыканскага часопіса «Полацак» (1991, Кліўленд, ЗША). Сабраў вялікую калекцыю твораў жывапісу, графікі, медальернага і дэкаратыўнага мастацтва (звыш 3 000 адзінак). Арганізатар тэматычных выставак. Частку сабраных твораў перадаў ВНУ, дзяржаўным музеям. На аснове сваёй калекцыі ў 1990-м заснаваў, а 11 снежня 1999 адкрыў на сваёй сядзібе ў горадзе Старыя Дарогі прыватны музей выяўленчага мастацтва. У музеі звыш 5 000 адзінак захоўвання, якія сабраны пад чатырма дахамі. У экспазіцыі партрэты выбітных дзеячаў беларускай гісторыі, медалі з выявамі Язэпа Лёсіка, Браніслава Тарашкевіча і Кастуся Каліноўскага, камень-помнік «Змагарам за родную мову», памятны знак Васілю Быкаву, бюсты Адама Багдановіча (скульптар Мікола Несцярэўскі) і Максіма Багдановіча (скульптар Сяргей Вакар), у партрэтнай галерэі — партрэты беларускіх пісьменнікаў і паэтаў-эмігрантаў Кастуся Акулы, Анатоля Бярозкі, Юркі Віцьбіча, Янкі Золака, Алеся Салаўя, Масея Сяднёва, Янкі Юхнаўца. Надрукаваў звыш 150 артыкулаў пра беларускае мастацтва і яго гісторыю. Пахаваны ў Старых Дарогах.

**Міхайлава Альберта** (16.6.1947—2010), паэта, радзіма. Скончыў Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут (1970) і завочна Кіеўскі інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання (1992). Працаваў настаўнікам, інжынерам райсельгасхіміі, загадчыкам агульнага аддзела РК КПБ, намеснікам старшыні Старадарожскага райвыканкама. Аўтар зборнікаў вершаў і песень «Спявай, труба» (2004), «Пакланюся сваёй Беларусі» (2007).

---

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г., № 1—11 за 2011 г., № 3, 4, 5, 6, 7 за 2012 г.

Пры Старадарожскай раённай бібліятэцы працуе клуб самадзейных паэтаў «Арэскія вытокі». А пры раённай дзіцячай бібліятэцы — аматарскае літаратурнае аб’яднанне школьнікаў «Першацвет».

* * *

**Вёска Горкі** Паськавагорацкага сельсавета

**Перасвет Солтана Адама** (1-я чв. XIX ст. — красавік 1894), паэта, радзіма. Паходзіць з роду Перасвет Солтанаў гербу Сыракомля. Вучыўся ў Слуцкай гімназіі. Спачатку спрабаваў пісаць па-польску, пазней — на беларускай мове пісаў сатыры. Пахаваны на могілках у в. Навасёлкі.

**Вёска Зялёная Дуброва** Дражненскага сельсавета

**Цвіркі Кастуся** (н. 28.3.1934), перакладчыка, фалькларыста, этнографа, паэта, радзіма. Скончыў БДУ (1958). Настаўнічаў у Труханаўскай СШ Капыльскага раёна Мінскай вобласці Працаваў на Беларускім радыё (1960—1963), у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (1972—1981), выдавецтве «Юнацтва» (1981—1984), часопісе «Полымя», галоўным рэдактарам выдавецтва «Беллітфонд». Кандыдат гістарычных навук. Друкуецца з 1953 г. Аўтар зборнікаў і манаграфій «Такія сэрцы ў нас» (1959), «Бягуць раўчукі» (1962), «Чарназём» (1967), «Дарога ў сто год» (1974), «Слова пра Сыракомлю» (1975), «Каласы» (1975), «Сцежка дадому» (1980), «Рэха дарог» (1982), «Хат вячысты дар» (вершы і паэма, 1982), «Зялёная Дуброва» (1987), «Лодка долі тваёй» (1988), «Бацькаў свет палявы» (1994); кніг для дзяцей «Зайчыкаў хлеб» (1966), «Дарункі лесу» (1969), «Як Алесь згубіўся ў лесе» (1986), «Добрыя суседзі» (1988); рамана «Воўчая выспа» (2009). Асобнымі кнігамі выйшлі краязнаўчыя нарысы «Дарога ў сто год» (1974), «Той курган векавечны» (1985), «Лісце забытых алеяў» (1993), «Камяні тых сядзібаў» (2004). Роднай вёсцы прысвяціў кнігу «Будзіла вёску берасцянка» (2007).

**Вёска Кармазы** Старадарожскага сельсавета

**Аліпенчыка** (сапр. А. Зубец; гады жыцця невядомы), пісьменніка, радзіма. Аўтар апавядання «Як аслеп Прахор» («Наша ніва», 1913 г., № 13).

**Вёска Мінкавічы** Новадарожскага сельсавета

**Непачаловіча Янкі** (25.5.1917—3.7.1969), паэта, радзіма. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў загадчыкам хаты-чытальні ў в. *Крываносы*. Скончыў літаратурны факультэт Мінскага педінстытута (1940). З трэцяга курса накіраваны Наркаматам асветы настаўнікам у Дзяржынскую СШ Мінскай вобласці. Пазней працаваў у Мар’інагорскай СШ. У Вялікую Айчынную вайну — сувязны партызанскай брыгады імя Кірава Мінскай вобласці. Пасля вайны працаваў настаўнікам у Дзяржынску, потым інспектарам школ Старадарожскага р-на. З 1948 г. — у школе в. Дараганава Асіповіцкага р-на. У 1967 г. пераехаў у Мінск, працаваў у выдавецтве «Народная асвета». Друкаваўся з 1936 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Мера любві» (1958), «Позні паром» (1967), «Перад заходам сонца: Выбраныя вершы» (1977).

**Парахневіча Міхася** (20.8.1934—12.11.2001), пісьменніка, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям’і. Пасля заканчэння школы фабрычна-заводскога навучання (1952) працаваў электраманцёрам у Мінску. У 1953—1956 гг. служыў у Савецкай Арміі. Потым супрацоўнічаў у старадарожскай, парыцкай раённых газетах, а ў 1958—1961 гг. — у ерментаўскай раённай газеце Цалінградскай вобласці. Скончыў БДУ (1965), Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС (1969). З 1962 г. — у газеце «Мінская праўда», у 1966—1967 гг. — у газеце «Літаратура і мастацтва», у 1969—1971 і 1978—1990 гг. — намеснік галоўнага рэдактара газеты «Вячэрні Мінск», у 1971—1978 гг. — у ЦК КПБ. Друкаваўся з 1950 г. Аўтар

кніг «Мы майструем самалёт» (1963), «Толікаў гай» (1965), «Дзядзька Толя — трактарыст» (1968), «Грыбны дождж» (1969), «Жыццё» (1972), «Чырвоны аўтобус» (1973), «Зара-зараніца» (1975), «Абяцанне» (1976), «Модны гальштук» (1977), «Маё і тваё маленства» (1978), «Прыгарадная камандзіроўка» (1979), «Марынінка» (1982), «Чаромхавы ранні цвет» (1984), «Белыя цені бяроз» (1989).

**Вёска Навасёлкі** Паськавагорацкага сельсавета

На мясцовых каталіцкіх могілках пахаваны **Перасвет Солтан Адам,** паэт, ураджэнец в. *Горкі* гэтага ж раёна. Там жа пахаваны яго жонка і сын.

**Вёска Пасека,** цэнтр сельсавета

**Усені Алеся** (н. 28.10.1958, псеўданім Алесь Няўвесь), пісьменніка, журналіста, выдаўца, юрыста, радзіма. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Працаваў у шматтыражнай газеце «Інтэграл», старадарожскай раённай газеце «Поступ Кастрычніка», «Гомельскай праўдзе», «Звяздзе», часопісе «Вожык». Выдаў каля 15 кніг сатырычных вершаў, прозы, дакументалістыкі: «Я хачу на сваю планету», «Споведзь знявечаных душ», «Аднойчы ў ціхім завулку», «Здань на хутары», «Нахлебнікі», «Дзежка дзёгцю», «Пустадомкі» і інш.

**Вёска Паставічы Новадарожскага сельсавета**

**Чабатарова Леаніда** (н. 13.4.1961), паэта, радзіма. Скончыў Паставіцкую сярэднюю школу, працаваў піянерважатым у Падарэскай СШ. Пасля службы ў арміі стаў рабочым ВА «Белшына», з 1981 г. — слесар ААТ «Бабруйскаграмаш». Аўтар кнігі паэзіі «Бярозавы край» (2005).

**Вёска Языль**, цэнтр сельсавета

**Мардвілкі Аркадзя** (24.8.1905—27.10.1986), пісьменніка, перакладчыка, радзіма. Вучыўся на Фанетычных курсах новых моў у Ленінградзе (1926—1927), у БДУ (1927—1929), на Вышэйшых курсах новых моў пры 2-м Маскоўскім універсітэце (1929—1930). Быў членам літаб'яднання «Маладняк» і БелАПП. Скончыў Сярэднеазіяцкі ўніверсітэт (Ташкент, 1950). У 1933 г. рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1988 г. З 1935 г. жыў у Ташкенце. Працаваў у Сярэднеазіяцкім універсітэце (1951—1957), Ташкенцкім універсітэце (1956—1960), Рэспубліканскім інстытуце рускай мовы і літаратуры (1960—1985). Друкаваўся з 1924. Публікаваў вершы, апавяданні, нарысы, рэцэнзіі. Аўтар кніг «Вялікае нараджэнне» (1932), «Нарысы па рускай фразеалогіі» (1964), «Як хутчэй засвоіць значэнне англійскіх слоў» (1968) і інш. На беларускую мову пераклаў раздзелы са «Спеву аб Гаяваце» Г. Лангфела, «Песню пра вольны шлях» У. Уітмена, асобныя творы Дж. Лондана, Р. Тагора, П. Тычыны, раман М. Ляшко «Доменная печ» і інш.

# СТАЎБЦОЎСКІ РАЁН

## Горад Стоўбцы

**Вуліца А. Сянкевіча**

Названа ў гонар Аляксандра Сянкевіча, сябра Якуба Коласа, героя яго трылогіі.

**Вуліцы Максіма Горкага, Якуба Коласа, Янкі Купалы, М. Лермантава, У. Маякоўскага, А. Міцкевіча, А. Пушкіна, Л. Талстога, І. Тургенева, А. Чэхава, Т. Шаўчэнкі.**

**Ваньковіч Мельхіёр**, польскі празаік, ураджэнец в. *Калюжыцы* Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці., напісаў кнігу нарысаў і рэпартажаў «Ад Стоўбцаў да Каіра» (1969) пра падзеі 1930-х гадоў.

**Гароха Янкі** (каля 1906—1909 — ?), паэта, удзельніка нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, радзіма. Адзін з актывістаў падпольнага друку. У 1932 г. разам з М. Танкам выдаваў у Вільні палітычны і літаратурны часопіс акруговага камітэта КСМЗБ «Пралом». Па ўскосных звестках, асобныя творы Гароха змешчаны ў «Хрэстаматыі рэвалюцыйнай літаратуры Заходняй Беларусі» (1933).

**Горкі Максім,** рускі пісьменнік, у 1928, 1929, 1931 гг. праязджаў праз горад, гутарыў тут з працоўнымі.

**Колас Якуб** летам 1908 г. у Стоўбцах даваў прыватныя ўрокі.

**Купала Янка** двойчы пабываў на станцыі Стоўбцы летам 1912 г., калі прыязджаў у Смольню на сустрэчу з Якубам Коласам.

**Крапіва Кандрат** (Атраховіч Кандрат), пісьменнік, ураджэнец в. *Нізок* Уздзенскага раёна Мінскай вобласці, вучыўся у Стаўбцоўскім 4-х класным гарадскім вучылішчы ў 1911—1912 гг.

**Маякоўскі Уладзімір,** паэт, некалькі разоў праязджаў праз горад.

**Мілюць Алесь,** паэт, ураджэнец в. *Скорычы* Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці, у 1939 г. супрацоўнічаў з мясцовай раённай газетай «Голас селяніна» (цяпер «Прамень»).

**Паўлюкоўскі Уладзіслаў**, паэт, перакладчык, ураджэнец в. *Інiца* гэтага ж раёна, скончыў тут пачатковую школу.

**Фанвізін Дзмітрый**, рускі пісьменнік і драматург, у 1777 г. праездам на Парыж быў тут. У час падарожжа вёў часопіс, які ў выглядзе лістоў дасылаў у Пецярбург і Маскву.

* * *

**Вёска Акінчыцы,** з 1977 г. у складзе г. Стоўбцы

22 кастрычніка (3 лістапада) 1882 г. у сям'і Міхаіла і Ганны Міцкевічаў у Акінчыцах нарадзіўся сын Кастусь, будучы народны пясняр Якуб Колас (больш поўны артыкул пра яго будзе змешчаны ў мінскай частцы даведніка — у артыкуле, прысвечаным яго дому-музею). Бацька працаваў у Акінчыцах леснікам з 1 красавіка 1881 г. па 1 красавіка 1883 г. Сядзіба адноўлена, на яе тэрыторыі гумно, пограб, калодзеж, хата. На хаце ўстаноўлена мемарыяльная дошка. 30.10.1982 г. тут адкрыта мемарыяльная экспазіцыя. Сярод экспанатаў — аналагі рэчаў, якімі карысталася сям'я Міцкевічаў, прадметы сялянскага побыту канца XIX ст. Захаваўся таксама дом Акінчыцкага лясніцтва князёў Радзівілаў, куды часта наведваўся па службовых справах бацька пісьменніка.

Цяпер знаходзіцца на перакрыжаванні вуліц Сянкевіча і Коласаўскай.

У вершы «На раздарожжы» **Якуб Колас** пісаў:

Пры шляху шырокім,
Дзе стаіць камора,
Я на свет радзіўся
Пад глухі шум бору,
Позняю парою,
Восенню гнілою..

**Сядзіба Альбуць** Мікалаеўшчынскага сельсавета

Сядзіба ў складзе філіяла Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа. Пачала дзейнічаць з лістапада 1990 г. Сюды ў красавіку 1890 г. перабраліся Міцкевічы. Хата пабудавана ў 1873 г. 30 сакавіка 1891 г. яна згарэла. Новую хату паставілі ў 1891 г., а да гэтага жылі ў зямлянцы. Тут прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады Якуба Коласа (1890—1902), адсюль

ён хадзіў у народнае вучылішча ў в. Мікалаеўшчына. Гэтаму перыяду прысвечаны раздзел паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» «Каля зямлянкі». Хата захавалася да нашых дзён. У Альбуці сыны вучыліся ў дарэктара. Адсюль будучы паэт пайшоў вучыцца ў Нікольск. Тут ён напісаў першы верш «Вясна» (1894), атрымаў першы «літаратурны ганарар». У 1990 г. тут створана літаратурна-мемарыяльная эспазіцыя па матывах паэмы «Новая зямля», якая складаецца з фотаздымкаў прататыпаў герояў паэмы, рукапісаў, выданняў паэмы розных гадоў, прадметаў побыту сялян XIX—XX стст. На хаце ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Альбуць, апісаная як Парэчча ў «Новай зямлі», запала ў памяць Кастусю. Ён успамінаў: «Альбуць запомнілася мне найбольш яскрава. Там была надзвычай ціхая прырода. Леснікова пасада стаяла на бойкай дарозе, кудою ішлі і ехалі людзі...» Хатні настаўнік Алесь Фурсевіч з Галавенчыц выведзены ў трылогіі «На ростанях» пад вобразам Максіма Турсевіча. Хатні настаўнік Янка Міцкевіч з Мікалаеўшчыны — прататып дарэктара з коласавай паэмы «Новая зямля».

Альбуці прысвяцілі свае вершы **Казімір Камейша — «**Трыпціх праз ростані» (у кн. Дзень паэзіі-82. — Мн., 1982, с. 35—37), **Браніслаў Спрынчан** — «Альбуть» (у яго кн. Стихотворения. — Мн., 1983, с. 99—101), **Сяргей Законнікаў** — «Дарога ў Альбуць» (Маладосць. — 1984 — № 6), **Алесь Звонак —** «Альбуць» (у яго кн. Сябрына. — Мн., 1987, с. 162—164).

**Вёска Белькаўшчына** Мікалаеўшчынскага сельсавета

**Хвалея Яўгена** (н. 1.1.1947), паэта, крытыка, публіцыста, радзіма. Скончыў Мікалаеўшчынскую школу, БДУ (1971). Працаваў у стаўбцоўскай раённай газеце, выдавецтве «Народная асвета», на Беларускім радыё і тэлебачанні, у выдавецтве «Юнацтва», часопісах «Славянскі свет», «Крыніца», «Родная прырода», газетах «Літаратура і мастацтва», «Весці Першамайскага раёна». Друкуецца з 1967 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Нашчадкі» («Ярына») (1979), «Прычасце» (1983), «Зялёны прамень аеру» (1987), «Квадры памяці» (1992), «Прыстань віцінаў» (1996), «Дзе хвалі срэбна-залатыя» (2009); аповесцей для падлеткаў «Пацукі, або Таямнічы дзённік» (1991) і «Прынцэса з тусоўкі» (2000, 2008); кніг для дзяцей «Насціны гасцінцы» (1989), «Каця на планеце радгапедаў» (1997), «Дзіва-сны дзяўчынкі Вікі» (2002). Уклаў некалькі паэтычных зборнікаў. Жыве ў Мінску.

**Вёска Вечатарова** Залужскага сельсавета

**Аляшкевіча Аляксандра** (н. 14.7.1958), пісьменніка, радзіма. Скончыў Залужскую СШ, Лідскае музычнае вучылішча, журфак БДУ. Працуе выкладчыкам музыкі ў пас. Новаколасава ў школе мастацтваў. Аўтар кніжак прозы «Д'яблава мора» (1994), «Чорная дзірка» (2001).

**Вёска Вязавец** Вішнявецкага сельсавета

**Івашкі Івана** (н. 5.10.1951), паэта, перакладчыка, журналіста, радзіма. Скончыў Навасёлкаўскую СШ Нясвіжскага раёна, працаваў рабочым на розных прадпрыемствах. Завочна скончыў філфак БДУ. Працаваў у мясцовых газетах. Аўтар паэтычных зборнікаў «Чары вячыстага краю» (2001), «Згукі параненай мроі» (2003), «Вяртаннне ў сярэднявечча» (2003). Перакладае з рускай мовы. Жыве ў роднай вёсцы.

**Вёска Гавязна,** не існуе. Да 1964 г. у Вішнявецкім сельсавеце

**Дранчука Валерыя** (н. 1951), журналіста-публіцыста, паэта, радзіма. Нарадзіўся ў сям'і настаўніцы і бухгалтара. Закончыў школу ў Гарадзеі (Нясвіжскі раён). Затым вучыўся ў Мінску (дыплом журналіста з 1974 г.). Працаваў у раённых газетах (Старыя Дарогі, Стоўбцы), у газеце «Звязда». З 1982 г. — на розных пасадах у Вярхоўным Савеце і Савеце Міністраў Беларусі. У 1991 г. — галоўны рэдактар часопіса «Родная прырода», у 1993 — 1996 гг. — у часопісе «Беларусь». З 1995 г. — заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар

газеты «Белавежская пушча». Аўтар зборніка паэзіі «Замкавое» (пад вокладкай супольнага выдання «Крылы», 1984), кнігі-рэпартажа «Перад люстэркам будучыні» (1990), кінасцэнарыяў, асветна-выдавецкіх экалагічных праектаў. Лаўрэат Міжнароднай прэміі Генры Форда «За захаванне культурнай спадчыны і ахову навакольнага асяроддзя» (1999). Жыве ў Мінску.

**Урочышча Дубы**

Знаходзіцца ў коласаўскім мемарыяльным заказніку. Плошча каля 20 га. Упамінаецца ў апавяданні Якуба Коласа «У старых дубах», у «Новай зямлі». Тут праводзяцца коласаўскія святы.

**Камейша Казімір** напісаў верш «Урочышча “Дубы”».

**Вёска Дзераўная** Хатаўскага сельсавета

У будынку ***Дзераўнянскай сярэдняй школы*** дзейнічае музей ***«Стаўбцоўшчына літаратурная»***.

**Вёска Дзярэчынцы** Варацішчанскага сельсавета

**Кутаса Мікалая** (н. 1.8.1945). Скончыў Нясвіжскую школу-інтэрнат імя Якуба Коласа, філфак Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Працаваў дырэктарам Суднікоўскай базавай школы, у прафсаюзных органах. Цяпер працуе бібліятэкарам Абадоўскай сельскай бібліятэкі. Аўтар паэтычнага зборніка «Переразвоны». Пражывае ў в. Ілья Вілейскага р-на.

**Вёска Жукаў Барок,** не існуе

У 1831 г. бацька **Адама Плуга,** пісьменніка і журналіста, ураджэнца в. *Замосце* сучаснага Слуцкага раёна Мінскай вобласці, атрымаў пасаду падлоўчага ў радзівілаўскіх уладаннях, і сям’я пераехала ў гэту вёску. У час летніх канікулаў у 1840 г. пазнаёміўся з сынам арандатара суседняга прынёманскага фальварка Залуча Кандратовічам Людвікам (**Уладзіславам Сыракомлем**), ураджэнцам в. *Смольгава* Любанскага раёна Мінскай вобласці Гэтым мясцінам Плуг прысвяціў гутарку-ўспамін «Жукаў Барок».

**Каратынскі Вінцэсь,** беларускі і польскі паэт і публіцыст, ураджэнец в. *Селішча* Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці жыў тут з 1850 г. У верасні 1852 г. пераехаў у Вільню. Мясцовасць апісана ім у «Карцінках з берагоў Нёмана».

У мясцовай уніяцкай царкве (XVIII ст.), пабудаванай **Станіславам Радзівілам**, была багатая бібліятэка друкаваных і рукапісных кніг. Пасля таго, як царква была знесена па рашэнні Стаўбцоўскага райвыканкама, кнігі аддалі на падпал у гарадскую лазню.

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары***





# Бярозка

№ 8/2012(1011)












**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**



# Маладыя таленты Глыбоччыны



*Фота Рагнеда Малахоўскага.*

* * *

Мая Радзіма — гэта бусел белы,
Які лунае ў чысціні нябёс.
Сцяжынка ў лесе, яблык пераспелы,
Квяцісты луг, духмяны сенакос.

Мая Радзіма — гэта хата ў вёсцы,
Што туліцца у квецені садоў.
Дубровы шум, лісточак на бярозцы
І поўны кош тугіх баравікоў.

Мая Радзіма — гэта нашы продкі
За намі сочаць з глыбіні вякоў.
Дух Каліноўскага, Рагнеды, Цёткі
Заўсёды будзіць у нашчадкаў кроў.

Мая Радзіма — гэта мова маці,
Што льецца ціхім спевам ручайка.
І гэты спеў — найлепшае багацце
Для ўсіх дзяцей, ва ўсіх вяках.

## Спрадвечны дом

Прыгожы вечар, ціхі ранак,
Раса празрыстая, як лёд.
Мая Радзіма, мой світанак,
Дзе творчасці, душы узлёт.

Мядовы жнівень, снежны люты,
А ў ліпені — блакітны лён...
Забудзе сэрца ўсе пакуты,
Бо тут — Радзіма, тут — мой дом!

## Мой горад

Люблю цябе, мой родны горад...
Спакоем тут усё атулена.
І летам сонечным, і ўзімку
Я тут знайду цяпло матуліна.

Завулкаў ціхіх, вуліц людных
Спляліся ніці непарыўныя.
Навокал — подых год мінулых,
Сучасных дзён жыццё вірлівае.

Як сімвал веры, непакорнасці
Два старажытныя тут Храмы.
Шлях глыбачан, шлях да духоўнасці
Сюды вядзе ад сэрца прама.

***Крысціна ХІЛЬКО***

## Новы стыль

Зіма. Вецер дзьме ў вокны, у класе холадна, дзеці сядзяць у куртках.
Настаўніца пытаецца:
— Што гэта ў вас за стыль адзення?
— Палярны, — чуецца ў адказ.

## «Заела»

Ірына Паўлаўна дужа дэталёва тлумачыла тэму ўрока. Пасля яго ў буфет прыбеглі дзве вучаніцы. Адна кажа другой:
— Што тут самае салодкае, тое і куплю.
— Ты такая ласуха? — здзіўлена пытаецца другая.
— Не. Ірыну Паўлаўну «заядаць» буду.

## За старанне — сырнікі!

— Калі ты добра прачытаеш гэту старонку ў кнізе, я спяку твае любімыя сырнікі, — стараецца заахвоціць маці дачку-першакласніцу.
Дачка-старшакласніца тут жа прапануе:
— Мама, давай добра прачытаю старонку я.

## Кацінная «лазня»

Кот ад пуза наеўся рыбы і мые пысу. Гаспадыня заахвочвае:
— Кот, кот, за вухам чорна!
Кот чхае. Дачка каменціруе:
— Чхаць ён хацеў, мамачка, на тваю падказку.

***Рагнеда ЮРГЕЛЬ***

## Рамонкавая арыфметыка

Фатаграфавалі нябёсы. Дакладней, яна фатаграфавала блакітна-ружовую бясконцасць, а Ён — Яе. Такую летнюю, цёплую, самую ягоную. Найстройвала аб’ектыў, прыжмурвалася — такой і запомніў Яе Яго фотаапарат. Цяпер гэты фотаздымак «трымае» на халадзільніку магніцік-сардэчка.

Пахла свежай скошанай травой. Яны спыніліся, завароржаныя вечарам. Пальцы спляліся, і сярод гэтага бязмежжа дзве постаці «напісалі» літару «м», якая паціху раставаралася на палосцы далягляду. Мама, мора, малявáць, маладосць, мы...

На заднім сядзенні аўтамабіля прыемна пах сакавіты букет, што сабралі з палявых кветак. Рамонак красаваўся і ў Яе валасах.



Змянілі Сцінга на радыё: Ён хацеў паслухаць надвор'е на заўтра, каб запланаваць нешта, пакуль невядомае Ёй. Закідвала Яго пытаннямі і здагадкамі наконт планаў, але маўчанне суразмоўцы толькі дадавала азарту. Віншаванні і пажаданні не хацелі саступаць месца навінам.

Пасля прывітання «для самай рамонкавай і самай каханай дзяўчыны» вядучую змяніў Сцінг. Рамонкавая перадала яму «дзякуй» за віншаванне пацалункам у шчаку.

Рамантыку замяніў экстрым. Стрэлка спідометра наблізілася да адзнакі «160». Яна давярала Яму, а Ён — Ёй. Узаемнасць. На першым святлафоры спыніліся і, не пакідаючы аўто, памяняліся месцамі. Галоўнае, каб бацькі не даведаліся, што Яна сядзела за рулём, бо аўташкола была пакуль толькі ў планах.

Гадзіннік паказаў 22.22. Загадалі жаданне, адно на дваіх: каб лета ніколі не заканчвалася. І па прыступках, што вялі ў пад'езд, пабеглі босыя ножкі.

— Пакуль што яно збываецца, — думаў Ён, гледзячы на здымак пад сардэчкам і набіраючы рамонкавую, каб сказаць, што па ўсходнім календары ёлку ў гэтым годзе лепш упрыгожыць усё ж сінімі ліхтарыкамі.

Ён любіў зіму. Сёлетні студзень дакіне Ёй яшчэ адзіначку, і Ён стане старэйшым за Яе... усяго толькі на пятнаццаць. Простая рамонкавая арыфметыка...

*Ганна ЛУКАШЭВІЧ*

## Даруй, бярозка, або Урок жыцця

— Расці, бярозка, — сказала белагаловая дзяўчынка і пагладзіла маленькай ручкай тоненькі ствол дрэўца.

— Будзе расці разам з табою, — сказаў дзядуля, які стаяў побач.

Дрэўца хутка набірала сілу і цягнулася сваімі галінкамі да сонейка. Бярозка радавалася, што хутка стане высокай, стройнай, кучаравай і зможа захінуць ад непагадзі і пякучых промняў сваю маленькую сяброўку. Але нядоўга цешылася яна: як лёс чалавека залежыць ад Госпада, так і лёс дрэва — ад чалавека.

Зазлаваўшыся, што бярозка абагнала яе ў росце, дзяўчынка зламала пышную верхавіну. Заныла скалечанае болем цела. Па белым твары пацяклі бяс-

 

колерныя слёзы. З мальбой працягнула бярозка рукі-галінкі да нябёсаў, просячы даць ёй сілы, каб выжыць, і даравання маленькаму чалавечку за бяздумны ўчынак.



— Трэба зрэзаць бярозку, навошта на двары такая калека, — сказаў бацька.

— Няхай глядзіць усё жыццё, калі зламала, — словы маці дзяўчынкі былі памілаваннем для дрэўца.

Ішлі гады. Побач з бярозкай вырас прыгажун-клён і такая ж стройная, ганарлівая і какетлівая ліпа. Дрэўцы гаманілі паміж сабой, а скалечаная бярозка панура маўчала.

Аднойчы дзяўчынка захварэла. Цэлымі днямі яна не выходзіла са двара. Сумная, яна тулілася да шурпатага ствала бярозкі, а тая шапацела лісточкамі, паіла яе сваім сокам, забаўляла, як магла, і хутка дзяўчынка паправілася. З таго часу, куды б яе не закідваў лёс, яна, калі вярталася дадому, заўсёды прыходзіла да бярозкі: расказвала ёй пра сваё жыццё, давярала дзявочыя тайны, гладзіла сваю сяброўку і казала: «Ты самая лепшая, самая надзейная, мая бярозанька».

Каляндар прагартаў дзесяцігоддзі. Пад бярозкай стаяла пасівелая жанчына, а побач — яе маленькая ўнучачка-шчабятушка. Яна не разумела, хто пакрыўдзіў яе бабулю і чаго тая плача.

У вачах малой было столькі даверу і шчырага спачування, што жанчына ўпершыню адважылася расказаць унучачцы пра той сарамлівы боль, які тачыў яе сэрца амаль пяць дзясяткаў гадоў.

Дзяўчынка нічога не сказала, толькі мацней абняла бабулю. А назаўтра з раніцы яна разам з татам спяшалася ў лес — за маленькай унучачкай для бабулінай бярозкі.

*Кацярына МАЛЕЙ*

# Навука кахаць і з людзьмі кантактаваць

***Ведаеце, сапраўды вельмі прыгожа і правільна тое, што многія нашыя love story нічым асаблівым не сканчваюцца. І тое, што завецца «няшчаснае каханне»... Чаму б і не, уласна кажучы? Сакрэт і палёгка ў тым, што ў «няшчасным каханні» зусім няма нічога няправільнага!***

## Таямніца рок-паэзіі

Аліне — чатырнаццаць. Яшчэ не было ў яе жыцці каханага. І яна чакае... Ну, калі ўжо пачне, як кажуць у народзе, з кім-небудзь сустракацца?

З Андрэем Аліна сустрэлася ў сацыяльнай сетцы. Андрэй проста цудоўны! Разбіраецца ў музыцы, грае на гітары. Аліна ўжо сто разоў перагледзела ягоныя фотаздымкі. Там, дзе ён з вуснамі нафарбаванымі, у жаночай сукенцы, — тая фотасесія проста супер! Андрэю дваццаць гадоў. І як жа прывабна, як неспасцігальна — дваццаць гадоў! Ды і тое, што ён не з Мінска, а з Гродна... Гродна, Гродна, таемны горад! Там людзі па-іншаму неяк жывуць, там — Андрэй!

А яшчэ «ДДТ» — самы ўлюбёны гурт Андрэя. Аліна, з думкамі пра яго, усе альбомы «ДДТ» праслухала: і раннія, і познія — усе! Цяпер і яна «ДДТ» больш за ўсё любіць! І, напэўна, упершыню ў жыцці Аліна ўсю загадкавасць, нейкую незямную святасць і тонкасць рок-паэзіі адчула. Усе гэтыя сусветы, у спевах якія... Штось небудзённае гэта, ну, проста таямніца нейкая. «ДДТ», Андрэй... Музыка іх аб'ядноўвае!

Але асабіста ніколі яны не бачыліся. Два месяцы ў сацыяльнай сетцы перапісваюцца. Напрыканцы студзеня ў яго сесія... Як жа гэта прывабна, чароўна: вучыцца на праграміста і здаваць сесію! Яно не з яе, Алінінага жыцця, а з чужога, неспазнанага, пра якое можна марыць.

## Першае спатканне

Аліна на ўсё жыццё запомніць той нядзельны студзеньскі вечар, званок дамафона...

— Аліна? — пачуўся прыемны мужчынскі голас.

Божа, як жа прыгожа: яе імя — не хлапечым, а гэткім дарослым голасам дваццацігадовага Андрэя. Голасам, у якім, як і ў рок-паэзіі, — таямніца.

— Так, — прамармытала Аліна.

— Можа, пабачымся? — працягваў Андрэй.

— Не ведаю, — разгубілася Аліна, хаця ад яго да яе — чатыры паверхі ўсяго.

— Ну?

Паўза.

— Я хутка выйду, — паміраючы ад страху, вымавіла нарэшце Аліна.

Выбегла з кватэры. Неяк атрымалася сябе супакоіць, пакуль ехала ў ліфце. На першым паверсе страх амаль знік. Заставаўся інтарэс: менш хвіліны, і яна ўбачыць яго — таго самага Андрэя з Гродна!

...З вялікім чорным мехам у руках Андрэй стаяў на прыступках пад'езда. Завушніца ў вуху, светлыя космы па плячо. І мілая, дабрадушная ўсмешка...

Пайшлі гуляць — па студзеньскай прасторы зімовага вечара... Размова не асабліва ладзілася. Аліну гэта напружвала, і яна з дыскамфортам думала пра саму сябе: «Я не ўмею несціхана лапатаць з дрэнна знаёмымі людзьмі і, напэўна, гэта самая вялікая праблема. Заўжды зайздросціла людзям, якія лёгка ідуць на кантакт».

Карацей, пашпацыравалі з гадзінку. Не зусім маўчалі, вядома, але ж і горным ручаём гутарка не лілася. Аліна адчувала сябе неяк няёмка... Ды, зрэшты, гэта было першае ў яе жыцці спатканне. І не з якім-небудзь аднакласнікам, а з дваццацігадовым Андрэем з Гродна!




*Фота Рагнеда Малахоўскага.*

Андрэй правёў Аліну да пад'езда. Гэта было прыемна, гэта было ўпершыню ў яе жыцці: усе гэтыя асаблівасці шпацыра з хлопцам... І ты неяк па-новаму адчуваеш сябе, адчуваеш сябе дзяўчынай! Паціснулі адно аднаму рукі.

— Я табе на тыдні патэлефаную, — сказаў ён і, абхапіўшы Аліну рукамі, цмокнуў яе ў шчаку.

— Пакуль, — прамармытала яна і, сціскаючы ў руках падарунак Андрэя — дыск «Мясцовага часу», беларускага рок-гурта канца 80-х, ніколі яшчэ не чутага, накіравалася да дзвярэй.

«Я дурная... — думала пра сябе Аліна. — Я не змагла паказаць сябе цікавай...»

Паўночы Аліна не магла заснуць ад уражанняў пасля першага ў жыцці спаткання.

Пасля яна чакала званка, жадала зноў пачуць гэты «самы прыгожы ў свеце голас» — а ён не тэлефанаваў... Ды і стасункі ў сацыяльнай сетцы разладзіліся. Але дзяўчына яшчэ доўга слухала дыск «Мясцовага часу» і думала пра Андрэя...

## Быць вучнем — гэта нармальна!

Нельга назваць першае спатканне Аліны зусім няўдалым. У ім няма нічога няправільнага і дрэннага! Гэта быў проста досвед. Вучоба жыць, вучоба кантактаваць з супрацьлеглым полам. Так, Аліна разгубілася і была незадаволена сабою... Але ва ўзросце Андрэя, калі ёй будзе гадоў дваццаць, ёй будзе лягчэй сустракацца, знаёміцца, весці размовы... І «свой хлопец» у яе з'явіцца тады, калі прыйдзе Патрэбны Час.

Андрэй падараваў Аліне таямніцу рок-паэзіі, якую яна не была здольна адчуць дагэтуль. Але чаму ж ён так і не патэлефанаваў? Чатырнаццацігадовая Аліна была яшчэ «зялёная» для Андрэя. Ды і не было для яго гэта спатканне першым, хвалюючым і такім важным, як для Аліны.

***Калі давяраеш жыццю, не баішся сваіх памылак і быццам бы няўдач, калі згаджаешся быць вучнем, тады ўсё становіцца нашмат прасцей!***

*Кацярына* ***БЕЗМАЦЕРНЫХ***





# Мама



*Фота Рагнеда Малахоўскага.*

Мама... Як пяшчотна, клапатліва і ласкава гучыць гэта магічнае слова. Мама — гэта анёл, пра якога мы заўсёды забываем, але яна ніколі не забывае пра нас. Яна заўсёды гатова выслухаць, дапамагчы. Яе залатыя рукі і неацэнныя слёзы ратуюць нават у той момант, калі ўрачы кажуць, што няма шансаў... Мама — гэта сонейка, якое будзе свяціць нам, нават калі на вуліцы ідзе дождж. Мама — гэта такі чалавечак, які застаецца ў сэрцы назаўсёды. Мама заўсёды гатова прыйсці на дапамогу. Мама — гэта новае жыццё, гэта аддуха. Мама — гэта само шчасце, наша пуцяводная зорачка, якая дапамагае вызначыцца ў жыцці, зразумець, чаго мы жадаем, і дамагчыся гэтага. Мама — гэта чалавек, які любіць нас заўсёды: там, у жывоціку, або там, на нябёсах... Яна дорыць нам падарункі не толькі з нейкай нагоды, але і без яе. Яна цешыцца нашаму поспеху разам з намі, а калі мы хвалюемся, то яна хвалюецца больш за нас. Мама заўсёды нас чакае. Яна аддае ўсю сябе нам, дзецям. Але што яна атрымлівае ўзамен?

Як рэдка мы ёй тэлефануем, ведаючы, што яна хварэе. Вядома, у нас жа сур'ёзныя справы, мама пачакае. Як часта мы пакідаем яе на другім плане. Але ж яна прабачыць, яна заўсёды прабачае, яна ж мама. А што яна адчувае ў той момант, калі мы на яе сварымся, а потым сыходзім? Напэўна, боль... З кожным нашым крыкам у яе на часткі раздзіраецца сэрца, з кожным жудасным учынкам з'яўляецца сівы волас на скронях. І хто пасля такога асмеліцца



сказаць, што ён не любіць гэтага святога чалавека? А яна нас заўсёды чакае: чакае, калі мы з'явімся на свет, калі пачнём хадзіць, скажам першае слова, атрымаем першую адзнаку. Яна са слязьмі радасці на вачах глядзіць на нас, бо мы ўжо так выраслі. А мы ўсё кудысьці спяшаемся, не даем ёй наглядзецца на нас. Яна пра штосьці просіць, мы абяцаем выканаць гэта, а потым забываем, але мама нас усё роўна любіць і прабачае. Падняўшыся рана, яна на дыбачках праходзіць міма нашага пакоя, каб не шумець, не разбудзіць, а мы... Падняўшыся раней за яе, уключаем музыку, бегаем па хаце, гучна размаўляем па тэлефоне, крычым... Мы з такой непавагай ставімся да таго, хто любіць нас больш за сябе, больш за сваё жыццё.

Але ўсяму калі-небудзь прыходзіць канец. Бо час так хутка ляціць... Часта хочацца крыкнуць: «Стоп, жадаю пачаць усё спачатку», але разумееш, што гэта не гульня, а рэальнае жыццё, і чарнавога варыянта няма... А гады, яны ж не спыняцца, і з кожным пражытым годам мама старэе. Але мы і тады можам то накрычаць на яе, то спецыяльна не ўзяць трубку, калі яна тэлефануе. Але ж хваляванне не ідзе ёй на карысць. Мы не разумеем, што мы робім... На колькі б лягчэй стала маці, калі б яе дзеці ведалі, што не шануем мы маму толькі тады, калі яна ў нас ёсць, калі яна з намі, але варта ёй сысці назаўжды — і ты прадасі душу д'яблу, толькі б ізноў яна апынулася побач, але тады ўжо будзе позна. Крычы не крычы, плач не плач, а маму не вярнуць. І ўсё, што табе застанецца — гэта папрасіць на яе магіле прабачэння за сваю няўвагу, свае дурныя ўчынкі і адпусціць... назаўсёды...

Шануйце маці! Яны не вечныя...

*Анастасія БЕЛАРУСАВА,*
*15 гадоў, Барысаў*

**● Слоўнік-алоўнік**

# Даганяты

**Даганяты** — «той, хто даганяе».

«Натоўп **даганятых** усё гусцеў, з'яўляліся новыя людзі — з падворкаў, ці, што далучаліся да тых, што беглі наперадзе».

*Васіль БЫКАЎ*

А хлопцы і дзяўчаты выказалі такое азначэнне «**даганятага**»:
**Андрэй Строцаў:** «Той, хто толькі што нешта нарэшце зразумеў».
**Маргарыта Грыгаровіч:** «Нехта накшталт праследавацеляў альбо людзі, якія ідуць наўздагон».
**Таня Грын:** «Той, хто шпарка даганяе!»

### Бег



У нас стагнаць і плакаць не прынята,
Калі табе пабеглі наўздагон.
Быць можа, ты таксама **даганяты** —
І некага схапіў даўно ў палон.

За вокнамі і сценамі — свабодна,
Няма ні слоў, ні думак у душы.
І хочацца нам бегчы доўга-доўга,
Нібыта мы да радасці бяжым.

Мінуў той час, дзе бег нам быў гульнёю,
Дзе радасна і плакаць, і стаяць.
І хочацца крануцца даланёю,
Як кожнаму цяпер — свабодным стаць.

Душы ж, быць можа, варта азірнуцца,
Каб зноўку гэта ўсё назваць гульнёй.
У сонечных абдымках апынуцца,
І высветліць, што ў іх свабодна ёй.

*Верш Касі ГЛУХОЎСКАЙ,*
*малюнак Вольгі АЛЕЙНІКАВАЙ*

*Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ*

# Агу, джэнтльмены!



***Чытаеш часам кніжку ці глядзіш фільм пра мінулыя часы — і заўважаеш: былі раней сапраўдныя галантныя юнакі! Яны ўражвалі сваімі добрымі манерамі. Вядома, бо тады было модна і прэстыжна называцца джэнтльменам. А што цяпер? Ці існуюць тактоўныя джэнтльмены? А можа іх наогул ужо няма? Зніклі, як дыназаўры! Ці проста змяніліся хлопцы, як змяняецца ўсё вакол.***

## Мая апытанка

Спачатку я вырашыла спытаць пра гэта саміх хлопчыкаў і дзяўчынак:

***Дзіма, 14 гадоў***:
— Я думаю, што джэнтльмены ёсць. Напэўна, імі не нараджаюцца. Усё залежыць ад выхавання і сям'і. Для мяне гэта такія людзі, якія сочаць за сваімі паводзінамі, не дазваляюць сабе нічога лішняга і проста застаюцца самімі сабой у любой сітуацыі.

***Віталіна, 15 гадоў:***
— Не. Я амаль упэўнена, што такіх хлопчыкаў ужо няма: абыходлівых, уважлівых, разумных. Хутчэй за ўсё джэнтльмены сустракаюцца сярод больш старэйшых па ўзросце людзей.

***Аня, 17 гадоў:***
— Вядома, ёсць. Джэнтльмены заўсёды былі і будуць. Праўда, сама назва «джэнтльмены» злёгку састарэла.



Апытаўшы каля 17—20 падлеткаў, я зразумела, што дзяўчыны чамусьці не асабліва вераць, што джэнтльмены ў XXI стагоддзі яшчэ існуюць. Як жа так? Хлопчыкі між іншым не адмаўляюцца імі быць (прынамсі на словах).



## Практычнае даследаванне хлопчыкаў




Затым я вырашыла правесці «следчы» эксперымент: зрабіць нашым хлопчыкам практычную частку. І вось — вынікі:

1) Практычна ўсе хлопчыкі прытрымваюць і адчыняюць дзверы ў грамадскіх месцах дзяўчынкам.

2) Ішла з цяжкімі торбамі — і ні адзін хлопчык не прапанаваў дапамагчы паднесці іх. Вырашыла праверыць: а можа, гэта толькі мне так не пашанцавала? Не! Напэўна, за цэлую гадзіну я ўбачыла толькі 3—5 выпадкаў, калі хлопчык дапамагаў несці сумку, ды і тое маме.



3) А потым я сядзела на лаўцы ў парку і назірала за ўсім, што адбываецца. І вось што зацікавіла мяне. Ішла жанчына з кнігамі, спатыкнулася і ўпала. Пабіла калені і парвала адну з кніг. Але насустрач ёй ішла кампанія маладых хлопцаў, якія дапамаглі «пацярпелай» і нават аказалі першую медыцынскую дапамогу.

## Галоўная выснова

Дзяўчынкі! Больш верце хлопчыкам і больш звяртайце ўвагі на іх добрыя бакі. А галоўнае — будзьце або заставайцеся сапраўднымі ледзі! Але і вы, нашыя «высакародныя джэнтльмены», часцей узгадвайце пра свае добрыя манеры.

*Алена БІРУКОВА, 16 гадоў, Мінск*



# Маленькае жыццё

Сёння Дзень народзінаў маёй мамы, дзявятага мая. Я, з пузам, набітым салатай, залез у ванну. Набраў цёплай вады і акунуўся ў яе, трымаючы ў руках электронную кнігу. Мяне займае адзін раман, звязаны з праблемай класавай няроўнасці.

Прайшло каля гадзіны. Мне крыху надакучыла чытаць пра бедных вуглякопаў, што працуюць у жахлівых умовах за грашы, і я адклаў рыдэр, каб крыху адпачыць. І раптам маю ўвагу прыцягнула даволі звычайная, але ўсё ж займальная карціна: маленькі павучок паўзе па кафлі ў бок ванны. Спачатку я жартаўліва пачаў упрошваць яго павярнуць, але ён мяне не паслухаў. І вось ён дасягае ванны і, амаль упаўшы ў ваду, хапаецца лапкамі за сценку, потым пачынае падымацца ўверх, але кожнае яго намаганне, з-за гладкай паверхні, заканчваецца саслізгваннем з небяспекай трапіць у ваду. З-за маёй любові да ўсяго жывога і дрэннай дасведчанасці ў вобласці павукападобных я ўсур'ёз пачаў хвалявацца. Я ж не ведаю, як моцна павуку можа нашкодзіць вада. Я некалькі разоў падстаўляў палец, каб перамясціць павука ў бяспечнае месца, а ён ні разу нават не паспрабаваў прыняць маю дапамогу. Павук быў такі ганарысты, быццам Напалеон, які захапіў Тулон. Банапарт памёр у адзіноце, зняволены і адрэзаны ад усяго свету. Так і бедны павучок перакуліўся цяпер у вялікае «возера», што нясе для яго толькі бессэнсоўную пустэчу. Як толькі павук трапіў у ваду, ён адразу прыняў форму шарыка, у якога немагчыма было разгледзець часткі яго маленькага цела. Хутка, але акуратна я падняў гэту безжыццёвую істоту і паклаў побач з сабой на кафельную плітку. У надзеі, што ён яшчэ будзе дыхаць, я сказаў: «Божа, толькі не памірай!» Гэтыя словы, нягледзячы на змест, не гучалі пафасна. Але павук не паслухаў маёй мальбы і застаўся ляжаць на кафлі ўсё так жа — шарыкам на кропельцы вады. Я не шкадаваў пра тое, што здарылася так, як шкадаваў бы, калі б загінуў хтосьці з людзей. Па-мойму, тыя, хто шануе жыццё іншых людзей, але не цэніць жыццё жывёл, не могуць цаніць жыццё па-сапраўднаму.

Пасля некалькіх марных спроб абудзіць свае пачуцці я зноўку ўзяў кнігу, і жорсткі свет Эміля Заля імгненна паглынуў мяне. Перад тым, як вылезці з ванны, я ўзгадаў пра свайго беднага сябра і машынальна павярнуў галаву да яго смяротнага ложа. Павук быў ужо не зусім там. Ён, стоячы на сваіх лапках, ганарыста адвярнуўся ад мяне і глядзеў удалечыню.

— Ф-у-у-х, дзякуй Богу!

*Вітольд ГЛУШЫЦКІ, 16 гадоў, Мінск,*
*малюнак Алісы МАТАВІЛАВАЙ*

# Выратаваная адзінота

На мяжы 50—60 гадоў у Савецкім Саюзе з’явілася «спеўная паэзія», альбо аўтарская песня. А праз гадоў пятнаццаць выбухнула рок-паэзія і рок-музыка ў цэлым. Рок — гэта крык самотнага чалавека, кінутага ў свет, дзе няма Бога. Герой рок-спеваў — лішняя асоба ў свеце цынічнага грамадства і «начальнікаў».



*Фота Рагнеда Малахоўскага.*

Калі ты адзін і побач нікога няма… Ратуешся музыкай! Многія не разумеюць аўтарскую песню — Булата Акуджаву, напрыклад. Не ўсе разумеюць і рок-музыку Віктара Цоя альбо Касю Камоцкую. Мне недаспадобы фанатызм да музыкаў. Але проста лёгкая сімпатыя да чалавека, яго творчасці — чаму б і не? Ты проста разумееш яго працу, разумееш яго мову — разумееш яго цалкам… Ты заўжды з ім разам, што б ні адбылося ў яго і тваім жыцці. Падтрымліваеш у думках, калі ён трапляе ў цяжкія абставіны. Так, можа твой улюбёны творца і не побач з табой, аднак… усё роўна побач!..

Фанаткі, што бегаюць за сваім кумірам — не фанаткі зусім. Ім патрэбна нейкая выгада. Такіх людзей, мякка кажучы, трэба «вылечваць»… Рок-музыкі, барды існуюць для таго, каб выратоўваць у адзіноце. А яшчэ, каб паказаць людзям тое, чаго яны не могуць заўважыць: прыгожы і цудоўны свет, поўны пяшчоты, святла, любові…

Кожны чалавек павінен заставацца верным свайму таленту. Аднак часам менавіта таленавітага чалавека абыходзяць бокам, не разумеюць за тое, што ён не такі, як усе. Не зламацца, ніколі не зайздросціць іншым і адкрывацца самому — вось што значыць творца.

Жыць, захоўваючы талент і веру ў сябе, — гэта і ёсць сапраўдны талент!

***Кацярына БЯДУЛІНА***

# Давайце застанемся дзецьмі!



Давайце застанемся дзецьмі: будзем радавацца, усміхацца кожнаму імгненню — адкрыта і шчыра. Давайце хоць на хвіліну забудзем пра тое, што сёння нам трэба зрабіць, вырашыць, забудзем пра нашы грандыёзныя планы. Давайце проста будзем марыць ці рабіць нешта зусім звар'яцелае! Давайце зробім дзень дабрыні, адкрытасці і даверлівасці. А можна зладзіць дзень «памяці»: раскопкі сваіх дзіцячых малюнкаў і вырабаў або проста фатаграфій, зробленых зусім даўно, калі ты быў маленькі... Калі самыя важныя праблемы: «Як бы ўгаварыць бацькоў не класці цябе спаць днём?», «Як не есці гэтыя брыдкія кашы?» Тады мы ўсе былі добрыя, мілыя і незвычайна прыгожыя. Марылі толькі пра цацкі, як у Пецькі ці Машкі, альбо як хутчэй стаць дарослым, каб рабіць і купляць усё, што нам захочацца. Мы выраслі... І дзелім цяпер адно аднаго на багатых і бедных, перспектыўных і няўдачнікаў, прыгажуноў і пачвар. Крыўдзім бліжняга, ставім іншым або сабе нейкія перашкоды, хлусім і крывадушнічаем. Вядома, мы не робім толькі дрэнныя ўчынкі, але ў асноўным усе нашы дзеянні накіраваны толькі на ўласную выгаду або на вузкае кола блізкіх. Але ўсё можна змяніць: проста быць дзецьмі!

*Алена БІРУКОВА, 16 гадоў, Мінск,*
*малюнак Алены БОСАВАЙ*



# Казка пра годнасць

У даўнія часы жылі-былі людзі з вялікім розумам і высакароднымі душамі. Яны доўгі час вандравалі па розных краях, шукаючы сабе месца для дому. А калі апынуліся каля Вялікай Ракі, вырашылі там застацца. Пабудавалі сабе дамы, утварылі вёску, сталі нараджаць здаровых і прыгожых дзяцей. Яны выбралі сабе ўладара па імені Мудрадум. Атрымалі веру, мову і пісьменства. І сталі народам, далёка вядомым па сумленнасці і мудрасці.

Ішоў час, а яны жылі заможна. Аднак усё добрае прыцягвае зайздроснікаў. Таму з далёкіх краёў, дзе панавалі нянавісць і нязгода, і дзе ўладаркай была Зайздрасць, пайшло навалаю племя на гэты народ. Разбуралі дамы, адбіралі дзяцей, палілі кнігі... Але народ трымаўся мужна і бязбоязна. Таму Зайздрасць наважылася знішчыць Мудрадума. І выканала свой намер. І народ, застаўшыся без уладара, вырашыў аддаць уладу яго жонцы. А жонка гэтая звалася Годнасць. У яе былі дачка Воля і сын Лёс. Так што без Мудрадума народ не прапаў, а стаў яшчэ больш трывалым. Бо Годнасць уладарыла годна — сумленна і справядліва, а сама была сціплай і шчырай. Ва ўсім дапамагала ёй дачка Воля, якую народ любіў і лічыў самай лепшай дзяўчынай на свеце.



Зайздрасць, між тым, шалеючы, спрабавала знішчыць і Годнасць, але гэта ёй не ўдалося. Яна хацела таксама ўкрасці Волю, але тая была няўлоўнай. Народ іх належным чынам ахоўваў — так, як ахоўваюць найзначнейшую спадчыну ад продкаў. Аднак Зайздрасць не супакойвалася. Яна шукала сабе шлях. Такім чынам падбухторыла Лёс: маўляў, адрачыся ад маці і сястры, а за гэта атрымаеш вечную славу і ўладу. І Лёс паверыў. Падманам ён замкнуў Годнасць і Волю ў скрыню забыцця. А сам стаў уладаром.

Народ спалохаўся новага ўладара, таму што Лёс без Годнасці і Волі — гэта Лёс са страхам. Тады праўда і надзея аказваюцца далёка, а ліха і туга побач. Зайздрасць мела дачку

Хлусню, якая па матчынай парадзе выйшла замуж за ўладара. І пры ёй уладар стаў яшчэ больш жорсткім, а народ — няшчасным. У Лёса і Хлусні нарадзіліся дачка Ашуканка і сын Бяспамятны.

Насталі тады чорныя часы. Дзень пры дні народ занепадаў усё больш. З разумнага, годнага і вольнага ён ператвараўся ў падмануты і забыты.

Не так многа часу прайшло, а Зайздрасць вырашыла пакінуць гэты край, бо зайздросціць там ужо не было чаму. Разам з ёю выбраліся ў дарогу і дачка Хлусня, унучка Падманка, таму што Лёс вельмі ім надакучыў. А той, застаўшыся з сынам Бяспамятным, адчуў вялікі жаль і раскаянне з-за таго, што ўчыніў народу. Так ён і ляжаў у пакутах. Сын зжаліўся і ўзяўся шукаць скрыню забыцця.

Знайсці яе аказалася справаю няцяжкай — яна стаяла пры дарозе. Між тым, радавацца не было чаму, бо ніяк не ўдавалася яе адкрыць. Бяспамятны сядзеў днямі каля бацькавага ложка ў надзеі, што нейкім цудам той выздаравее.

І вось аднойчы падышоў да яго малы залатавалосы хлапчына і запытаўся:

— Ці ведаеш ты Годнасць і Волю?

— Не, — адказаў Бяспамятны, — бо я нарадзіўся пазней. Але іх ведае мой бацька Лёс.

— Тады слухай мяне, — сказаў залатавалосы. — Калі хочаш, каб Лёс палепшаў, ты павінен выканаць тры заданні-пажаданні. І тады скрыня забыцця адчыніцца.

Пажаданне першае. Зрабі так, каб Лёс назаўжды забыўся пра Зайздрасць і Хлусню.

Пажаданне другое. Вярні народу Годнасць і Волю.

Пажаданне трэцяе. Не дапусці, каб мова твайго народа пайшла ў нябыт.

Сын уладара ўсё гэта выканаў. Лёс абудзіўся, устаў на ногі. Неўзабаве да яго вярнуліся Годнасць з Воляй, і сталі яны жыць шчасліва. Жывуць і цяпер. Толькі іх трэба ахоўваць ад скрыні забыцця.

***Нікала БАРОЎЧАНІН,***<br>***вучань асноўнай школы імя Васы Чарапіча,***<br>***Белы Потак пад Бялградам, Сербія***

***Пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ***

***Малюнак Алены БОСАВАЙ***



 

# Галоўнае — паверыць!




Быў выхадны дзень. Здаецца, можна было б пагуляць на вуліцы, пабегаць з сябрамі. Але за акном — шэры восеньскі дождж. З сумам сяджу і гляджу ў акно. Непрыкметна падыходзіць мама.

— Што здарылася, сынок? Чаму такі сумны? — сказала яна і ласкава стала гладзіць мае непаслухмяныя валасы.

— Ды, вось хацелася б на вуліцу, а тут... — расчаравана адказваю я.

— Супакойся, дарагі мой, — пяшчотна кажа мама. — У прыроды, як і ў чалавека, настрой можа мяняцца вельмі хутка. Вось табе здаецца, што ў гэту хвіліну ўсё дрэнна, а міне крыху часу, і здзіўляешся, чаму зусім нядаўна быў такі дрэнны настрой.

Слухаючы гэтыя словы, задумваюся пра сваё. Думкі пераносяцца ў недалёкую будучыню, калі давядзецца пакінуць бацькоўскі дом, усе пытанні вырашаць самому... Рэдка буду мець магчымасць раіцца з бацькамі, але ці захочацца ўвогуле прыслухоўвацца да іх парад? Я ж стану дарослым, самастойным... І ўсё ж, дзе б я ні быў, ніколі ў жыцці не забуду ласкавых матуліных вачэй і пяшчотных слоў, якія былі ў яе заўсёды, каб супакоіць, суцешыць. За адно толькі тое, што яна дала жыццё мне, майму брату і сястры, да апошніх сваіх дзён гатовы нізка кланяцца сваёй маме. Буду ёй удзячны за тое, што заўсёды знаходзіла час, каб вывучыць са мной урокі, растлумачыць тое, што часам не разумеў, дапамагчы парадай у сітуацыі, калі здавалася, што ніякага выйсця не існуе.

— Сынок, сынок, глянь у акно, — чую голас мамы і вяртаюся думкамі з будучыні ў рэальнасць.

За акном свеціць яркае сонейка. Можна бегчы на вуліцу гуляць з сябрамі. Жаданні збываюцца! Галоўнае, каб побач быў чалавек, які можа дапамагчы ў гэта паверыць. МАМА.

*Андрэй ШЧАРБІЦКІ, 13 гадоў, в. Слабада, Мёрскі р-н*

